


**ВЫПУСК 117**

**ВІНЦЭСЬ МУДРОЎ**

# ВОСЕНЬ У ВІЛЬНІ

АПАВЯДАННІ

Мінск, «Кнігазбор», 2019

УДК 821.161.1-3
ББК 84(4Беи)-44
М11

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 117.
Заснаваная ў 2009 годзе.*

Кніга выдадзена ў якасці ўзнагароды за трэцяе месца
ў конкурсе Літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройца ў 2018 годзе.

**Мудроў, В.**
М11 Восень у Вільні : апавяданні / Вінцэсь Мудроў. — Мінск : Кнігазбор, 2019. — 188 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 117).
ISBN 978-985-7207-73-2.

Зборнік складаюць 10 апавяданняў рознай тэматыкі, сярод якіх вылучаецца навела «Восень у Вільні», у якой апавядаецца пра падзеі, звязаныя з прыходам у Заходнюю Беларусь Чырвонай арміі.

**УДК 821.161.1-3**
**ББК 84(4Беи)-44**

**ISBN 978-985-7207-73-2**

© Мудроў В., 2019
© ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», 2019
© Афармленне. ПУП «Кнігазбор», 2019

# СЮЖЭТ

Сцёпка Гіль, трыццацігадовы светлавалосы мужчына, замкнуў дзверы, спрытна збег па прыступках і нечакана застыў у непаразуменні. Згадаў, што сястра прасіла прыхапіць для маці начную кашулю. Вярнуўшыся, доўга поркаўся ў шафе, шукаючы тую кашулю, урэшце знайшоў і, пхнуўшы ў торбу, ізноў падаўся з кватэры.

Хоць і кажуць, што вяртацца — кепская прыкмета, але праз пару хвілін Сцёпку, можна сказаць, падваліла шчасце. Выходзячы з пад'езда, ён лоб у лоб сутыкнуўся са сваім прыяцелем Лёшкам Ігнацёнкам. На твары Лёшкавым блукала прытоеная ўсмешка, а за спінаю дружбак нешта прыхоўваў.

— Ану, заплюшч вочы, — з радасцю ў голасе выдыхнуў Лёшка.

— На якую халеру? — без усялякай радасці, нават з незадаволеннем у голасе азваўся Сцёпка.

— Заплюшч, заплюшч…

Гіль змежыў павекі, а калі зірнуў на свет, дык убачыў мышастага колеру кніжку з вясковымі хатамі на вокладцы.

— Та-к… «Сцяпан Гіль»… «Красавіцкі дождж»… «Апавяданні», — з робленай патэтыкай прачытаў Лёшка, і Сцёпка, схапіўшы таго за локаць, з хваляваннем працадзіў:

— Ну дай ужо.

«Красавіцкі дождж», празаічны зборнік у мяккай вокладцы, прыемным цяжарам крануў далонь. Тры гады Сцяпан Гіль чакаў з'яўлення сваёй першай кнігі, і вось дачакаўся. Кніга пахла друкарскай фарбай, і водар гэты здаўся Сцяпану самым прыемным у свеце.

— Толькі што з друкарні. Сігнальны асобнік, — Лёшка па-сяброўску ляпнуў калегу па спіне. — Я таксама ачмурэў,

калі першую кніжку пабачыў. Таксама давялося чакаць тры гады, — Ігнацёнак ужо меў у творчай кайстры два празаічныя зборнікі і летась быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў.

Калега сцярожка, з баязлівым зачараваннем, гартаў старонкі і, падобна, не чуў Лёшкавых слоў.

— А ты куды сабраўся? — Лёшка падвысіў голас, і калега ачуўся.

— Ды ў бальніцу іду, да маці. Тыдзень ужо ляжыць, толькі сёння сабраўся наведаць.

— А што з ёю?

— Ішэмія. І ціск высокі.

— А Ленка хоць наведвае? — згадаўшы Сцяпанаву сястру, Лёшка тужліва ўздыхнуў.

— Штодня ходзіць. Жыве непадалёку ад бальніцы.

Радаснае ўзрушэнне, якое ахапіла душу, паволі аціхала, і рэхам душэўнай навальніцы стаў вокліч, які вырваўся са Сцяпанавай грудзіны:

— Э-эх… з такой нагоды не грэх і па чарцы прапусціць. Да маці ўвечары схаджу. І кніжку занясу. Старая ўзрадуецца, — Сцёпка прыціснуў кніжку да твару, увабраў носам паветра. — Толькі ж я адзін цяпер. Дома няма чаго нават на трэску ўзяць.

Калега ў адказ ляпнуў далонямі:

— Да мяне зазірнем. Паглядзіш, як я жыву. Сабак маіх пабачыш. Надоечы Найда шчанюкоў прынесла, — Лёшка, па чутках, гадаваў нейкую надта рэдкую сучку і за вялікія грошы прадаваў шчанюкоў.

Увабраўшы апошнім разам галавакружны пах друкарскай фарбы, Сцёпка асцярожна, сагнуўшыся склюдам, пхнуў кніжку ў нутраную кішэнь пінжака і выпрастаў руку ў кірунку бліжэйшай крамы.

Свае літаратурныя практыкаванні Сцёпка Гіль пачаў яшчэ ў школе. Спачатку пісаў абразкі, потым невялічкія апавяданні. Адзіны, хто іх чытаў, была сястра Ленка. Сястра была на два гады старэйшай, вучылася ў педінстытуце і сёе-тое ў літаратуры цяміла. Звычайна Ленка… не, нават не чытала, а проста праглядала, з іранічнай гіморай на вуснах, ягоныя творы, але

аднойчы занурылася ў чытанне па-сур'ёзнаму, а перагарнуўшы апошнюю спісаную чорным атрамантам старонку, задуменна прамовіла: «Тут штосьці ёсць». І прапанавала паказаць апавяданне прафесійнаму літаратару. Наступнай суботы яны выправіліся з сястрой (аднаму ісці не хацелася) на пасяджэнне літаратурнага аб'яднання пры абласной газеце. Секцыяй прозы там загадваў хударлявы хлопец з даўгімі, пшанічнага колеру валасамі. З выгляду ён быў Сцёпкавым аднагодкам, але трымаўся ганарыста: сядзеў, адкінуўшыся на прыслон рэдакцыйнага крэсла, і, слухаючы пачаткоўцаў, вадзіў пальцам па скроні. Гэта быў той самы Лёшка Ігнацёнак. І хаця на ягоным творчым рахунку быў толькі невялічкі зборнік у серыі «Першая кніга празаіка», Лёшка выдаваў сябе за літаратурнага мэтра.

Народу на пасяджэнне прыйшло даволі шмат — у асноўным дзяўчаты школьнага ўзросту. Яна навыперадкі чыталі напісаныя па-расейску вершы, потым нейкі пенсіянер пастарэчы няўцямным голасам прачытаў апавяданне па-беларуску, нарэшце прыспела Сцёпкава чарга пазнаёміць грамаду са сваёй творчасцю. Сцёпка паволі ўстаў, ускудлаціў чупрыну, дрогкім ад хвалявання голасам прачытаў першы сказ. «Гучней!» — крыкнулі адразу некалькі чалавек, і тут Ленка, выхапіўшы сшытак з дрыжачых братавых рук, па-акцёрску выразна і зычна стала чытаць апавяданне пра тое, як падпітыя бэйбусы спалілі стары млын.

Дахаты ішлі разам з Ігнацёнкам. Малады празаік ужо не пачуваў сябе мэтрам і, зазіраючы ў Ленчыны вочы, нахвальваў апавяданне і тое, як артыстычна яно было прачытанае. Сшытак з апавяданнем Ігнацёнак пакінуў у рэдакцыі, паабяцаўшы надрукаваць у газеце. Спачатку Сцёпка не мог даўмецца, жартуе літаратар ці яму сапраўды спадабалася гісторыя пра млын, — і толькі калі Лёшка галантна пацалаваў на развітанне Ленчыну руку, зразумеў, што празаіку спадабалася не апавяданне, а ягоная сястра.

«Адразу бачна — за кожнай спадніцай бегае», — незадаволена мовіла сяструха, калі ўвайшлі ў пад'езд. «Выдаў нейкую шкадобы вартую брашуру, а форсу аж з каптуром».

Сястра Сцёпкава лагодзіла вока. Шмат хто да яе хадзіў у залёты. Ды марна. На той час яна ўжо сустракалася з адным калінінградскім марыманам, які паўгода боўтаўся ў моры, а потым два месяцы цягаў Ленку па рэстарацыях ды вазіў у Сочы, а затым слаў з Калінінграда грашовыя пераводы. Так што калі назаўтра празаік заявіўся да іх з букетам півоняў, Ленка кветак не прыняла і папрасіла яе не турбаваць.

Апавяданне ў газеце, хаця і са шматлікімі праўкамі, надрукавалі, і Сцяпана апанавала творчая гарачка. Штовечар, у аптэчным прыцемку кухні, надзейна заціснуты паміж сталом і гудлівай лядоўняй, ён спісваў адзін школьны сшытак за другім, потым спісаў канцылярскі гросбух, урэшце, перавёўшы дых, пхнуў тыя сшыткі-гросбухі ў палатняную торбу, наверх паклаў пляшку гарэлкі і выправіўся да Ігнацёнка. Балазе, жыў Лёшка непадалёку, праз тры аўтобусныя прыпынкі, у такой жа цаглянай «хрушчобе». Кульнуўшы пару кілішкаў і спытаўшы пра Ленчына здароўе, Лёшка з неахвотаю прагледзеў сшыткі, мелькам зазірнуў у гросбух і паведаміў, што занясе рукапісы рэдакцыйнай машыністцы, якая бярэ за передрук 30 капеек за старонку. Уздыхнуўшы, Сцёпка палез у кішэнь па грошы. Лазіць у кішэнь давялося яшчэ безліч разоў — калі частаваў Лёшку; калі перадрукоўвалі ўжо набраны і скрэслены Лёшкавымі праўкамі тэкст; калі сядзелі ў рэстарацыі і паілі нейкага вусатага дзядзьку, які працаваў у часопісе; нарэшце, калі паілі бязвусага дзядзьку, які абяцаў адрэдагаваць зборнік і паставіць у тэмплан. Сцёпка звычайна пазычаў грошы ў сястры — гэта ж яна падбіла заняцца літаратурай, — а пачуўшы, што марыман выправіўся ў далёкі рэйс і грошы прышле толькі праз паўгода, закінуў літаратурную творчасць. У часопісе яго так і не надрукавалі. Думаў, такі ж лёс наканаваны і кнізе, але вось неспадзяванка: кніжка выйшла, прычым ладным накладам, і, запхнутая ва ўнутраную кішэню пінжака, грэла ўстрывожанае сэрца.

За дзвярыма пачуўся сабачы брэх.

— Найда, — Лёшка ўставіў ключ у замочную шчыліну.

Сцёпка насцярожыўся, чакаючы, што зараз на іх рынецца псіна, але ніхто не рынуўся, бо сучка са шчанюкамі сядзела ў

зачыненай спальні. На дзвярах спальні вісеў аркушык паперы з надпісам «Лабараторыя сучаснага рамана».

— Сядзі, сядзі, — крыкнуў Лёшка, звяртаючыся да Найды. — Зараз выведу.

— У цябе сабакі раманы пішуць? — са смяшком на вуснах запытаўся госць.

— Раней у спальні працаваў, а зараз, як шчанюкі з'явіліся, у вялікі пакой перабраўся.

Лёшка прачыніў дзверы, і ў вузкую пройму вытыркнуўся мокры сабачы нос. У дальнім канцы пакоя кешкаліся пяць рудых шчанюкоў.

— Слухай, бяры ў мяне аднаго. Нядорага прадам. Шэлці… рэдкая парода. На вязку аж у Смаленск вазіў.

— Ды не, у мяне кот жыве, — прамармытаў Сцёпка, скінуў з ног туфлі і ўвайшоў у святліцу.

Абсталюнак у пакоі быў той жа, што і пад час мінулага візіту. Пасярод пакоя грувасцілася ўсё тое ж крэсла-гушкалка, а ў куце стаяў той самы парэпаны стол з памаранчавай югаслаўскай друкаркай. Адзінае, што з'явілася новае, гэта ўвабраны ў багетавую рамку партрэт вайскоўца, які вісеў над сталом. Сцёпка падышоў да стала, прымружыў вочы.

— Хто гэта?

— Дзед, — паведаміў гаспадар, выцягваючы з палатнянай торбы пляшку гарэлкі.

— Чырвоны камандзір?

— Ды не… чыгуначнік.

— А чаму ў форме? — Сцёпка перагнуўся праз стол, разглядаючы зорачкі на пагонах.

— Як чаму? Пры Сталіне ўсе па струнцы хадзілі і ў вайсковай форме. Дзед мой быў інжынер-капітан цягі. А яго непасрэдны начальнік меў званне віцэ-генерал-дырэктар шляхоў зносін другога рангу. Гучыць? Адразу і не запомніш.

— Першы раз пра тое чую, — прабурчаў госць і плюхнуўся ў гушкалку.

— Э-э, братка, пісьменнік на тое і пісьменнік, што мусіць ведаць усяго патроху.

Гаспадар падаўся ў кухню, пачаў рыхтаваць закусон.

Гушкацца ў крэсле было на дзіва прыемна. «Сабяруся з грашыма — набуду сабе такое ж», — падумаў Сцёпка і ўсміхнуўся ад задавальнення.

— А ты сапраўды раман пішаш? — запытаўся госць, калі гаспадар увайшоў у пакой з талеркай нарэзаных агуркоў.

— Маю грэх. Даўно над ім гарбею, — вярнуўшыся ў кухню, Лёшка бразнуў шклянкамі, голасна крыкнуў: — А ты што-небудзь пішаш?

— Ды не… у мяне творчы застой. Не магу знайсці прыстойнага сюжэту, — гэтак жа голасна азваўся госць, закінуўшы рукі за патыліцу.

Лёшка вярнуўся да стала, стаў адкаркоўваць пляшку.

— Сюжэтаў наўкол валяецца процьма. Не лянуйся толькі сагнуцца ды падняць, — Лёшка махнуў калегу рукой, маўляў, сядай да стала.

— Прапануй хоць адзін, — госцю зусім не хацелася вылазіць з гушкалкі.

— Ну, прыкладам, абмалюй сённяшнюю сітуацыю. Скажам, наш калега-празаік ішоў у бальніцу адведаць маці, а тут яму ўручылі ягоную першую, кагадзе надрукаваную кніжку. Ну, вядома, стаў тую кніжку абмываць. А раніцою прыйшоў у бальніцу, а маці памерла.

— Ну ты даеш, — Сцёпка з такім імпэтам скочыў з гушкалкі, што Лёшка, які поўніў чаркі, нават праліў гарэлку міма шклянкі. — Знайшоў з чым жартаваць. Дзякуй, сябрук, за добрыя словы. Падтрымаў.

Сцёпка памкнуўся да дзвярэй — яшчэ не позна было наведаць хворую маці, — але калега схапіў яго за крысо пінжака.

— Што ты ўсхадзіўся, далібог… Я ж не пра цябе апавядаю, а пра жыццёвую сітуацыю, у якую патрапіў літаратурны герой. У мяне, дарэчы, маці памерла, калі выпускныя іспыты ў школе здаваў. Спёка, памятаю, была страшэнная. Сяджу, творапіс на вольную тэму пішу, а слёзы з вачэй гарохам сыплюцца, — Лёшка і сам зразумеў, што сказаў штосьці не тое, таму загаварыў з ліслівымі абертонамі.

— Маці нас з Ленкай адна гадавала, — ужо прымірэнчым голасам выдыхнуў Сцёпка і, не чокнуўшыся, адным махам кульнуў шклянку.

— Ну і выдатна, — з палёгкай выдыхнуў загадчык лабараторыі сучаснага рамана. — На вось, пакаштуй… з братавага лецішча, — Лёшка падсунуў да бяседніка талерку з агуркамі. — Брат у мяне страшэнны аграрый. Усё лета сядзіць на лецішчы. Дарэчы, як там твая сястра? — прамовіўшы апошні сказ, Лёшка спахмурнеў.

— Ды так… жыве са сваім марыманам, — азваўся калега, жуючы прыпраўлены алеем агурок. — Я наогул не люблю натужліва-слязлівых сюжэтаў, — Сцёпка вытрымаў працяглую паўзу. — Прымітыўная эксплуатацыя чалавечых пачуццяў. Нават фінал прыдуманай табой драмы ўяўляю: герой прыходзіць на свежую магілу і кладзе на яе абгорнутую поліэтыленам кнігу. І пякучая слязіна паўзе па нямытай шчацэ.

Лёшка спахмурнеў яшчэ больш і загаварыў пра сваё:

— Ну вядома ж… старпам гандлёвага флоту… кааператыўная кватэра, чэшскі крышталь, «жыгуль» шостай мадэлі… куды нам, пісакам, за такім жаніхом угнацца.

Гаспадар з суровым тварам падхапіў пляшку, і ў гэты момант за сценкай залівіста, з піліпаўскім падвываннем, заскавытала Найда.

— Чаго яна? — з лёгкім спалохам спытаў Сцёпка.

— На двор трэба вывесці. З ранку не выводзіў, — прабурчаў раманіст. — Куляем па сто грам — і прагуляемся. Заадно ў краму забяжым. А то з адной пляшкай нам сёння з нашымі праблемамі не разабрацца.

Выходзячы з кватэры, Лёшка выпусціў са спальні Найдускавытуху, кіўнуў на шчанюкоў:

— Бяры задарма любога.

Ахвочых набыць Найдаў прыплод, відаць, не было.

— Спытаю ў сваяка — можа, возьме, — буркнуў Сцёпка, і Лёшка, пачуўшы пра старпама, напаўголаса мацюкнуўся.

У калідоры напорліва званіў тэлефон. Раздзёршы павекі, Сцёпка напачатку не зразумеў, што за гукі лунаюць у паветры, — і толькі памацаўшы патыліцу, якая хваравіта шчымела, ачуўся, з вохканнем кульнуўся з пасцелі.

— Гэта ты? — даляцеў з тэлефонных глыбіняў Ленчын голас.

— Што, не пазнала? — непракерхана выгукнуў Сцёпка. Мяркуючы па шызым паўзмроку, што цадзіўся з акна, было дзесьці палова на сёмую. — Пазней не магла патэліць?

— Мама памерла, — усхліпнула сястра. Усхліпнула так гучна, што Сцёпка адарваў слухаўку ад вуха і няўцямна зірнуў на колцы маленькіх дзірак, адкуль даляцела страшная навіна.

— Я ад самага ранку ў бальніцу пабягу. І ты прыходзь. Чуеш?

Але Сцёпка нічога не чуў. Пахмельную душу апанаваў млосны страх. Страх ад таго, што цяпер давядзецца жыць без маці, і ніхто не абудзіць яго зранку, ніхто не згатуе абед, і ён больш не пачуе за сценкай жаласлівых матчыных уздыхаў… Тэлефонная трубка азвалася кароткімі гудкамі, і сэрца сціснулі запозненыя шкадаванні. Сцёпка згадаў раптам, што за ўсё жыццё не сказаў маці ласкавага слова… ды што там слова… нават не прыйшоў да яе ў бальніцу. «Торба… дзе торба?» — са скандальнымі ноткамі выдыхнуў Сцёпка, стаў ліхаманкава глядзець па баках. Торбу з перадачай, у якой была кашуля, бутэлька ліманаду і пачак вафляў, ён забыў па п’янцы ў Ігнацёнка. Сцёпка знянацку абмяк, і па дрогкай шчацэ ягонай папаўзла, цьмяна бліскаючы ў ранішнім прыцемку, пякучая слязіна.

# НЯЧЫСЦІК У ФРАКУ

*Беларуска-расейскаму двухмоўю ахвяруецца*

Сіплы гудок скалануў абшар, паблукаў пад высокімі скляпеннямі і замёр, праглынуты бязладным шумам ральганга.

— Чё гудят? — запытаўся нехта з майстравых, ляснуўшы абцугамі, і ў адказ яму, аднекуль з супрацьлеглага канца цэха, нема загарлалі: — Ваську Рваного… вагонеткой придавило!

Гарачая рэйка хіснулася ў памкненні легчы на рухавыя вальцы, ды так і завісла на ланцугах, асыпаючы долу вогнепырскую акаліну. Майстравыя пераглянуліся, бліснулі бялкамі памутнелых ад сквару вачэй і, кінуўшы пад ногі абцугі, з дапамогай якіх цягалі рэйкі, пабеглі ў той бок, дзе нараджаліся крыкі і дзе ўздыхаў змучаны несупыннай працай паравы молат.

Васька Рваны, — малады, белатвары чараміс, якога ўсе любілі за рахманы нораў, — ляжаў каля сцяны і плаксіва, зусім па-бабску, стагнаў.

— Как ево? — пыталіся майстравыя.

— Не напирай! — адказвалі тыя, што стаялі вакол хлопца і ківалі на ваганетку з саракапудовай, кагадзе выцягнутай з печы «штукай» металу.

Цэхавы молат засоплена ўздыхнуў, потым выдыхнуў і суціх, даверху схаваўшыся ў парнай аблачыне. Неўзабаве суціх і ральганг, і толькі ля пудлінгавай печы па-ранейшаму штосьці бухала і сярдзіта клекатала. Полымя ў печы набыло барвовую водцень, барва заліла сцяну, на ёй крумкачыным крылом мільгануў імклівы цень, і прасцяг прарэзаў гаўклівы воклік:

— Варум не работайт?!

Упраўляючы завода Нольд, сухарлявы, сярэдняга веку немец, шыбаваў па цэху, а следам за ім, на ладнай адлегласці,

спалоханым трухам сунуліся канторшчыкі. Зекры Нольдавы злавесна пукаціліся, сівыя бакі варушыліся ад проймы, і гэта рабіла яго падобным да старога лемура.

— Что стали?! Пропустите лекаря! — крыкнулі канторшчыкі, ды ніхто не зварухнуўся. Рабочыя стаялі, панурыўшы галовы, і на іх спінах ляжала, наліваючыся чарноццем, злавесная палымніца. Знянацку ўсё аціхла. Нішто не бухала, не клекатала, і ў напятай цішыні нарадзілася суворая і мужная песня.

— Вы же-ертвою пали в борьбе ро-ко-вой…

Голас спевака дрыжэў, зрываўся, але з кожным прыдыханнем набіраў моцы; песню падхапілі, і ўжо не адна, а сотні глотак выдыхнулі гняўлівыя словы:

— Подымем мы тяжкий свой молот, собьём им оковы свои…

Рабочыя ўзвалілі напаўжывога таварыша на плечы, панеслі па цэху, і, калі ўпраўляючы, заступіўшы дарогу, закрычаў, каб людзі аціхлі, паветра скалануў гудок і галубы пад дахам, сарваўшыся з месца, гамузам паляцелі насустрач людской грамадзе.

Нікандар Іванавіч Лапахін, фабрыкант з саракатысячным гадавым даходам, прачнуўся раніцой у сваім кабінеце і доўга не мог уцяміць — дзе ён, што з ім і што гэта за жанчына стаяла на тле асветленага акна. Фабрыкант працёр вочы, лыпнуў павекамі і ўбачыў, што поруч, на прыканапным століку, грувасцілася пляшка Pommard’а, якую ён прызнаў быў за жанчыну. Дрыжачая рука намацала пляшку, шурпатыя вусны прыпалі да рыльца, і віно прыемнай цеплынёй напоўніла страўнік.

Фабрыкант задаволена адрыгнуў, расчасаў пяцярнёй злямчаную бараду і толькі тады заўважыў, што спаў не распранены — у новым, прывезеным з Парыжа сурдуце і ў перапэцканых у гліну ботах. Гліна была мандрыкаўская — густая, з чырванаватым адценнем, — а гэта сведчыла за тое, што ўчора ён сустракаўся не толькі з Мацільдай, але і з Кацькай. Нікандар Іванавіч мацюкнуўся, ляпнуў далонню па кішэні, шукаючы партманет, і, нічога не знайшоўшы, стаў сцягваць

з нагі юхтовы бот. Бот, аднак, не здымаўся. Ды і важкае чэрава не дазваляла сагнуцца. Фабрыкант счырванеў ад натугі, і ў гэты момант у калідоры нарадзіўся звонкі дзявочы голас:

— Что, папенька, намедни снова накушались? Уж, поди, и черти мерещатся?

— Молчи, дура, — буркнуў пахмельны пакутнік і, успёршы на столік нагу з напаўсцягнутым ботам, загадаў: — Ташшы!

— Кокоток своих попросите. Пусть они вам сапоги стаскивают. Тратите же вы на них по сотне за вечер…

Нікандар Іванавіч рашуча сцягнуў бот, збіраючыся шпурнуць ім у дачку, але Марфа хуценька прычыніла дзверы, пабегла па рыпучых сходах на другі паверх.

— Прости мя, Господи, грешнаго! — пралепятаў Нікандар Іванавіч, перахрысціўшыся на партрэт памерлай жонкі.

Нага ў боце добра-такі ўпрэла, а батыставыя анучы струменілі цяжкі дух. Нікандар Іванавіч калупнуў бруд паміж пальцаў правай нагі, і лоб ягоны прабаразнілі глыбокія маршчакі.

«А сапраўды, колькі ж я ўчора збаёдаў?» — панурая думка пачала блукаць па мазгавых звілінах, не знаходзячы выйсця.

Дзвесце рублёў прайграў у карты Міхельсону, гэта ён добра памятаў. Столькі ж пакінуў у «Канстанцінопалі». А дзе пакінуў яшчэ паўтысячы — пра тое сонная памяць маўчала. Лапахін уздыхнуў, са скрухай падумаў, што дзве ўтрыманкі — відочны перабор, і вырашыў больш з імі не сустракацца.

У верхнім пакоі зайграў раяль. Выдаў пару акордаў, аціх, сходы зноўку рыпнулі, і ў дзвярах паўстала цыбатая постаць князя Звездзіча — дваццацігадовага Марфінага кавалера.

— Может, Никандр Иваныч, за сельтерской послать аль огуречного рассолу принести? — кавалер іранічна ўсміхнуўся і, лізнуўшы палец, стаў гартаць кнігу, якую трымаў у руках.

Увесну маладога князя выгналі пасля студэнцкіх хваляванняў з універсітэта, і цяпер ён дзень пры дні тырчаў у Марфы. Спяваў рамансы, чытаў вершы, маляваў Марфіны партрэты, але ў кабінет гаспадара завітваў толькі тады, калі трэба было прымірыць дачку з бацькам.

Лапахін сцягнуў бот з левай нагі, збіраючыся годна адказаць абібоку, ды нечакана страсянуў віслай чупрынай і ўзняў угору ўказальны палец. За акном, напалову захінутым лапушыстай манстэрай, нарадзіліся няўцямныя зыкі, якія праз хвілю ператварыліся ў раскацісты пошчак.

— У Михельсона, похоже, вновь шалят, — з задавальненнем у голасе прамовіў Лапахін, ідучы да акна.

За звонкай шыбай, у сутонні шэрага дня, мільгалі сінія казацкія фуражкі і ўвішныя конскія капыты гучна білі па бруку.

Міхельсонаўскі завод быў самым бунтоўным у губерні, і казакі гойсалі туды ледзь не штодня. І хаця ўчора, калі гулялі ў карты, Міхельсон выхваляўся, што перасадзіў усіх бунтароў, гэта, як бачна, не дапамагло.

Пазіраючы на казакоў, Лапахін пацёр далоні, ды, перахапіўшы гуллівы позірк Марфінага кавалера, сумеўся, зварухнуў барадой:

— Что у вас за книга?

— «Социальный переворот». Сочинение господина Каутского, — адказаў князь, перагарнуўшы старонку.

Сказана гэта было з лёгкай іроніяй, маўляў, літаратура не для простых глуздоў, і Лапахін, не прызвычаены да такіх абыходзінаў, каўтнуў прыпраўленую жоўцю асцу.

— Вот такие Каутские и мутят народ.

— Ну зачем же так обобщать? — усё з той жа іроніяй прамовіў Звездзіч. — Автор книги вполне респектабельный господин, живёт себе в Германии, никого не трогает… — невядома, што б яшчэ казаў князь у абарону германца, ды тут бразнулі дзверы і пачуўся зрывісты Марфін голас:

— Аркадий, поторопись! В цирк опаздываем!

«Вось яна, сучасная моладзь, — падумаў Лапахін, праводзіўшы позіркам гладкую спіну патэнцыйнага зяця, — удзень па цырках цягаецца, увечары розных прайдзісветаў чытае, а ўночы ўлёткі раскідвае».

— Тфу, бля… — падвёў вынік сваім думкам Лапахін і засяродзіўся на цёмнай скрыні тэлефона. Лёгкі непакой зварухнуўся на дне душы. Казакі, зрэшты, маглі ехаць і на ягоны завод. Рука нерашуча зняла слухаўку, ды неўзабаве вярнула

на месца. «Калі б што надарылася, Нольд пазваніў бы», — супакоіў сябе фабрыкант, крутнуў корбу адбою і гукнуў праз фортку вазніцу Мітрафана.

Буланы жарабок з шырокай грудзінай і падхорцістым чэравам неспакойна тузаў брычку, круціў пысай, і Мітрафан, каб суняць рысака, ляпаў таго па крыжы і суцішна мацюкаўся.

— Чё он? — запытаўся Лапахін, ляснуўшы па сцягне лайкавымі пальчаткамі.

— Перепугалси, Никандр Иваныч, — вазніца нацягнуў аброць. — Барин с Марфой Никандровной со двора выезжали… и прям' на него поехали-с. А он же у нас автомобилей страсть как боится. Пугливай, даром что рысак.

Нікандар Іванавіч з афіцэрскай павольнасцю нацягнуў пальчаткі, зірнуў на адчыненую фортку, адкуль вырывалася на працяг тэлефоннае зумканне, і, ускочыўшы ў брычку, каротка загадаў:

— В контору.

Халодны вецер ударыў у лоб, казытнуў скроні, убіўся за каршэнь, напорлівым струмком прайшоўся па хрыбецiне. Гэта ўзбадзёрыла, праясніла галаву і вярнула ў яе сякія-такія згадкі з учарашняга вечара. Лапахін згадаў, як нейкая голая дзеўка скакала па пакоі, прыкрыўшы ніз жывата летнім капялюшыкам, але хто гэта быў — Мацільда ці Кацька, — згадаць не даваў рады.

Конік бег жвавай рыссю, матляючы галавой і скаланаючы Малую Пад'ячаскую зласлівым пырханнем. Міма з урачыстай паважнасцю праплылі тэатр «Ілюзіён», зельня Сліёзберга са сваёй адвеку перакрыўленай шыльдай, даходны дом купца Сабакіна, у якім жылі акцёры ды мадысткі і перад якім, як заўсёды такім часам, таўкліся гімназісты. Каля банка Харбінскай кампаніі брычка запаволіла бег, і Лапахін стукнуў нагой па козлах:

— Погоняй!

Паганяць, аднак, не выпадала. Наперадзе, на скрыжаванні трох вуліц, дзеялася штосьці неверагоднае. Там іржалі коні, несупынна квакалі кляксаны, бразгаў званком трамвай, па-

трапіўшы ў атачэнне конных экіпажаў, і ўся гэтая шумная плойма паволі рухалася ў бок гарадскога саду — туды, дзе імкнуліся ў неба згалелыя таполі, дзе гарлалі, перакрываючы вулічны галас, гракі, дзе грымеў «Ізмайлаўскі марш» і лапатаў на ветры агромісты брызентавы шацёр.

— В «Шапито» едут. Сегодня последнее представление, — вінавата патлумачыў Мітрафан і, пацягнуўшы лейцы, скіраваў каня ў завулак.

Вось ужо другі месяц у горадзе гастраляваў французскі цырк «Шапіто». І хаця злыя языкі сцвярджалі, што цыркачы толькі прыкідваліся французамі, тым не менш паглядзець на заезджых штукароў ехалі людзі нават з суседніх губерняў. А лапахінская дачка Марфа дык наогул не прапускала ніводнага прадстаўлення.

Мітрафан гнаў каня па вузкім завулку, гарлаў: «Поберегись!» — і аднаго разу ледзь не зваліўся з козлаў, калі рысак парваў нацягнутую ўпоперак дарогі вяроўчыну з бялізнай і адна прасціна белым саванам спавіла вазніцу. Пазіраючы на Мітрафана, які пнуўся вылезці з савана, можна было памерці са смеху, але Лапахін адно мацюкнуўся і выцер канцом прасціны мыскі юхтовых ботаў. Настрой у фабрыканта зноў сапсаваўся. Ён прыгадаў, як абібок Звездзіч падбіваў Марфу паступаць на нейкія курсы, і, уявіўшы сваю дачку стрыжанай інстытуткай, сцягнуў з рукі пальчатку і пацёр напятую скуру на лбе.

На Губернатарскую выехалі менавіта ў тым месцы, якое варта было абмінуць: ля гатэля «Канстанцінопаль». Шэры гмах, з анёламі на гзымсе і шкляным эркерам над уваходам, меў паганую славу. Гатэль быў другога разбору. Кватаравалі ў ім у асноўным афіцэры, калежскія асэсары, багатыя ўтрыманкі, а верхні паверх займалі студэнты, якія кожнага месяца страляліся ў сваіх нумарах, не пакінуўшы пасмяротных карталюшак. Таму і не дзіва, што вясковыя святары (а яны ранейшым часам любілі тут спыняцца) цяпер абміналі гатэль і, шыбуючы міма, набожна хрысціліся — спачатку на шкляны эркер, а потым на крыжы Мікольскай царквы, якая стаяла непадалёку.

Праязджаючы міма «Канстанцінопаля», Лапахін таксама перахрысціўся, адвёў убок вочы і, не раўнуючы, як Хама Брут перад Віем, уголас прашаптаў: «Не глядзі!» Але не вытрымаў, зірнуў у апошні момант на запаветнае акно, і яму падалося, што за цёмнай шыбай мільганула аблачынка белай сукні.

Вось яны, жаночыя чары! Гадзіну таму Лапахін даў зарок забыцца на ўтрыманак, ды варта было спыніцца каля гатэля, у якім жыла Мацільда, як ён, забыўшыся пра ўсё на свеце, выкуліўся з брычкі, збіў з ног швейцара і рынуў, пераскокваючы праз дзве прыступкі, па сходах. На лесвіцы яму сустрэліся толькі цыбатая сухарэбрыца ў pince-nez, — з выгляду, класная дама, — ды шызатвары, свежапаголены штабс-капітан, ад якога тхнула часныком і адэкалонам «Капрыз». Доўгі шлейф моташных пахаў цягнуўся па лесвіцы, і нават калі Лапахін узняўся на пяты паверх і дабег да абабітых цялячай скурай дзвярэй, часнычна-адэкалонны смурод па-ранейшаму лез у ноздры і трапяткім халадком казытаў пад сэрцам.

Дзверы з лёгкім рыпеннем падаліся, з прыцемку павеяла спакуслівым пахам лаванды, і сэрца лапахінскае ўраз пацяплела.

Першае, што кідалася ў вочы, калі ён уваходзіў да Мацільды, — гэта шыкоўнае авальнае люстра. Яно вісела на бакавой сцяне, і ў ім звычайна адбіваўся чырвоны каберац ды кітайская шырма. Адбіваліся яны і зараз, але, апроч іх, на тле каберца матляўся ў паветры бліскучы мужчынскі туфель. Сэрца зноў зашчымела, Лапахін кашлянуў, выпнуў грудзіну, рашуча ўвайшоў у пакой.

Ля сцяны, у выгодным крэсле, сядзеў, закінуўшы нага на нагу, маладзён у чорным фраку. У ягоным абліччы было штосьці шайтанскае, а нерухомыя, крыху раскосыя вочы навылёт праціналі і сэрца, і душу.

Ад нечаканасці Лапахін застыў у нерухомасці, потым зрабіў крок, у спадзеўцы, што незнаёмец падхопіцца, ды той застаўся сядзець у ранейшай паставе, матляючы нагой і свідруючы яго нахабнымі вірламі.

Сітуацыя вымагала нейкай дзеі, нейкага руху, але Лапахін стаяў ачмурэлы, і невядома колькі б усё гэта доўжылася, калі

б за спінаю не рыпнулі дзверы і ў пакой не заляцела Мацільда. Выляжанка спынілася на парозе, палка заірдзелася, і Лапахін, вытрымаўшы паўзу, страшным голасам запытаў:

— Кто это у тебя?

Вейкі дзявочыя панурыліся, затым узняліся, і Мацільда жаласліва пралепятала:

— Ника, я сейчас всё объясню…

— Объясни, объясни, — азваўся з кута маладзён, і ў Нікі ад тых слоў зашумела ўвушшу і падлога паплыла пад нагамі.

…Ён бег па калідоры, услед яму ляцеў лямант: «Не виноватая я-а!» — класная дама, якая вярталася ў свой нумар, спалохана прыціснулася да сцяны, і pince-nez, зваліўшыся з глюгастага носа, гучна хруснула пад абцасам юхтовага бота.

Вылецеўшы з гатэля, Лапахін кінуўся шукаць гарадавога, каб адабраць у таго рэвальвер і застрэліць выляжанку, але гарадавыя некуды пахаваліся, і давялося, плюнуўшы пад ногі, шыбаваць да брычкі.

Мітрафан сядзеў, звесіўшы долу галаву, бачыў сёмы сон і не абудзіўся нават тады, калі гаспадар плюхнуўся на сядзенне.

— Гони в Мандрыковку! — гракнуў гаспадар, абклаўшы мацюгамі каня, вазніцу, выляжанку, а разам з ёю і ўсіх насельнікаў гатэля.

Пачуўшы лаянку, конь таргануўся, захроп і, не чакаючы, пакуль Мітрафан хвастане яго па спіне, сарваўся з месца.

Брычку кідала ў бокі, колы аглушальна тахкалі па бруку, а Мітрафан, раскруціўшы над галавою лейцы, на ўсю глотку гарлаў:

— Зашибу-у!

Нейкая манашка, збягаючы з дарогі, зачапілася спадніцай за кусты і агаліла блядыя ногі; асенізатарская кляча, выехаўшы з аркі, узнялася на дыбкі; хлопчык з пякарні рассыпаў абаранкі, а гарадавы на перакрыжаванні збіраўся дзьмухнуць у свістульку, ды, пабачыўшы Лапахіна, падхорціўся і прыклаў далонь да скроні.

— В шампанском купалась… ананасы жрала… в Париж ездила, с-сука! — працадзіў скрозь зубы Лапахін, калі брычка з’ехала з брукаванкі і пакацілася па тупкім гасцінцы.

Рысак засоплена пырхаў, на крыжы задрыжэлі хлапякі шэрай пены, і Мітрафан, азірнуўшыся, злёгку нацягнуў лейцы.

У Мандрыкаўку, дальнюю гарадскую ўскраіну, уязджалі няспешна і разважліва. Конь бег трушком, Мітрафан штохвілі цокаў, прымушаючы каня бегчы шпарчэй, але рабіў гэта хутчэй дзеля прыліку, а Лапахін, раскінуўшыся на сядзенні, глядзеў спадылба на стрэхі мандрыкаўскіх хат і пакутліва адзімаўся. Шаленства выпетрылася з душы і саступіла месца дзіўнаму замілаванню. Пачуццё гэтае кожны раз апаноўвала душу, калі ён завітваў у Мандрыкаўку. Тут, у дымным рабочым прадмесці, ён нарадзіўся, тут прайшло ягонае дзяцінства, і тут, трынаццацігадовым хлапчанём, ён пачаў сваю справу, крадучы муку са склада купца Берандзеева. Вочы лапахінскія пацяплелі, затуманіліся, а калі брычка, абліўшы граззю пахілы плот, праехала міма шынка «Славянка», загадкава бліснулі. Лапахін з вясёлым сумам згадаў, як калісьці, яшчэ за часамі цара Аляксашкі, яго прыціснулі да плота берандзееўскія прыказчыкі ды збілі да паўсмерці.

Шчымлівыя згадкі заварушыліся ў галаве, і нават калі рысак, пырхнуўшы наастачу, спыніўся, Лапахін колькі часу сядзеў незварушна, зацята паглядаючы на асмужаны фабрычным дымам далягляд. Нарэшце, дастаўшы з кішэні швейцарскі «мозер», пстрыкнуў вечкам, загадаў Мітрафану пад'ехаць а дзявятай вечара і, з дапамогай вазніцы, скочыў на зямлю.

Дом, у якім жыла Кацька, Лапахін збудаваў калісьці ўласнымі рукамі. Цяпер у яго было іншае жытло — двухпавярховік у самым цэнтры места, — а тут, у прысадзістай камяніцы з высокім мезанінам, месціліся, змяняючы адна другую, лапахінскія ўтрыманкі. Дом стаяў у нізкім месцы, на гліне; уся навакольная гразюка сцякалася сюды, гучна чвякала пад нагамі, і зыкі гэтыя нарадзілі ў душы трывожнае пачуццё: яму падалося, што Кацька не адна.

У цёмным калідоры пахла рыбнымі пірагамі, на кухні бразгалі рондалі, і ў прадчуванні смачнага абеду Лапахін пацёр вільготныя далоні. Ён зайшоў у вітальню, каб прычасацца ля люстра, і аслупянеў. Пасярод вітальні, у мяккім крэсле, сядзеў, закінуўшы нага на нагу, той самы фацэт. Лапахін

прымружыўся, страсянуў галавой, але відзежа не знікала. Фацэт матляў правай нагой, міргаў левым вокам, фанабэрліва пасміхаўся, і страшная згадка працяла свядомасць: перад ім сядзеў дэман!

Лапахін падаўся задам, стукнуўся патыліцай аб дзвярны вушак. Праз хвілю небарака ўжо бег па гразкай вуліцы, мармытаў «Ойча наш» і бясконца хрысціўся. Вочы шукалі людзей, між тым на вуліцы было пустэльна, і толькі ля «Славянкі» варушыліся няўклюдныя постаці і чулася п’яная гамонка.

Фацэт у фраку быў, безумоўна, нячысцікам, бо толькі яны могуць вомігам пералятаць з цэнтра места ў Мандрыкаўку. І хаця Лапахін пераконваў сябе, што нячысцік яму прымроіўся — як таму Міхельсону, які пасля запою бачыў чарцей на дроце, — усё адно душа была не на месцы, і замешаны на пякельнай рэўнасці непакой млосннай немаччу разліваўся па целе. Каля ганка «Славянкі» раўнівец спыніўся ў памкненні вярнуцца да Кацькі ды разабрацца з нячысцікам, але, падумаўшы, вырашыў зайсці ў шынок і прапусціць дзеля смеласці чарку гарэлкі.

Пятнаццаць гадоў не завітваў у «Славянку», а ў шынку між тым нічога не змянілася. Тут па-ранейшаму кісла пахла аўчынай, пад скляпеністай столлю вісела шызая махорачная аблачына, слізкая падлога, як і пятнаццаць гадоў таму, была засмечана яечнымі шалупайкамі, а між сталоў усё з тым жа імпэтам лётаў афіцыянт Васька, галава якога канчаткова аблысела і адбівала блікі ўсіх чатырох газавых ражкоў, якія віселі пад столлю.

Жыццё ў шынку ішло сваім ладам. Два падпітыя майстравыя аб нечым зацята спрачаліся; кудлаты тыпус, відавочна поп-расстрыга, спаў, абхапіўшы піўную бочку; ля буфета студэнт у шэрай тужурцы піў нагбом цымлянскае, другі стаяў поруч і мыляў вуснамі — лічыў глыкі, — а ў далёкім куце нейкія цыганістыя хлопцы, няйначай канакрады, уздымалі чаркі, бязладна падпяваючы Шаляпіну, грымучы голас якога вырываўся з раструба музычнай скрыні «Манатон».

— Васька! — гукнуў Лапахін, але афіцыянт нават не зірнуў у ягоны бок: падхапіў тацу з брудным посудам, кінуўся на кухню, ды нечакана спыніўся і паволі апусціў тацу на галаву наведніку, які сядзеў за крайнім сталом.

— Никан… Никандр Иваныч-с! Да как… да как же это?! — афіцыянт матнуўся ў цёмны кут, потым да буфета і, падхапіўшы з перапуду трохвядзёрны самавар, знік у пройме кухонных дзвярэй.

— Лопахин… Лопахин… — зашапталіся наведнікі, гармідар паволі аціх, і з парнай кухні выплыла кудлатая барада шынкара Пракудзіна.

— Никандр Иваныч?! Вот радость-то! Вот уважили старика! — заенчыў шынкар, захоплена рассунуўшы рукі. — В кабинет пожалуйте-с… Для почётных гостей-с. У нас на пасху сам митрополит с мандрыковским батюшкой обедали-с…

— Нет, брат, я уж тут, с народом, — прамовіў Лапахін, шукаючы вачыма стол, за якім любіў сядзець калісьці.

— Васька, что стал, антихрист! — крыкнуў Пракудзін, і праз імгненне Васька — прычасаны, прыбраны ў новую льняную кашулю і з бялюткім ручнікам на плячы, — ужо ляцеў па шынку з дыхтоўным венскім крэслам над галавой.

Лапахін плюхнуўся ў падстаўленае Васькам крэсла, налёг рукамі на стол, змучана крахтануў. Запанавала няёмкая ціша: мандрыкаўцы сядзелі, баючыся зварухнуцца, і вінавата глядзелі на пустыя чаркі.

— Ну, чем кормите? — выдыхнуў ганаровы наведнік, тыцнуўшы пальцам у бок музычнай скрыні.

— Расстегайчики-с… сёмга-с… битки по-лопахински… — засакатаў над вухам афіцыянт, з прафесійным апломбам абапёршыся на стол двума пальцамі.

У шынку зноў заспяваў Шаляпін, і наведнікі, перавёўшы дых, стоена загаманілі.

— Про битки сейчас придумал? — з робленай суворасцю запытаў Лапахін.

Васька прыбраў са стала пальцы.

— Никак нет-с… Народ придумал. Десять лет подаём-с. Помните, вы нас учили: «Перчику, перчику подсыпьте».

— Помню, помню, каналья. Неси свои битки… Всё неси, — ужо лагодным голасам мовіў Лапахін, дастаўшы з партманета храбусткую асігнацыю. — И «смирновку» ташшы. На каждый стол по штофу.

Апошнія лапахінскія словы не на жарт усхвалявалі наведнікаў. Яны заварушыліся, стрымана закашлялі, а калі з кухні выйшаў шынкар з тузінам штофаў ва ўзнятых руках, дружна ўдарылі ў ладкі.

— Благодарствуем, Никандр Иваныч! Благодетель вы наш! — выдыхнулі мандрыкаўцы, узняўшы чаркі.

Наведнікі паўсталі перад дабрадзеем, як перад царом Міколам. Нават расстрыгу падхапілі пад пахі, і той, нічога не цямячы, зірнуў на свет зведзенымі да пераносся вачыма.

— Ну будя, будя вам, — прамармытаў Лапахін і хвацка, не раўнуючы, як майстравы пасля палучкі, кульнуў чарку.

— Можете, Никандр Иваныч! Сразу видно — из наших, мандрыковских! — лісліва загаманілі наведнікі, Нікандар Іванавіч ізноў мармытнуў: «Будя», — і пад ухвальныя воплескі грамады прыклаўся вуснамі да бутэлечнага рыльца.

Гарэлка з натугай прайшла ў нутро, і на душы адразу прасвятлела. Лапахін адкінуўся на прыслон венскага крэсла, задаволена адрыгнуў, напаўголаса запытаў Ваську:

— К вам людишки … во фраках… не захаживают?

— Никак нет-с. У нас всё больше мастеровые обедают-с, — горача дыхнуў у лапахінскае вуха Васька, хацеў і яшчэ штосьці выдыхнуць, ды раптам стаіў дых і ўтаропіўся на ўваходныя дзверы.

Ля ўвахода стаяў маладзён у чорным фраку і з кіслай усмешкай на твары мружыўся на газавы ражок. Усмешка сведчыла за тое, што маладзён прыехаў са сталіцы і вочы ягоныя праглі не цьмянага газавага святла, а зыркай электрыкі. Наведнік падышоў да вольнага стала, сеў, спрытна адкінуўшы фалды, і, пстрыкнуўшы пальцамі, галёкнуў:

— Гарсон!

Гарсон быў заняты — падліваў гарэлку ў лапахінскую чарку, таму да маладзёна рушыў Пракудзін, а потым і сам Лапахін. Перакуліўшы па дарозе стол і два крэслы, фабры-

кант паслізнуўся на кавалку расцягая, паваліўся на падлогу і з лямантам «Держи его!» ухапіўся рукамі за фалду маладзёнавага фрака.

Усчалася страшэнная сумятня. Лапахіна ўбрыкнулі нагой, чыясьці грузная туша навалілася на фабрыканта, а ў рот убілася смуродлівая барада. Роспачным высілкам Лапахін скінуў з сябе цяжар і, сплюнуўшы крывавую пену з расквашанай губы, прасіпеў:

— Держите его, это демон!

Мандрыкаўцы схапілі нячысціка за рукі, ногі і валасы, і Васька-афіцыянт, выціраючы стол, хуткагаворкай прамармытаў:

— Демон, Никандр Иваныч. Сущий демон-с!

— Не узнаёшь?! — страшным голасам вымавіў Лапахін, памацаўшы разбітую губу.

Нячысцік маўчаў, а калі б і захацеў што сказаць, дык не даў бы рады, бо яго трымалі за пашчэнкі.

— Кто такой? — Лапахін крутнуў у паветры пальцамі.

Афіцыянт Васька, зразумеўшы такі жэст, спехам паднёс тацу з брынклівай чаркай.

— Фокусник это. Я его в цирке видал, — гукнуў нехта з наведнікаў, і нячысцік, на знак згоды, лыпнуў вачыма.

— У Катьки был, сатана?

— Бы-ыл… — прастагнаў нячысцік, шморгнуўшы разбітым носам.

— А как ты из «Константинополя» в Мандрыковку перелетел?

Нячысцік ізноў шморгнуў носам, і ў вачах ягоных бліснулі слёзы.

— В гостинице мой брат был. Близнецы мы, нас даже матушка путает.

Лапахін каўтнуў гарэлкі, зноў узняў чарку, і Васька, стукаючы рыльцам бутэлькі па шкле, напоўніў яе з каптуром.

— А чего к чужим бабам ходите? — Лапахін панурыў разбітую губу ў чарку, аблізнуўся.

Фокуснік маўчаў. Лапахін грукнуў кулаком па стале, і ўсе, хто стаяў поруч, спалохана адхінуліся.

— Дама одна пришла за кулисы… С нею господин был. Говорят: посидите пару часов у двух девиц. По пятёрке нам дали. И антрепренёру отстегнули, чтобы с представленья отпустил. Завезли на авто… Девицам сказали, что мы из жандармерии, социалистов ловим…

— Дама в розовом платье была? — перабіў Лапахін і, не чакаючы адказу, сіпла і страшна працадзіў: — Убью обоих.

— Не губите, матушка у нас больная… Сестрица инвалид… в приют определили…

— Да не тебя, дурак, — перакрывіўся Лапахін і загадаў адкаснуцца ад фокусніка.

…Выпіўшы на пару з цыркачом штоф «смірноўкі», дарэшты ўпіты фабрыкант праццяўся да субяседніка шчырай спагадай, назваў таго лепшым сябрам і, паклаўшы важкую руку на сябрукоў карак, прагугніў:

— Хочешь — завтра женю на Катьке…

— Не могу-у… У меня ангажемент. Завтра в Тамбов переезжаем, — цыркач разліў у чаркі рэшткі гарэлкі, перадаў пустую пляшку афіцыянту.

— Какой н-нахер Тамбов. Возьму тебя на завод, — Лапахін ікнуў, няпэўнай рукой узняў чарку, — ты что-нибудь, кроме фокусов, можешь делать?

— Романсы исполняю под гитару.

Такая навіна настолькі ўразіла фабрыканта, што ён працверазеў. Пакруціўшы галавой у пошуках афіцыянта, фабрыкант чарговым разам грукнуў кулаком па стале і нема загарлаў:

— Васька, чёрт леший… гитару!

Гітара — парэпаная, зацяганая, з бруднай жычкай на грыфе — з’явілася на дзіва хутка.

Цыркач правёў пальцам па струнах, крутнуў калок, запытальна зірнуў на фабрыканта.

— «Чё те нада?» знаешь?

Запанавала ціша. Толькі на кухні сквірчэлі шанежкі ды ў дальнім куце надрыўна хроп расстрыга, але і той аціх, абуджаны хвацкім штурханом.

Першы зык атрымаўся напяты, як струна, але затым голас разняволіўся, залунаў над прыціхлай грамадою. Толькі цяпер

зразумеў Лапахін, чаго прасіла душа. Душа прасіла песні — бязмежнай, як стэп, і праўдзівай, як сама праўда. Цела стала лёгкім, сэрца сцялася, нібыта ад поціску жаночых рук, пякучыя слёзы перацялі дыханне, і фабрыкант-мільёншчык, каб канчаткова імі не задыхнуцца, ірвануў на грудзях кашулю і далучыў свой дрогкі барытон да высокага фальцэту спевака.

— Ты скажи, ты скажи, чё те надо, чё те надо, может, дам, может, дам, чё ты хошь…

Лапахін заплюшчыў вочы, забыўшыся на свае трывогі, а калі, пасля другога рэфрэну, перавёў дых і размежыў павекі, дык убачыў, што фокуснік пакінуў грацы і, па прыкладу афіцыянта, утаропіўся на дзверы.

На парозе, насунуўшыся плечуком на дзвярны вушак, стаяў упраўляючы Нольд. Нольдавы валасы злавесна стаўбурыліся, на лбе чырванеў вялізны гузак, рукаво форменнай тужуркі было надарванае, і ўсё гэта наводзіла на думку, што немца хвіліну таму выцягнулі з зашмаргі.

Позіркі іх сустрэліся, і немец задыхана прастагнаў:

— Никандр Ивановитш! Бунт! Социалисты завод подожгли и меня немножэтшко убивайт!

Усе, хто быў у шынку, зірнулі на фабрыканта.

— Такую песню испортил, дур-рак! — паўтарыў Лапахін фразу, пачутую надоечы ў тэатры, наваліўся на стол і, абхапіўшы рукамі галаў, закалаціўся — ці то ад смеху, ці то ад роспачнага плачу.

# РЫБАЛКА Ў БЫЧКАХ

— У эфіры нядзельны канцэрт-віншаванне «Жадаю вам», сто дваццаць дзявяты выпуск, — паведаміў урачысты барытон, і Макар канчаткова абудзіўся. Галава балела да божай моцы. Стваралася ўражанне, што ўнутры яе, па мазгавых звілінах, казытліва поўзалі мухі. У роце было як насцана, а да горла, намагаючыся выйсці на-гара, падступаў халодны камяк млосці. Выгаліўшы вочы, Макар каўтнуў даўкую сліну, камяк адступіў, праваліўся на дно страўніка і растаў там, агідным халадком адбіўшыся пад дыхніцай.

— Больш як сорак гадоў адрабіла наша матуля ў родным калгасе. За гэты час яна выгадавала траіх дзяцей, неаднаразова ўзнагароджвалася граматамі праўлення калгаса, — гукаў аднаканальны «Сож», і кожны зык, што далятаў да вушэй, балюча калоў у скроні.

Макар войкнуў, намацаў пад ложкам чаравік, пусціў яго ў «мацюгальнік». Пластмасавая скрынка на момант аціхла, сарвалася з цвіка, але на падлогу не ўпала. Павісла на шнуры, які лучыў яе з разеткай.

— Для вас, Фядора Пятроўна, а таксама для Антаніны Іванаўны Задзярыпук з Брэстчыны перадаём рускую народную песню «Качанё лугавое».

Змагацца з «мацюгальнікам» не было ніякіх сіл, а між тым уедлівыя галасы вываротвалі душу, пахмельная душа бунтавала, рука шнарыла пад ложкам, шукаючы другі чаравік, і калі той быў урэшце знойдзены, на плячук Макараў лёг сонечны прамень і цёплым дотыкам сваім супакоіў бунтоўную душу.

…Учарашні дзень выдаўся дарэшты мітуслівым. Ад самага ранку, прыхапіўшы скрыню гарэлкі, паехалі з Манькіным на чурылаўскую пільню. Патрэбнага чалавека на пільні не было, з’явіўся ён па абедзе, а таму заладаваліся толькі а пятай гадзіне і да лецішча пад’ехалі на змярканні. Рабацягі той парой ужо разышліся, і давялося ўдвух разгружаць машыну, цягаючы дошкі ў падвал генеральскай дачы. А ўвечары, калі

сцягвалі з кодаба апошні аполак, на пляцоўку перад домам заехаў прапылены «Урал» з літарамі «МА» на дзверцах. Машына была даверху наладавана шынялямі ды валёнкамі.

— Праверка едзе… трэба прыхаваць, — гукнуў з кабінкі прапар Базыль, якому яны будавалі лецішча непадалёку.

Не перавёўшы дыху, сталі цягаць майно ў недабудаваны гараж, потым, страшэнна стомленыя, пілі прывезенае прапарам «Амарэці», і скончылі піць апоўначы, калі Манькін, галасна ікнуўшы, пануры́ўся галавою ў кучу габлюшак.

— …А зараз віншаванні васьмідзесяцігадовым юбілярам…

У калідоры скрыгатнуў ключ, рыпнулі завесы, гучна бразнулі малочныя бутэлькі. Гэта маці вярнулася з крамы.

Кожную нядзелю было адно і тое ж: пахмельная замарач, васьмідзесяцігадовыя юбіляры, бразгат малочных бутэлек уперамешку з матчыным бурчаннем і зыркім святлом, што лезла, працінаючы жоўтыя шторы, не толькі ў вочы, але і ў душу. Атрутная жоўць выцягвала духі, а між тым вочы прасілі васільковага неба, азёрнага блакіту; душа прагнула спачыну і Макар, падумаўшы, ці не з’ездзіць яму да дзядзькі, з вохканнем падняўся на ногі.

Увесь час, пакуль піў ваду з чайніка, маці стаяла пасярод кухні, з маўклівым дакорам хітаючы галавой. Чакала, відаць, што сын скажа нешта ў сваё апраўданне, а калі сын выцер вусны, плаксіва прашаптала:

— Ужо і рукі трасуцца…

У прыбіральні Макара хіснула, ён абапёрся рукой на трубу і доўга глядзеў пад ногі, дзівуючыся аб’ёму вадкасці, што назапасілася ў мачавым пухіры.

— Дома будзеш ці пойдзеш куды? — запыталася маці.

Макар зайшоў у спальню, зірнуў пад ложак, шукаючы штаны. Не ўздымаючы вачэй, прамармытаў:

— Да дзядзькі паеду.

Як на здаровую галаву, дык ён бы падумаў, перш чым сказаць такое, а тут ляпнуў, прыкусіў язык, ды было позна. Маці схамянулася, паправіла на галаве хусцінку, усё тым жа плаксівым голасам праспявала:

— Мака-арка… Ты ж гэнага вазьмі-і…

«Гэным» маці называла свайго зяця.

— Ат! — адмахнуўся Макар, падымаючыся на ногі, — хай з ім Тамарка разбіраецца. У мяне сваіх турбот…

— Вазьмі, — перабіла маці, — год прашу… хоць бы раз матку ўважыў.

Слухаць такое, ды яшчэ з бадуна, было смерці падобна. Таму Макар спехам насунуў спартовыя шаравары, — джынсы, у якіх быў учора, некуды зніклі, — прыхапіў пару тысячаў і, перакрывіўшыся ад бразгату вядра ў прыбіральні і матчынай звягі: «Ізноў засцаў падлогу!», выбег з кватэры.

Ліпеньскім ранкам, калі сонца пячэ як мае быць, калі ўваччу пырхаюць чорныя мятлікі, а сэрца працуе на халастых абаротах — самы раз памерці. Трэба толькі сысці з ходніка, паваліцца на колкую траву пад таполяй і-і… — бывай, душа, ляці ў іншасвет! Душа адляціць, а ты будзеш ляжаць — нерухомы, з задзёртай калашынай, — і калі цень ад тапалі перапаўзе з сіняй лыткі да загарэлага плеху, на ходніку спыніцца сухарлявая бабуля. Яна стане на дыбачкі, страсяне пустой сумкай, а каржакаваты, крыху падпіты дзядзька, які будзе ісці міма, сіпла зазначыць: «Зараз мянты абудзяць». Мянты з'явяцца адвячоркам, калі памутнелае сонца схаваецца за дахам суседняга дома. Малады міліцыянт рашуча схопіцца за сінюю лытку і нечакана адхінецца, зачапіўшыся фуражкай за вецце. Вакол дрэва пачнуць збірацца людзі, і чырванатвары сяржант, нядобра зырнуўшы на натоўп, кароткім мацюгом канстатуе: «Канец».

Макар ужо збіраўся паваліцца пад куст, бо свет забрыніў уваччу і слых напоўніўся замарачным шумам, ды, угледзеўшы пасярод вуліцы двух хлопцаў з піўнымі торбамі, з адчаем у голасе крыкнуў:

— Дзе даюць?!

— У «камсе»! — адказалі хлопцы і Макар, змахнуўшы ліпкі пот з лабаціны, зразумеў: ад смерці яго можа ўратаваць глыток халоднага піва.

Вуліца, па якой шыбаваў небарака, з аднаго боку была застаўлена шэрымі пяціпавярховікамі, а з другога боку панаваў

прыватны сектар — з курамі, сабакамі, збуцвелымі агароджамі ды водаразборнымі калонкамі. Макар абмыў пад калонкай разамлелы твар, і скіраваў у двор універмага «Камсамольскі». У двары было цёмна ад народу. Рабацягі з навакольных дамоў (усе скрозь у лінялых «спарціўках»); вайсковыя пенсіянеры (у тэпцях на голую нагу і ў пакамечаных капронавых капелюшах); хлопцы-пэтэвушнікі (іхныя стрыжаныя патыліцы прыкметна вылучаліся на тле загарэлых лысін) і, нарэшце, мясцовыя алкашы (з тварамі, такімі ж шэрымі, як хлапечыя патыліцы і такімі ж пакамечанымі, як пенсіянерскія капелюшы) шчыльным колам атачалі піўную бочку. У паветры пахла нейкай брыдой — ці то прэлымі шкарпэткамі, ці то кашэчымі сцакамі, і ад гэткага паху ў прадонні Макаравай душы зварухнулася свярблівае жаданне — шпурнуць у натоўп падораную прапарам асколачную РГД, ці, у крайнім выпадку, заехаць якому алкашу кулаком між вачэй. Жаданне было такім палкім, што Макар скрыгатнуў зубамі і пацёр пераноссе, згадваючы — куды ён падзеў гранату?

Натоўп бязладна гаманіў, варушыўся, і дзесьці ў самых нетрах ягоных чуўся прарэзлівы голас суседкі — алкагалічкі Нінкі Пятлюры.

— Ніна! — крыкнуў Макар, склаўшы рупарам далоні, але тая, да каго звяртаўся, не пачула.

Краем вока Макар згледзеў у канцы двара драцяную скрыню, на якой сядзеў сівы дзядок, і, падышоўшы да старога, падняў таго за плечы.

— Нінка, йо..! — крыкнуў Макар другім разам, глянуўшы на натоўп з вышыні драцяной скрыні, і Нінка, міргнуўшы падбітым вокам, незадаволена адгукнулася:

— Ну шчо тобі?

Макар, дэманструючы недарэчнасць такога пытання, развёў рукамі.

Людская грамада захваляваліся. Хтосьці здушана войкнуў, з нечай лысай галавы зляцеў капялюш, і Нінка, віскнуўшы, як цыркулярка, скаланула абшар уладарным воклічам:

— Шчо ты став, як хер моржовы?! Гроші давай.

Паперка з чырвоным зубрам паплыла над галовамі, Макар праводзіў яе ўстрывожаным позіркам, нервовай хадою прай-

шоўся ў бок універмага, сцепаючыся ад кожнага мацюга, што вырываўся з натоўпу. Мацюгі тыя з кожнай хвіляй рабіліся ўсё больш рашучымі ды істэрычнымі.

— Ну куды, куды лезеш, хахляра?!

— Мовчы, підлюка галіфэйна!

Пасля такога дыялогу з лысай галавы зноў зляцеў капялюш, уладальнік капелюша тузануўся, атрымаў пустой поліэтыленавай каністрай па лбе і выкуліўся з натоўпу.

Трымаючы ва ўзнятых руках торбу з півам, Нінка ніяк не магла суняцца і мацюкалася, пасылаючы праклёны на адрас «підлюкі». Каб суняць мацюкальніцу, Макар пхнуў ёй у рот цыгарэту, пстрыкнуў запальнічкай, але Нінка не супакойвалася і, сціснуўшы зубамі цыгарэту, абяцала начысціць рэпу апраненаму ў выцвілае галіфэ пенсіянеру.

Торба была паўнюткай. Піва халадзіла руку, жывой істотай варушылася на далоні. Уеўшыся зубамі ў поліэтылен, Макар цадзіў гаючы напой без перадыху. Піва лілося ў нос, залівала вушы і калі б была магчымасць патануць у ім, пахмельны пакутнік зрабіў бы гэта з вялікай ахвотай. Заглынуўшы добрых паўтара літра, вернуты да жыцця Макар плюхнуўся на драцяную скрыню, зморана і ўадначас задаволена выдыхнуў:

— Ой, бля-а…

Свет уваччу набыў натуральныя фарбы. Макар, прымружыўшыся, паглядзеў на паркалёвыя трусы, што віселі на Тамарчыным гаўбцы, а прыклаўшыся да торбы, уголас прашаптаў:

— Можа, сапраўды ўзяць гэнага ёлупня?

Макар падхапіўся на ногі, аддаў торбу з рэштай пітва дзядку, якога сагнаў быў са скрыні, парывістым крокам рушыў па ходніку.

Хоць Тамарка і жыла непадалёку — «хрушчоба» яе стаяла поруч з універмагам «Камсамольскі», — бываць у сястры даводзілася рэдка. Сёлета, прыкладам, толькі раз і заходзіў: сястра папрасіла павесіць дыван на сценку. І то, перад тым як прыйсці, пяць разоў перапытаў, ці будзе муж дома. Не хацеў са шваграм сустракацца, бо паміж імі, яшчэ за даўнім часам, прабегла, узняўшы хваста, чорная кошка. Шыбуючы па ходніку, Макар згадаў сестрына вяселле, палічыў на паль-

цах — калі яно надарылася, — а налічыўшы трынаццаць гадоў, уражана прысвіснуў.

* * *

Дажджыстым лістападам, адседзеўшы тыдзень на гарнізоннай «губе», Макар ехаў пасля службы дахаты. І ехаў не адзін, а з сябруком — Васькам Замундаліным. Прымасціўшыся насупраць вагоннай прыбіральні, на скрыні для смецця, сябры пілі нагбом літоўскае «чарніла», смалілі пяршывыя цыгарэты і нахабнымі вачыма паглядалі на дзевак, якія сноўдалі па вагоне. Дзеўкам карцела зайсці ў прыбіральню, але, пабачыўшы дэмбелюкоў, паварочвалі назад альбо ішлі ў іншы вагон.

— Нішця-ак… хутка сюды вернемся… — мармытаў паміж зацяжкамі туляк Замундалін, мацаючы шнар на лбе.

Лоб Ваську разбілі лабусы. На кастрычніцкія святы сябры збеглі ў самаволку. Туляк хацеў набыць перад дэмобай газавую запальнічку, а Макар — падарунак для сястры, якая выходзіла замуж. Паблукаўшы па горадзе, дружбакі зазірнулі ў піўніцу, выпілі па чатыры кухлі густога біржайскага піва, пабіліся з літоўцамі, а калі, сплёўваючы крывавую пену з губы, завярнулі ў цёмны кут і сталі паліваць касцельны мур, за спінамі іхнымі ўжо стаяў вайсковы патруль.

Сядзенне на «губе», ды яшчэ пры канцы службы, пякло азадак і даставала вантробы. Да таго ж Макара чакалі на сестрыным вяселлі, і давялося прасіць канваіра, каб той адбіў тэлеграму: «Затрымліваюся на манеўрах».

Туляку адседка таксама далася ў знакі. Вярнуўшыся пасля «губы» ў казарму, ён не знайшоў у тумбачцы дэмбельскага альбома. Апытаўшы салаг, Васька ляпнуў кулаком па далоні і паабяцаў замачыць не толькі лабусаў, але і адэсіта Базылевіча. Базылевічава тумбачка стаяла поруч з Васьчыным ложкам, таму туляк і вырашыў, што гэта адэсіт прыхапіў альбом, калі з’язджаў дахаты.

На станцыі Даўгаўпілс сябрукі скочылі на перон, узялі дзве пляшкі піва, пагаманілі з грудастай правадніцай, надрапалі на вагоннай сцяне запаветныя літары «ДМБ-80» і заснулі, наваліўшыся грудзямі на вагонны столік.

Познім вечарам правадніца стала трэсці Макара за плячук, Макар пускаў сліну, штосьці мармытаў спрасонку, і абудзіўся, толькі як у суседнім купэ грукнулі кірзачы і нейкі дэмбель жартам галёкнуў: «Рота-а, пад'ём!»

Макар зірнуў у акно, убачыў за мокрай шыбай будынак віцебскага вакзала і адчайным позехам вітаў родную зямлю.

Хацеў сысці ціха, не абудзіўшы сябра, ды ў апошні момант тыцнуў Ваську пальцам пад драбы.

Яны выйшлі з вагона, выпалілі па цыгарэце, і Макар, каторым ужо разам, прапанаваў сябру паехаць з ім у Азярышча.

— Гульнём на вяселлі, гарэлкі вып'ем, з дзеўкамі пазнаёмімся, — казаў Макар, туляк мармытаў штосьці пра адсутнасць грошай, але, пачуўшы, што ў Макара ў Віцебску жыве былы аднакласнік, у якога можна апахмяліцца, пабег у вагон па рэчторбу.

Аднакласнік, Толік Манькін, жыў на Маркаўшчыне, у шматсямейным інтэрнаце. Дабраліся туды проці ночы, доўга блукалі па цёмных калідорах ды чыркалі запалкамі, выглядаючы нумары на дзвярах, а калі нарэшце знайшлі патрэбную кватэру, туляк нясмела прамармытаў:

— А можа, не варта? Позна ўжо.

Але Макар націснуў на званок — раз, потым другі, і ў асветленай пройме паўстаў Толік Манькін — у адных майтках і з перакрыўленым ад зыркага святла тварам. Аднакласнік пачухаў пахвінне, а пачуўшы звяглівы жаночы голас, што прагучаў за спінай, азірнуўся і люта рыкнуў:

— Ды змоўкні ты, с-сука!

Тут ужо і Макар пашкадаваў, што прыцёгся да Манькіна, ды нечакана той схамянуўся, з адчаем раскрыліў рукі:

— Макарка! Дэмбяльнуўся!

У цеснай кухні селі вакол стала, пагаманілі напаўголаса; неўзабаве гаспадар пабег некуды і вярнуўся з літровым слоікам у руках.

— У суседкі ўзяў. Толькі што выгнала, — паведаміў гаспадар, паставіўшы перад гасцямі слоік з мутнай самагонкай.

Пяршак быў цёплым, патыхаў карбідам, і піць давялося прыхапкам, бо Толікава жонка штохвілі грукала ў сценку і

здушана лаялася. Кульнуўшы пару кілішкаў, Макар захмялеў, кінуў на падлогу шынель, расцягнуўся пасярод кухні, прыціснуўшыся скроняй да газавай пліты. Туляк з Манькіным яшчэ колькі часу гаманілі, потым пачалі дужацца рукамі, скінулі на падлогу слоік з рэштай самагонкі, і на кухню прыбегла гаспадарова жонка. Прыкусіўшы губу, жонка стала цягаць мужа за валасы, гарлаць: «Заб'ю, п'янтосіна!», але Макар нічога гэтага не чуў і не бачыў, панурыўшыся ў беспрабудны сон.

Раніцаю трэба было ўставаць а сёмай, каб паспець на «дызель», Макар жа прачнуўся а дзявятай — з хворым кумпалам, з ламотай у костках і з рэззю ў чэраве. Абудзіла яго гучнае вяканне, якое далятала з ваннай. Васька ванітаваў, і гэта наводзіла на думку, што самагон і сапраўды заправілі карбідам. Макара таксама пацягнула на ваніты. Ён ікнуў, пхнуў галаву пад кран з халоднай вадой, і млосць паволі адхлынула.

На азярышчанскай станцыі ўсё так жа шумелі на ветры згалелыя таполі, на таполях сядзелі тыя ж самыя гракі, плакат на агароджы («Не ходите по путям!») гэтак жа, як і два гады таму, ляпаў пражжавелай бляхай, і толькі прыстанцыйная прыбіральня, што стаяла ў канцы платформы, рэзала вока новай афарбоўкай. З белай прыбіральня ператварылася ў цёмна-брунатную, і старыя надпісы на яе сценах выразна прабіваліся скрозь новую фарбу.

Унутры, аднак, сцены не фарбавалі. Макар, стаўшы над цёмнай адтулінай, стаў разглядаць колішнія свае малюнкі, ды тут свет паплыў уваччу, і ён змахнуў рукавом няпрошаную слязіну. Плакаў, зморана аддзімаючыся, і Васька Замундалін. У прыбіральні смярдзела хлёркай, і смурод праймаў да слёз. Не абабіўшы апошніх кропляў, Макар выбег на платформу і адразу ж патрапіў у матчыны абдоймы.

— А Макарка ж ты мо-ой… А чаму ж цябе не адпускалі-і?.. — загаласіла маці, і ад таго ляманту ўсхадзіліся гракі на дрэвах, а сябар Васька застыў у дзвярах прыбіральні, не зашпіліўшы прарэху.

— Кожны дзянёчак да цягніка бегала, — галасіла маці і супакоілася толькі тады, як Макар закрыў ёй твар вушанкай.

Распісвалася сяструха праз гадзіну, але ісці ў загс не выпадала, бо трэба было памыцца, пераапрануцца і наогул пры-

весці сябе ў парадак. Пагатоў на вяселле, як сказала маці, прыехалі менскія дзеўкі і мальцы.

— Акуратны, непітушчы… сёлета інстытут скончыў, — лапатала маці, шыбуючы поруч і пры гэтым запабежліва паглядала ў сынавы вочы — спадзявалася, што ў іх мільгане спагада.

Макар ішоў па гразкай вуліцы, кіўком галавы падганяў сябра і стоена ўздыхаў. Ён не любіў інтэлігентаў.

Вяселле гулялі ў леспрамгасаўскай сталоўцы. Суседка іх, цётка Дуся, працавала ў леспрамгасе бухгалтарам — яна і парупілася пра памяшканне. З той цёткай хлопцы і рушылі ў сталоўку. І рушылі не проста так, а з мядніцай вінегрэту — яе нёс на галаве Васька Замундалін, — і з цяжкай торбай, якую цягнуў Макар і ў якой зацята бразгалі бутэлькі.

Два гады не быў Макар у кампаніях і, заўважыўшы людскі збой на ганку сталовай, замарудзіў хаду, перакінуў з рукі ў руку торбу, пацёр навярэджанай далонню тое месца, дзе білася неспакойнае сэрца.

Мальцы, якія стаялі на ганку, былі нетутэйшыя, усе скрозь у вышываных кашулях і, што самае дзіўнае, гаманілі па-беларуску.

«Кампазітары нейкія», — падумаў тады Макар, скоса зірнуўшы на Ваську Замундаліна. Два гады даводзіў сябру, што ў Азярышчы няма ніякіх нацыяналістаў, што беларусы, гэтак жа, як і тулякі, ненавідзяць лабусаў, а тут такая неспадзеўка.

Слухаючы кампазітараў, Макар не на жарты расхваляваўся, укінуў у рот цыгарэту, паднёс запалку і заўважыў, што прыпаліў фільтр. У той жа міг на ганку мільганула штосьці белае і на шыі Макаравай павісла заплаканая Тамарка.

— Тры разы вяселле пераносілі. Усё цябе чакалі… — усхліпнула каля вуха сястра. Макар хацеў і сам расплакацца, ды, перахапіўшы сябрукоў позірк, сумеўся і паляпаў далонню па дрогкай Тамарчынай спіне.

Пякучая крыўда на сябе самога не адпускала і надалей, калі ён рукаўся з жаніхом — хударлявым заморкам у акулярах, левае шкельца ў якіх трэснула і падзяляла вока на дзве палавіны; і калі сядаў за вясельны стол, далучыўшы да вірлівай гамонкі натужлівы трэск выхадных штаноў. Пад час

службы азадак прыкметна раздаўся, вось штаны і не вытрымалі напругі.

Яны сядзелі з Васькам у тарцы стала, ваўкавата пазіралі на гасцей, а калі ў залі завялі музыку і пачаліся танцы, збеглі, прыхапіўшы пляшку, у прыбіральню. У прыцемным, няўтульна-халодным катуху пілі нагбом цёплую гарэліцу, кракалі, цiснучы да вуснаў рукавы, і зацята маўчалі. Маўчалі аж да тае пары, пакуль дзверы прыбіральні не адчыніліся і ў пройме не бліснулі акуляры з трэснутым шкельцам.

— Хлопцы, запалкі ёсць? — з робленай весялосцю спытаў жаніх, і Васька Замундалін злавесна прасіпеў у адказ:

— Не надоело?

— Што? — не зразумеў жаніх.

— По-бульбашски п…ть не надоело?

Нечакана пачуўся дзявочы воклік: «Маладую скралі!» — і аб цэментную падлогу гучна бразнула недапітая пляшка.

Макар так і не зразумеў, — хто пачаў бойку. Замундалін ударыў жаніха ці наадварот. Ён стаяў, нерухомы, уражана лыпаў вачыма, і ачуўся толькі як убачыў юшку пад замундалінскім носам. Глынуўшы паветра і мацюкнуўшыся, Макар даў волю пакрыўджанай душы: з усяго маху заехаў кулаком у твар кудлатаму хлопцу, які трымаў Ваську за плечы.

Скончылася ўсё несамавіта. Замундаліну расквасілі нос, жаніху дарэшты разбілі акуляры, а жаніхоў сведка, той самы кудлаты хлопец, патрапіў у бальніцу са страсеннем мазгоў і з парэзанай аб бутэлечнае шкло галавою. Увечары, пасадзіўшы туляка на цягнік, Макар падаўся на вёску, да дзядзькі Трахіма, і вярнуўся ў матчыну кватэру толькі праз год, калі адтуль з’ехала сястра са сваім заморкам.

* * *

Перш чым пазваніць, Макар адрыгнуў піўным духам, сплюнуў з языка тытунёвыя крыхі, намацаў пальцам пукаты гузік. Званок, аднак, маўчаў. Давялося пастукаць у дзверы косткамі пальцаў.

Адчыніў швагрусь не адразу. Завіхаўся з замком, тузаў дзвярную ручку, нарэшце паўстаў у дзвярах — расхлістаны і ўсхваляваны.

— Чаму званок маўчыць? — запытаўся Макар, надаўшы голасу жартаўліва-зухаватыя ноткі.

Швагер вінавата ўсміхнуўся, зашпіліў дрогкімі пальцамі кашулю на грудзіне і праз хвілю, ужо з пакоя, выгукнуў:

— Зламаўся.

— Дык трэба направіць! — прамовіў госць, з дакорам пераведшы дыханне.

Швагер глядзеў тэлевізар. Сядзеў на хісткім услоне, у метры ад экрана, наставіўшы на Макара незагарэлы, падобны да дзіцячай седаўкі плех. Такая пастава сведчыла пра адно: гасцям у гэтай хаце не рады.

— Што паказваюць? — буркнуў госць, і гаспадар, ні слова ні сказаўшы, адхіліў галаву ад экрана.

Па БэТэ паказвалі нейкага мурлатага прайдзісвета. Той сядзеў, раскінуўшыся ў крэсле, і несупынна бубніў немаведама пра што.

— Цяпер ужо Кебіча хваліць, — прасіпеў швагер, і плех ягоны злёгку паружавеў.

Сядзець у трыццаціградусную спёку і глядзець, разявіўшы рот, тэлевізар — гэта нейкае вычварэнства. Госць плюхнуўся на канапу, утаропіўся на шваграву спіну, дакладней на вострыя лапаткі, што тырчалі над напятай кашуляй. Тым часам на экране ўзнік яшчэ нехта — з пасмай рэдкіх валасоў на потным ілбе. Макар паглядзеў на экран, вывучаючы, адкуль узяліся валасы на потнай лабаціне, а зразумеўшы, што тыпус начасаў іх аднекуль з-за левага вуха, змучана застагнаў:

— Охо-хо-о…

Гэтым самым ён хацеў разгаварыць швагра, але швагер маўчаў.

— Слухай, а дзе зараз той хлопец? — вырвалася неўзабаве з Макаравай грудзіны.

— Які?

— Ну той, што біўся на вяселлі…

Вострыя лапаткі здрыгануліся, ссунуліся бліжэй адна да адной.

— Яго забілі. У восемдзесят першым годзе.

«Як забілі? Дзе! У Афгане? Па п’янцы?» — замітусіліся ў галаве адрывістыя думкі. Макар удыхнуў паветра, каб

спытаць, дзе забілі кудлатага небараку, — але чамусьці не спытаў. Адно прыкусіў губу і засяроджана правёў рукой па няголенай шчацэ. Кароткае імгненне сядзеў нерухома, потым нейкая сіла падхапіла Макара на ногі, ён падышоў да тэлевізара, схапіўся за шнур і выдзер штэпсель з разеткі.

* * *

Тупаючы ўздоўж старога, спавітага на доле густой бярозкай штыкетніку, яны зазірнулі ў агарод і там, на бульбянішчы, убачылі цётку Тацяну. Задзёршы прыпол спадніцы, цётка хадзіла па баразнах, збіраючы ў слоік «калараду».

— Ці-оць! — крыкнуў Макар перасельм голасам і адкашляўся.

Цётка абцягнула спадніцу, зірнула з-пад рукі, моўчкі кіўнула ў бок хаты. Маўляў, заходзь, гаспадар дома.

Госці рушылі да вясніц, а цётка, убачыўшы, што Макар прыехаў не адзін, кінула слоік, зашамацела голымі лыткамі па бульбоўніку. Выбег насустрач і дзядзька Трахім. Трымаючы ў руках «Народную газету», дзядзька з маладым імпэтам скочыў з ганка, і Макар незадаволена перасмыкнуў плячыма. Як прыязджаў адзін, дзядзька з цёткай яго так не сустракалі.

Хвілін пяць госці таўкліся ў кухні, з’елі па гурку, выпілі па шклянцы сырадою, і калі дзядзька Трахім, якому карцела пагаманіць з разумным чалавекам, прыпаліў папяросу і разам з дымам выдыхнуў: «Ну, як там Пазьняк?» — Макар выйшаў з хаты і палез на гарышча даставаць вуды.

Час быў пасляабедзенны. Сонца ўжо не паліла, як ад раніцы, але ўсё адно добра прыпякала, і карова Звяздоха, вытыркнуўшы з дзвярэй хлява вялізную, з белай плямай галаву, засоплена аддзімалася. Тут жа, на парозе хлява, сядзеў дзядзькаў кот Барыс. Кудлаты «сібірак» варушыў канцом хваста і зацята, удосыць напіўшыся сырадою, аблізваўся.

Карова наставіла на Макара млявыя вочы, разважаючы — хто гэта стаіць пасярод двара? — паважна адрыгнула, і бліскучая нітка асцы злучыла шурпаты каровін язык з разважліва-рухавым хвастом ката Барыса. Барыс пацягнуўся, з недаверам зірнуў на вудзільна, — Макар якраз налыгваў на

лёску новы плавок, — на ўсякі выпадак прыхаваўся ў цень, пад куст парэчак.

«Добра ў вёсцы», — падумаў Макар і, уражаны такім адкрыццём, удыхнуў на поўныя грудзі салодкага, настоенага на паху прывялай травы і сырадою, паветра.

Ён паспеў накапаць чарвякоў каля плота, перш чым пачуў незадаволены дзядзькаў голас:

— Дзе ты?

Вокліч такі сведчыў, што на стале ўжо стаялі чыгунок парнай бульбы і міска з маласольнымі гуркамі; што ў печы страляла тлушчам яечня са скваркамі, а цётка Тацяна выцерла ручніком і паставіла на стол пляшку гарэлкі.

Так яно і было. Адно што чыгунок стаяў не на стале, а на чарэні. Бульбу з нагоды прыезду інтэлігентнага госця рассыпалі па талерках.

— Ну, а якая на сёння асноўная задача? — запытаўся дзядзька Трахім, калі Макар увайшоў у хату.

— Галоўнае — зваліць Кебіча, — азваўся інтэлігентны госць, паціраючы потную лысіну.

— Звалім. У нас у Бычках яго ніхто не любіць, — паведаміў дзядзька, падхапіў пляшку і акрыялым голасам дадаў: — Усё будзе добра.

— Глядзіце, каб горай не стала, — уставіла слова цётка Тацяна, дастаўшы з печы патэльню з яечняй.

Дзядзька скалупнуў з пляшкі накрыўку, з іранічнай усмешкай перасмыкнуў плечуком. Пляшка цюкнула па краі кілішка, інтэлігентны госць спалохана працягнуў руку, дэманструючы, што ён не п’е, але гаспадар з такой суворасцю глянуў на інтэлігента, што той сумеўся і вінавата ўздыхнуў.

— Такой цёмнай бабы, як мая жонка, няма ва ўсім Азярышчанскім раёне, — пажартаваў дзядзька Трахім, падымаючы чарку.

Кульнуўшы па першай, дружна захрумсцелі маласольнымі гуркамі.

— І ўсё ж дарма Шушку скінулі… Тут я Пазьняка не разумею, — няўцямна, з набітым ротам, прагугніў дзядзька Трахім, і цяпер ужо інтэлігенту выпала іранічна пасміхнуцца.

— Згодніцтва Станіслава Станіслававіча мяжуе з цынізмам, — мовіў госць, а Макар, хапануўшы ротам гарачую бульбіну, яшчэ больш няўцямна, чым дзядзька, прамармытаў:
— Вось за гэта і вып'ем!

Да Гатаўскага возера, як існі нацянькі, не болей за тры кіламетры. Але лезці па кустах не з рукі, таму пайшлі бальшаком, у спадзеўцы падсесці на спадарожную машыну.
Хаця і выпілі, можна сказаць, па кроплі, на траіх адну пляшку, ды швагру і гэтага хапіла. Яго матляла ў бакі, акуляры два разы падалі з носа, і небарака штоpазу лавіў іх няўклюднымі рукамі.
«Рупіцца Кебіча скідаць, а сам ад чаркі валіцца», — падумаў Макар, пачухаўшы вудзільнам за левым вухам. І яшчэ падумаў, што дарма не выцягнуў гэтага ёлупня на белы свет раней — гадоў дзесяць таму, а падумаўшы так, прыспешыў хаду.

Дзесяць гадоў таму, гэткім жа спякотным днём, да іх на будоўлю прыехала чорная «Волга». Начальства і раней завітвала на аб'ект. Будавалі новую школу, і паўшчуваць будаўнікоў прыязджалі не толькі раённыя, але і абласныя «бугры». Але гэтым разам, зірнуўшы з акна трэцяга паверха на чорную, падобную да вялізнага жука, «Волгу», Макар міжволі сцяўся, і ў галаве ягонай мільганула панічная думка: «Па мяне!»
Прадчуванне не падманула. Брыгадзір цесляроў Толік Манькін — колішні аднакласнік, які надоечы кінуў жонку і вярнуўся на радзіму, — гукнуў ягонае імя, і Макар пацёгся на нягнуткіх нагах долу, ліхаманкава згадваючы, колькі машын з рошчынай і цэглай не даехалі апошнім часам да будоўлі.
Каля бетонамяшалкі яго пераняў камсамольскага выгляду фацэт у шэрым гарнітуры. Фацэт прыязна ўсміхнуўся, паціснуў руку, прапанаваў зайсці ў бытоўку.
— Хачу, Макар Іванавіч, задаць вам пару пытанняў, — ласкава праспяваў «камсамолец», і ў Макара Іванавіча зазвінела ўвушшу.
Роспыты і сапраўды былі нядоўгімі. Фацэт запытаўся, ці часта ён сустракаецца са шваграм, ці даваў яму швагер

якую-небудзь шкодную літаратуру і ці прапаноўваў з’ездзіць у Зэльву, да нейкай паэткі, прозвішча якой Макар недачуўся. Збіваючыся на кожным слове, ён паведаміў, што са шваграм не сустракаецца, шкоднай, ды і ўсялякай іншай літаратуры не чытае, а ў Зэльву ездзіў, але не да паэткі, а на лесазавод па дошкі.

Фацэт слухаў Макара з ленай усмешкай на вуснах і нават пазяхнуў у жменю. Урэшце дастаў з «дыпламата» асадку з паперай і ўсё так жа лісліва праспяваў:

— Выкладзіце на паперы ўсё, што казаў швагер пра савецкую ўладу і нацыянальную палітыку.

Заняты сваімі думкамі, Макар і не заўважыў, як адарваўся ад напарніка. Швагрусь адстаў метраў на дваццаць і да таго ачмурэў ад спёкі, што нічога не бачыў перад сабою. Падышоўшы, ён баднуў Макара лбом, і акуляры ціха чвякнулі ў пясок.

«Калі ўжо?» — запыталіся асавелыя швагравы вочы, і ўраз праяснелі, бо ў зрэнках мільганула залацістая палоска вады.

— Я зараз, — буркнуў Макар, скочыў праз прыдарожную канаву і пабег да закінутай адрыны, у якой дзядзька Трахім хаваў вёслы.

Возера плёскалася каля ног, адбіваючы распаленае неба, і ад таго здавалася такім жа гарачым і бяздонным. Яны выпхнулі лодку ў ваду, Макар налёг грудзінаю на карму, пачаў заграбаць кавалкам падабранай на беразе фанерыны — вёслы ў адрыне так і не знайшліся. Зрэшты, надта заграбаць не выпадала: лодка прашамацела па густой асацэ, абмінула зарасці ўрэчніку, і Макар апусціў за борт «катвігу» — прывязаны да вяроўчыны камень.

Паветра дрыжэла ад сквару, і пад галовамі вудалёў плыла, пераліваючыся на сонцы, даўжэзная павуцінка. Павуцінка зачапілася за вудзільна, паплыла далей і неўзабаве легла на ваду, сабраўшы вакол сябе цікаўных вадамерак. Вось туды, у цэнтр пазначанага павуцінкай паўкола, і ціўкнуў швагравы плавок. Хвіліну плавок павольна і разважліва круціўся ў розныя бакі, потым тузануўся і знік у гуллівай вадзе. Швагер,

відаць, дагэтуль ніколі не вудзіў, бо замест таго, каб спакойна падсекчы, ускочыў на ногі, тузануў вудзільна і пры гэтым траха не перакуліў лодку.

— Ціха ты, йоп… — Макар ушчаперыўся пальцамі ў барты, і трапяткая платвіца, што матлялася на лёсцы, пляснула яму па вуху.

Швагер не даваў рады схапіць рыбку, а калі, нарэшце, схапіў, дык не наважыўся зняць з кручка. Платвіца глыбока заглынула чарвяка, і Макар, нядоўга думаючы, выдзер кручок з рыбінай зяпкі, пхнуў плотку ў поліэтыленавую торбу. Пры гэтым заўважыў як балесна скрывіўся шваграў твар.

— Што, рыбку шкада? — хмыкнуў Макар, а абцёршы вільготныя далоні, запытаў: — Ты ў піўнушку хоць раз заходзіў?

— Пры чым тут піўнушка? — азваўся швагер.

— Ну як жа… Збіраецеся рэвалюцыю рабіць, а самі ў піўной не былі, не ведаеце — чым народ дыхае.

Швагер плюнуў на чарвяка, уздыхнуў, нічога не адказаўшы.

— Пазаўчора Пазьняк па целеку выступаў. Маці слухала-слухала, дый кажа: «Абы-што чалавек кажа».

Швагрусь і гэтым разам змаўчаў, але маўчанне яму цяжка давалася. Плех ягоны хваравіта пачырванеў, канец вуды дробна задрыжэў, а разам з вудай задрыжэў на вадзе і плавок.

«Псіх натуральны», — бязгучна прашаптаў Макар. Плавок, які дагэтуль скакаў па вадзе, рынуў на дно, пакінуўшы па сабе вялікую бурбалку.

— Цягні! — гракнуў Макар, швагер тузануў вудзільна, паваліўся на дно лодкі, і перад носам Макаравым праляцеў ды пляснуўся ў ваду ладны падлешчык.

— Фу ты, йо… Цягнуць трэба, а не тузаць, — Макар са стогнам перавёў дых, а паглядзеўшы на швагра, безнадзейна махнуў рукой: бедачына стаяў на кукішках, утрапёна пазіраючы ў ваду.

— Думаеш цяпер рукамі злавіць?

— Акуляры зваліліся, — пачуў Макар і ўпершыню пашкадаваў, што выправіўся на гэту чортаву рыбалку.

Дастаць акуляры з азёрнага дна было не так і проста. Калі Макар змераў глыбіню, дык вудзільна панурылася па самы вяршок.

«Не дастану, дык хоць скупануся», — падумалася Макару, калі ён сцягнуў штаны і сігануў у празрыстае аж да прадоння Гатаўскае возера.

Выпусціўшы з грудзей паветра, ён схапіўся за сцябліну і адзінае, што паспеў угледзець, гэта кансервавую бляшанку, якая жоўтай плямай калыхнулася на дне.

— Глыбока, бляха… — задыхана вымавіў Макар, ухапіўшыся за край лодкі.

Пару хвілін аддзімаўся, сплёўваў твань, потым нырцануў, адштурхнуўся нагамі ад лодкі. На гэты раз ён нічога не ўбачыў, а ўсплываючы, грукнуўся цемем аб днішча. Удар атрымаўся такім хвацкім, што Макар, магчыма, ізноў пайшоў бы на дно, калі б перапужаны напарнік не схапіў яго за чупрыну.

Набіўшы гузак на цемені, доўга ляжаў у лодцы, падсунуўшы пад галаву кашулю, і насуплена пазіраў то на высокае неба, то на прагнутую, пачырванелую ад загару шваграву спіну. Лавіць рыбу прапала ахвота, дый напарнік без акуляраў нічога не бачыў. Знікла ахвота і пацвельваць з гэтага ёлупня. Таму Макар і ляжаў нерухома, маракуючы, што на наступным тыдні зноў давядзецца ехаць на пільню і што заўтра трэба будзе паглядзець валёнкі, якія прывёз прапар, выбраць меншыя і зрабіць маці апоркі. Неўпрыкмет навалілася дрымота. Макар пазяхнуў, накрыў твар кашуляй, збіраючыся задрамаць, ды тут левае вуха казытнула напятае ракатанне. Ракатаў «беларус» — ехаў ад бальшака да возера, прычым напрасткі, кустамі, бо чутна было, як трашчаў сушняк. Макар ссунуў з вачэй кашулю, зірнуў на бераг.

Трактар вырваўся з кустоў, пад’ехаў да вады, і з кабінкі вылезлі спачатку дзядзькаў сусед Лёшка Мандрык, а затым браты Бадуновы — Юрка ды Пецька. Дрымота зляцела з павекаў. Макар стаў ва ўвесь рост, засвістаў у чатыры пальцы, і хлопцы на беразе, прыклаўшы да броваў далоні, засвісталі ў адказ. У наступнае імгненне Макар схапіў фанерыну і стаў

імпэтна заграбаць, забыўшыся на «катвігу», якая не давала лодцы зварухнуцца з месца.

— Стая-аць! — галёкнуў Лёшка Мандрык, калі лодка шарханула дном аб прыбярэжны пясок. Лёха два разы цягнуў лямку на аршанскай зоне і пры сустрэчы заўсёды выдаваў альбо гэтае слова, альбо яшчэ больш кароткае: «Сюд-да-а!»

Прыязджаючы ў Бычкі, Макар часцяком спансіраваў мясцовых хлопцаў, таму тыя і ўзрадаваліся, убачыўшы спонсара, і не паспеў той выйсці з лодкі, як яны рынулі ў ваду і з вясёлымі мацюкамі ўсцягнулі пласкадонку на бераг.

Пад'ехалі бычкоўцы не з пустымі рукамі. Малодшы з братоў, трыццацігадовы Юрка, залез у кабіну, перадаў брату шэсць «фугасаў», а потым, папоркаўшыся ў «бардачку», шпурнуў у возера, каб спаласнуць, бляшаную конаўку.

Убіўшыся ў цянёк, Лёха Мандрык адкаркаваў сцізорыкам «фугасіну», скоса глянуў на інтэлігента, і Макар, перахапіўшы позірк, патлумачыў:

— Тамарчын муж. У газеце працуе.

Лёха напоўніў конаўку, перадаў Тамарчынаму мужу, але той захінуў твар далонямі.

— Пакрыўдзіць хочаш? — вусцішна прасіпеў Мандрык, і гарадскі госць, млявай рукой узяўшы пасудзіну, стаў глытаць трунак, дробна стукаючы па конаўцы зубамі.

Віно, украінскае «Яблучне», пілі паволі, са штохвілінным прыпальваннем цыгарэт і з гэткім жа штохвілінным ляпаннем па карках. Тут, у цяньку, лютавала камарэча. Кожнага разу, глынуўшы «чарвіўкі», Лёха пачынаў апавядаць пра калгаснага старшыню, ды, ляпнуўшы па карку, збіваўся на іншыя тэмы. І вось, выліўшы ў конаўку рэшты віна з апошняй пляшкі, Лёха абвясціў, што заўтра ж спаліць катэдж, які старшыня пабудаваў на ўскраіне Азярышча, і, працягнуўшы конаўку гарадскому госцю, наставіў на таго ашклянела-патрабавальныя вочы. За ўсю бяседу Тамарчын муж не прамовіў ні слова, але цяпер, адчуўшы, што трэба нешта сказаць, з насцярогай узяў конаўку, ікнуў, праліўшы трунак, і асавела прастагнаў:

— Цудоўныя хлопцы!

Уліўшы ў глотку рэшткі пітва, інтэлігент квола пасміхнуўся, кульнуўся на траву і ледзь чутна паўтарыў:

— Цудоўныя!

Дахаты ехалі на рамонтнай лятучцы, соўгаючы азадкамі па жалезнай скрыні, у якой увесь час штосьці бразгала. Галава швагрова матлялася, што ў хворага гусака. На адным з паваротаў швагер з'ехаў са скрыні, стукнуўся скронню аб бляшаную буду, таму Макар абдымаў сваяка за шыю, і калі той з'язджаў убок, мацніў абдоймы і, па прыкладу Лёхі Мандрыка, гукаў:

— Сядзе-эць!

І чым ямчэй абдымаў Макар сваяка, тым большай павагай да яго прасякаўся.

— Ну скажы, на што ты паклаў сваё жыццё? — выгукнуў Макар на чарговым павароце, і сваяк, бліснуўшы бельмамі вачэй, здушана вякнуў і выбухнуў ванітамі.

Макар скрывіўся, падхапіў з-пад ног рыззё, каб выцерці падлогу, і чарговая порцыя ванітаў агіднай цеплынёй кранулася шыі. Хвіліну Макар стаяў вокраччу, утаймоўваючы балесныя спазмы, і, тузануўшыся ўсім целам, паставіў між ног пакарабачанае вядро, якое матлялася ад сценкі да сценкі.

Ён выйшаў з сястрынага пад'езда тым часам, калі на небасхіле запальваліся самыя дробныя зоркі, і адразу ж пайшоў да воданапорнай калонкі. Сцягнуўшы праз галаў кашулю, падставіў спіну пад бойкі струмень і гракнуў, ды так гучна, што на другім канцы Азярышча абудзіліся сабакі. Сабакі забрахалі ў Зарэччы, потым недзе ля аўтастанцыі, нарэшце нейкі сонны цюцька запознена гыркнуў за плотам «Сельгастэхнікі».

— Я табе гыркну, — жартам прамовіў Макар і, выціраючы кашуляй расчырванелы твар, падзівіўся таму, як хутка насунулася ноч.

*1994*

# ДЗЕД І ЎНУК

Янка Дудок, шасцідзесяцігадовы дзіцячы пісьменнік, сядзеў на канапе і неадрыўна глядзеў на кніжную паліцу. А калі казаць больш дакладна — на невялічкі, у палец даўжынёй, шыхт напісаных ім кніг. Кнігі стаялі на самым прыметным месцы, паміж зборам твораў Дастаеўскага і чатырохтомнікам Біянкі, і на тле брудна-зялёных тамоў лагодзілі вока сваімі рознакаляровымі карэньчыкамі. Пісьменнік, аднак, глядзеў на тыя карэньчыкі з пакутай і нават з прыкрасцю.

Без малога трыццаць гадоў урабляў Янка Дудок айчынную літаратурную ніву. Быў час, калі ягонае прозвішча — у справаздачным пераліку —- згадвалі старшыні пісьменніцкага звязу, калі творчасць ягоную аналізавалі прафесійныя крытыкі, а дырэктаркі дзіцячых бібліятэк пісалі яму ад імя юных чытачоў лісты падзякі за тую асалоду, якую зазналі, чытаючы напісаную ім кніжку, а ў апошніх радках выказвалі спадзяванне, што пісьменнік яшчэ парадуе аматараў роднага слова новымі таленавітымі творамі. «Ды хопіць ужо вам, далібог», — з робленым дакорам і з ноткамі шчасця ў голасе прамаўляў Янка Дудок, прабягаючы вачыма эпістолі. І хаця ў душы адчуваў, што школяры яго наўрад ці чытаюць, аднак атрымліваць такія лісты, хай і напісаныя па абавязку службы, было прыемна. Магчыма, Янка і да гэтай пары ўрабляў бы літаратурную ніву, але тут пачалася славутая Перабудова, а разам з ёю скончылася ўсё тое, што было дарагім пісьменніцкаму сэрцу: і ганарары, і пуцёўкі ў пісьменніцкі дом адпачынку, і калектыўныя п’янкі, якія называліся выязнымі пасяджэннямі Бюро прапаганды мастацкай літаратуры.

Янка Дудок ужо даўно нічога не пісаў, але зрэдзьчасу, прыкладна два разы на год, творцу апаноўваў пісьменніцкі сверб. Сэрца пачынала парывіста біцца, дрогкія рукі шукалі асадку, а ў галаве нараджаліся новыя сюжэты ды мастацкія вобразы. І тады ён сядаў за стол — камп’ютарам карыстацца так і не навучыўся, — колькі часу сядзеў у рашучай паста-

ве, маракуючы, што б такое напісаць, нарэшце, па прыкладу Уладзімера Караткевіча, поўніў наліўную асадку чорным атрамантам і пазначаў старонку крэйдавай паперы сваім імем і прозвішчам. На гэтым творчае натхненне згасала, і творца, скамячыўшы ліста, з цяжкім уздыхам, а бывала і са стогнам, плюхаўся на канапу, уключаў тэлевізар і з гіморай агіды на твары глядзеў перадачу «Клуб рэдактараў» альбо шоу Леаніда Закашанскага.

Акурат гадзіну таму Янку Дудку прынеслі першую пенсію, і, пералічыўшы тры разы запар цупкія, навылёт прапахлыя друкарскай фарбай грошы, дзіцячы пісьменнік фізічна адчуў, як на душу лягла свінцова-шызая хмара. «Ці можна пражыць на такую пенсію?» — прашаптаў новаспечаны пенсіянер, умольна зірнуў на жонку, і тая, нічога не сказаўшы, пайшла на кухню гатаваць абед.

Трэба, аднак, сказаць, што творца да гэтай пары працаваў: вартаваў цэглу ды іншыя матэрыялы на будаўніцтве офіса «Аграпрамбанка». Уладкаваў яго на працу калега — пісьменнік-публіцыст Мадэст Бубовіч. Той ужо пяць гадоў як перакваліфікаваўся з публіцыстаў у вартаўнікі.

І вось, калі Янка Дудок неадрыўна глядзеў на кніжную паліцу, з ім здарыўся чарговы творчы прыпадак. Аднак гэтым разам ён не мармытаў пад нос: «Я ім такога напішу, што ўсім млосна стане», не поўніў асадку чорным атрамантам і нават не сядаў за стол. Пісьменнік узлез на ўслон, адчыніў антрэсоль і стаў выцягваць адтуль тоўстыя, з ладным слоем пылу, тэчкі са сваімі чарнавікамі ды недапісанымі творамі. Антрэсоль месцілася пад самай столлю, і нечакана на галаў творцы пасыпаліся ўсе шэсць тамоў даведніка «Беларускія пісьменнікі». Шматтомны даведнік на верхатуру, употай ад мужа, усперла жонка. Мела такую паганую звычку — выцягваць кніжкі з паліц і распіхваць па цёмных кутах, наракаючы, што ад кніжнага пылу яна нажыла хваробу бронхаў.

Вось і цяпер, прачыніўшы кухонныя дзверы, жонка выдыхнула: «І калі ўжо выкінеш свой хломазд?» — і муж мацюкнуўся ў адказ.

Шосты, самы важкі том, патрапіў дакладна ў цемя і злёгку аглушыў Янку. Ці не таму творчае натхненне адразу ж згасла,

да таго ж тасёмкі пыльнай тэчкі ніяк не развязваліся, і творца ўзяўся развязваць іх шасцю ацалелымі зубамі.

У першай тэчцы месціўся рукапіс аповесці пра піянера-героя. Некалькі старонак — там якраз апавядалася, як піянер-герой шпурляў у гітлераўцаў гранату, — былі перакрэслены сінім андрэеўскім крыжам. Прычым сям-там на перакрыжаванні аловак прадзёр паперу.

…Аповесць пра піянера-героя была свой час напісаная і аднесеная ў рэдакцыю, але тут, як на грэх, з творчай камандзіроўкі вярнуўся Мадэст Бубовіч. Калега наведаў дакладна тыя мясціны, дзе піянер падарваў апошняй гранатай сябе і зграю гітлераўцаў. Ну і пачуў ад мясцовых, што хлопец той ніякіх немцаў не ўзрываў. Папросту нёс у атрад, на пару з дзедам, каністру самагонкі, стаў, падпіты, выцягваць з кішэні гранату і выпадкова тузануў за чаку. А тут якраз на У-2 маскоўскі журналіст прыляцеў. Ён і прыдумаў гісторыю з апошняй гранатай. У Бубовіча язык без клею меле: адразу ж распавёў пра тое ў рэдакцыі. У выніку замоўленую і начыста перадрукаваную аповесць рашуча перакрэслілі. Яны з Бубовічам потым, у фае Дома літаратараў, горача пагаманілі. Ледзь не пабіліся. У выніку Мадэст, у якасці кампенсацыі, уладкаваў яго ў Бюро прапаганды мастацкай літаратуры. Балазе тады месца вызвалілася: аднаго з чальцоў белая гарачка скруціла.

…Пісьменнік чхнуў і павалі, з суворым выглядам, падзёр на шматкі апошнюю старонку аповесці, а астатнія з ціхім шолахам зляцелі на падлогу. Пальцы падхапілі яшчэ адну, куды больш тоўстую і пыльную тэчку, пазначаную размашыстым надпісам «Вартавыя граніцы». Гэта была яшчэ адна аповесць — пра тое, як піянеры лавілі іншаземных шпігуноў, — і ў гэты момант у кватэру пазванілі.

— Ваня прыйшоў! — крыкнуў пісьменнік.

Гэткім часам да іх заходзіў трынаццацігадовы ўнук, які жыў з бацькамі на суседняй вуліцы і пасля школы завітваў на абед.

— Якраз крупнік паспеў, — прамовіла ад парога жонка, адчыняючы дзверы.

Унук, не распранаючыся, з насунутым на лабешнік капюшонам курткі, стаў пасярод калідора. У руцэ Ваня трымаў

нейкую пляскатую штуковіну, а твар быў асветлены злавесным сінім святлом.

— Чаму не здароўкаешся? — спытаў дзед, і ўнук, не адрываючы вачэй ад штуковіны, няўважна кіўнуў.

— Што там у цябе? — пісьменнік з краканнем злез з услона.

— Ты што, дзед, не бачыш? Айфон!

— Бачу, што айфон, — буркнуў дзед, хаця і не надта ўяўляў, чым той айфон розніцца ад мабільніка. — Бацька, відаць, прывёз? — Зяць ужо другі год працаваў будаўніком у Маскве і надоечы прыехаў на пабыўку.

— Давай, дзетухна, распранайся. Ды есці ідзі, — падала голас бабуля, і ўнук, перахапіўшы айфон з рукі на руку, з неахвотаю скінуў куртку.

— І што ты там усё пальцам тыцкаеш? — у голасе дзедавым з'явіліся ноткі незадаволення.

— «Змаганне з цмокамі — 2», — паведаміў унук, і твар ягоны пазначыла злавесная чырвань. Цмок, відаць, дыхнуў агнём з усіх трох пашчаў.

— І доўга будзеш змагацца з тымі цмокамі?

— На трэці ўзровень перайшоў.

Дзед дакорліва паківаў галавой.

— А колькі ўсяго ўзроўняў?

Унук адказаў не адразу. Хвіліну засяроджана вадзіў пальцам па айфоне — відаць, узніклі цяжкасці ў змаганні з пачварамі, — нарэшце гучна выпаліў:

— Дванаццаць!

— Так цэлы дзень і будзеш пальцам тыцкаць? Ты хаця б кніжку якую прачытаў, — ужо з абурэннем прамовіў дзед.

— Што ты прычапіўся да ўнука? Сам чытай свае кніжкі. Усё жыццё мне імі атруціў, — з нервовай дрыготкай у голасе прамовіла жонка і ўжо лагодным тонам дадала: — Пайшлі, унучак, абедаць. Астыла ўсё.

На кухні мерна бразгала лыжка аб талерку, чулася нетаропкая гамонка.

— Колькі ж каштуе гэтая твая цацка? — пыталася бабуля.

Унук не адказаў.

— А для чаго яна наогул патрэбная? У гулі гуляць?

— Бабуля! — унук вытрымаў дакорлівую паўзу. — Тут процьма розных функцый. Ну напрыклад… — унук замоўк і ў тую ж хвіліну ў пакоі заспяваў мабільны тэлефон.

Дудку даўно ніхто не званіў, таму ён імпэтна падхапіўся з фатэля, пабег, ляпаючы заднікамі пантофляў, да тэлефона і, керхануўшы, пастаўленым голасам выдыхнуў: — Алё-о!

— Дзядуля, гэта я, Ваня! — пачуўся адначас з кухні і з мабільніка вясёлы ўнукаў голас.

Дзядуля ціха вылаяўся, плюхнуўся ў крэсла і зноў утаропіўся ў шыхт рознакаляровых карэньчыкаў. Ягоны калега, Мадэст Бубовіч, яшчэ летась вынес з хаты сваю бібліятэку. Казаў, адразу дыхаць лягчэй стала. Ды і не ён адзін вынес. Ідучы па двары каля смеццевых кантэйнераў, Янка Дудок часцяком бачыў звязаныя аборкай стосы кніг. Аднойчы нават пацікавіўся — якую літаратуру людзі выносяць з хат. Першай кнігай метровай даўжыні стоса быў раман «Майстар і Маргарыта». «Вось табе і маеш», — з уздыхам падумаў тады дзіцячы пісьменнік, згадаўшы, як у сярэдзіне сямідзясятых атрымаў на ноч той раман. Нават не кніжку, а размытыя, перазнятыя на капіравальнай машыне «Эра» лісткі.

— Давай, бабуля, я цябе сфатаграфую, — выгукнуў, сёрбаючы крупнік, унук.

— Я, Ваня, не прыбраная. Ты лепш, — голас жончын пракудліва пацішэў, — дзеда здымі… на чарговы зборнік.

Пісьменнік аддзьмухнуўся, хацеў быў размяць астэахандрозную спіну, ды тут жа знерухомеў ад зыркай успышкі. Унук сфатаграфаваў яго на айфон.

— Зірні, дзед, на сябе!

Дзед глянуў на экран і сам сябе не пазнаў. На яго глядзеў стары корч з шызым носам, заплюшчанымі вачыма і пляшывай галавой, на якой кусціліся сівыя валасы.

— Ты, Ваня… гэта… выдалі здымак. Тут я не вельмі ўдала атрымаўся, — прамармытаў дзед, прылашчваючы рэшткі валасоў на галаве і разглядаючы з усіх бакоў унукаў айфон.

Штуковіна была прыемнай навобмацак і, як ні дзіўна, даволі лёгкай.

— Ну а ёсць тут… — пісьменнік прымружыў вочы, маракуючы, чым бы азадачыць штуковіну, — …ёсць тут радыё?

— Вядома, ёсць. Навушнікі падключаеш ды слухаеш. Я, праўда, не ведаю, як яго ўключаць.

Унук падхапіў айфон, пачаў гнаць пальцам малюнкі на экране.

— А ў цябе, дзед, у дзяцінстве было радыё?

Пісьменнік, пачуўшы такое, напачатку спахмурнеў, але нечакана ў вачах бліснулі гарэзлівыя яскі.

— Было! Зараз яго пакажу!

Дудок з дзіўным для яго імпэтам кінуўся ў спальню.

— Слухай, у нас не захавалася драўляная шпуля ад ніток? — запытаўся ў жонкі, якая якраз сядала да швейнай машынкі.

— Іх ужо даўно не выпускаюць. Але адна, здаецца, захавалася, — паведаміла жонка, поркаючыся ў швейным бардачку.

Схапіўшы шпулю і даўгую нітку, пісьменнік пабег на кухню, знайшоў пустую пушку запалак, прабіў у ёй відэльцам дзірку. Пусціўшы канец ніткі ў дзірку, ён прывязаў з адваротнага боку абломак запалкі, а другім канцом ніткі перахапіў шпулю няшчыльнай пятлёй.

— Усё, Ваня, гатова. Мы гэтую штуку «радзівам» называлі. Прыцісні пушку да вуха і слухай.

Дзед нацягнуў нітку, стаў круціць пальцамі шпулю.

— Ну, чутна што?

Унук закапыліў вусну.

— Ану, дай я паслухаю, а ты шпулю крутні.

У дзяцінстве пустая пушка азывалася гучным трэскам, а тут толькі ціха шамацела.

— Зразумела, — прамармытаў пісьменнік, не адрываючы «радзіва» ад вуха. — Раней пушкі са шпону рабілі, таму і добры быў рэзананс. А цяпер з кардону робяць. Таму нічога і не чуваць, — дзед з пакутаю перавёў дых. — І этыкеткі былі прыгожыя. Я іх, дарэчы, збіраў. І дагэтуль памятаю запалкавыя фабрыкі, — дзедаў голас прыкметна пажвавеў: — «Пралетарскі Сцяг», горад Чудава, «Гігант», горад Калуга, «Перамога», горад Ніжні Ломаў, Балабанаўская эксперыментальная запалкавая фабрыка…

Пералік спыніла жонка. Убачыўшы, што муж прыціскае да вуха пушку запалак, спрабуючы там нешта пачуць, яна з інтанацыяй панікі прамовіла:

— Зусім стары здзяцінеў.

— А ў цябе, бабуля, было радыё? — запытаўся ўнук.

— Якое там радыё… у нас электрычнасць з'явілася, калі я ў трэці клас пайшла.

— А ў вас што, і інтэрнэту не было? — цяпер ужо з інтанацыяй панікі выгукнуў унук.

Дзед з бабай пераглянуліся.

— Хрушчоў у пушку ад запалак напхаем і слухаем, як яны шкрабаюць. Вось гэта мы «радзівам» і называлі. Маці, памятаю, пaглядзіць і жартам пытаецца: «Ну, што там кажуць? Новага касманаўта не запусцілі?»

Журлівая ўсмешка збегла з бабіных вуснаў.

— А чаго ты тут папер накідаў? Ці не збіраешся свой хломазд выносіць?

Янка Дудок адчуў раптам лёгкую млосць, і ў яго задрыжэлі рукі. Ён паглядзеў на перакрыжаваную сінім алоўкам старонку, і ў яго ўзнікла палкае жаданне перакрэсліць — вось так, тлустым крыжам, — усё сваё мінулае жыццё. Пісьменнік падняўся, адсунуў убок жонку, якая стаяла ў пройме дзвярэй, і палез у кладоўку. Доўга там поркаўся, нарэшце выцягнуў вялізны поліэтыленавы мех і рушыў да кніжных паліц.

Першымі ў мех паляцелі дзіцячыя кніжкі, якія калісьці напісаў.

— Божухна, нарэшце! — са стогнам прамовіла жонка. — Колькі ж можна дыхаць гэтым пылам?

— Ды памаўчы ты… — не павярнуўшы галавы, азваўся пісьменнік.

Тым часам унук усяго гэтага не чуў і не бачыў. Разявіўшы рот, ён ціснуў пальцам на айфон, спрабуючы знішчыць трохгаловага базылішка, які ляцеў над зямлёй і пякельным агнём пляжыў наваколле.

# ПАТРЫЦЫЙ

Сумным восеньскім днём празаік Аскольд Марцэвіч сядзеў за камп'ютарам і пісаў чарговы аповед. Сівенькае, алавянай водцені паўсвятло цадзілася ў вокны, наганяла дрымоту, крывіла абамлелым позехам пісьменніцкі рот, і Аскольд, штохвілі зяхаючы, керхаў ды паціраў задумліва-маршчыністы лабешнік. І пасля кожнага такога позеху кот Патрыцый, які спаў спаў на другім баку манітора, варушыў вухам і ціхенька вякаў.

Аскольду не пісалася. Захрас на самым адказным эпізодзе, і ўваччу ўжо другі дзень запар брыніў напісаны заўчарашнім вечарам дыялог.

*— Ты мяне гоніш? — Андрэй споўз з канапы, укленчыў перад Наташай, крануўся вуснамі дзявочага калена.*

*— Не, толькі не гэта! — Наташа прыхапілася, абцягнула спадніцу.*

*— Наташа, я магу развітацца з жыццём, але не з надзеяй — надзеяй бачыць цябе побач...*

*— Андрэй, не трэба... — дзяўчына ўспыхнула, мелькам зірнула на гадзіннік.*

*— Ты кагосьці чакаеш? — Андрэй цяжка, як прыціснуты цяжарам Атлант, падняўся на ногі. Ты чакаеш Аблонскага?*

Далей пісаніна не ішла. Герой аповесці развітваўся са сваёй каханай, мусіў сказаць нейкія шчымлівыя словы, але словы тыя не нараджаліся. Паволі санлівасць збегла з вачэй і пісьменнік усё з большым раздражненнем і злосцю глядзеў на манітор. І вось, нарэшце, чхнуўшы, Аскольд прасвятлеў тварам, пальцы заляпалі па клавіятуры, і на экране з'явіліся наступныя радкі:

*— Наташа, з Аблонскім ты загінеш, а разам з табою загіну і я! Мне не пеpажыць... чуеш? не пеpажыць нашага расстання...*

Хвіліну пісьменнік мыліў вуснамі, вывучаў напісанае, потым мацюкнуўся, рашуча сцёр — і гэтыя радкі, і палову

раней напісанага дыялогу, — і з інтанацыяй лёгкай істэрыкі прашаптаў:

— Патрэбныя нестандартныя хады.

Пад бокам, блытаючы думкі, зазваніў тэлефон.

Аскольд чакаў званка з Саюза пісьменнікаў, там абяцалі творчую камандзіроўку ў Кіргізію, таму, падхапіўшы слухаўку, ён гукнуў імя эспэшнай начальніцы, ды слухаўка азвалася голасам хаця і жаночым, але сіплаватым і незнаёмым.

— А куды я патрапіла?

— А куды вы цэліліся? — Аскольд тузануў валасы на грудзіне.

— У васямнаццатую кватэру…

— Ну…

— У вас, я чула, кот жыве… Якой ён пароды? Блакітная шыншыла?

— Ну, — другі разам гукнуў Аскольд, губляючы цярпенне.

Слухаўка злёгку загула, наспела працяглая паўза, і жанчына на другім канцы дроту гулліва пралепятала:

— А ці не пазнаёміць нам нашых кісуняў?

Не цямячы, пра што гаворка, Аскольд перакрывіўся, загаварыў рашуча і непрыязна.

— Я ўвогуле працую, у часе абмежаваны, так што… калі ласка… без эківокаў.

— Ну што тут незразумелага. Я шукаю жаніха для сваёй дзяўчынкі…

— Якой дзяўчынкі? — насцярожліва перапытаў Аскольд.

— Мальвіны… кошкі маёй. Яны ж з вашым катом адной пароды…

— О-о-о! — вырвалася, нарэшце, з Аскольдавай грудзіны, — вам страшэнна пашанцавала! Патрыцый, як увойдзе ў смак, можа задаволіць не толькі Мальвіну, але і яе гаспадыню! — на другім канцы дроту абурана хмыкнулі, памаўчалі дзеля прыліку і занадта сур'ёзным голасам паведамілі:

— Мы на пятым паверсе жывём, у трыццатай кватэры.

Званок прагучаў як ніколі дарэчы. Два тыдні таму Аскольдава жонка паехала па пуцёўцы ў Трускавец; грошы, якія пакінула, былі ў першы ж дзень прапітыя, і цяпер галод-

ны кот не даваў спакою — блукаў па кватэры і здушана вякаў. У лядоўні, праўда, ляжала пакарабачаная путасіна, але ж яе трэба было расцягнуць на тры дні і, паводле графіка, рыбінага хваста кот мусіў атрымаць толькі адвячоркам.

Адчыніла яму бялявая саракоўка з вялікімі грудзямі і даволі зграбнай паставай.

— Вось вам, шаноўная… кавалер, — Аскольд выпусціў ката, і той адразу ж сігануў у кухню. — Вы яму што-небудзь дайце, а то я кагадзе з камандзіроўкі, не паспеў накарміць, — мовіў госць і тут жа пачуў прагнае храбусценне.

— За гэта не хвалюйцеся, я яму поўны сподак «кіцікету» насыпала. Вы, дарэчы, што даяце — сухі корм ці кансервы?

— Патрыцый аддае перавагу рыбным кансервам, — з годнасцю адказаў Аскольд і, падвысіўшы голас, крыкнуў свайму гадунцу: — Глядзі там, працуй з поўнай аддачай, як запавядаў вялікі Ленін!

— Дзіўнае імя, — выдыхнула гаспадыня, лёгкай усмешкай ацаніўшы Аскольдаў жарцік, — упершыню такое чую.

— Мужчыны на Беларусі ўсе скрозь плебеі, няхай хоць кот будзе патрыцыем.

Саракоўка глянула на госця з вясёлым захапленнем, чакала, відаць, кампліменту на свой адрас, але Аскольд рашуча павярнуўся і выбег з кватэры.

Сеўшы пры камп'ютары, празаік цэлую гадзіну глядзеў на манітор, тузаў валасы — і не толькі на грудзіне, — нарэшце сабраўся з думкамі і кранууўся клавішаў.

— *Наташа, гэта жорстка! Тым часам, калі мяне змагла хвароба кахання, калі я не валодаю сабой і шукаю смерці, ты кажаш мне пра Аблонскага.*

Аскольд прачытаў напісанае, здушана выдыхнуў: «Ой, бля…» — і сціснуў скроні. Творчыя пакуты дарэшты выматалі душу. Глыбокім пісьменніцкім нутром ён адчуваў: патрэбныя новыя сюжэтныя хады, нечаканыя павароты. Замест усяго гэтага ў свядомасці гучала мілоснае бляянне, на экран лезлі дакучлівыя дыялогі, і калі б раптам у пакоі з'явіўся той самы Андрэй, герой аповеду, ён бы яго, не міргнуўшы вокам,

пазбавіў жыцця. І акурат у той міг, калі творца згадаў пра капусны сякач, які вісеў на кухні і якім было зручна цюкнуць героя, пакой напоўніўся нецярплівым тэлефонным зумканнем.

— Паслухайце, гэта нейкі жах! Ён мне на ложак нацаў… — у слухаўцы ўсхліпнулі, і Аскольд, зразумеўшы, хто тэлефануе, знервавана заўважыў:

— Пазначае тэрыторыю.

— Ён жа нічога не можа… імпатэнт… адно падзёр Мальвіначцы вуха… — на другім баку дроту замітусіліся, крыкнулі: — Злезь з цюлю! — і Аскольд кінуў слухаўку.

Дзверы трыццатай кватэры былі прачыненыя. Празаік пераступіў парог і ўбачыў жаночы азадак: гаспадыня кватэры стаяла вокрач і, ціснучы вуха да падлогі, шоргала пад канапай насадкай пыласмока. Празаік таксама плюхнуўся на калені, а ягоны гадунец тым часам, шкрабануўшы кіпцюрамі па дыване, узбіўся на шафу.

— І навошта мне быў гэты кот?! Усю кватэру спаскудзіў, а чаго трэба не зрабіў, — жаночы голас дрыжэў і зрываўся.

— Парода такая. Ён блакітны, яна блакітная… — пажартаваў Аскольд і, угледзеўшы ката, пагрозліва крыкнуў: — Злазь долу!

Гаспадыня такога жарту як і не чула:

— І што за кацера такая? Кошку задаволіць — і то не можа, — жанчына ўзлезла на канапу, хацела схапіць ката за каршэнь, але той махнуў лапай — і на шляхетным жаночым носе стаў набіраць чырвані кручкаваты пісяг.

— Паця, цябе што, вучыць трэба? — душа пісьменніцкая аж па край напоўнілася безразважнай весялосцю. — Глядзі і вучыся! — Аскольд абхапіў гаспадыню за шырокія клубы, апусціў на падлогу.

Гаспадыня адхінулася, уперлася локцем у ягоную грудзіну:

— Вы што, ашалелі?! Я зараз паклічу суседку!

— Вы аматарка групавухі? — зноўку пажартаваў Аскольд і прагнай пяцярнёй слізгануў па дрыготкім, як квашаніна, азадку.

Імгненне гаспадыня яшчэ супраціўлялася, ухілялася ад пацалункаў, а потым змарана апусціла рукі, і яны кулём па-

ляцелі на канапу. Следам за імі на канапу скочыў Патрыцый. Аскольд скінуў яго нецярплівай нагой і, выцягваючы з-пад станіка важкія грудзі, пачуў гарачы шэпт:

— Пойдзем пад душ.

Праз тры гадзіны, з катом пад пахай, празаік пераступіў парог сваёй кватэры і зірнуў у люстра, што вісела ў вітальні. Чырванаватая, пазначаная адбіткамі трох зубоў, пляміна на шыі шчымела і вярэдзіла душу. Жонка магла пацікавіцца, хто яго пакусаў. Аскольд памацаў пляму, рассунуў шырокія плечы і з пачуццём глыбокага задавальнення адрыгнуў украінскім баршчом, якім яго дасхочу накармілі. Нечакана вочы пісьменніцкія пасуравелі, зірнулі ў люстраную далячынь, і Аскольд — сцярожка, на дыбачках, — пайшоў да камп’ютара. Прысеў на край услона, ускудлаціў вільготную чупрыну, з нечуваным дагэтуль натхненнем закалаціў пальцамі па «клаве».

*— Ты папраўдзе чакаеш Аблонскага? Гэтага прышчавага ананіста?*

*Андрэй схапіў Наташу за клубы, кінуў на канапу.*

У гэтым месцы празаік захоплена пацёр далоні.

*— Вы што, звар’яцелі?! — пралепятала дзяўчына, — я зараз паклічу маму!*

*— З мамай я разбяруся пазней, — з гэтымі словамі Андрэй задзёр Наташы спадніцу, ірвануў долу карункавыя майткі, ускінуў на плечы дзявочыя ногі, якія пахлі горнай лавандай...*

Аскольд працаваў як апантаны, да самай ночы, і перапыніўся толькі на хвіліну, калі Патрыцый, з лагодным таркатаннем, пацёрся аб лытку. Іншым разам ён бы адкінуў ката, каб не замінаў творчаму натхненню, але тут рушыў на кухню, выцягнуў з лядоўні пакарабачаную путасіну.

— Еш, заслужыў, — прамовіў пісьменнік і пабег дапісваць аповед.

# ВОСЕНЬ У ВІЛЬНІ

## I

Я прачынаюся ў апраметнай цемры і наструньваю слых. Пад вокнамі, скаланаючы паветра пошчакам конскіх капытоў, едзе брычка, а праз хвіліну па бруку цяжка грукоча хурманка. Неўзабаве хурманка спыняецца і хтосьці сіпата гукае:

— Н-но, кур-рва!

Міма нас каторы дзень запар возяць параненых жаўнераў.

У пакоі холадна. На дыбачках, пацепваючыся ўсім целам, падбягаю да акна, адсоўваю старую коўдру, якую бацька называе мудрагелістым словам «святломаскіроўка».

Знадворку цэдзіцца кволая яснасць і я, пазіраючы на постаць паліцыянта, не магу ўгледзець, хто гэта: сівагаловы Скачыляс ці малады і кірпаносы Тадэк — сын цёткі Юстыны.

У цёплым яшчэ чыгунку тры вараныя «ў мундурах» бульбіны. Абіраю адну, самую буйную, торкаю ў сальніцу, з неахвотаю жую і зноў падаюся да акна.

Па вуліцы паўзе чарговая хурманка з параненымі. У аднаго з жаўнераў спадае долу шапка, і паліцыянт — цяпер бачу, што гэта Скачыляс, — хапае яе і валюхаста бяжыць за калёсамі. Скачыляс гэты прыходзіў за бацькам. Уваліўся ад ранку, мы яшчэ спалі, і загадаў бацьку збірацца. Маці потым у пастарунак хадзіла, пыталася: за што забралі? Сказалі, што часовая мера. Ізаляцыя падрыўных элементаў. І што як скончацца ваенныя дзеянні, бацьку выпусцяць на волю. Але калі яны скончацца?.. Немец, па чутках, ужо атачыў Варшаву.

З апоны шэрых хмар вырываецца самалёт. Цiснуся да шыбы, намагаючыся ўгледзець чырвоныя ды белыя квадраты на крылах. А можа, на крылах чорныя крыжы і на горад паляцяць бомбы? Быў бы бацька, той адразу вызначыў бы, чый гэта лятак. Пачуўшы гуд над галавою, прыстаўляе да броваў далонь, зыркае ўгору і адразу выдае: «Р-11 паляцеў».

Расклейшчык газет, хударлявы дзядзька ў лапсардаку, падышоў да рэкламнай тумбы, мажа яе квачом, лепіць з дапамогай Скачыляса вялізны плакат. Цікава паглядзець, што там намалявана. Спехам даядаю апошнюю бульбіну, апранаюся і выбягаю на вуліцу.

Сырое, працятае бальнічным пахам паветра непрыемна казыча ў носе. Грымотна чхаю, і Скачыляс жартам ківае пальцам. На тумбе, паўзверх «Кур'ера Віленьскага» і «Слова», налеплены каляровы плакат. На ім у поўным бязладдзі грувасцяцца гарматы, танкі ды летакі, а ў правым куце, з тварам у гармонік ад свежага клею, атабарыўся маршалак Рыдз-Сміглы*. «У вы-пад-ку вайны кож-ны мужчы-на, нягледзячы на век, і кож-ная кабе-та стануць жаўнерамі», — па складах чытаю надпіс на плакаце. Жаролы гарматаў і танкаў скіраваныя на аперэтачную спявачку Ніну Кульчыцкую. Спявачка паглядае з афішы на ўсю тую зброю, хаваючы гарэзлівую ўсмешку ў кутках густа нафарбаваных вуснаў.

За спінай нехта тупае. Гэта рудагаловы Юзік па мянушцы Рыдз вылез праз акенца з падвала і шыбуе ў мой бок.

— Бачыш, твой цёзка, — торгаю галавой, паказваючы на Рыдз-Сміглага.

Юзік касавурыцца, — не любіць, калі яго называюць Рыдзам, — глядзіць спадылба на афішу.

— А гэта хто такая?

— Ніна Кульчыцкая, — тлумачу з пагардаю ў голасе, — спявачка з «Лютні», яе ўся Вільня ведае.

Юзік з недаверам мружыцца, і я, памаўчаўшы дзеля прыліку, дадаю:

— Лепшая польская спявачка.

Лепшай спявачкай Кульчыцкую называе мой бацька. Праўда, ён кажа не спявачка, а пяюха. Гэта каб маці слых залагодзіць. Бацька, ведаю дакладна, у тую пяюху таемна закаханы. Нездарма ж просіць маці завітаць у аперэтку. А аднойчы хадзіў слухаць Кульчыцкую на пару з дзядзькам Янкам. Дзядзька Янка, падобна, таксама закаханы ў пяюху, бо часцяком яе згадвае.

* Галоўнакамандуючы польскім войскам у вайне 1939 г.

Рыдз зыркае па баках, а ўгледзеўшы Скачыляса, торгае падбародкам, і мы адыходзім ад тумбы.

— Чаму не ў школе? — пытаецца Юзік. Сам ён у школу не ходзіць і вельмі тым ганарыцца.

— Маці сказала, каб у хаце сядзеў. Баіцца, што немцы пачнуць бомбы кідаць.

— Немцы могуць і на дом шпурнуць, — хмыкае прыяцель і сцішвае голас: — Месца адно ведаю, дзе можна цыгарэтамі разжыцца.

— А ты што, паліш?

— Пры чым тут гэта… На Завальнай цыгарэты на хлеб мяняюць, і на газу, і на дровы, і на соль з запалкамі.

Хвіліну разважаю — ці варта ісці ў тое самае месца, — урэшце ляпаю сябра па спіне.

«Ну і пракуда, — думаю я, паспяваючы за Рыдзам, — двух тыдняў не прайшло, як прыехаў у Вільню, а ўжо з усімі перазнаёміўся, паспеў атрымаць мянушку і ведае, дзе што можна скрасці».

Юзік прыехаў, ратуючыся ад немцаў, з Сувалак. Не адзін, вядома, а з маткай. Зараз жывуць у падвале нашага дома — там раней была шавецкая майстэрня. Шаўцоў пабралі ў войска, а майстэрню зачынілі, павесіўшы замок. Ды пракудзе Рыдзу замкі не перашкода. Разбіў акенца і ўлез у падвал. І матцы дапамог залезці, пагатоў яна ў яго худая, як палка. Ноч пераначавалі, а потым нехта ім замок спілаваў. Разбітае акенца кавалкам фанеры прыкрылі, але Рыдз і дагэтуль праз акенца з майстэрні вылазіць. Да Юзікавай маткі днямі Скачыляс наведваўся. Загадаў вызваліць памяшканне. Ды ўрэшце адчапіўся. Дзіва што. У Вільні поўна ўцекачоў. Людзі жывуць хто дзе. У нашым двары стаіць дрывотня, дык і туды ўбіліся ўцекачы. Аж з самой Познані прыехалі.

— Як там Скачыляс? Не высяляе? — цікаўлюся, пазіраючы Юзіку ў спіну.

— Адчапіўся.

Рыдзу не пазайздросціш. Спіць на дошках, пад якія цагліны падкладзеныя. Калі гэта ўсё пабачыў ды распавёў маці, тая новым суседзям падушку падаравала і старую коўдру. У падвале ж холадна.

Мы даходзім да рынку, паварочваем на мост праз чыгунку. На мосце стаяць жаўнеры, спраўджваюць у мінакоў дакументы. Нас, аднак, не чапаюць. Чыгуначныя каляіны забітыя цягнікамі. Спыняемся каля парэнчаў, каб з вышыні агледзець наваколле, але адзін з жаўнераў махае нам рукой. Маўляў, праходзьце, не затрымлівайцеся.

Сцярожка, што тыя буслы, чапаем уздоўж высокага плота. Там, за плотам, гудзе паравоз, у неба вырываюцца клубы бялюткай пары і адразу ж знікаюць у паветры. Юзік перабірае пальцамі каструбаватыя дошкі.

— Задужа высокі, не пераскочыш, — кажу я сябру.

— Ніхто пераскокваць і не збіраецца, — адказвае Юзік і ціха шапоча: — Тут.

Рыдз адсоўвае дошку, якая трымаецца на забітым угары цвіку, прасоўвае галаў у адтуліну:

— Нікога няма, — азываецца сябрук з другога боку плота.

— Туды нельга! Вайсковая зона! — шапчу я, ды мушу лезці ў адтуліну.

Ад плота адпаўзаем вокраччу, з перакрыўленымі ад хвалявання тварамі. Да таго ж паравозная дзындра балюча вярэдзіць калені. На першай каляіне стаяць разбітыя вагоны, а непадалёку валяецца абломак дошкі з выбітымі на ёй літарамі PKP*.

— Цягнік разбамбілі, і яго сюды, у тупік загналі, — з гэтымі словамі Юзік нырцуе пад вагон.

З адчуваннем, што зараз вагон скранецца з месца, таксама нырцую ў цёмны прахон, б’юся патыліцай аб нейкую жалязяку і, зачапіўшыся за рэйку, падаю на калені. На другой каляіне гібеюць такія ж патрушчаныя вагоны, і Юзік рашуча выдыхае:

— Гэты…

Вагон, перад якім спыніліся, знізу цалюткі, а вось у сярэдзіне некалькі дошак выламаныя. Рыдз паказвае рукамі, каб я нахіліўся, і ў гэты міг на другім баку каляіны змучана кашляюць. Так і застываю, не выпрастаўшы хрыбецiны. У светлай пройме бачныя вайсковыя боты. Вайсковец спыняецца, прыпальвае цыгарэту, ідзе ўздоўж вагонаў.

---

* Polskie Koleje Państwowe — Польская дзяржаўная чыгунка.

Сябар узбіраецца на спіну, чапляецца рукамі за край дошкі, знікае, мільгануўшы падэшвамі чаравікаў, у цёмным праломе.

— Ну як там? — пытаюся пошапкам. Штосьці стукае ў лабешнік, і я падхопліваю з-пад ног пачак цыгарэт.

«Гурнік». Ці не самыя танныя цыгарэты. З намаляваным на пачку шахцёрам.

На голаў раз за разам сыплюцца цупкія пачкі, і я пхаю іх спачатку ў кішэні, потым, расшпіліўшы верхнія гузікі кашулі, за пазуху, нарэшце за каршэнь, аж пакуль у вагонным нутры не нараджаецца адчайны шэпт: «Мне пакінь».

Да плота бяжым што духу. Я першым падбягаю да лазу, адсоўваю дошку, але вылезці не даю рады, бо спераду вісіць ладны пузень, а ззаду вырас такі ж вялізны горб.

— Хутчэй ты! — гукае сябрук, штурхае ў азадак, і я чую натужлівы трэск: канец калашыны зачапіўся за цвік.

Прамінуўшы даўгую вуліцу і кароткі завулак, кідаемся пад шаты зжаўцелых ліп і заўважаем, што апынуліся сярод крыжоў.

— Стараверскія могілкі, — кажу з палёгкай, плюхнуўшыся на магільны пагорак.

Доўга сунімаем парывістае дыханне.

Раней міма тых могілак хадзіць баяўся, а тут сяджу на ўтравелай магіле і, водзячы пальцам па шэрхлым крыжы, чытаю выразаныя ў дрэве літары: «Рабъ Божій Іоаннъ».

— Дзіўныя крыжы, — задышліва мовіць сябрук.

— Я ж табе кажу: стараверы пахаваныя.

— А хто такія?

Бацька калісьці пра іх распавядаў, але адно і запомнілася, што гэта нейкія прыблуды з Расеі, якія не па правілах хрысціліся, іх пачалі лупцаваць і яны збеглі ў Вільню. Збіраючыся з думкамі, чухаю макаўку — і крыўлюся ад болю: пад вучнёўскай шапкай шчыміць і спее гузак.

Дахаты вяртаемся дальняй дарогай, аж праз Курляндскую вуліцу. Пнуцца на чыгуначны мост не выпадае, бо жаўнеры могуць пацікавіцца нашымі «пузенямі». На Курляндскай, на чыгуначным пераходзе, стаіць паліцыянт, таму прыхоўваемся

за кустамі, а калі гліна* спыняе нейкага фацэта на ровары, непрыкметнымі ценямі праслізгваем у суседні завулак. І да самага дому азіраемся, выглядаючы сінія мундуры.

Увальваюся ў кватэру, думаючы, што маці на працы, ды яна чамусьці дома.

— Дзе цябе нячысцік носіць? — маці, як злуецца, гамоніць «па-простаму». — Табе сказалі з хаты не выходзіць, а ты чорт дзе цягаешся.

Выходжу на сярэдзіну пакоя, выцягваю кашулю са штаноў. Цыгарэты з вясёлым шорхатам падаюць на падлогу.

— Што гэта? — у голасе матчыным гучыць трывога.

— Не бачыш? Цыгарэты!

— Дзе ты іх узяў?!

— Немцы вагон разбамбілі, мы іх і прыхапілі.

— Ці не з вісусам падвальным ты іх прыхоплівеў?

Шморгаю носам, моўчкі выкідваю з кішэняў рэшту цыгарэт. Да сэрца падступае крыўда. Юзік што, самохаць залез у падвал? Хата іхняя ў Сувалках згарэла, вось і давялося шукаць прытулку. Маці і сама адчула, што сказала лішняе. Уздыхнуўшы, спрабуе зняць з мяне кепурку, і я крыўлюся ад болю. Кроў ад раны зашэрхла і прыстала да шапкі.

— Дзе ты пабіў галаву? І што ў цябе з порткамі? — правая калоша на доле падзёртая. — Дарослыя баяцца ў горад выходзіць, а вы, падшыванцы, дахаты не прыцінаецеся. Бацькі няма, а так бы даў пытлю, — маці ўсхліпвае, сядае на ложак і ціха плача. Не з-за падзёртых штаноў, вядома, а ад таго, што бацька сядзіць у Лукішках і немаведама калі адтуль выйдзе.

Наступным ранкам тырчу дома, бо маці не пайшла на працу. Працуе яна на заводзе «Электрыт». На тым самым, дзе вырабляюць вядомыя на ўсю Польшчу радыёпрымачы. Мацуе на корпусе радыёлямпы і прылітоўвае кандэнсатары. Так што сяджу на падаконніку і паныла гляджу на тое, што дзеецца за акном. Там анічога не змянілася. Адно што ля пад'езда суседняга дома з'явіўся нязграбны надпіс: «Бамбасховішча на

* Мянушка паліцыянтаў.

50 асобаў». Па бруку па-ранейшаму ляскочуць калёсы з параненымі, а чалавек у лапсардаку расклейвае на тумбе свежыя газеты. Цікава, што ён там лепіць — «Слова» ці «Кур'ер»?

— Ма, можна выйсці? Газеты хачу пачытаць.

Маці маўчыць, наліваючы ваду ў чайнік, і гэта азначае, што я нікуды не пайду.

З дома насупраць выкульваецца матчына сяброўка, цётка Юстына. Цётка прыпыняецца каля тумбы, цягне шыю, спрабуючы штосьці вычытаць у газеце, і дробненька тупае ў наш бок.

— Сяброўка твая ідзе, — паведамляю, не павярнуўшы галавы, і маці, крыкнуўшы «Дапамагай!», кідаецца да купы цыгарэтных пачкаў, што ляжыць у куце.

Пахапліва, сюд-туд натыкаючыся адно на другога, носім цыгарэты ў шафу.

— А я гляджу — ты ў акне мільганула. Чаму не на працы? — сакоча ад парога цётка Юстына. Цётка, калі гамоніць з суседзямі, збіваецца на «простую» мову.

— Скончылася праца, — маці папраўляе збітыя валасы. — Учора прыйшлі, а нам кажуць: разыходзьцеся, цэх зачыняецца.

— А што ж гэта робіцца? — плаксіва енчыць цётка Юстына, выціраючы вочы ражком хусткі. — Майго ж Тадэка ў войска забралі. Спачатку казалі, у паліцыі будзе служыць… — цётка заліваецца слязьмі, і маці, незаўважна для госці, ківае на дзверы.

Радасны, збягаю па прыступках, падбягаю да падвальнага акенца, стукаю косткамі пальцаў па фанерыне і чую прыглушаны жаночы голас: «Нікуды не пойдзеш». Усё зразумела: Юзіка гэтаксама не пускаюць на вулку.

Да тумбы падыходзяць людзі.

— «Польскія летакі бамбардуюць Берлін, — хтосьці чытае газету ўслых. — Летакі эскадрылі "Ласі пазнанскія" здзейснілі дзёрзкі налёт на берлінскі аэрадром. У выніку гэтай акцыі была знішчана значная колькасць нямецкіх бамбавозаў…»

— Не чытайце гэтай лухты! Хутка швабы тут будуць, — гукаюць з другога боку вуліцы.

Там стаіць паранены капрал. Адна рука ягоная боўтаецца на тальмаху, а другой рукой абхапіў за шыю маладзенькую пеленгнярку, якая дапамагае яму ісці.

— Панове, не слухайце панікёраў! — загадна прамаўляе даўгяла ў фацэтным капелюшы. — Гэта ён чытаў услых газеціну.

Капрал адпіхвае пеленгнярку, робіць пару крокаў і стогне ад болю.

— Ах ты, курва! — гракае капрал, а перапуджаная пеленгнярка хапае яго за руку.

Даўгяла, зыркнуўшы спадылба, папраўляе капялюш:

— Я ж магу панам і зацікавіцца.

— Зацікавіцца? Запісвай, кур-рва… першы ўзвод… трэці швадрон пятага палка ўланаў Заслаўскіх! — капрал называе сваё імя і прозвішча, пеленгнярка малітоўна енчыць: «Пану нельга так хвалявацца!», а фацэт, насунуўшы капялюш на бровы, спешна адыходзіць убок.

— Чаму Францыя спіць? Чаму не дапамагае? — народу ля тумбы сабралася даволі шмат, нават не бачна, хто пытаецца.

— Як жа… дапаможа… як хваробе кашаль, — выдыхае разам з махорачным дымам сівы дзед у даматканай світцы. Дзед мовіць не па-польску, а «па-простаму».

— Вы, беларусіны, толькі і чакаеце нашага скону, — устаўляе слова па-моднаму апранены кабета. Модніца адмахваецца ад махорачнага дыму, збіраецца нешта сказаць, але ў гэты міг у небе нараджаецца густы самалётны гуд, і кабета, перажагнаўшыся, улякнута лапоча: «Хоць бы не бамбілі». Усе стаяць, увабраўшы галовы ў плечы, і спалохана сцепаюцца ад грукату пад’езных дзвярэй. Гэта Юзікава маці ляснула ўваходнымі дзвярыма. Задаволена паціраю рукі, і калі пані Зоф’я — так завуць кабету — заварочвае за рог суседняга будынка, шыбую да падвальнага акенца.

— Хутка немцы прыйдуць, — я дапамагаю сябру вылезці з падвала.

— Хто табе сказаў?

— Вунь той паранены капрал.

Капрал, на якога паказваю, паволі чыкіляе, абапёршыся на пеленгнярку, у бок шпіталя.

— Цябе за цыгарэты ўшчувалі?

— Ушчувалі.

— І мяне, — Юзік ababівае калашыны картовых штаноў.

— Панове, прашу ў кучу не збівацца і мітынгі не ладзіць, — пагрозлівым басам прамаўляе Скачыляс, падышоўшы да тумбы.

— Якія мітынгі?! — адзываецца модніца ў чорным капелюшы. — Газеты чытаем!

— Пачыталі і праходзьце. Не замінайце дарожнаму руху.

Наўкол між тым няма ніякага руху. Скачыляс любіць без дай прычыны чапляцца да людзей. Вось Тадэк, сын цёткі Юстыны, той ні да каго не чапляўся. Летась нават дапамог лятаўца змайстраваць, якога я потым на Панарскай гары пускаў. А цяпер Тадэк недзе ў войску, з немцамі ваюе.

Зрэшты, нейкі рух усё ж такі адбываецца. Ад Пагулянкі выруліў чырвоны арбон*, а з завулка выехалі калёсы, наладаваныя прадаўгаватымі скрынямі. Ці не трунамі? Калёсы спыняюцца, двое рабочых здымаюць з іх збітую з дошак скрыню з надпісам «Гасьнік»**.

— Што за халера? — азываецца Юзік.

— Ты што, не бачыш? Супрацьпажарныя скрыні, — гучна, каб усе чулі, кажу я сябру. — Іх на сцены павесяць, вогнетушыльнік упіхнуць і на замок зачыняць. А бамбіць пачнуць — будзе чым агонь тушыць.

— А як тушыльнік дастанеш, калі замок павесяць? — не сунімаецца Юзік.

— Ключ камусьці пакінуць. Магчыма, тваёй маці.

Сябар з лёгкай трывогай пазірае ў канец вуліцы.

— Не, хлопе, як пачнуць бамбіць, ніякі вогнетушыльнік не дапаможа, — керхае дзед у даматканай світцы.

У небе густым чмяліным гудам азываецца самалёт.

— Нельга збірацца грамадой, бо як гахне бомбу — і разляцімся на шматкі, — з загаднай інтанацыяй прамаўляе

* Віленчукі так называлі аўтобусы — па назве фірмы, якая іх выпускала.

** Вогнетушыльнік (пол.).

Скачыляс. Паліцыянтам, відаць, далі загад разганяць натоўпы — вось ён і прыдумляе розныя жахі.

Як ні дзіўна, народ пачаў разыходзіцца. І першай, падцягнуўшы спадніцу, адскочыла ад газет модная пані.

Больш за ўсё віленчукі баяцца нямецкіх самалётаў. Навокал толькі і гамоняць пра тое, як швабы бамбардуюць Варшаву. Нас, на шчасце, не бамбілі. Я ўвогуле не ўяўляю — як можна паляцець у чужую краіну і пачаць кідаць бомбы на жывых людзей? Дзялюся гэтай думкай з сябрам.

— Немцы палякаў здаўна ненавідзяць. Таму і пайшлі вайной, — тлумачыць Юзік, а чарговым разам зірнуўшы ў канец вуліцы, з адчаем гукае: — Матка! — і нырцуе ў падвал.

Ноччу доўга кручуся на ложку. Ляжу з расплюшчанымі вачыма, прыслухоўваюся да навакольных зыкаў: пошуму ветру, цікання ходзікаў і пошчаку конскіх падкоў. Гэта паліцэйскі дазор раз-пораз праязджае па начной Вільні. Сплю ў маленькім пакойчыку. Не ў пакойчыку нават, а ў катушку, дзе змясціліся адно рассохлы ўслон ды драўляны тапчан. Матчын ложак стаіць у святліцы. Маці таксама не спіць, а пачуўшы ляскат падкоў, штораз уздыхае.

Разам з парывам ветру недзе ўдалечыні нараджаецца мерны гуд. Цяжка сказаць — з якога боку ён далятае. Ці то ад Ландварова, ці то ад Новай Вялейкі. Штосьці бухае, я бягу да акна, адсоўваю коўдру. За акном цёмна, хоць пальцам у вока. Дзіва што. У доме насупраць надоечы загарэлася святло, на першым паверсе, дык тут жа Скачыляс палкай у шыбу пастукаў. Ён штовечар ходзіць ды паглядае на вокны — каб нідзе агню не было. Знадворку зноў, гулка і раскаціста, грымнула, і неба асвяцілася кволай яснасцю.

— Езус Мар'я, хаця б да нас не даляцелі, — шапоча маці і не спехам, як звычайна, а з павольнай урачыстасцю жагнаецца.

Раніцою мяне абуджае стук у дзверы і ахрыплы бацькаў голас:

— Ну, жывыя вы там?

Вомігам злятаю з тапчана і лячу адчыняць дзверы. Але позна: іх ужо адчыніла маці і з плачам торкнулася носам у

левы бацькаў плячук. Я цiснуся носам да правага плечука. Палiтон патыхае цвiллю.

— Вы надта не абдымайце, — кажа бацька, сунiмаючы матчыны слёзы, — у вязнiцы вошай да халеры.

— Цябе адпусцiлi цi ты збег? — мацi падхоплiвае насоўку.

— З вязнiцы не збяжыш. Адпусцiлi. На загад вiленскага ваяводы. Iм не да нас. Ну а ты як? Не сваволiш? — халодная бацькава рука кладзецца на спiну.

— У школу не пусцiла, загадала дома сядзець, а ён збег ды ў нейкi склад убiўся, — мацi адчыняе шафу, i адтуль сыплюцца на падлогу цыгарэтныя пачкi. — Iх на фронт збiралiся везцi, а тут малыя рабаўнiкi падаспелi.

— Ды якi там фронт, — бацька падхоплiвае з падлогi пачак. — О! «Гурнiк»! Падсушыць трэба. Цыгарэты сёння даражэйшыя за грошы. — Бацька калiсьцi сам палiў, ды кiнуў, бо лекары выявiлi зацямненне на плюцах.

— Уся вопратка ў шафе тытунём прасмярдзела, — буркае мацi.

Мы п’ем гарбату, слухаем аповеды пра вязнiцу, i нечакана бацька звяртаецца да мяне:

— Збегай да дзядзькi Янкi. Скажы, што я на свабодзе.

Дзядзька Янка — лепшы бацькаў сябар. Жыве ў Зарэччы, поруч са старымi габрэйскiмi могiлкамi. Так што iсцi да яго трэба праз усё места.

Выбягаю з дому i перш-наперш сунуся да Юзiкавага лаза ды стукаю па фанерыне. Мне не адказваюць. У падвале, падобна, нiкога няма.

— А што ўначы бухала? — пытаюцца каля тумбы. — Там павесiлi свежую газету i сабраўся людскi збой.

— Аэрадром бамбiлi, — па голасе пазнаю ўчарашнюю моднiцу.

— «Французы прарвалi лiнiю Зiгфрыда ў трох мясцiнах, — чытае, перакрываючы гаману, малады i, як падалося, ладна падпiты фацэт, — палова нямецкiх войск перакiнутая з польскага фронту на захад!»

— Нарэшце! — выдыхае моднiца i налягае маладзёну на спiну, спрабуючы прачытаць газетныя загалоўкi.

Цікава паслухаць, што кажуць людзі, але ж трэба ісці да дзядзькі Янкі.

Па дарозе чамусьці сустракаюцца адны старыя габрэі. Яны брыдуць па ходніках і неўпрыкмет заварочваюць у двары. Бліжэй да цэнтра сталі пракідвацца і купкі вайскоўцаў. Зусім нядаўна вайскоўцы хадзілі шыхтамі, перацягнутыя рамянямі, а зараз усе пацёхканыя, са злымі і цёмнымі ад загару тварамі. Няйначай, прыбылі з фронту. На рагу Дамініканскай і Універсітэцкай грувасціцца двухвежавы танк. Каля яго сабраўся народ. Спрачаюцца, у каго тэхніка лепшая: у палякаў ці ў немцаў. Ніколі не бачыў такога танка. Спрабую прабіцца да двухвежавай гаргары, але мяне хапаюць за каршэнь.

— Не лезь пад гусеніцы! — гукаюць у вуха, і той жа голас паведамляе: — Куды нашаму да немца. У шваба 50-міліметровая гармата тырчыць, а ў нашага два кулямёты.

У адной з вежаў штосьці бразгае, і танк, пусціўшы аблачыну сівушнага дыму, кранаецца з месца. «Двухвежавік» ляскоча гусеніцамі, адчайна дыміць, знікае з вачэй, завярнуўшы на Нямецкую вуліцу.

На мосце праз Віленку спыняюся, навальваюся грудзінай на парэнчы. Па цёмнай вадзе плыве сухое лісце. Сярэдзіна верасня, а таполі амаль згалелі. Даўно не было дажджу, таму лісце і ссохла. А вось ліпы Бернардзінскага саду, які агінае Віленка, толькі крыху зжаўцелі і шумяць ад ветру.

«Няўжо сюды прыйдуць немцы?» — з гэтай думкай углядаюся ў рачное прадонне. І на якую халеру сюды пруцца? Чаму ім не сядзіцца ў сваёй Нямеччыне? І што зменіцца пасля іх прыходу? А што тут можа змяніцца? Гэтак жа будзе плыць па Віленцы сухая лістота, гэтак жа будзе шумець пад ветрам Бернардзінскі сад, і Гедымінаву вежу гэтак жа, як зараз, будзе ахутваць правідная смуга. Зрэшты, сёе-тое зменіцца. На вежы залунае сцяг са свастыкай, на тумбе перад нашым домам з’явяцца нямецкія плакаты, а на рагу Дамініканскай і Універсітэцкай будзе тарахцець не двухвежавая танкетка, а грымець вялізны танк з 50-міліметровай гарматай. Мая маці баіцца немцаў і штовечар, перад тым, як класціся спаць, жагнаецца і шапоча: «Божухна, каб яны спрахлі!» А вось

дзядзька Янка, да якога іду, той немцам нібыта і рады. Таго дня, як швабы напалі на Гдыню, прыбег да нас, узрушана хадзіў вакол стала, паліў цыгарэту за цыгарэтай і казаў, што беларусам трэба адразу ж выявіць ініцыятыву і дамагчыся ад немцаў адчынення нацыянальнага ўніверсітэта. А яшчэ казаў, што, магчыма, удасца стварыць беларускую аўтаномію ці нават незалежную Заходнебеларускую рэспубліку. Я потым спытваў бацьку, што такое аўтаномія, але той адмахнуўся і наказаў, каб я не лез у дарослыя размовы. Бацька з дзядзькам Янкам тады зацята спрачаліся, колькі будзе доўжыцца вайна. Бацька быў перакананы, што яна расцягнецца надоўга і што калі немцы захопяць Познань, дык палякі павінны захапіць Усходнюю Прусію, а ягоны сябрук у адказ хмыкаў і казаў, што польскае войска створана выключна для дэфілядаў*, а не для сучаснай вайны і што праз два тыдні немец захопіць Варшаву.

Дзядзька Янка жыве адзінцом ва ўласнай хаце. Хата складзеная з пачарнелага бярвення, а пакрывае яе высокі гонтавы дах. З аднаго боку да жытла падступае Антокальскі гай, а з другога стаяць перакрыўленыя каменныя помнікі з шасцікутнымі зоркамі наверсе. Мясціна для жыцця не надта прыемная, але дзядзьку падабаецца, бо тут зацішак і шмат зеляніны.

Бацькаў сябар стаіць пасярод двара і сячэ дровы. Прычым робіць гэта з асалодай, з першага разу расколваючы тоўстыя бярозавыя цурбакі. З зачараваннем гляджу, як бліскае лязо сякеры, як узлятаюць угору палены, як пырскаюць ва ўсе бакі жоўтыя трэскі. Неўзабаве адно палена адлятае да маіх ног, і дзядзька Янка выпроствае спіну.

— О, якія госці! — жартам, але з насцярогай вітаецца дзядзька і пераключаецца на сур’ёзны лад: — Што, выпусцілі бацьку?

Размашыста, як той конь, ківаю галавой.

— Ім зараз не да нас, — паўтарае дзядзька Янка бацькавы словы, з сілай заганяе сякеру ў цурбан. — Я, братка, сам

---

* Вайсковы парад (пол.).

толькі што на волю выйшаў. Ад паліцыі хаваўся, — дзядзька з пакутаю аддзьмухваецца. — У школу ходзіш?

— Маці не пускае. Баіцца, што немцы прыйдуць.

— Кепска, што цябе ў беларускую школу не выправілі. Што ж ты за беларус такі вырасцеш? Кніжкі хоць нашы чытаеш?

— Чытаю, — няўпэўнена кажу я. — Чытаць беларускія кніжкі цяжка, бо напісаныя расейскімі літарамі.

— Ну а якую апошнюю кнігу прачытаў? — дзядзька Янка падымае пінжак, які ляжыць на кучы палення, дастае з кішэні капшук табакі.

— «Абразкі», — кніжку гэтую, немаведама калі выдадзеную, з лядашчымі і зжаўцелымі старонкамі, адолеў на летніх вакацыях.

— А-аа… «Пяюць начлежнікі» — дзядзька скручвае цыгарку, летуценна мружыць вочы. — «Слоў не разбярэш — надта закацістая песня, але зірнеш адкуль яна плыве, і ўбачыш чырвоны слуп з чорнай каронай над лесам — гэта вогнішча начлежнікаў…» — дзядзька Янка зацягваецца цыгаркай, а ў вачах ягоных бліскае слязіна. — Пачакай хвілінку, — дзядзька са свістам выпускае дым, ідзе ў хату і выходзіць з кніжкай у руках.

— На, пачытай. Тарас Гушча… ён жа Якуб Колас. Прадаўся, на жаль, бальшавікам.

«У глыбі Палесся», — бягуць па вокладцы няроўныя літары. З насцярожлівай павольнасцю пхаю кніжку пад кашулю. Маці не любіць беларускіх кніг. Кажа, што праз іх нашай сям'і няма жыцця, бо яны ў Менску надрукаваныя, а там сядзяць камуністы. Так што кніжку і чытаць не буду, прыхаваю дзенебудзь, а потым вярну ўладальніку.

— Скажы, што заўтра зайду. Бачыш, колькі працы, — дзядзька апошні раз зацягваецца цыгаркай, адкідвае недапалак і, падхапіўшы сякеру, хвацкім ударам палавініць цурбак.

На мосце праз Віленку стаяць паліцыянты. Каб не патрапляць ім на вочы, — а раптам абшукаюць ды знойдуць беларускую кніжку, — паварочваю на Млынавую і пераходжу рэчку па іншым мосце. Дзіўна, але места абязлюдзела. Нават

вайскоўцы некуды пахаваліся. Узнікне сям-там чалавечая постаць і тут жа знікае за маўклівымі дзвярамі. А ўвечары, як сцямнее, наогул усё замірае. Адно вайсковыя патрулі на конях ды паліцыянты з пажарнымі блукаюць па мёртвым горадзе. Маці на мінулым тыдні затрымалася на працы, вярталася ў поцемках, дык паліцыянты яе хацелі ў пастарунак забраць, бо не мела пропуску. Ледзь адбілася.

Каля дзвярэй пад'езда ўзбіваюся на Юзіка. Той, дашчэнту зморany, з вільготнымі валасамі, сядзіць на цэментным ганку.

— Чаму такі мокры? — вусны мае кранае ўсмешка.

— Матка працу знайшла. У шпітальнай пральні. Хадзіў ёй дапамагаць.

Усмешка знікае з маіх вуснаў.

— Ты што там, вопратку мыеш?

— Ды не, мядніцы цягаю. З бруднай вопраткай лёгкія, а з памытай цяжкія. І пара такая, што сцен не відаць. А што ў цябе там на чэраве? Цыгарэты?

— Ды не, гэта кніга.

— Пакажы!

Не хочацца паказваць кнігу, але мушу лезці за пазуху.

— Дык не па-нашаму, — паныла мармыча Рыдз, разглядаючы вокладку.

— Па-беларуску, — тлумачу я, заўважаючы, што кніга выдадзена ў Вільні.

— А ты што, беларусін?

— Беларусін, — адказваю, уздзёршы падбароддзе.

Юзік глядзіць на мяне так, нібыта я не беларусін, а які аўстралійскі тубылец, фотаздымак якога змешчаны ў падручніку.

— Ану… скажы што-небудзь па-беларусінску.

Зацята чухаю скронь.

— Слоў не разбярэш… закацістая песня… пяюць начлежнікі…

— А хто такія начлежнікі?

— Начлежнікі? То сон вэндровцы, ктуры леглі спаць в лесе, — тлумачу па-польску.

— А вам кніжкі саветы прысылаюць?

— Разуй буркалы. Бачыш, на вокладцы напісана: «Віленскае выдавецтва Клецкіна»

Рыдз мыліць вуснамі, спрабуючы прачытаць надпіс, і вяртае кнігу.

— Чакаеце, калі сюды бальшавікі прыйдуць?

Мяне як халадзёнкай аблівае. Мой бацька і дзядзька Янка ніколі не казалі, што чакаюць бальшавікоў. Дзядзька Янка наогул іх ненавідзіць. Удыхнуўшы паветра, б'ю Рыдза кніжкай па галаве і, адчыніўшы дзверы, бягу па лесвіцы, пераскокваючы праз тры прыступкі.

Ранак выдаўся сонечным, і на тонкай фіранцы — яна аддзяляе мой катух ад пакоя, — раз-пораз узнікае рухавы цень. Гэта дзядзька Янка ходзіць, па старой завядзёнцы, вакол стала.

— Ваякі сраныя… двух тыдняў не пратрымаліся. Задача была якая: каб немцы ў Польшчы захраслі, пасля чаго французы дзеўбануць з захаду, — дзядзькава галава на фіранцы смешна выгінаецца, а нос то задзіраецца, то ападае долу, — а тут і немцы не захраслі, і французы не дзеўбанулі.

— Як жа… дзеўбануць твае французы. Сядзяць за лініяй Мажыно як мышы пад венікам, — падае голас бацька. — Чэхію Гітлеру ў зяпу ўкінулі, а той праглынуў і не папярхнуўся. Цяпер Польшчу кінулі. Думаюць, нажарэцца. Ён і Францыю праглыне і не паморшчыцца.

Дзядзька спыняецца ля фіранкі, і ягоны нос спачатку ператвараецца ў вясёлую кірпу, а затым глюгасціцца.

— Немеччына да вайны рыхтавалася, а гэтыя пілі, гулялі, баб пярдолілі…

— А можна без гэтага? — перабівае дзядзьку маці. — Дзіцё ў хаце, а яны языкі распускаюць, — маці рыпае масніцамі, шамаціць палітонам і неўзабаве грукае дзвярыма.

Маці не любіць дзядзьку Янку. Лічыць, што ён збівае бацьку з тропу сваёй беларушчынай.

— Не звяртай увагі, — бацька зацята кашляе, — да Юстыны пабегла. — Сяброўка ейная, жыве праз дарогу.

На фіранцы мільгае імклівы цень.

— Ого, «Гурнік». Дзе ўзяў? — пытаецца дзядзька Янка.

— Жонка набыла, яшчэ да вайны, — хлусіць бацька, — грошы ўжо нічога не вартыя, а цыгарэты заўсёды ў цане.

— Маеш рацыю… Ужо на гарадзенскую махорку перайшоў. І тая хутка скончыцца.

— Ну а што па радыё перадаюць?

Я наструньваю слых. Дзядзька, як высвятляецца, слухае радыё. І ў нас ёсць старэнькі прымач, але паліцыя выдзерла лямпу і паставіла пломбу на ўключальнік.

— Кракаў, Познань, Лодзь змоўклі. Варшава-2 перадае натхнёныя адозвы, модлы ды нешта няўцямнае. Уяўляеш, перапыняюцца на паўслове і гарлаюць: «Увага! Увага! Надходзі!» І нейкія лічбы называюць. Хто там надыходзіць — халера іх ведае. А пра тое, дзе ідуць баі, — ані слова.

— А Гляйвіц што перадае?

— Што нямецкія часткі ўвайшлі ў Берасце.

— Дык хутка і ў нас будуць? — голас бацькавы прыкметна дрыжыць.

— Хутчэй за ўсё, дзеўбануць у напрамку Баранавічаў. Адрэжуць Усходні калідор. Так што ў нас, дзякуй богу, зацятых баёў не прадбачыцца. Складуць палякі зброю — і вайне канец, — дзядзька чыркае запалкай, і на фіранцы скача ўвішны вогнік.

— Жонка тытунёвага дыму не пераносіць, — бурчыць бацька, і вогнік, матлянуўшыся, патухае.

Фіранкі калыхаюцца, адбіваючы знявечаны бацькаў профіль.

— Слухай, Янка, а чаму цябе паліцыя не прыхапіла?

Хвіліну пануе ціша, якую перарывае абураны дзядзькаў голас:

— Ты што, агента дэфензівы ў маёй асобе ўбачыў? — дзядзька зноў чыркае запалкай. — Да мяне ўваліліся ды не заспелі. Пасля таго схапіў прымач пад паху ды ў Купрыянішкі кінуўся, да швагра. Увесь час там і адседзеў. Учора першы раз на сваім ложку спаў. Я, уласна, чаго завітаў, — пераскочыў на іншую тэму дзядзька Янка. — Трэба тэрмінова збіраць агульны сход. Зараз іду да Антона. Пайшлі разам… Ці жонка не

пускае? — хмыкае госць, і бацька здымае з вешака палітон. Антон, вясёлы лысы дзядзька, раней часцяком да нас забягаў, а цяпер чамусьці не заходзіць.

На сняданак, як і ўчора, дарэшты абрыдлы жур. Ён трасецца на сподку, што тая квашаніна, і не лезе ў глотку. Трымаю сподак, глытаю кіславатую брыду і сядаю на падаконнік. На скрыжаванні стаіць жаўнер у шынялі. Каля тумбы сабралася жменя народу. Чарада галубоў узнялася ў паветра. На супрацьлеглым доме, якраз пад вокнамі цёткі Юстыны, з'явіўся яшчэ адзін надпіс: «Не слухай ману варожага радыё!» А можа, сапраўды немцы набрахалі, што занялі Берасце? Давячыся, глытаю рэшту журу, выцягваю з ранца падручнік па геаграфіі. Там, на першай старонцы, намаляваная мапа Польшчы. Ваджу носам, шукаючы Бжэсьць-над-Бугем, знаходжу той Бжэсьць і ўражана лыпаю вачыма. Як далёка зайшлі немцы! Перасоўваю палец да Баранавічаў, затым да Стоўбцаў і натыкаюся пазногцем на чырвоны пункцір мяжы. Вільні, можна сказаць, пашанцавала. Яна прыкрытая Літвой. Калі б не Літва, немцы б даўно нас дзеўбанулі, як любіць казаць дзядзька Янка. Напрасткі ад Юзікавых Сувалак да Вільні — крок ступіць.

На вуліцы штосьці жаласліва гудзе, потым скуголіць, урэшце плаксіва завывае, і знадворку зычна гарлае Скачыляс:

— Грамадзяне, паветраная трывога!

— Збірайся хутчэй! — крычыць маці.

Мы бяжым, скачучы праз тры прыступкі, па лесвіцы, перабягаем вуліцу, даем нырца ў падвал супрацьлеглага дома. Дом стары, падвал там глыбокі, і ў ім можа прыхавацца, як сведчыць надпіс на сцяне, 50 асобаў.

У падвале цёмна. Разам з намі па пакручастых сходах спускаецца некалькі чалавек. Наперадзе войкаюць, і цэментавыя сходы здрыгаюцца: хтосьці спатыкнуўся і паляцеў долу. «Асцярожней. Асцярожней», — папярэджваюць з усіх бакоў. Спусціўшыся ў падвал, рухаемся ўздоўж сцяны, абмацваючы рукамі паветра, і маці, наткнуўшыся ў цемры на некага, узрадавана выдыхае:

— Ты, Юстына?

Цётка Юстына прыхапіла коўдру, і я ладкуюся на той коўдры, падбіўшыся пад друзлы цётчын бок.

— Мой жа ў горад пайшоў. Баюся, каб пад бомбы не патрапіў, — уздыхае маці, скалыхнуўшы вогнік васкоўкі, якую запалілі непадалёку.

Запалілі яшчэ адну свечку, і ў паветры запахла так, як у Святадухаўскай царкве, куды мяне вадзіў бацька. Адно што ў царкве светла і прасторна, а тут цёмна і задушна.

— Патушыце свечкі, і так дыхаць немагчыма, — выдыхае, уперамешку з кашлянінай, нейкі дзед.

— Дзверы адчыніце! Задыхнёмся! — чутны старэчы жаночы голас.

Дзверы адчыняюць, але дыхаць усё адно цяжка, я нават высалапіў язык.

Наструньваю слых, намагаючыся пачуць гукі выбухаў, але нічога такога не чую.

Дзесьці праз гадзіну, змучаныя і мокрыя, выпаўзаем з бамбасховішча.

— Чыгуначную станцыю бамбілі, — паведамляе Скачыляс, дапамагаючы нямоглым бабцям выбрацца з падвала.

Мы з маці не паспяваем дайсці да пад'езда, як зноўку, ужо з шалёнай натугай, пачынае завываць сірэна…

Увечары да нас забягае цётка Юстына.

— Людзі на пахаванне сабраліся, а немец па іх з кулямёта паласнуў. На Дамініканскай каля пякарні хлеб чакалі, а гэты паскуда на іх бомбу кінуў. І вязніцу бамбануў. А зладзеі, што там сядзелі, пахапалі торбы ды разбегліся. Нам вайна гора, а зладзеям радасць…

Сёння пахмурна і дажджыста. Выходжу з пад'езда і першнаперш заўважаю: падвальнае акенца забітае не падгнілай фанерай, а бліскучай бляхай, з якой тырчыць крывая труба. Няйначай, у падвале паставілі жалезную печку. Дым з трубы не ідзе, значыць, Юзік з маткай пайшлі ў пральню. Мне раптам становіцца шкада сябра. Дарма ляснуў яго кніжкай. Ды тут жа схамянаюся, мацаю гузак на макаўцы. Ён па-ранейшаму шчыміць і крывавіць. Правільна зрабіў, што ляпнуў, — супакойваю сябе. Не будзе больш на беларусаў плявузгаць. Дзядзька Янка кажа, што ўсе нашы бядоты ад таго, што мы, беларусы, занадта рахманыя і самі сябе не паважаем.

Народу каля тумбы няшмат. Пры гэтым мінакі моўчкі праглядаюць газетныя старонкі і, не сказаўшы ні слова, адыходзяць. Я сунуся да тумбы. Цікава, ці пішуць там што пра Бжэсьць-над-Бугем.

Свежую газеціну наляпілі наўскасяк, закрыўшы плакат з выяваю Рыдз-Сміглага. Ад «начэльнага водза» засталіся вуха ды край рагатыўкі.

«Безнадзейнае становішча нямецкага флоту»; «У Славаччыне недахоп збожжа»; «Ваенныя аркестры авіятараў», — мільгацяць уваччу тлустыя загалоўкі.

— Як і вайны няма, — басавіта прамаўляюць за спінай.

— А пра што пісаць? Пра тое, што немцы Варшаву атачылі? — азываецца цётухна з лісіным каўняром на плячах. Каўнер той, як бачна, даядае ўвішная моль.

Леваруч з-пад газеціны вытыркаюцца дзве таўшчэзныя гарматныя ствалiны, і я ў думках маракую: куды гарматы патрапяць, калі раптам стрэляць?

— Эй, хлопец, дзе тут жыве пані Юстына Мікалайчык? — пытаецца жаўнер, што спыніўся непадалёку.

Жаўнер толькі што з фронту. На ім выцвілая шапка і такі ж выцвілы мундур, прычым правае рукаво да локця абпаленае.

Паказваю на Юстынін дом.

— Вунь яе акно, з альвасам на падаконні.

Жаўнер глядзіць на акно, задуменна перабірае пальцамі лямку рэчмяшка, расшпільвае і зноў зашпільвае верхні гузік мундура. Яму, відаць, не надта ахвота ісці да цёткі Юстыны.

Здушаны лямант спыняе сэрца. Усе, хто таўчэцца каля тумбы, зацкавана глядзяць на акно з альвасам. «Сына, відаць, забілі… Якога сына? Ну Тадэка…» — гамоняць ля тумбы. Я адступаю, спінай наперад. Урэшце, чапляюся за нешта, падаю і, прыхапіўшыся на ногі, лячу дадому, каб распавесці пра цётчына гора. У пад’ездзе сутыкаюся з Рыдзам. Той на мяне нават не зірнуў. «Чорт з табой, — думаю я, узбягаючы па сходах, — цяпер будзеш паважаць беларусінаў».

Наступнай раніцы ўсёй сям’ёй п’ём гарбату з зёлкамі, і маці, штораз ўсхліпваючы, распавядае, як учора ўвечары хадзіла да Юстыны.

— Той жаўнер казаў, што і да фронту не даехалі. За Беластокам немец наляцеў і цягнік разбамбіў. Прынёс Тадэкавы дакументы… а яны ўсе крывёю запэцканыя, — маці гучна шморгае носам, і буйная слязіна ціўкае ў кубку гарбаты.

Хтосьці нецярпліва і ўпарта стукае ў дзверы.

— Паліцыя, — шапоча маці.

— Адчыніце! Свае! — гучыць за дзвярыма знаёмы голас.

— Здарылася што? — у голасе бацькавым гучыць трывога.

— Здарылася, браток, — дзядзька Янка ўвальваецца ў хату, плюхаецца на крэсла, зморана пераводзіць дых. — Саветы ідуць.

— Як ідуць? Куды? — маці спалохана жагнаецца.

— Куды-куды… да нас, вядома, — дзядзька Янка сёрбае гарбаты з матчынага кубка. — Раніцою перадалі: «Савецкі ўрад даў загад Чырвонай арміі перайсці мяжу ды ўзяць пад ахову жыццё і маёмасць насельніцтва Заходняй Беларусі».

— А можа, да нас не дойдуць? — маці дрыжачымі рукамі падлівае з імбрыка гарбаты, і тая праліваецца на абрус.

— Як жа… не дойдуць. Ад Радашкавічаў да Вільні рукой дастаць. Так што сустракайце дарагіх гасцей.

Маці ўсхліпвае і жагнаецца.

— Будзе вялікая вайна, — бацька ўсхвалявана, па прыкладу сябра, шнуруе вакол стала. — Нямецкае войска прэ з захаду, савецкае — з усходу, дзе-небудзь пад Горадням сутыкнуцца і пачнуць кіямі рэбры мацаць.

— Не пачнуць, — дзядзька адкідваецца на прыслон крэсла. — Нездарма ж у жніўні Рыбентроп у Маскву гойсаў. Там аб усім і дамовіліся: дакуль саветы даходзяць, дакуль немцы.

— Ты думаеш?

— А тут і думаць не даводзіцца.

— І што рабіцьмем? — бацька хадзіў у адзін бок, цяпер прайшоўся ў другі.

— Перш, чым да вас забегчы, да Антона завітаў. Той параіў напачатку сядзець ціха. А калі што, збегчы ў навакольныя вёскі, а то і ў Ковенскую Літву паспрабаваць перабрацца. Але гэта на крайні выпадак.

— Ну а як возьмуць ды ўсіх гамузам пахапаюць? — бацька выцірае далонню ўпрэлы карак.

— А ты чаго дарослыя размовы слухаеш? — усхоплівaецца маці. — Ану ідзі пагуляй троху.

Нацягваю на плечы палітон і ўжо на ганку чую матчын загад: «Далёка не адыходзь!»

Ля тумбы тоўпіцца народ. Там вісіць свежае «Слова», але яго ніхто не чытае. «Саветы… саветы», — адно і чуваць сярод людской гаманы.

— Ну, ты задаволены? — прамаўляюць за спінай. Гэта рыжы Юзік.

— Чым? — мармычу, не павярнуўшыся.

— Саветы ідуць.

— Ды яны ў Менску ўсіх беларусаў прыбралі — каго на той свет выправілі, каго ў Сібір загналі, — кажу быломy сябру і толькі тады абарочваюся.

З Юзікавага твару збягае блазнаватая ўсмешка.

— Дзе ты пра гэта пачуў?

— Шмат будзеш ведаць — галава лысай стане, — згадваю матчыну прымаўку і ківаю на трубу, што тырчыць з падвальнага акенца. — Хто гэта вам зрабіў?

— Шмат будзеш ведаць — галава лысай стане, — са злосцю выдае Рыдз, але раптоўна мяняе танальнасць: — Матчын стрыечны брат у шпіталь патрапіў. Дык ён свайго сябра, у плячо параненага, падбіў і яны нам тую печку прыцягнулі. На шпітальным двары валялася. Сталі трубу выводзіць, а тут Скачыляс падбег і пачаў: «Прыбірайце печку і з памяшканне вымятайцеся». А дзядзька Мірэк, брат матчын, слухаў-слухаў дый як гаркне з падвала: «Зараз, тылавы шашок, выйду і шпокну пры ўсім народзе». Скачыляс пабег некуды, нібыта па падмогу, а сам цэлы дзень на вуліцы не з’яўляўся.

— Шкада, што не шпокнуў, — я згадваю, як паліцыянт арыштоўваў бацьку і пры гэтым падступна пасміхаўся. Сын цёткі Юстыны, такі ж паліцыянт, на вайну пайшоў і загінуў, а гэта таўстун толькі тым і займаецца, што людзей ад тумбы адганяе.

Наступнай хвілінай мы з Рыдзам глядзім у неба. Там, разпораз губляючыся ў аблоках, ляціць самалёт. Кволае сонца бліскае на срэбных крылах, а з хваста вырываюцца срэбныя

аблачынкі. Аблачынкі паволі раздзімаюцца, расцягваюцца даўгім шнуром. «Улёткі!» — гарлае Юзік. Порсткі ветрык гоніць завілы шнур у бок Новага Свету. Мы з Юзікам бяжым, як апараныя, пазіраючы ўгору. Поруч з намі бяжыць тузін такіх жа, як мы, падшыванцаў, і рэха бязладнага тупацення блукае ў вузкіх вулках. Паперыны лётаюць над дахамі, чапляюцца за вершаліны дрэваў, але на зямлю не апускаюцца. Каб першаму схапіць запаветны лісток, сябрук лезе на згалелую ліпу, у веццы якой заблыталася нябесная бібула, і ў гэты момант адна з улётак сядае мне на шапку. Яна надрукаваная па-польску. «Савецкі ўрад лічыць святым абавязкам працягнуць руку дапамогі сваім братам-украінцам ды братам-беларусам… — брыняць уваччу няроўна надрукаваныя літары, — …наша Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія і гэтым разам дэманструе сваю баявую моц…» Юзік, абламаўшы тоўсты сук, скача на зямлю, і мы, хапануўшы ў жменю ўлётак, мелькам іх праглядаем, бяжым дахаты, і ў галаве маёй віхурацца страхотныя словы «вялікі Сталін», «Чырвоная Армія» і «заможныя савецкія калгасы».

— З летака скінулі! — гукаю, зачапіўшыся за парог.

Маці нават не зірнула на паперкі. Скамячыла і кінула ў печку.

…Першы савецкі танк убачылі позным вечарам. Святло ў нас адключылі, і цяжка было разабраць штосьці ў цемры. І толькі гнутыя трубы, што спавівалі вежу, ды кароткая ствaліна гарматы сведчылі, што гэта ляскоча савецкі танк.

Усю ноч на гарадскіх ускраінах глуха бухала; па вуліцы раз-пораз нехта прабягаў і тады бацька падаваўся да акна і ўглядаўся ў цемру; і на зацягнутым хмарамі небе блукала барвовая палымніца.

Раніцою мяне нібыта тыцкаюць у плячук. Я расплюшчваю вочы і не даю рады даўмецца — што за гукі мітусяцца па кватэры, ад якіх дзынкаюць шыбы на вокнах і якія нахабна лезуць у вушы. І, канчаткова абудзіўшыся, уцямліваю, што шыбы дзынкаюць ад пошчаку конскіх падкоў.

Бацькі, ужо апраненыя, стаяць каля акна, прыціснуўшы насы да халоднай шыбы.

— На ногі што-небудзь насунь ды кашулю надзень! — кажа маці, але мне не да таго.

— Кипучая, могучая, никем не победимая… — співаюць жаўнеры, і гарадскія вароны абурана гракаюць на іх з высокіх дахаў.

Міма нашага дома, расцягнуўшыся даўжэзным шыхтом, едзе на конях Чырвонае войска, пра якое пісалі ва ўлётцы. Войска тое, аднак, не чырвонае, а шэрае. На жаўнерах даўжэзныя, аж ног не бачна, шынялі, а на галовах цьмяна блішчаць гламаздаватыя каскі з невялічкім грэбнем на макаўцы.

— А што за грэбні такія? — торкаю бацьку ў бок.

— Вентыляцыйныя адтуліны. А каб вада не патрапляла, пласцінамі закрытыя, у форме грэбня.

— Ага-а, — выдыхаю я, хаця і не цямлю, што такое вентыляцыйныя адтуліны і дзеля чаго яны патрэбныя.

— У палякаў лепшыя каскі, — бацька адрывае нос ад шыбы.

— А чаму ж немцы Варшаву атачылі, калі ў іх такія добрыя каскі? — падае голас маці.

— У немцаў каскі яшчэ лепшыя, — паўжартам адгукаецца бацька.

На сняданак у нас панцак без масла. Каша захрасае ў горле. Даўлюся ёю, стоячы ля акна. Саветы едуць па двое, не звяртаючы ніякай увагі на месцічаў, што выйшлі іх сустракаць. Адзін конь занаравіўся, і на вулцы ўтварыўся невялічкі затор.

— Я да Антона, — бацька на хаду даядае абрыдлую кашу.

— Паеш як чалавек. Што ты бегаеш як апантаны! — крычыць наўздагон яму маці, і бацька, ужо з калідора, адгукаецца:

— Няма калі!

Мне карціць вылецець з хаты.

— Ма… я на ходніку пастаю. Пагляджу на бальшавікоў.

— Нікуды не пойдзеш, — маці выскрэбвае з рондаля рэшткі падгарэлай кашы, — не хапала, каб на цябе конь наехаў.

Памыўшы посуд, маці сядае на ўслон, хвіліну сядзіць нерухома, спрытна падымаецца на ногі. Ёй і самой не сядзіцца

ў хаце. Праз імгненне яна накідвае на плечы пуховую хустку і трасе ўзнятым пальцам, маўляў, на двор не выходзь. Пабегла да цёткі Юстыны — паслухаць апошнія навіны. Чакаю, калі на лесвіцы заціхнуць крокі, і здымаю з вешака палітон.

Паветра працятае непрыемным пахам — ці то поту, ці то дзёгцю, ці то яшчэ нейкай халеры. Людзей на ходніку няшмат. Усе глядзяць на чырвонае войска з акон, пазначаючы цёмныя шыбы бледнымі плямамі твараў.

— Ну і коні, — хмыкае сівы дзядок, што стаіць ля трубы Юзікавай печкі, — адны скабы тырчаць.

Коні ў саветаў і насамрэч нядошлыя ды нізкарослыя.

— Овса им хоть даёте? — па-расейску крычыць дзядок жаўнеру, конь якога спыніўся і задзёр храпу.

— Н-но, блядь! — гракае жаўнер, падганяючы каня, і дзядок ціснецца да сцяны.

— Гляньма, на манголках едуць, — крычаць ад Юстынавага дома.

Станаўлюся на дыбкі і задзіраю падбародак, выглядаючы, што гэта за манголкі такія, і бачу вершнікаў на маленькіх кудлатых коніках.

— Як Хаджа Насрэддзін, — зазначае асмялелы дзядок.

Гляджу на жаўнера, ногі якога траха не кранаюцца бруку, і згадваю фільм, які круцілі летась у «Вандзе». Там Хаджа Насрэддзін ездзіў на ішаку і выцягваў наперад ногі, каб тыя не чапляліся зямлі.

Цікава паглядзець на Чырвонае войска, але тут маці выйшла ад цёткі Юстыны, і я ныряцую ў дзверы пад'езда.

## II

З шэрага неба ляніва сыпле імжа, і ў непрагледдзі ранішняй смугі кратаюцца нечыя размытыя постаці. Я роспачна пазяхаю, прыкрыўшы зяпу далонню, і пазнаю ў нехлямяжай постаці паліцыянта Скачыляса. Сагнуўшыся склюдам, ён тупае, не разбіраючы дарогі, па лужах, а следам за ім сунуцца двое з чырвонымі павязкамі на рукавах. Гэта рагварды — чальцы

рабочай гвардыі, што дзень да ночы сноўдаюць па горадзе. У аднаго з рагвардыстаў у руцэ пісталет.

— Ма, Скачыляса арыштавалі! — крычу, не адводзячы вачэй ад рагвардыста з пісталетам.

Маці хаця і занятая — выцірае ручніком памытыя талеркі, — але падыходзіць да акна.

— Езус Мар'я! Што ён ім кепскага зрабіў?

— Знайшла каго шкадаваць, — я чарговым разам згадваю, як паліцыянт арыштоўваў бацьку і як адганяў людзей ад тумбы. Скачыляс аднойчы і на маці наляцеў. Тая развесіла прасціны ля дрывотні, а гэты загадаў зняць. Бо прасціны выгляд вуліцы псавалі. А дрывотня ж не на вуліцы стаіць, а ў двары.

Тройца хаваецца за рогам будынка, і ў той жа міг з-за рога выкульваюцца яшчэ трое. Першы, высокі і падхорцісты, нясе жалезную скрабалку; другі, нізенькі і плюгавы, трымае пад пахай скрутак плакатаў; а трэці, знаёмы мне расклейшчык газет, цягне вядро з клеем. Тройца падыходзіць да тумбы, аглядае яе з усіх бакоў, пасля чаго расклейшчык становіцца вокрач, падхорцісты даўгяла ўзбіраецца яму на карак і жалезнай скрабалкай здзірае з тумбы рэшткі газет і плакатаў. Пры гэтым чалавек з плакатамі паказвае рукамі, як трэба ўпраўляцца са скрабалкай. Расклейшчык паволі паўзе вакол тумбы, папяровае ашмоцце ляціць яму на галаў, і небарака ўвесь час дзьмухае пад нос, спрабуючы збіць ашмётак, што прыстаў да лабаціны.

На тумбе чырванее вялікі плакат са Сталіным, які паказвае рукой на дом цёткі Юстыны.

— А я не ведала, што пан Сталін такі высокі, — уражана лапоча па-моднаму апраненая цётка. Яна штодня прыходзіць чытаць свежыя газеты.

— Ды які там высокі. Ён маленькі да рабацiністы, — папраўляе на галаве капялюш укормлены бамбіза.

— Параіў бы пану сцішыцца, — уторкваецца ў размову мужчына ў вайсковым мундуры са слядамі аддзёртых пагонаў на плячах. — Пачуюць падсабачнікі — вомігам рукі скруцяць.

— А што я такога сказаў? — бамбіза мелькам азіраецца.

— У НКВД растлумачаць. Мой сусед вякнуў нешта пра Сталіна — таго ж дня апынуўся на рагу Міцкевіча і Ахвярнай, — чалавек у мундуры стрымана кашляе ў жменю.

Тройца кепска саскрэбла старыя плакаты, і з-за сталінскага азадка тырчыць патыліца Рыдз-Сміглага. «Водза Начэльнага» заўважыў не толькі я.

— А дзе Сміглы? — цікавіцца модная кабета.

— У Румынію збег. На пару з Масціцкім*, — цэдзіць скрозь зубы чалавек у мундуры і, памаўчаўшы, дадае: — Сволачы.

Усе ўтрапёна глядзяць на вайскоўца.

— Сволачы, — паўтарае той ужо з упэўненасцю ў голасе. — Дзядэк ніколі б не збег. Адстрэльваўся б да апошняга патрона. А гэтым і бяды няма. У іх рахункі ў швейцарскім банку.

— Што ўжо Дзядэка згадваць. Чатыры гады як памёр, — уздыхае модніца і мружыцца на пацямнелую ад імжы газету. — Па-расейску, здаецца. Ві-лен-ская пра-у-да, — чытае цётухна па складах, і я з годнасцю тлумачу:

— Па-беларуску, а не па-расейску.

— А ты што, падшыванец, ведаеш беларускую мову? — настаўляе на мяне падмаляваныя вочы модніца.

Замест адказу пачынаю перакладаць па-польску: «19 верасня раніцай войскі Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі ўступілі ў Вільню. Народ хлынуў на плошчы, пакрыў іх жывым, узрадаваным натоўпам. Усе вітаюць Чырвоную Армію…»

— Лухта нейкая, — перабівае модніца, — паглядзі, ці напісана што пра харчы. Калі ўжо іх падвязуць?

— Як жа… падвязуць. У іх там у саміх галадуха, — абуджаецца жаночы голас.

Ліхаманкава аглядаю газетныя старонкі, знаходжу невялічкую зацемку:

— «Часовая ўправа Віленскай акругі папярэджвае ўсіх уладальнікаў крамаў, складоў, рэстаранаў, што цэны на харчы і тавары павінны заставацца на ўзроўні, які існаваў да

* Прэзідэнт Польшчы ў 1926–1939 гг.

прыходу частак Чырвонай Арміі. Усялякае падвышэнне цэн будзе разглядацца як спекуляцыя і варожыя дзеянні, а асобы, вінаватыя ў спекуляцыі, будуць аддадзены пад суд па законах ваеннага часу».

— Вось гэта правільна, — азываюцца колькі галасоў.

Пакуль чытаў, вакол сабралася ладна народу.

— Якая спекуляцыя?.. чым спекуляваць?… крамы і склады пустыя… — бухае, што тая бомба, магутны бас.

Паварочваюся, каб паглядзець, хто там басіць, і бачу маці. Тая стаіць каля пад'езда і шукае мяне вачыма.

Раз на два дні мы ходзім па дровы. Дрывотня знаходзіцца ў глыбіні двара. Такая двухпавярховая спаруда з драўлянай галерэяй на ўзроўні другога паверха. Кожная кватэра мае свой закут. Наш, пад нумарам 13, крайні на першым паверсе.

Дроваў не так і шмат, таму палім на дзень восем паленаў. З апалам у Вільні зусім кепска. Дровы нам прывозіў Ёсель з Рудаміны, цяпер жа саветы перакрылі дарогі, і, каб выехаць ды заехаць у горад на падводзе, трэба мець адмысловы пропуск. Некаторыя цягнуць дровы на сабе, прабіраючыся ляснымі сцяжынамі. Але ці шмат прынясеш на карку?

Іду па засмечаным дзындрай двары і чую малітоўны енк за спінай:

— А свенты Паньсцы!

Наша клець расчынена, а дзверы вісяць наўскасяк, трымаючыся на адной завесе. У клеці, гэта бачна здалёк, не засталося аніводнага палена.

— Познанцы, — вусны матчыны плаксіва закапыленыя. — З'ехалі і дровы прыхапілі.

У крайняй клеці на другім паверсе жылі ўцекачы з Познані. Дзверы там разнасцежаныя, і ў пройме зеўрае шэры прыцемак.

Маці шморгае носам, змахвае слязіну, нядобрым словам згадвае бацьку.

— Змерзнем узімку. А гэты бегае па Вільні, усёршыся, — плаксіва выдае маці «па-простаму». Калі хвалюецца ці плача, маці забываецца на польскую мову і пераключаецца на гаворку родных Лаварышак.

Плятуся дадому і бачу Юзіка. Той стаіць, наваліўшыся плечуком на бляшаную рыну, і грызе зялёны яблык.

— У вас што, забілі некага?

— Дровы скралі.

— Такой бяды. Мая матка штодня са шпіталя пару паленаў прыносіла, — няўцямна, чвякаючы яблыкам, заўважае сябар, — а пазаўчора каля шпіталя вартаўніка паставілі. Нічога не вынесеш. Адзін санітар хацеў прасціradлу прысабэчыць, дык злапалі і ў камендатуру завезлі.

Юзік адкідвае агрызак.

— У цябе малаток ёсць?

«Няйначай, хоча якія замкі пазбіваць, — я гляджу на вераб'ёў, што ўзяліся дзяўбсці яблычны агрызак, — патрапіш у тым Юзікам у гісторыю… таксама ў камендатуру завязуць».

— Ды не хвалюйся ты, — гугнявіць Юзік, выціраючы яблычны сок з падбароддзя, — пойдзем дровы нарыхтоўваць.

Як і мінулым разам, кіруем у бок чыгункі. Яшчэ зусім нядаўна на перакрыжаваннях стаялі савецкія танкі, цяпер іх няма, і толькі каля шпіталя вуркоча рухавіком бронеаўтамабіль. Мінакоў на вуліцах стала больш. Але крамы спрэс зачыненыя. Міжволі спыняюся каля шырокай, з памутнелымі кутамі, вітрыны, углядаюся ў крамнае нутро. Мясная лаўка Шварца. Зачынілася на пачатку вайны. Рыдз натыкаецца на маю спіну.

— Каўбасу тут куплялі, — паведамляю з уздыхам і, згадаўшы пах «Кракаўскай», глытаю густую асцу.

Хлебная крама Ліўшыца, у якую мы ходзім па хлеб, таксама зачынена. Тут сабралася ніштаватая гурма. «Пякарня ад раніцы працавала! Павінны падвесці!» — крычаць у натоўпе.

Ля рэкламнай тумбы — рыхтык такой, як і ля майго дома, — віруе народ, і нехта зычна чытае распараджэнні ды загады.

— «Катэгарычна забараняецца склікаць сходы і нарады, арганізоўваць дэманстрацыі і друкаваць любыя матэрыялы без дазволу Часовай управы», — народ ля тумбы ўражана гамоніць, хтосьці гучна чхае, і ўсе аціхаюць. — «Свабоднае хаджэнне дазваляецца да 8 гадзін вечара. З раніцы хаджэнне па вуліцах…» — калі можна хадзіць ад ранку, не пачулі, бо народ бязладна загаманіў. — «Грамадзянам, якія прыбылі ў

Вільню пасля ўступлення Польшчы ў вайну, належыць вярнуцца на месцы сталага жыхарства. Грамадзяне, месцы жыхарства якіх занятыя нямецкім войскам, мусяць перасяліцца ў сельскія паселішчы Віленскай акругі».

— Мусяць перасяліцца… — мармыча Рыдз. — Куды ж нам перасяляцца? У якія такія паселішчы?

— «Нармальныя заняткі ў школах павінны пачацца…»

— У падвале сядзім, і адтуль выкідваюць, — бубніць Юзік, я торгаю пальцам, каб той аціх, але калі пачнуцца заняткі, так і не пачуў.

— Давядзецца ў школу ісці, — я мацаю свярблівую макаўку: гузак дагэтуль не сышоў.

— А я ў школу не пайду, — адзываецца сябар. — Падручнікі са сшыткамі згарэлі, а новых ніхто не дасць.

Навыперадкі ўздыхаем — я таму, што мушу цягнуцца ў школу, а Юзік таму, што саветы могуць выселіць яго і маці з падвала.

— Ну, дзе твае дровы? — мы выходзім на Каляёвую. Наперадзе вялікі, фарбаваны зялёнай фарбай плот, за якім гучна пыхкае паравоз.

— Ты што, дроў не бачыш?

Толькі цяпер заўважаю: дошкі ў плоце шмат у якіх месцах адарваныя, і праз шчыліны бачныя паравозныя колы і таварныя вагоны. Леваруч плот наогул павалены, і там, пад’ехаўшы задам да пралому, вуркоча маторам крыты брызентам грузавік.

— Учора запрыкмеціў — дзядзькі дошкі цягаюць. Не грэх і нам разжыцца.

— А як спытаюць, дзе ўзялі? Што скажам?

Рыдз азіраецца і, мрукнуўшы: «Што-небудзь скажам», лезе ў шчыліну і пачынае грукаць малатком.

Раз за разам адцягваю дошкі ад плота і раптам застываю з цяжкой дылёўкай на плячы. Брызент на машыне варушыцца, з кодаба скачуць чырвонаармейцы, а яшчэ адзін вайсковец, відаць камандзір, вылазіць кабінкі.

— Эй, давай сюды, — вымалёўваецца ў праломе заклапочаны Юзікаў твар.

Пералажу на другі бок плота. Трое чырвонаармейцаў сцягваюць з кодаба старое, з разнымі ўпрыгожаннямі люстра, а трэці рассоўвае непадатныя вагонныя дзверы. Запіхнуўшы люстра ў вагон, жаўнеры цягнуць з машыны музейнага выгляду канапу з абабітым залацістай тканінай прыслонам, потым піяніна, і ў гэты момант заўважаем што камандзір зыркнуў у наш бок і штосьці сказаў падначаленаму. Даём нырца ў пралом, падбягаем да дошак, прыхоўваемся за кустамі.

Дошкі валачэм дварамі, пакідаючы на зямлі завілыя барозны. З абодвух канцоў дылёвак тырчаць іржавыя цвікі. Хацеў іх загнуць, але Рыдз адгаварыў. Загнеш, а потым цяжка будзе выбіваць. Вось яны і скрабуць зямлю. Шыбую, не падымаючы вачэй, і бачу заляпаныя глінай чаравікі без забарсаў. Перада мной стаіць, шырока рассунуўшы ногі, чарнявы рагвард.

— Адкуль цягнем? — пытаецца «гвардзеец».

— Ад чыгункі, — тлумачыць сябрук. — Жаўнеры плот павалілі, каб машына магла пад’ехаць. А камандзір загадаў нам дошкі прыбраць.

— А навошта іх прыбіраць?

— Бо цвікі могуць скаты прабіць.

Рабочы гвардзеец мацае востры цвік, маракуючы, ці даваць веры Юзікавым словам, — і торгае галавой. Маўляў, цягніце.

«Усё ж такі языкасты гэты Юзік. З такім языком не прападзеш», — захоплена думаю я.

— А калі б рагвард вырашыў праверыць — скралі мы дошкі ці іх нам далі? — я пакутліва крыўлю рот: цвікі непрыемна шоргаюць па бруку, цвелячы і без таго напружаныя нервы.

— Папёрся б да чыгункі, пабачыў машыну і назад вярнуўся.

— А калі б у камандзіра спытаў?

— Якога камандзіра… ды гэтыя рагварды баяцца саветаў больш, чым мая матка.

— Хто вам дазволіў дошкі браць? — сустракае каля дрывотні буркатлівы бацькаў воклік. Бацька навешвае на дзверы новы замок.

Мы страшэнна змучаныя, у далонях стрэмкі, а ў мяне да крыві прабіты цвіком мезены палец.

— Камандзір дазволіў, — кажу, злізваючы кроў з мезенца.

Бацька дакорліва трасе чупрынай, выносіць з закута аднаручную пілу.

Пілуем з Юзікам тоўстыя дылі да самага прыцемку. Піла тупаватая, таму яе грабежнікі і не прыхапілі, а да таго ж Рыдзу трэба распілоўваць на маленькія аскабалкі, бо даўгія не залезуць у печку.

Вячэру гатуем на крадзеных дошках. Яны добра гараць — высахлі на ветры і сонцы, — але ад іх застаецца кіслы дух і непрыемны пах.

— Фарба смярдзіць, — бацька шуруе качаргой у печцы, паварочваецца да мяне: — Дзе нагледзелі?

— Ля чыгункі, на Каляёвай. Саветы плот павалілі, каб машына магла да цягніка пад’ехаць.

— Ці не муку ў цягніку прывезлі?

— Ды не, з машыны старую канапу сцягнулі ды ў вагон закінулі. А потым піяніна.

— Сёння каля Габрэйскага музея ішла, дык саветы адтуль скрыні выносілі. На мітынгах гарлаюць, што яны вызвольнікі, а насамрэч звычайныя рабаўнікі, — на рондалі трывожна ляскоча накрыўка. — Ну добра, спалім мы тыя дошкі. А што далей? Зіма на носе, а ў нас за душой ні палена.

Бацька з робленай роспаччу ўскудлачвае валасы на скронях. Заўсёды так робіць, калі хоча пасмяяцца з маці.

— Смейся-смейся. Паглядзім, што ты рабіцьмеш, як маразы прыціснуць. У кастрычніку прымаразкі абяцаюць, — маці, пырскаючы кроплі на распаленыя колцы, памешвае лыжкай у рондалі.

— У дзядзькі Янкі цэлая гара дроў. Пасярод двара ляжыць, — уключаюся я ў размову.

— Ці мала ў каго што ляжыць, — матчын голас па-ранейшаму незадаволены. — За грошы нічога не возьмеш. Злотымі толькі печку паліць. Дый тых няма.

— А калі абмяняць на цыгарэты? Дзядзька за іх што хочаце аддасць.

Маці застывае з лыжкаю ў руках. Яна даўно ходзіць на Завальную — мяняць цыгарэты на харчы.

— А гэта ідэя, — жвавее бацька. — Зараз напішу яму цыдулку. Аднясеш зранку.

Раніцай, як заўжды, іду да тумбы. Там прыляпілі свежую газету, якую чытаюць услых, прычым уразнабой, у тры глоткі.

— «Народ са слязьмі на вачах сустракаў Чырвоную Армію — армію-вызваліцельніцу». — «На скурзаводзе Штэйна адбыліся выбары ў Рабочую Гвардыю». — «Жыхары Заходняй Беларусі зазналі шчасце жыць пад залатымі промнямі Сталінскай Канстытуцыі…»

— Чулі гэтыя казкі пра райскую канюшыну! — гукае нехта. — Ці пішуць што пра газу ды вугаль? На мітынгу абяцалі падвезці, і хвастом накрыліся.

Знянацку ўсе паварочваюць галовы ў мой бок. Я застываю ў непаразуменні і азіраюся. Па вуліцы валакуцца два рагварды, а за імі чырвонаармеец з вінтоўкай за плячыма. Вінтоўкі ў саветаў даўгія, няўклюдныя, каранаваныя вострымі штыхамі, і я, пазіраючы на чырвонаармейцаў, кожнага разу дзіўлюся — як яны не павыколвалі адзін аднаму вочы.

Патруль падыходзіць да людскога збою, і хтосьці жартам, тэатральна пастаўленым голасам чытае:

— «Лепшыя з лепшых уступаюць у рады Рабочай Гвардыі, каб захоўваць у горадзе рэвалюцыйны парадак. Між тым адзначым, што асобным варожым элементам удалося прабрацца ў Рабочую Гвардыю. Так, у 3-і батальён пралезлі былы сяржант польскай арміі Сасноўскі ды віленскі паліцэйскі Рынкевіч».

Грамада глядзіць на рагвардаў, як бы высвятляючы — ці не Сасноўскі з Рынкевічам стаяць пасярод вуліцы?

У Зарэчча іду не напрасткі, а даю кругаля. Ахвота прайсціся па цэнтры ды зірнуць, што там робіцца.

На Міцкевіча вобмаль мінакоў і зусім няма машын. Машын паменела адразу ж, як пачалася вайна: прыватны транспарт рэквізавалі на карысць войска. Зараз па Вільні сноўдаюць толькі савецкія грузавікі. Адзін з іх, крыты брызентам, стаіць

каля гандлёвага дома братоў Яблкоўскіх. Чырвонаармейцы выносяць з магазіна вялізныя скрыні і, азіраючыся, спехам запіхваюць у кодаб. Пяціпавярховы гмах зеўрае на свет сваімі цёмнымі вокнамі. У маленстве я любіў хадзіць сюды з маці і прасіў купіць цацку, а маці цягнула за руку і зацята мармытала: «Як усё дорага». А аднойчы наогул згубіўся ў натоўпе, і па радыё абвясцілі: «Хлопчык у сініх майтках знаходзіцца ў пакоі адміністрацыі». На рагу Міцкевіча і Ахвярнай, дзе месціўся гарадскі суд, цяпер месціцца НКВД. Дома гэтага маці страшэнна баіцца. Ды не толькі яна. Вунь і мінакі, якія ішлі па ходніку, перабягаюць на другі бок вуліцы. Перабягаю і я, краем вока пазіраючы на вайскоўцаў у даўгіх шынялях, якія стаяць каля галоўнага ўвахода.

Над Кафедральным пляцам уздымаецца лёгкі дымок. Гэта чырвонаармейцы расклалі перад саборам вогнішча і вараць у казане сёрбанку. Адзін з чырвонаармейцаў, худы і вузкавокі, памешвае ў казане лыжкай, падміргвае мне мангольскім вокам, і нейкая старая пані, што дыбае поруч, спалохана жагнаецца: «Анёле Божы…»

Па старой завядзёнцы спыняюся на мосце праз Віленку. Рачулка ўсё так жа бруіцца між кустоў і ўсё так жа расчэсвае даўгія космы водарасцяў. А вось Бернардзінскі сад змяніўся. Ліпы скінулі зялёныя шаты і марнеюць на пагорку, счарнелыя і змрочныя, як тыя мніхі з капюшонамі на галовах, якіх бачыў улетку ля Станіслаўскага касцёла. Змяніўся і колер вады ў рэчцы. Дагэтуль рака мела брунатную водцень, а тут раптам прасвятлела, адкрыўшы вачам мазаіку рознакаляровых каменьчыкаў на дне. Я задзіраю галаў. Шчыльная апона хмараў паволі расхінаецца, саступаючы месца ружовай смузе, і ў ружовае акенца зазірае бялёсае сонца. Вада ў Віленцы бруіцца больш імпэтна, мазаіка на рачным дне ажывае, пачынае варушыцца, а на самой вадзе адбіваюцца зырка-змяістыя бліскі. Гэта сонца напярэдадні халоднага кастрычніка, пакінула свой аўтограф.

Паленне ў дзядзькавым двары складзенае пад страхою ў вялізны касцёр, і я пацізаю рукі.

Дзверы доўга не адчыняюць, нарэшце бразгае клямка, і ў пройме мільгае ўстрывожаны твар.

— О-о-о, стары сябрук, — басіць гаспадар, і я заходжу ў прыцемныя сені.

Колькі бываю ў гэтай хаце, столькі дзіўлюся колькасці кніг, якія тут сабраныя. Кнігамі забітая шафа, іх стосы мініяцюрнымі небасягамі высяцца на пісьмовым стале, поўняць бамбукавую этажэрку, а важкі фаліянт прымасціўся на краі квадратнай кадзі, у якой лапушыцца «мядзведжая лапа». У нас некалі расла такая, ды ссохла.

— Ну як, спадабалася? — пытаецца дзядзька Янка, пабачыўшы, як я цягну з-за пазухі «У глыбі Палесся». Кніжку я так і не прачытаў. Агораў толькі некалькі старонак.

Неакрэслена перасмыкваю плечукамі.

— Ты хоць прачытаў? Хто там галоўны герой?

— Лабановіч.

— А хто ён такі?

— Вясковы настаўнік, — мармычу хуткагаворкай і, папярэджваючы іншыя пытанні, працягваю бацькаву цыдулку.

Дзядзька разгортвае паперку, упрыкмет насупліваецца.

— І што, усе дровы пакралі?

— Усе, — адказваю, заўважаючы, што дзядзькаў твар праяснеў, як тое неба над Віленкай.

— А шмат іх у вас?

— Каго?

— Цыгарэт.

— Шмат, — я выцягваю з левай кішэні пакамечаны па краях пачак.

— Ух! — выдае дзядзька Янка, прагна нюхнуўшы пачак. — Да вайны «Егіпецкія» паліў, цяпер і «Гурніку» рады.

Дзядзька прыпальвае цыгарэціну, пускае ў столь струмок дыму і тут жа ляпае мяне па плячы: «Хадзем».

Мы выходзім на двор, і дзядзька, не выпускаючы цыгарэты з зубоў, накладае мне ў абярэмак палення.

— Столькі знясеш?

— Як жа я панясу? Дарогі не відаць, — палены накладзены вышэй галавы.

— Кідай на зямлю. Што-небудзь прыдумаем, — дзядзька выцягвае з кішэні даўгую вяроўчыну.

Спрытныя пальцы абвязваюць абярэмак з аднаго боку, потым з другога, пакінуўшы вялікую пятлю пасяродку. Закідваю пятлю на плячук.

— Дацягнеш?

— Дацягну, — кажу без асаблівай упэўненасці: вяроўка балюча вярэдзіць плячо.

— Скажаш бацьку — паслязаўтра прывязу. У абед. У суседа падвода будзе вольная, — а калі выходжу за весніцы, дзядзька крычыць наўздагон: — У абмен на цыгарэты, грошай не трэба!

Пакуль цягнуў паленне, перакідваючы з аднаго пляча на другі, мінакі сто разоў спыталі: дзе прадаюць дровы? Перад самым пад'ездам скідваю цяжар на брук, і ў мяне адчуванне, што нейкая сіла цягне ўгору.

На тумбе з'явілася новая афіша: «У кіно "Эдэн" савецкі фільм "Вялікі грамадзянін"». Каля тумбы круціцца мой аднакласнік Міцька Шверубовіч. Міцька самы высокі ў класе, і дзякуючы цыбатым нагам займеў мянушку Чапля.

— Дзе купіў? — здалёк гукае Міцька.

Абрыдла адказваць на такое пытанне, таму строю гімору пакутніка, і Чапля, падышоўшы, панылым тонам паведамляе:

— Заўтра ў школе заняткі пачынаюцца.

Да пад'езда іду ледзь жывы, і ўжо не нясу дровы, а цягну за вяроўчыну. «Ці гаварыць маці пра пачатак заняткаў?» — менавіта гэтая думка, а не цяжкая ношка, канчаткова знясіліла. Маці казала, што ў бальшавіцкую школу не пусціць. А як возьме ды выправіць? А як пойдзеш, калі трэба бацьку дапамагчы дровы выгрузіць ды ў дрывотню занесці? Два тыдні ў школу не хадзіў, прапушчу яшчэ адзін дзянёк. Думка такая надае сілы. Увайшоўшы ў пад'езд, наверх не іду. Спускаюся ў падвал, стукаю ў дзверы Юзікавай «кватэры» і, перадаўшы сябру два палена, паведамляю, што паслязаўтра ў абед пад'едзе падвода з дровамі і можна будзе разжыцца якім абярэмкам.

Дзядзька Янка толькі пад'язджае да дрывотні, а з дома ўжо выбягаць людзі і пытаюцца, ці прывязе ён ім дровы. Лядачы,

шарай масці конік, які запрэжаны ў падводу, гучна пырхае, а дзядзька роблена заняпалым голасам тлумачыць, што і сам не ведае, як працягнуць да вясны, бо дроваў у яго зусім няшмат.

— Не памрэм з галадухі, дык ад холаду дакладна скалеем, — шамкае старая цётка ў накінутым на плечы палітоне. Я яе ўпершыню бачу. Відаць, уцякачка. — І ў Новым Свеце ўзяліся дрывотні чысціць. Мужчыны сталі па чарзе ў іх начаваць і злапалі двух. А яны, як аказалася, з рабочай гвардыі.

Гамузам — я, Юзік, маці з бацькам і дзядзька Янка — цягаем паленне з воза ў дрывотню, а калі людзей сабралася з добры тузін, маці не вытрымлівае і са злой весялосцю выдае:

— На заводах штодня мітынгі, а цяпер ля дрывотні мітынгуеце?

Крыху дроваў пакідаем на возе. Юзіку за працу.

Навязаўшы каня, дзядзька завітвае да нас.

Дровы цягалі подбегам, гэта дарэшты змарыла, і я, не зняўшы чаравікаў, валюся на тапчан.

— Раз, два, тры… — лічыць бацька пачкі, якія з ціхім шолахам падаюць на стол. Падаюць даволі доўга, нарэшце дзядзька прамаўляе:

— І пачак прэміяльных.

— Ну што там у свеце чутно? — пытаецца неўзабаве бацька.

— Нічагусенькі не чутно. Батарэі селі.

— Ну а ўсё ж такі?

— Варшава і Модлін капітулявалі.

— Ну, гэта мы ведаем.

— Працоўныя Заходняй Беларусі цяпер жывуць пад жыццядайным Сталінскім сонцам. І гэта вы ведаеце? — усё тым жа жартаўлівым тонам прамаўляе дзядзька Янка, і тут жа сур’ёзнее: — Прафесара Якавіцкага арыштавалі.

— Божухна, знайшлі ворага. Жанчын лекаваў чалавек, — шморгае носам маці.

— Ну, а як у вас на заводзе? — дзядзька Янка пазірае ў матчын бок.

— Учора мітынг быў. Спачатку пра Сталінскае сонца казалі і што мы цяпер усе сталі свабоднымі ды шчаслівымі, а

задалі пытанне: калі працаваць будзем? — сказалі, што як прывязуць сыравіну, так і пачнём.

— А пакуль не прывезлі, што рабіць збіраецеся?

— Новы дырэктар паабяцаў выпуск прадукцыі мэблевай тэматыкі наладзіць. Да вайны радыёпрымачы рабілі, па сорак тысяч штук у год, а зараз збіраюцца ўслоны гламэздаць.

— Недзе там бутэлька прыхаваная… гарэлачнай тэматыкі. Не перашкодзіла б гэтую справу абмыць, — з ліслівым прыдыханнем кажа бацька.

Маці корпаецца ў буфеце, ставіць на стол пачатую пляшку гарэлкі. Мне гэта бачна, бо фіранка, якая вісіць на дзвярах катуха, напалову адсунутая.

Цуркае гарэлка ў шклянцы, і дзядзька Янка, хукнуўшы ў далонь, кракае:

— Ну… каб добра гарэлі!

Штонядзелі маці ходзіць у касцёл і прачынаецца раней звычайнага. Сёння нядзеля. Я таксама прачнуўся і слухаю, як маці ўстае з ложка і як яе голыя ступакі ліпнуць да халоднай падлогі. Маці насоўвае лямцавыя апоркі, ідзе да печкі, пстрыкае запалкай. Сухія трэскі стракочуць, як восеньскія сойкі, чырвонымі плямамі мітусяцца на столі, робяць жывымі вясельны фотаздымак бацькоў на сценцы ды памаранчавы гарбуз, які грувасціцца на буфеце. Яго надоечы прынесла цётка Юстына. Даўно прагну пакаштаваць гарбузовай кашы, але маці кажа, што згатуе яе, як надарыцца нейкая святочная падзея.

«І ахвота маці падымацца на золку і цягнуцца ў касцёл», — з гэтай думкай закідваю рукі за патыліцу. Вунь, бацька пахрапвае і бяды не ведае. А калі і ходзіць у царкву, дык толькі на Вялікдзень. Мая лаварышкаўская бабця і дагэтуль бядуе, што яе дачка пабралася з праваслаўным. І жартам называе зяця бальшавіком.

Маці сядзіць на зэдліку каля печы, утрапёна глядзіць на агонь, які тым часам паспеў зжаўцець, і жоўтыя вогнікі жвава блукаюць на кудзерках матчыных валасоў. На лесвіцы чутны гулкія крокі. Кудзеркі страсянаюцца, спрабуючы скінуць

дакучлівыя вогнікі. У дзверы нягучна грукаюць, і бацька, кінуўшы храпці, устрывожана рыпае ложкам.

— Свае, — паўшэптам азываюцца з лесвічнай пляцоўкі.

Дзядзька Янка спатыкаецца на парозе, зморана перазводзіць дых. Ды так, што варушыцца фіранка на дзвярах.

— Ну, з чым завітаў? — пытаецца бацька.

— Антона арыштавалі.

Запаноўвае цішыня, якую перарывае пляскание босых бацькавых ног.

— Ты глядзі… і выступ на сходзе не дапамог. Памятаеш, як даваў перуноў польскім памешчыкам і капіталістам? — бацька, трымаючы рукой спаднікі, нервова прайшоўся вакол стала.

— Тэпці! — спалоханым фальцэтам крычыць маці, ляпае імі па падлозе, і бацька рашуча адмахваецца.

— А можа, адпусцяць? — пакрыўджана выдыхае маці.

— Ды не, з энкавэдэ проста так не адпускаюць. А часцяком наогул не адпускаюць, — дзядзька Янка на мігах папрасіў у маці дазволу прыпаліць, і, зламаўшы тры запалкі, выпусціў шызую аблачыну, якая паплыла да печкі. — Ляцім невядома куды, па непрадказальнай траекторыі.

— А ты ці не ў Купрыянішкі ляціш? — бацька з неахвотай насоўвае тэпці.

Дзядзька такога пытання, падобна, не чуе.

— Учора еду ад вас на кані. Гляджу, якісьці знаёмы акулярамі свеціць. Прыглядзеўся — а гэта Вячка Багдановіч. З рэдакцыі «Віленскай праўды» ішоў. Ён пра Антона і паведаміў.

— Днямі бачыў Вячку, — насуплена бурчыць бацька. — Ганарыцца, што яго саветы з Картузаў выпусцілі.

— Каго-каго, а яго саветы арыштоўваць не будуць. А нас з табой… — дзядзька Янка абрывае фразу. — Карацей, чакаем два-тры дні. Калі яшчэ кагосьці з нашых возьмуць, давядзецца хавацца. Палякі наогул дома не начуюць. У энкавэдыстаў завядзёнка: хапаць па начах. Так што ўначы ўсе тыя лекарывыкладчыкі па падвалах ды куратніках хаваюцца. Каго не пабачу — ва ўсіх пысы азызлыя з недасыпу.

— Мо сапраўды на які час у Лаварышках схаваешся? — з пакутаю ўздыхае маці, калі дзядзька выкульваецца з хаты. —

А там і мы пад'едзем. Дый страху заадно адрамантуеш. У трох месцах працякае.

— Не мітусіся, — бацька ў задуменні пацірае лабаціну. — Янка любіць наганяць паніку. Пачакаем пару дзён — тады будзем штосьці вырашаць.

Учора хадзілі на рыбу. Пайшлі на Вяллю а пятай раніцы, як скончылася каменданцкая гадзіна. Бацька ведае адну мясціну ў Закрэнце, дзе добра бяруцца акуні. Там і закінулі вуды. Цэлы дзень на беразе адседзелі, змерзлі як цуцыкі, але рыбы налавілі больш як паўвядра — і акунёў, і платвіц. Падчапілі нават невялічкага шчупака. Звечара маці пачысціла рыбу, а сёння ўзялася гатаваць юшку.

Юшка апетытна пахне, я з нецярплівасцю прыўзнімаю накрыўку, а пачуўшы матчын воклік «Не чапай, хай даварыцца», — іду да акна.

На вуліцы пуста, калі не лічыць Міцьку Шверубовіча, які стаіць перад тумбай, утаропіўшыся ў плакат з рэкламай савецкага фільма. На Міцькавым карку боўтаецца заплечнік, — сказаў, відаць, маці, што пайшоў у школу, а сам мерыцца пайсці ў кіно. Прыкладаю далонь да разяўленага рота, збіраючыся салодка пазяхнуць, і бачу дзядзьку Янку. Дзядзька шыбуе па ходніку і ўвесь час азіраецца.

— Дзядзька Янка! — крычу праз плячук, і маці, у прадчуванні кепскіх навін, змучана вохкае.

— О! Пад самую юшку паспеў! — з робленай бадзёрасцю выдыхае бацька.

— Не да юшкі, браток. Ноччу Самойлу ўзялі… і Багдановіча.

— Багдановіча? — бацька бязвольна апускаецца на крэсла. — Ён жа кагадзе з Картузаў выйшаў…

— Самойла? Той стары… з бародкай? што з сынам прыходзіў? — усхліпвае маці.

Дзядзька Янка здымае капялюш, з роспаччу ў вачах прылашчвае валасы.

— Іх усіх у Старую Вялейку звозяць. А некаторых у Менск, — дзядзька плюхаецца на крэсла, грукае кулаком па

стале, і мы з маці ўздрыгваем. — Не, вы чулі? Галоўнымі ворагамі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з’яўляюцца свядомыя беларусы. Каб вы, падлы, спрахлі разам са сваім вусатым правадыром.

— У маёй знаёмай муж у банку працаваў, — маці гатовая расплакацца, — хаваўся па начах у адрыне. Змёрз дарэшты, захварэў запаленнем плюцаў, дык хворага з пасцелі ўзялі, — накрыўка на рондалі пачынае бразгатаць, юшка праліваецца, гучна сыкае, але маці не чуе — плача, заціснуўшы рот ражком хатняй хусткі.

— Ты дзе начаваў? — як не сваім голасам пытаецца бацька.

Дзядзька падымаецца, нацублівае капялюш.

— Я б і табе раіў дзе-небудзь прыхавацца. У цябе ж цешча ў Лаварышках. Заўтра ад ранку і шыбуй. А то і сёння не позна. З горада выбірайся праз Дунайку. Там у іх няма пастоў. І прабірайся ляснымі дарогамі, на полацкі тракт не выходзь.

Дзядзька бярэцца за ручку дзвярэй:

— Пайшлі… выйдзем на хвілю, — госць хоча паведаць бацьку якісьці сакрэт і з кволым смяшком на вуснах звяртаецца да маці: — Кульчыцкую ў Менск забралі. Будзе там аперэткі спяваць.

— Хоць на адну сучку ў Вільні менш стала, — гамзае маці скрозь слёзы, здымае накрыўку з рондаля, тая падае і з грукатам коціцца па падлозе.

Ноччу не спім, уздрыгваючы ад кожнага зыку. Бацька збіраўся падавацца ў Лаварышкі адразу па абедзе і сабраў кайстру з бялізнай, ды маці адгаварыла. Сказала, што ўсялякія сур’ёзныя справы трэба рабіць з раніцы. Цяпер бацькі, пачуўшы крокі на вуліцы, навыперадкі зыркаюць у акно.

Знадворку свеціць белы ветах, заліваючы пакой серабрыстым святлом, і на яго тле бацькава кайстра, якая грувасціцца на стале, здаецца маленькай, невыразнай формы пачваркай.

Я ляжу нерухома, углядаючыся ў цёмную столь, і неўзабаве пачынаю насцярожана лыпаць павекамі. З вуліцы далятаюць нечыя шаргатлівыя крокі. Гэтым разам да акна падбягае маці.

— Патруль. Пастаялі і пайшлі да Пагулянкі.

— Чаго бегаць… энкавэдысты на машынах прыязджаюць, — гэтак жа ціха адказвае бацька. — Трэба было ў дрывотні пераначаваць.

— Ага, у дрывотні, — матчын голас убіраецца ў сілу, — каб запаленне плюцаў падхапіць.

Навокал пануе наструненая ціша. Я нават баюся дыхаць. Дзесьці далёка — ці то на яве, ці то ў сне — нараджаецца здушаны зык. Усё адно як дзіцё плача, убіўшыся тварам у падушку. І вось ужо дзіцячыя енкі гучаць непадалёку, і я прачынаюся.

— Машына! — з панікай шапоча маці.

Залятаю ў пакой і, наляцеўшы на бацьку, адчайдушна гукаю:

— Бяжым у падвал!

На злом карка, басаној і ў адной кашулі, лячу па лесвіцы, і ў скронях, разам з гарачай крывёй, пульсуе думка: «Хутчэй бы адчынілі!»

Косткі пальцаў стукаюць па бляшаных дзвярах з надпісам «Рамонт абутку», і тыя адразу ж адчыняюцца. Мы з бацькам праслізгваем у дзверы, заміраем нерухома. У цёмным куце хтосьці варушыцца, і я заўважаю, што тут, апрача Юзіка і ягонай маці, яшчэ два чалавекі — мужчына і жанчына. Прыглядаюся і пазнаю суседзяў цёткі Юстыны.

Нос казыча пах абутковага клею, а пяткі смыляць ад холаду цэментавай падлогі.

— Насунь тэпці, — звяртаецца да мяне Юзікава маці, потым падае нейкі абутак бацьку, і той сарамліва ціснецца да дзвярэй, паціраючы далонямі споднікі.

У суседнім доме лямантуе жанчына.

— Пана Шверубовіча вяжуць, — азываецца з цёмнага кута сусед цёткі Юстыны, і мяне пачынае даймаць дрыготка.

Бацька трасе за плячук:

— Бяжы дахаты. Змёрз увесь. Я пазней прыйду, як машына ад’едзе.

Маці сустракае на парозе. Тыцкаюся лбом у цёплыя грудзі, дрыжу ўсім целам, і маці лашчыць мяне па спіне.

На стале — там, дзе ляжала бацькава кайстра, — стаіць школьны заплечнік. Учора да нас прыходзіла настаўніца і пытала, чаму не хаджу ў школу. Сёння мусіў пайсці, але ўсю ноч даймалі дрыжыкі, і маці, памацаўшы раніцай мой лоб, прамармытала: «Дабегаўся басанож».

Зранку хоць і калаціла, ды злёгку, цяпер жа трасуся як асінавы ліст, і лоб гарыць як варам апараны. Укруціўся ў дзве ватныя коўдры, але не даю рады сагрэцца. І, што дзіўна, заплечнік варушыцца ўваччу. То пашыраецца ў памерах, то змяншаецца, то расплываецца бруднай плямай.

Маці запарыла шклянку ліпавага квету, а сама пайшла на завод. Даведацца, ці будзе той працаваць. Адвар, ляскаючы зубамі па шклянцы, выпіў, але мне толькі горш зрабілася. Каб пазбыцца дрыжыкаў, з галавой зашываюся пад коўдру і чую, як ад Пагулянкі з перарывіста-плаксівым гудам едзе легкавушка. Энкавэдысты! Тапчан круціцца пада мною, я задыхаюся, адкідваю коўдру, і слых поўніццааднастайным гудам — ужо не адна, а сотні чорных легкавушак едуць да нашага дома.

Лоба кранаецца халодная рука, і я з цяжкасцю раздзіраю павекі. Маці.

— Агнём гарыш. Горайка ты маё чубатае.

У кватэры прыцемна. Маці, не здымаючы палітона, падкідвае трэсак у печку, гучна бразгоча чайнікам. А можа, і не гучна. Проста кожны, нават кволы, гук б’е ў вушы, і мне ад таго робіцца страшна.

— Выпі, — зубы б’юцца аб край шклянкі.

Гарбата з малінавым сочывам. Маці ўлетку згатавала сочыва аж тры слоікі. Два я ўжо з’еў, а трэці яна прыхавала.

Тапчан ужо не круціцца, але галава гарыць агнём, а па спіне збягаюць струмені гарачай вады. Вочы засціць пара. Гэта мы з бацькам мыемся ў лазні на Пагулянцы. Бацька шугае на распаленыя камяні конаўку квасу, у твар б’е пякельная гарачыня. Вада, што ліецца аднекуль згары, робіцца ўсё больш халоднай, і я размежваю павекі. Глыбокая ноч і мёртвая ціша. Мацаю млявай рукой мокрую чупрыну і клічу маці.

— Як з лазні выкуліўся, — матчыны пальцы мацаюць грудзіну, — кладзіся пакуль на маю пасцель, буду бялізну мяняць.

Не адчуваючы ўласнага цела, з матчынай дапамогай, раблю пяць крокаў і кулём падаю на ложак.

Мяне абуджае прыдушаны шэпт:

— Цэлую ж ноч гарэў, а потым пацеў. Два разы бялізну мяняла.

— У мяне каліва мёду засталося. Магу прынесці.

Гэта маці перамаўляецца з цёткай Юстынай.

— Ну, а на працу хадзіла? Калі ўжо пачняце працаваць? — усё такім жа здушаным шэптам пытаецца цётка.

— Як жа… пачнём. Прыходжу ўчора, а там варштаты на машыны грузяць. Завод з усім майном і прычындаллем у саветы перавозяць. А каля заводскай управы Міхалеўская круціцца. З майго цэха. Ёй прамову напішуць, а тая на мітынгах чытае. «Што, — гавару, — дагарлалася?» А яна ў адказ мацюгамі. Саветы ёй нейкую пасаду паабяцалі.

— Во грабежнікі… А пра шчаслівае жыццё гаварылі, — цётка Юстына гучна смаркаецца. — Без працы можна неяк пражыць, а як мне жыць… без Тадэка?.. Нявестка ўчора прыходзіла. Разам паплакалі, — у дзверы нясмела стукаюць.

— Ён спіць, — прыглушана шапоча маці, і я крычу са свайго катуха:

— Ужо прачнуўся!

Юзік доўга блытаецца ў фіранках, якія маці шчыльна зацягнула.

— Ну як ты?

Перасмыкваю плечукамі.

— Учора на мітынг хадзіў, — голас Юзікаў поўніцца жарсцю.

— А дзе быў мітынг.

— На Лукішскім пляцы.

— І што там было?

— Ды я ззаду стаяў, нічога не чуў і не бачыў. Хацеў на дрэва залезці, каб штосьці ўгледзець, ды жаўнер схапіў за калашыну і на зямлю сцягнуў.

Сябрук захоплена распавядае, як ён брыкаўся, не жадаючы злазіць з дрэва, але я яго перабіваю:

— Слухай, а што за людзі ў вас начавалі?

— У доме насупраць жывуць. Ты ж іх павінен ведаць. Ва ўніверсітэце выкладчыкамі працуюць. Баяцца, што саветы арыштуюць, таму на ноч да нас перабіраюцца. Пані Ядвіга — ну… што ў нас начуе — прапанавала, як зіма настане, да іх перабірацца.

Тым часам цётка Юстына выпраўляецца дахаты, і маці адгортвае фіранку:

— Ну, Юзік, прыходзь пазней. Буду свайго хворага карміць ды лекаваць.

Тры дні ляжу ў ложку і не магу ачомацца. Гарачкі няма, але апанавала страшэнная немач, і, калі ўстаю з пасцелі, падлога зыбаецца і плыве пад нагамі. Карціць што-небудзь пачытаць, ды ў катуху цёмна, і мы памяняліся з маці ложкамі. Ляжу і гартаю «Рыцэж непакаляны» — нядошлы часопісік, які выпісвае цётка Юстына, а прачытаўшы, прыносіць нам. Апошні перад вайной нумар. На вокладцы польскі жаўнер пагрозліва пазірае ўдалеч, аберуч схапіўшыся за карабін. «Бог апякуецца над Польшчай» — чытаю на наступнай старонцы, і ўвушшу гучаць словы дзядзькі Янкі: «На Бога і Францыю спадзявайся, але і сам старайся». Маці, праўда, па-іншаму кажа: «Працуй, паляк-нябожа, тады і Бог паможа». Хаця і спаў трое сутак, аднак рот заходзіцца ад позеху. Дарма аддаў беларускую кнігу, не дачытаўшы. Зараз бы пачытаў. Там малады настаўнік ехаў на радзіму — спачатку на калёсах, потым цягніком, — выпадкова сустрэў старога сябра, яны зайшлі ў мястэчка і сталі граць з мясцовымі ў карты. І так доўга гралі, што давялося адкінуць кніжку.

Маці спіць у катуху. Змучылася, начамі каля мяне бегаючы.

Па лесвіцы хтосьці тупае. Цётка Юстына. Звычайна цётка стукаецца як і Юзік, асцярожна, з перарывамі, а тут грукае як мае быць.

Маці — улякнутая, расціраючы далонню прыспаныя вочы, — выбягае з катуха, шорхае па падлозе голымі пяткамі.

— Пачуў Пан Бог нашы малітвы! — цётчын голас дрыжыць, хрыпіць і зрываецца, а жалобная хустка збілася на патыліцу. — Нас Літве перадаюць!

— Якой Літве?

— Ковенскай, якой жа яшчэ.

— Усю Польшчу?!

— Ды не, адну Вільню.

— А чаму нас Літве перадаюць, а не Латвіі? — пытаецца маці пасля хвілі роздуму.

— Ды дзе тая Латвія… А Літва вуньдзека, за Ландваровым.

— Шкада, — летуценна прамаўляе маці. — У Латвіі заводы, дарогі, культура. Нашы інжынеры ў Рыгу ездзілі, на такі ж радыёзавод. Казалі, там вытворчасць, як у Амерыцы.

— Ты што, тыя заводы есці будзеш? У літоўцаў вэнджаныя гусі, кілбас дзесяць гатункаў, сала з кменам.

Цётка з маці выкульваюцца з кватэры. Вырашылі падзяліцца навіной з суседкамі. І тут жа ў дзвярной пройме паўстае ўскудлачаны Юзік.

— Чуў? — азываецца сябар ад парога.

— Чуў, — адгукаюся я, і дадаю: — Можа, гэта плётка?

— Якая плётка! Усе толькі пра Літву і гамоняць. І ў газеце пра тое напісана.

Звешваю з ложка голыя лыткі.

— Будзь сябрам, прыцягні тую газету.

— Здзерці? З тумбы? — сябар сунецца да акна. — Можна. Якраз там нікога няма. Адзін Міцька Шверубовіч афішу чытае. Саветы яго бацьку забралі, а ён на іхныя «кіны» бегае.

Усё ж такі Юзік добры хлопец. Што ні папрасі — усё зробіць. І з цыгарэтамі файна атрымалася. Маці штодня на Завальную ходзіць, на хлеб іх мяняе. Шкада, толькі пяць пачкаў засталося.

Сябар кідае на ложак дзве газеціны. «Віленская праўда». Распраўляю на каленях пакамечаную, з адарванымі ражкамі, газету. «У дружнай сям'і народаў Савецкага Саюза будзем будаваць сваё радаснае і шчаслівае жыццё». «Звяртаемся да Вас, родны наш бацька і правадыр…» «Гастролі ў Вільні аркестра беларускіх народных інструментаў». Пра Літву нічога няма.

— А гэта хто такі, побач са Сталіным? — Юзікаў палец тыцкаецца ў партрэт вайскоўца.

— Маршалак Варашылаў. Савецкі Рыдз-Сміглы.

Бяру другую газету, уголас чытаю:

— «У мэтах замацавання дружбы паміж СССР і Літвой горад Вільня і Віленская вобласць перадаюцца Савецкім Саюзам Літоўскай Рэспублiцы».

— А калі тыя літоўцы з'явяцца? — Юзік зразумеў усё без перакладу.

Акідваю вачыма артыкул, паціскаю плячыма:

— Не напісана.

— У савецкую школу не пайшоў, не пайду і ў літоўскую, — сябар ківае на мой заплечнік. — Пані Ядвіга, якая ў нас начуе, казала, што літоўская мова вельмі цяжкая. І як на ёй вучыцца?

## III

Усё ж такі мусіў пайсці ў школу. Вучымся па-польску, па старых падручніках. Вучняў у нашым класе засталося менш за палову. Астатнія падаліся з бацькамі на вёску, каб перажыць ліхую часіну.

Літоўцы так і не з'явіліся, і ад бацькі няма ніякіх звестак. Выпраўляўся ў Лаварышкі, абяцаў ліста перадаць. Ходзяць жа людзі з тых мясцін у Вільню. Але так і не перадаў. І маці з тае нагоды ўсю ноч круціцца на ложку і цяжка ўздыхае. Вось і зараз, вярнуўшыся са школы, запытальна торгаю падбародкам, маўляў, ці ёсць што ад бацькі, і маці апускае вочы.

— Давай у нядзелю туды злётаю! — я скідваю долу заплечнік.

Мы з бацькам у Лаварышкі безліч разоў ездзілі. Нарачанскім арбонам. А мінулым летам вырашылі пехатой прайсціся. Дайшлі да Міцкунаў, а там нас знаёмы лаварышкавец на калёсы пасадзіў. Так што дарогу добра ведаю.

— Бацька знік, і ты хочаш знікнуць? Саветы ўсё перакрылі. Па горадзе ідзеш, і то пропуск патрабуюць, — памаўчаўшы, маці шапоча: — і калі ўжо тыя чортавы літоўцы з'явяцца?

З цікавасцю зыркаю ў акно. Хаця толькі што прайшоўся па вуліцы, з акна яна выглядае больш цікавай. Каля тумбы нікога няма. «Віленскую праўду» хоць і вывешваюць, але яе ніхто не чытае, бо пра Вільню там не пішуць. Друкуюць даўжэзныя спісы нейкіх дэпутатаў ды заклікаюць ісці на вы-

бары. На перакрыжаванні, як і раней, стаіць чырвонаармеец са сцяжком у руцэ. Учора ён стаяў без працы, пазяхаў ды паглядаў на мясцовых дзяўчат, а сёння машыны едуць адна за адной, і жаўнер увесь час махае сцяжком, паказваючы, куды трэба паварочваць. Адзін з грузавікоў, з брызентавай будай на кодабе, спыняецца, жаўнер ускоквае на падножку, штосьці тлумачыць кіроўцу. Машына кіруе ў наш бок, і я цісну скронь да шыбы, спрабуючы ўгледзець, што вязуць пад брызентам. Краем вока бачу, што там, шчыльна прыціснуўшыся адзін да другога, сядзяць жаўнеры.

…Ноччу нас абуджае няўцямны гуд і жалезны ляскат. Мы з маці падаёмся да акна. На перакрыжаванні, у кволым месячным святле, ідуць вайсковыя шыхты, а за імі кратаецца, ляскаючы гусеніцамі, танк.

— Ці не літоўцы аб’явіліся? — шапоча маці.

Танк савецкі, і я трасу галавой.

— Людзей пахапалі, завод скралі і ўпрочкі падаліся, — маці са стогнам кладзецца на ложак.

— А чаму саветы ноччу з’язджаюць? — я праводжу танк неадрыўным позіркам.

— А зладзеі ўсё па цёмнаму робяць, — маці адварочваецца да сцяны і здушана плача.

У школу ходзім з Міцькам Шверубовічам. Штоpанку падыходжу пад ягоныя вокны, свішчу ў чатыры пальцы. Сёння ж Міцька сам сустракае мяне каля пад’езда.

— Чуў, бальшавікі ноччу з’ехалі.

— Ведаю, — адказваю без усялякай ахвоты і ўбіваю галаву ў плечы.

Наперадзе, па Вялікай Пагулянцы, цугам ідуць вайскоўцы. І йдуць не проста так, а коцячы поруч ровары.

— Літоўцы! — лапоча Чапля, і мы бяжым насустрач цугу.

Паспяваем убачыць толькі апошніх раварыстаў. Следам за імі, нервова тузаючыся і засцячы Пагулянку шызым дымам, рушыць маленькая танкетка — з кулямётам на вежы замест гарматы. Мы з Міцькам сунемся бліжэй, каб лепш разглядзець гэтае дзіва, і бамбіза ў чорным шынялі і ў фуражцы з чырвоным верхам зласліва трасе кулаком.

Народу на ходніках няшмат, а тыя, што ёсць, смяюцца, а то і рагочуць, паказваючы пальцамі на танкетку.

— Ну і войска! — галёкае хударлявы пан з вусамі як у Пілсудскага. — Дзве танкеткі, тры гуляйнагі* — прыехалі да нас на пірагі.

Усе наўкол рагочуць, а вайсковец, што вытыркаецца з танкеткі, прыязна пасміхаецца. Думае, што на ягоны адрас сказалі штосьці добрае. Следам грукаюць ботамі абвешаныя гранатамі жаўнеры.

— Глянь, якія ў іх каскі, — торгае за рукаво Міцька Шверубовіч. — На перакуленыя казаны падобныя.

— Каскі нямецкія, з той вайны, — не сунімаецца даўгалыгі «Пілсудскі», — няйначай, у васямнаццатым годзе нямецкі склад абрабавалі.

— Ці пойдзем у школу? — пытаюся ў Міцькі, і той, мне на радасць, адказвае:

— Якая школа? Не бачыш, дарогу перакрылі.

Дахаты, уволю набегаўшыся, вяртаюся адвячоркам. На лесвіцы ледзь перастаўляю ногі, адчыняю дзверы і чую вясёлы смех. Бягу ў святліцу, абхопліваю бацьку за шыю. Той сядзіць у новай кашулі і есць па выпадку звараную гарбузовую кашу.

— Лабас! — кажа бацька і я няўцямна лыпаю вачыма. — Прывітанне па-літоўску. Прывыкай да гэтай мовы.

Даводзіцца пацерці лабешнік, запамінаючы мудрагелістае літоўскае слова.

Заплечнік зрываецца з плечука, гучна падае на падлогу.

— Заняткі былі? — пытаецца бацька і, не чакаючы адказу, працягвае перарваны маім прыходам аповед. — Карацей, гнілую дранку на хаце замяніў, плот адрамантаваў, палову хлява новай саломай перакрыў. Ну і кабана закалолі. Сусед дапамог.

Бацька прыехаў з Лаварышак не з голымі рукамі. На стале ляжыць аполец сала, з-за яго вытыркаецца ладны, з жоўтымі кроплямі тлушчу, кус тварожнага сыру, а на дзверцах шафы вісіць, кранаючыся падлогі, вянок цыбулі.

— Юстына казала, літоўцы наўрад ці затрымаюцца, — маці накладае ў місу гарбузовай кашы.

---

* Дзіцячы самакат (пол.).

— А-а… ну раз Юстына казала — так яно і будзе, — бацька падміргвае мне вясёлым вокам, маўляў, бяры лыжку і сядай за стол.

Мяне запрашаць за стол не трэба. Прогліца напала такая, што асца з роту цячэ.

— Вы з Юстынай кепска ведаеце літоўцаў, — бацька таксама добра згаладаўся — есць кашу так, што нос угінаецца. — У іх там немаўля нараджаецца, а яму кажуць: Вільня наша. Так што іх адсюль поплічскай не выганіш.

— Як жа… іхняя, — маці ўпрыкмет злуецца. — Ды я амаль усё жыццё ў Вільні пражыла і толькі аднаго літоўца бачыла. Працаваў у нашым цэху. І той па-польску размаўляў. Скуль тут літоўцы возьмуцца?

— Скуль… з Літвы прыедуць.

— Ага, ускінуць майно на калёсы, пасадзяць смаркатых дзяцей на клункі — і наперад?

— Менавіта так і будзе, — бацька аблізвае лыжку, і маці пляскае ў місу дабаўкі.

— А куды палякаў падзенуць? А габрэяў? А вас, беларусаў?

— Ты што хочаш, — бацька кідае лыжку ў талерку, — каб я ўзяў дзяркач і пайшоў выганяць літоўцаў?

— Еш ужо! — падхопліваецца маці, завязвае цёплую хустку і падаецца з кватэры.

— Зараз гэтая балбатуха ёй сем мяхоў навярзе. Не знясеш, — гугніць бацька, але згадаўшы, што ў балбатухі забілі сына, суравее тварам.

— Дзядзька Янка не заходзіў?

Я ўздыхаю.

— А што там за газеты? — бацька глынуў кампоту з кіслых яблык. — Кампот самы раз падсаладзіць, ды цукар даўно скончыўся.

— «Віленская праўда». З тумбы здзерлі.

Бацька чытае газеты ў напружанай паставе. Адну адкінуў са словамі «зусім мовы не ведаюць», падхапіў другую і, каб лепш зразумець сэнс надрукаванага, замармытаў:

— «Савецкаму Саюзу прадастаўляецца права трымаць ва ўзгодненых пунктах літоўскай тэрыторыі строга абмежаваную колькасць савецкіх наземных і паветраных сіл».

— Цяпер зразумела, чаму Сталін ім Вільню ўплішчыў, — бацька падхопліваецца, абыходзіць, па прыкладу дзядзькі Янкі, стол, зноў убівае вочы ў газету.

Парываюся спытаць — з якой нагоды Сталін уплішчыў Вільню, — але, пакаштаваўшы тварожнага сыру, забываюся пра ўсё на свеце. Сыр страшэнна смакуе, і я з асалодаю запіваю яго кіслым кампотам.

Вятрыска ўсхадзіўся не на жарты. Б’е ў шыбы, шамаціць выпетранай лістотай, ганяючы яе па бруку. Раней лісце прыбіралі дворнікі, зараз ім завалены двары і вуліцы. Такою парою, калі вые вецер, калі на даху бразгоча адарваная бляха і ціха брынкае пячная юшка, горад здаецца пустэльным і страшным.

Бацька храпе на ўсе застаўкі. З ім такое здараецца. Зазвычай маці яго будзіць, просіць павярнуцца на правы бок. Але зараз толькі ўздыхае, варушачы подыхам фіранку на дзвярах.

«Ну і дзіва, — я неадрыўна пазіраю на столь, — было места польскім, потым прыйшлі саветы і стала савецкім, цяпер жа, невядома адкуль, прыйшлі літоўцы… А дзе беларусы? Чаму яны не ідуць?» Бацька з дзядзькам Янкам кажуць, што беларусы — сялянская нацыя і што гарады захапілі іншыя народы. А чаму ж тады ў Лаварышках сяляне хоць і размаўляюць «па-простаму», але сябе палякамі называюць? «Прывязі ў Лаварышкі беларускага ксяндза ды адчыні беларускую школку, а тады і спытвай у тамтэйшага люду нацыянальнасць», — сказаў аднойчы дзядзька Янка.

Спрабую заснуць. Заўтра святочны дзень: урачыстая сустрэча літоўскай арміі, і ад самага ранку будуць званіць у касцёлах. І, панурыўшыся праз хвілю ў сонную замарач, чую далёкі звон. Я пазнаю яго. Так, з надтрэснутым гудам, бомкае касцёл у Зарэччы.

Пасля начной бессані прачынаюся позна. Церусіць дробны дождж. Званы не звоняць, і нават вецер, які ўсхадзіўся з

вечару, аціх. Чутны адно асцярожлівы шорхат. Гэта бацька голіцца перад люстэркам. Пагаліўшыся, пырскае на падбароддзе адэкалон, гучна кракае, і я канчаткова абуджаюся.

— Бульба сёлета ці ўрадзілася? — пытаецца маці.

— Урадзілася. І выкапалі за два дні. Зямля сухая.

— А што ў Лаварышках пра вайну кажуць?

— Ды там адно і ведаюць, што вайна пачалася, бо людзей у войска забралі. Брат твой стрыечны — табе, дарэчы, прывітанне ад яго, — пытаўся, ці хутка палякі з французамі Берлін будуць браць. А пазаўчора ксёндз завітваў. Цэлую гадзіну распытваў ды пацеры перабіраў. Во здзівяцца лаварышкаўцы, як даведаюцца, што іх да Літвы далучылі.

Гучна пазяхаю, даючы зразумець, што прачнуўся, і падымаюся з ложка.

Не паспяваю даесці гарбузовую кашу, як пад вокнамі ўжо свішча Рыдз. Мы з ім дамаўляліся ісці на дэфіляду.

— Аддасі гасцінец сябру, — маці адразае ад апольца ладны скрыль сала, кладзе ў торбу і, падумаўшы, вылузвае з вянка колькі цыбулін.

На дэфіляду ідзем утрох — я, бацька і Юзік. Яна, падобна, пачалася, бо з Кафедральнага пляца, адбіўшыся ад дажджыста-попельнага неба, далятае барабаннае буханне і людская гамана.

Пасярод Вялікай вуліцы стаіць літоўскі паліцыянт, паказваючы рукой у бок Кафедры. Бацька са здзіўленнем глядзіць на ягоны строй — чорны шынель з двума радамі бліскучых гузікаў і дзіўнага крою шапку з цэшкай, белым старчаком і чырвоным верхам.

— Паліцыянтаў у Літве «калакутасамі» клічуць, што значыць «індыкі». Памятаю, свойчас падзівіўся, скуль такая мянушка? — кажа бацька, разглядаючы «калакутаса».

Людзей на Вялікай процьма, і ўсе рухаюцца ў бок пляца.

— А добра, што сюды прыйшлі літоўцы? — пытаецца Юзік.

— Ведаеш, хлопец, адразу і не адкажаш, — бацька глядзіць на крыж Мікольскай царквы, — тое, што прыйшла ўлада, якую ніхто не клікаў і ніхто не чакаў, — гэта мінус. А тое,

што сышлі саветы, — гэта плюс. — Зірнуўшы яшчэ раз на крыж, бацька хрысціцца, чаго раней ніколі не рабіў.

Вакол Кафедральнага пляца цёмна ад народу, і прабіцца наперад немагчыма. Стаім, сціснутыя з усіх бакоў, і бачым толькі вайскоўцаў са сцягамі, якія сшыхтаваліся на ганку сабора. З гучнаварыльніка вырываецца на працяг знявечаная рэхам прамова, і немагчыма разабраць аніводнага слова. Прамаўляюць, падобна, па-літоўску. У гэты момант нехта чырванатвары, з клінападобнай бародкай, прабіраецца скрозь натоўп, рукаецца з бацькам.

— Ну як маешся? Дзе хаваешся? — бацька ляпае знаёмца па плячы.

— Адным сказам не апавядзеш, — адказвае знаёмец і, наструніўшы слых, выстаўляе ўгору палец.

Рэпрадуктар керхае, трашчыць і пачынае гаманіць па-беларуску.

— Ад імя віленскіх беларусаў шчыра вітаю літоўскую армію… мы жылі цягам стагоддзяў у адной дзяржаве, падзяляючы з літоўцамі гора і радасці… выказваю спадзяванне, што беларусы знойдуць у асобе літоўскага ўрада разуменне і падтрымку…

— Ці не Адольф ля мікрафона заліваецца? — бацька становіцца на дыбачкі, пазірае паўзверх людскіх галоў.

— Ён, — трасе бародкай знаёмца.

— Каму толькі не даводзілася беларусам у ногі кланяцца, — бурчыць бацька.

— Думае, літоўцы яму газету дазволяць выдаваць. Таму і гарлае як варона на дождж.

— А чаму званы не звоняць? — убіваюся я ў размову, і «барада», прамовіўшы: «Ялбжыкоўскі* не даў дазволу», — цягне бацьку за локаць. Хоча пагаманіць без чужых вушэй.

Грымнуў духавы аркестр, і дэфіляда пачалася. Мы з Юзікам бачым толькі бліскучыя, падобныя на казаны, каскі. Пратупаўшы міма нас, жаўнеры заварочваюць на вуліцу Міцкевіча. Прадзіраемся з сябрам скрозь натоўп, збочваем

---

* Арцыбіскуп Вільні.

на тую вуліцу, мяркуючы, што чым далей ад пляца, тым меней народу будзе стаяць на ходніках. Над нашымі галовамі вецер матляе вялізны лозунг. «Віль-ня-ус гі-вен-то-яй свей-кі-ма Ліе-ту-вос Ка-ріо-ме-не!» — чытаем па складах, задзёршы галовы.

— Што тут напісана? — Рыдз перачытвае лозунг, бязгучна мылячы вуснамі.

Я касавуруся. Няма поруч бацькі — ён бы пераклаў.

— Аніводнага слова не зразумела, — Юзік выцірае смаркачы з-пад носа. — Ад нашых Сувалак да Літвы недалёка, але ніхто да іх не едзе, і яны да нас не прыязджаюць.

— Дык прыехалі ж. З кветкамі сустракаюць. Вунь, зірні, — да жаўнераў раз за разам падбягаюць кабеты з вялізнымі букетамі.

— Ды цётка радуецца, што саветы сышлі, а не таму, што літоўцы прыехалі, — кажа сябар, і я, падумаўшы, пагаджаюся.

— А што за сцягі павесілі?

— Дзе?

— Ды вунь… чырвона… зялёна… жоўтыя.

— А чорт іх ведае, — адмахваюся ад сябра, — пытаешся, быццам я літовец.

Рыдз шморгае носам, я лезу ў натоўп, а калі азіраюся, сябра за спінай ужо няма. Пакрыўдзіўся. Ёсць у Юзіка такая паганая рыса: крыўдзіцца з любой нагоды. Пайшлі на дэфіляду ўтрох, а зараз я адзін застаўся. «Ну дык не прападу», — і з гэтаю думкаю выбіраюся на край ходніка.

Праваруч стаіць маладая кірпатая пані, якая ўвесь час тыцкае мне ў твар мокрым букетам. Адпіхваю кветкі, але пані сюд-туд нахіляецца, казыча нос махровай астрынай. Нарэшце, крыкнуўшы «Вой!», «кірпа» вырываецца наперад і аддае букет вершніку на буланым кані.

— А мне падабаенцца вунь той, што з таго краю едзе, — гугнявіць другая пані, сяброўка «кірпы», і дзяўчыны, прыкрыўшы раты далонямі, пырскаюць гуллівым смехам.

— Прыехалі б кітайцы, і іх кветкамі засыпалі б, — сіпата прамаўляюць за спінай, і дзеўкі, азірнуўшыся, аціхаюць. — А коні ў жамойтаў добрыя, няйначай, аўсом кормяць, — за-

значае той жа самы голас. — Гэта ў саветаў манголкі ішлі ды хісталіся.

Кафедральны пляц скаланае гучны рокат, паветра зацягвае шызая смуга. І вось ужо па вуліцы едуць танкеткі. Танкеткі зусім маленькія. Вышынёй прыкладна з «калакутаса», што важна, як той індык, ходзіць непадалёку.

— На такіх драндулетах да Варшавы не даедзеш, не кажучы ўжо пра Берлін, — не сунімаецца ўладальнік сіпатага голасу. — Старыя французскія «Рэно».

— Гэта не «Рэно»! Гэта брытанскія «Вікерсы», — крычаць ля майго вуха.

— Якія «Вікерсы»? Я што, «Вікерсаў» не бачыў? — пярэчыць сіпаты, і «кірпа», адчуўшы, што прыйшла пара сказаць слова, гугнявіць праз плячук:

— Панове, перашкаджаеце глядзець дэфіляду.

Танкетак у літоўцаў даволі шмат. Колькі стаім, а яны ўсё едуць і едуць. Я ўжо змёрз і шморгаю, як той Юзік, носам. Нечакана сіпун керхае для прачысткі горла і галёкае на ўсе затаўкі:

— Па коле ездзяць! «Соты»… «сто першы» — трэцім разам іх бачу.

Танкеткі пазначаныя лічбамі, і гэта іх выдала.

Наўкол смяюцца, зычна свішчуць, кабета ў чорным капелюшы, што стаіць пад бокам, ашалела гарлае: «Прэч адсюль, жмудзяцкія блазны!» Тым часам «кірпа» з сяброўкай шлюць танкістам паветраныя пацалункі, і тыя прыязна ківаюць галовамі.

Ліхенькі палітон не грэе. Іду дахаты напрасткі, дварамі, і на Наваградскай мяне траха не збіваюць з ног. Збой хлопцаў ляціць насустрач, бязладным тупатам скаланаючы наваколле.

— Куды ляціце, як ашалелыя? — енчыць старая бабця, прыхаваўшыся за ліхтарняй.

— Літоўцы дармавую кашу даюць! — чуецца ў адказ, і я, разгублена азірнуўшыся, бягу следам за хлопцамі.

На бойкім месцы, перакрыжаванні Наваградскай і Пілсудскага, у атачэнні натоўпу стаяць, пыхкаючы парай, дзве палявыя кухні. У людзей, што тоўпяцца ля кухань, у руках збаны, місы, талеркі і нават плеценыя кашы.

Залятаю ў хату, ды так, што маці падскоквае з перапуду. Грукнуўшы па пліце чайнікам, хапаю мядніцу, у якой маці мые посуд, і падаюся да дзвярэй.

— Ты што, звар'яцеў? Навошта табе мядніца?! — гучыць за спінай, але я ўжо збягаю па лесвіцы.

Каля кухні — жалезнага бака з адкінутай накрыўкай, — завіхаецца жаўнер у цыратавым хвартуху і з вялікім чарпаком у руцэ. Падступіцца да яго няма ніякай магчымасці.

— Кладзіце ў прыпол! — крычыць нейкая цётка, і кухар кладзе ёй ладную порцыю.

Паставіўшы мядніцу на галаў, спрабую прабіцца да кухні, мяне хапаюць за каўнер, цягнуць назад.

— Лабас! — крычу кухару, той наструньваецца, махае чарпаком.

Падумаўшы, што я літовец, людзі расступаюцца. Кухар таксама, відаць, думае, што перад ім спакрэвіч. Плюхае ў мядніцу поўны чарпак, потым, падумаўшы, другі, штосьці гергеча па-свойму, і я выбіраюся з натоўпу.

— Куды столькі кашы хапануў! — чуюцца абураныя галасы, і даводзіцца патлумачыць:

— Хворым у шпіталь.

У пакоі апетытна пахне кашай. І не абрыдлым панцаком, а грэчкай, прыпраўленай кавалкамі мяса. Хоць і прынёс з вулкі, але каша гарачая і абпальвае паднябенне.

На парозе з'яўляецца бацька, уражана водзіць носам, і маці накладае яму поўную талерку літоўскага смакоцця. Бацька кідае на вяшак капялюш, падаецца да стала.

— Ты б палітон зняў, — гугнявіць, з поўным ротам кашы, маці.

Агораўшы дзве талеркі, бацька аблізвае лыжку.

— Далібог, мне літоўцы пачынаюць падабацца. Войска ў іх кволае, затое каша магутная.

— Пачакай, пачнуць вас, як тыя саветы, з ложкаў падымаць, — маці прыбірае са стала талеркі.

Бацька ідзе да вешака, выцягвае з кішэні палітона складзеную ў столку карталюшку.

— Ліста перадалі… ад Янкі.

— І што піша? — маці налівае ў мядніцу вады.

Бацька сядае за стол, насуплівае бровы.

— «Па мяне прыходзілі. Завіталі ў Зарэчча, а затым і ў Купрыянішкі. Выпадкова ўратаваўся. Учора арыштавалі Трэпку і Пазьняка, так што ў Вільні заставацца небяспечна. Збіраюся падацца ў Коўна, пагатоў мяжа, кажуць, практычна не ахоўваецца. У мяне там стрыечная сястра, так што знайду часовы прытулак. Як наладзіцца паштовая сувязь, абавязкова напішу. Прывітанне жонцы і сыну. Янка».

Нядзеля. Маці ад ранку пайшла ў касцёл, бацька падаўся шукаць сваіх сяброў, і я, даеўшы рэшткі грэцкай кашы, выходжу на вуліцу. Прычым з рондалем у руках — на выпадак, калі літоўцы зноў падгоняць свае кухні.

Тумбу ад ранку чарговым разам паскрэблі. Аж да бетоннай асноведзі, пакінуўшы толькі рэшткі рэкламы польскага фіята ды афішы фільма «Павел і Гавел». Фільма таго так і не паглядзеў. Маці не дала грошай. Сказала, што ён для дарослых.

Я вельмі люблю кіно. А яшчэ люблю прыходзіць у кінатэатр адным з першых. Ладкуюся на заднім радзе і з зачараваннем гляджу на белы экран. Нават халадок падступае да грудзіны ад адчування, што неўзабаве ў зале стане цёмна, пад столлю заварушыцца струмень святла і на экране ўзнікне дзея, поўная мужных твараў, імклівых цягнікоў, шляхетных мушкецёраў і індзейцаў на ўзмыленых конях. Шкада, што каштуе тое шчасце аж 40 грошаў, і маці дае іх раз у месяц.

Здалёк далятаюць гукі аркестра. Ці не ладзяць літоўцы зноў дэфіляду? Цягнуцца аднаму ў цэнтр горада няма ахвоты. З трубы Юзікавага жытла цягнецца лёгкі дымок. Падыходжу да трубы, стукаю па ёй косткамі пальцаў.

…Людзей у цэнтры, як ні дзіва, мала, а Ратушны пляц наогул пустэльны. Адно рамізнікі паныла сядзяць на козлах, насунуўшы на насы брылі сваіх чорных фуражак. Вільню ахутала халодная імжа, а ў паветры лунае няўцямнае рэха — ці то песні, ці то малітвы. Мы з Рыдзам круцім галовамі, і сябар тыцкае пальцам у бок Вастрабрамскай вуліцы.

Каля касцёла святой Тарэсы віруе людскі збой. Мяркуючы па шапках, тут сабраліся студэнты.

— Гляньце на іх — ужо і Вострую Браму прысабэчылі, — гучыць над натоўпам. — Перадайце ўсім: а першай гадзіне збіраемся на Замкавай і адтуль ідзем маршам!

Нарэшце заўважаем «калакутасаў». Уладна рассунуўшы ногі, яны стаяць упоперак вуліцы, перакрываючы дарогу да Вострай Брамы. На браме варушыцца ад ветру літоўскі сцяг, у паўкруглым акне кратаюцца размытыя імжой белыя постаці, і ўся вуліца шарая ад стрыжаных жаўнерскіх галоў. Гэта літоўскія ваякі прыйшлі на набажэнства.

— І ксяндзоў сваіх паспелі прывесці! — гучыць усё той жа голас.

Відаць, гэта хтосьці з «фалангістаў». У нашай школе некаторыя старшакласнікі да іх запісаліся.

Юзіка вулічныя закалоты не надта цікавяць. Ён задзірае галаў, захоплена шапоча:

— Прыгожы касцёл!

— Святой Тарэсы, — тлумачу я. — Маці сюды ў дзяцінстве вадзіла.

Мне было гадоў шэсць, а можа і меней. Маці прывяла ў гэты касцёл, і сэрца маё парывіста забілася — ад дзіўнага паху, ад шарага прыцемку, ад позіркаў святых, што стаялі на алтары і глядзелі ў мой бок. Пад скляпеннямі грымнуў пагрозлівы голас, усе наўкол, у тым ліку і маці, укленчылі, і мне стала страшна. Страшна і ў адначас цікава — чаму цётухна, што ўкленчыла поруч, раптам узнялася і пайшла, панурыўшы вочы, да вялізнай шафы. Стала каленямі на пацёртыя аксамітавыя падушкі, штосьці зашаптала ў разную адтуліну. Я ціхенька, незаўважна для маці, падышоў да шафы, зазірнуў у цёмнае нутро і здрыгануўся. Там сядзеў хтосьці вялікі і белы. Павекі ягоныя былі заплюшчаныя, але знянацку ён асавела зірнуў на мяне адным вокам, і я зайшоўся плачам. Яшчэ нехта, таксама ўвесь белы, які трымаў у руках срэбную тацу з грашыма, нахіліўся нада мной, і я загарлаў немым духам. Мяне доўга сунімалі — вунь там, на касцельных прыступках, дзе стаіць «калакутас», — пырскалі ў твар вадой, лашчылі па галаве і шапталі малітвы. З тае пары маці хадзіла ў касцёл адна.

— Ты што, заснуў? — сябар тыцкае пальцам у плячук.

Я схамянаюся. «Калакутасы», сашчапіўшы рукі, ідуць насустрач. Набажэнства ў Вострай Браме скончылася, і паліцыянты пнуцца вызваліць дарогу.

— Рушым на Замкавую! — абвяшчае «фалангіст», і мы прыстройваемся да шумлівай студэнцкай грамады.

На Замкавай поўна людзей, а каля Святаянаўскай званіцы пачынаецца мітынг.

— Літоўцы заяўляюць, што Вільня іхняя сталіца, а самі, цягам стагоддзяў, не пабудавалі тут аніводнага будынка, — галёкае, узбіўшыся на ліхтарны слуп, бялявы маладзён. — Яны пераназвалі Вільню ў Вільнюс і патрабуюць, каб і мы так называлі пракаветнае места. Дулю вам з макам, з пастарнакам, дарагія жмудзякі! — маладзён хоча нешта дадаць, але яго сцягваюць са слупа, і на ліхтарню ўзбіраецца новы прамоўца.

— Літоўская гліна ходзіць па Вільні, узяўшы рукі ў бакі. І я вам скажу чаму: таму, што Гітлер са Сталіным выдалі ім карт-бланш. Маўляў, душыце палякаў, а мы, калі што, вам дапаможам. Паглядзім на гэтых фанабэраў, калі атрымаюць каменем у лабешнік! — натоўп ухвальна гудзе, б’е ў ладкі, прамоўца з’язджае са слупа і тут жа зноў узбіраецца: — А выкацяць супраць нас свае смярдзючыя танкеткі, мы іх спалім, як спалілі нядаўна пяць савецкіх танкаў!

Наступнай на слуп узбіраецца маладзіца ў чорным барэце. Дакладней, не ўзбіраецца, а становіцца некаму на плечы, прытрымліваючыся за слуп рукою.

— Я нарадзілася ў Вільні, на Малой Пагулянцы. Тут нарадзіліся мае дзяды і прадзеды. І вось з’яўляюцца ваякі на роварах і заяўляюць, што Вільня — іх горад. Ды гэтыя літоўцы смеху вартыя. Вы толькі гляньце, на каго падобныя іхныя паліцыянты…

— На індыкоў! — гарлае Юзік, і ўсе глядзяць у наш бок. — А па-літоўску індык — калакутас, — гучна ўдакладняе сябрук, дзяўчына ў барэце перапытвае:

— Як-як?

— Ка-ла-ку-тас! — крычыць Юзік, і натоўп на розныя галасы паўтарае мянушку.

Чарговы прамоўца пнецца залезці на слуп. Ад Кафедральнага пляца далятае пошчак конскіх капытоў. Гэта едуць тыя самыя «калакутасы» на сваіх дагледжаных конях. У іх руках гумовыя палкі. Мы з Юзікам нырцуем пад арку. Разам з намі бягуць два студэнты.

— Навошта рондаль цягаеш? — пытаецца ў мяне адзін з іх.

— Мазгаўню закрыць, калі «калакутасы» будуць палкамі біць, — адказвае Юзік.

Студэнт прыцішвае бег.

— А гэта ідэя, — звяртаецца ён да сябра, — аборкі да ручак прывязаў — і каска гатовая, — і сябар, азірнуўшыся, задыхана гамзае:

— А васямнаццатай на Татарскай. Трэба сказаць, каб з хат рондалі прыхапілі.

Яшчэ сплю, і скрозь сон чую цётку Юстыну.

— Мая ж пляменніца на Звярынцы жыве, прыбегла ад ранку. Кажа, усенькую ноч каля разглосні стралялі!

— Якой разглосні?

— Ну дзе па радыё перадаюць. Немец тую станцыю разбамбіў, а саветы, як прыйшлі, адрамантавалі.

Я задаволена пацягваюся. У горадзе ўсю ноч стралялі, значыць, у школу не пайду.

— Міцьку… суседа майго, прынеслі ўчора ўвечары, і галава ўся разбітая. З паліцыяй біўся. Ляжыць ды стогне, — цётка пераводзіць дых, стойвае і без таго ціхі голас. — Бохан житняга ўжо злоты каштуе! А ўчора хлеб зусім не прадавалі.

Маці апошнім часам мяняла цыгарэты на хлеб, даўно не была ў хлебнай краме, таму і вохкае ад здзіўлення.

— Злоты?! Бохан хлеба? Езус Мар’я!

Да вайны бохан каштаваў трыццаць грошаў. Маці клала мне на далонь тры манеты па дзесяць грошаў і я, заціснуўшы іх у кулаку, бег у краму старога Ліўшыца. Хлеб галавакружна пах і я адкалупваў сухую скарынку ды клаў у рот. А то, як быў галодным, адломваў ладны гамёлак гарачага мякішу і пхаў у рот. Бацька, праўда, заўсёды папярэджваў, што гарачы хлеб есці нельга, бо можа ўтварыцца заварот кішак.

— Усё з-за габрэяў. Прыхавалі муку, пазачынялі пякарні, а мы памірай з галадухі.

Бацька яшчэ не падымаўся, і спружыны ягонага ложка незадаволена рыпаюць.

— А за якія грошы прадаваць? За злотыя? — бацька, падобна, змучыўся чакаць, калі матчына сяброўка пойдзе дахаты. — Абмяняюць злотыя на літы, тады і крамы адчыняцца. Ды і мука на складах скончылася.

Бацька кашляе, звешвае долу ногі ў белых падштаніках — мне гэта бачна праз шчыліну фіранак, — і цётка Юстына, цішком клянучы габрэяў, выпраўляецца дахаты.

— Ад самага ранку няма спакою, — бурчыць бацька, — навіны сыплюцца як з дзіравага меха. Ёй трэба ў рэпарцёры падавацца. Якраз днямі «Кур'ер Віленьскі» пачне выходзіць.

Маці абапіраецца рукамі на падваконне.

— Матка Боска, зноў некага панеслі. Увесь у крыві. Ці не старога Ліўшыца пабілі?

Чутны звон разбітага шкла, тупаніна і брудная лаянка.

— У школу сёння не пойдзеш, — пасля такіх слоў маці ідзе гатаваць сняданак.

Мяне не толькі ў школку не пускаюць, але і на вулку. А там дзеецца штосьці няўцямнае. Міма нашых вокнаў вязуць на брычках скрываўленых небаракаў; «калакутасы», па пяцьшэсць чалавек, бегаюць то ў адзін бок, то ў другі; праехала нават танкетка.

Бацька пайшоў паглядзець, што адбываецца ў горадзе, і яшчэ не вярнуўся. Цётка Юстына, калі што якое, заўсёды да нас прыбягае, а тут і яе няма. Між тым маці і самой цікава — хто там б'ецца на вуліцах, — і яна раз-пораз падбягае да акна.

— Да Міцькі на хвілінку забягу. Пагляджу, як ён там… — умольна енчу каторым ужо разам, і маці дакорліва хітае галавой:

— Але толькі да Міцькі! Буду з акна сачыць.

На тумбе ні абвестак, ні газет. Адно бялее літоўскі плакат з выявай Вострай Брамы. Хтосьці прайшоўся па ім сцізорыкам, распаласаваўшы на тонкія палосы і тыя матляюцца на

ветры. Улетку так паласуюць паперу ды вешаюць на люфцікі, каб адбіцца ад мух.

Дзверы адчыняе Міцькава маці — незразумелага веку кабета з рудымі, як у Юзіка, валасамі. Ранейшым часам яна была вясёлай ды румянай, а цяпер прыкметна згорбілася і зблажэла тварам. Дзіва што. Саветы мужа на юры звезлі, а літоўцы сына пабілі.

Міцька ляжыць з забінтаванай галавой. Над ложкам, у куце, вісіць цёмны абраз ды кволіцца знічка лампады. Шверубовічы, як і мой бацька, праваслаўныя.

— Як маешся?

— Патыліца баліць, а так жыць можна.

— Добра яшчэ абышлося, — Міцькава маці бразгае на кухні посудам, — маглі б і мазгаўню адбіць.

— А што, там «Фаланга» ўсім кіравала? — ціхенька, каб не пачула Міцькава маці, пытаюся ў Міцькі.

— Чаму «Фаланга»?.. Завадатарамі ўсяго былі браты Філіпавы з расейскай гімназіі. У Пецькі, аднаго з братоў, граната ў кішэні была. Хацеў шпурнуць у «калакутасаў», але мы адгаварылі.

«Ужо і Міцька ведае мянушку паліцыянтаў, — я паціраю рукі, — можа, сказаць, хто яе пусціў у народ?»

— Хлопцы што прыдумалі: надзяваюць аблавуху, а наверх рондаль насоўваюць. Калі «калакутас» і дзеўбане дручком, дык не так балюча.

— Гэта я прыдумаў, — кажу Міцьку, і той адрывае забінтаваную галаву ад падушкі.

— Ты?! Прыдумаў?! Ды там і духу твайго не было. Сядзіш пад матчыным прыполам…

Чапля нешта крычыць услед, але я не слухаю. Выходжу з кватэры, гучна бразнуўшы дзвярыма.

Аднекуль з Наваградскай ляціць немы лямант. Маці ў акне не бачна, і я спачатку прыстаўным крокам, а потым як ветрам гнаны лячу па засыпаным смеццем і сухой лістотай ходніку. Неўзабаве, насупраць хлебнай крамы Ліўшыца, спыняюся і ўражана закапыльваю губу. Крама пазірае на свет выбітымі вокнамі і калыша, як на знак развітання, напісанай па-

польску і па-габрэйску шыльдай. Шыльда завісла на адным цвіку. У вокны шпурлялі бітай цэглай, бо яна валяецца пад нагамі. Мясная крама выглядае яшчэ страшней. Там аконная рама вылецела і павісла, як тая шыльда. Калі выйшаў на Наваградскую, убачыў раз'ятраны натоўп, які бег некуды і на розныя галасы гукаў: «Прэч жыдоў з Вільні!» Кароткую хвілю стаю пад аркай і трушком, ціснучыся да сцен, прабіраюся да свайго дома.

Увечары адключылі святло, і мы ўтрох — бацька, маці і я — сядзім ля акна. Пагром не сціхае: па вуліцы па-ранейшаму бегаюць узброеныя палкамі і жалезнымі прутамі зграі «фалангістаў» ды шугаюць на конях «калакутасы». А калі сцямнела, на скрыжаванні залескатаў гусеніцамі савецкі танк. Той самы, з гнутымі трубамі ля вежы.

— Няўжо саветы вярнуліся? Можа, не пойдзем на могілкі?

— Паглядзім, — бурчыць бацька. — Танкі з Новай Вялейкі прыехалі. Там у саветаў вайсковая база. Няйначай, літоўцы папрасілі дапамогі.

Паслязаўтра Задушкі. Гэтым днём мы ўсёй сям'ёй наведваем Петрапаўлаўскія могілкі, дзе пахаваная цётка Люцыя, матчына сястра. Яна памерла маладой, і я бачыў яе толькі на фотаздымках. Помнік на цётчынай магіле скасабочыўся, і бацькі з лета збіраюцца яго падправіць. І вось Задушны дзень на носе, а помнік дагэтуль стаіць пакарабачаны.

Ноччу доўга не магу заснуць. У свядомасці гучаць крыўдныя словы Міцькі Шверубовіча, і я кручуся з бока на бок на шышкаватым сенніку. Маці нават уставала і мацала лабешнік. Раніцою абуджае бацькаў воклік:

— Сядзі дома, зачыніся на два замкі і нікому не адчыняй! Чуеш?

— Чую, — адгукаюся з неахвотаю і вомігам засынаю.

Ды як тут паспіш, калі ў дзверы стукаюць — спачатку два разы, а затым, пасля паўзы, яшчэ раз. Юзік!

— Сёння на Росах збіраюцца, — задыхана прамаўляе Рыдз, — а адтуль у цэнтр рушаць.

На могілках Роса пахаванае сэрца Пілсудскага, і штогоду, першага лістапада, там ладзяць урачыстасці ў гонар «начэльніка паньства». Ад кожнай школы выбіраюць па дзесяць вучняў, яны збіраюцца на пляцы каля магільнай пліты, шыхтуюцца і, укленчыўшы на правае калена, слухаюць казані пра тое, як Пілсудскі ўратаваў у 1920-м годзе Еўропу ад усходніх варвараў. Мне, аднак, аддаць гонар ратавальніку Еўропы не даводзілася. Замалы яшчэ. Але на ўрачыстасцях аднойчы прысутнічаў. Чорная пліта, пад якой пахаванае сэрца Пілсудскага і ягоная матка, месціцца перад каменным мурам. Мы з Міцькам на яго ўзлезлі, каб лепей бачыць урачыстасць, а паліцыянт нас сагнаў. На могілкавы мур нельга ўзлазіць, бо гэта святая мясціна.

— Ну ты як? Ідзеш? — сябар з нецярплівасцю тупае ля парогу.

Чухаю свярблівую макаўку. Усё ж такі бацькі загадалі сядзець дома. Ды прыгадваю словы Міцькі Шверубовіча і рашуча выдыхаю:

— Іду!

Рэкламную тумбу шчыльна атачылі месцічы. Літоўцы павесілі свае распараджэнні, і іх услых і навыперадкі чытаюць.

— «Пачынаючы з трэцяга лістапада ў горадзе Вільнюсе будуць арганізаваныя грамадскія працы. Часовае працаўладкаванне грамадзян будзе ажыццяўляцца пасля адпаведнай рэгістрацыі…»

— А што за працы? — крычаць з усіх бакоў. — І дзе рэгістравацца?

— На біржы! — гукаюць ім у адказ, а тым часам хтосьці непракерханым голасам чытае распараджэнне Літоўскага банка пра абмен польскіх грошай.

— А як мяняць збіраюцца?!

— Літ за пяць злотых!

— А з банкаўскіх рахункаў будуць мяняць?

Міжволі наструньваюся. У нас ляжаць невялічкія грошы ў банку. Паклалі, як лаварышкаўская бабуля цялушку прадала. Аднак у тым вэрхале пра банкаўскія рахункі нічога не дачуўся.

— Учора габрэяў білі, — паведамляе сябар, калі мы праміНаем шпіталь. — Шмат параненых прывезлі.

Усе ходнікі засыпаныя бітым шклом, а ў паветры бухматымі сняжынкамі лётае пух. Успаролі, відаць, сеннікі ды падушкі. Габрэйскія крамы спрэс разбітыя, а ў краме Ліўшыца вокны пазначаныя пасмамі чорнай сажы. Дзіўна, чаму «фалангісты» ваююць не з літоўцамі, а з габрэямі?

— Сволачы твае «фалангісты», — я паслізгваюся на кавалках шкла. — Тут Ліўшыц абаранкі прадаваў. Цэлыя горы былі насыпаныя. А зараз галавешкі валяюцца.

— Ты што, забыўся, як габрэі саветы сустракалі? Як мітынгі ладзілі ды аркестры гралі? А потым у рабочую гвардыю падаліся. Адзін такі падышоў да маёй маці і крыкнуў, асцой пырскаючы: «Усё, пшэкі, скончылася ваша панаванне!» А ў маткі ўжо скура з пальцаў злезла ад мыцця.

— І што, стары Ліўшыц, які хлебную краму трымае, у падсабачнікі падаваўся і карабінам перад тваім носам размахваў?

Твар Юзікаў крывіць гімора. Учора сябар паведаміў, што збіраецца запісацца ў «Фалангу».

— У падручніку напісана, што Пілсудскі на Вавелі пахаваны, — сябар вырашыў змяніць тэму размовы. — А што тады за магіла на Росах?

— Там сэрца пахаванае, і матка ягоная.

— А беларусіны любяць Пілсудскага?

— А за што яго любіць? Абяцаў беларусам школы ды ўніверсітэты, а што даў? Лукішкі ды Картузы? — прыгадваю словы дзядзькі Янкі.

На ўрачыстасць мы спазніліся, бо не паспяваем прайсці ста метраў па Каляёвай, як у паветры залунала, што той птушыны грай, шматгалосая гамана, і з бакавога завулка выйшаў людскі натоўп.

— Ешчэ Польска не згінэла… — дрыготкім голасам заспявала нейкая дзеўчынёха, людская гурма падхапіла гімн, і я далучыў свой голас: «Але згінонць мусі, кеды москаль не побіе, то холера здусі» Гэтак спяваў польскі гімн падпіты дзядзька Янка.

— Вы, беларусіны, такія ж ворагі Польшчы, як і жыды! — крычыць Юзік і подбегам рушыць насустрач грамадзе.

— Бяжы, бяжы, «фалангіст» сраны, — гукаю яму ўслед па-беларуску і шыбую на Вастрабрамскую.

Дзядзька Янка казаў, што «фалангісты» ненавідзяць не толькі габрэяў, але і беларусаў, таму і няма ахвоты да іх далучацца.

Брук на Вастрабрамскай няроўны, шмат дзе прасеў, і я ўвесь час спатыкаюся. А можа, ногі заплятаюцца ад адчування, што следам за мною рушыць гаманлівы натоўп?

— Літоўцы, вяртайцеся ў Коўна! Прэч жмудзякоў з Вільні! Прэч жыдоў і камуністаў! — стагалоса скандуе грамада.

Прыспешваю крок. Трэба адарвацца ад натоўпу, бо могуць наляцець «калакутасы», і тады апынуся паміж двух агнёў — паліцыяй і дэманстрантамі.

Пад Вострай Брамай здымаю шапку. Тут, як заўжды, сядзяць жабракі, а пабожныя бабці бясконца жагнаюцца ды цалуюць пашарпаныя сцены. Пабачыўшы людскую грамаду, бабці хуценька хаваюцца ў галерэю, што лучыць Браму з касцёлам.

Я ўжо не іду, а бягу, намагаючыся вырвацца з вузкай вуліцы на Ратушны пляц, і бачу паліцыю на конях.

— Дзяўчаты назад, хлопцы наперад! — крычаць пад брамай.

Коні аглушальна цокаюць капытамі. Цiснуся да касцельнай сцяны, і ў нос б’е моташны пах конскага поту. Конь зусім побач. Шугае па твары хвастом. Мяне «калакутас» не чапае, але да яго падбягае той самы маладзён, што прамаўляў на Замкавай, хапаецца за збрую, «калакутас» замахваецца гумовай палкай, уваччу бліскае маланка і наступае цемра. Вушы заклала пульхнай ватай, і халодная млосць падступіла да горла.

— Эй, хлапчына… ці жывы ты? — пытаюцца «простай мовай» і злёгку б’юць па шчоках.

З цяжкасцю размежваю павекі. З крывавага туману выплывае старая бабця ў белай хустцы.

— Ну і антыхрысты, — прабіваецца скрозь замарачны шум жаночы голас, — падлеткаў б’юць.

— Выпадкова атрымалася, — бабця падцягвае ражкі белай хусткі. — Паліцыянт замахнуўся палкай на студэнта і шпорай хлопцу ў твар патрапіў.

— Літоўцаў абараняеце? — гучыць старэчы голас.

— Не кажыце абы-што. Дапамажыце лепш хлапчыну ў касцёл занесці.

Мяне падымаюць за рукі і ногі, пры гэтым бабуля прытрымлівае рукой маю патыліцу, нясуць па сходах. «Касцёл святой Тарэсы», — мільгае ў галаве.

У касцельным прыцемку робіцца лягчэй. Галава ўжо так не кружыцца, і я магу свабодна дыхаць. Ляжу на лаве. Уваччу паўстае хтось белы. Здаецца, гэта той самы ксёндз, які калісьці мяне напужаў.

— Трэба ў шпіталь весці, вусну зашываць. Магчыма, і зубы выбітыя. Бяжы да ратушы і вазьмі рамізніка. Толькі арнат не здымай, у ім цябе не зачэпяць, — загадна кажа некаму ксёндз.

Чуюцца ўсхліпы і аднастайнае мармытанне. Непадалёку стаіць купка жанчын.

— Кім естэсь? — бабулька падцягвае ражкі белай хусткі. Яна ўжо гамоніць па-польску.

Мне цяжка нешта сказаць, бо не магу адкрыць рота. І ўсё ж, глынуўшы цёплай крыві, шапяляю:

— Беларус.

— А дзе-етухна ты мая, — спеўна і зноўку «простай мовай» азываецца бабуля. — У мяне ж зяць беларус. Усё бегаў з улёткамі ды нейкіх школ дамагаўся. І ў Лукішкі патрапіў. А перад самай вайной ва Уронкі перавялі. Так і згінуў недзе…

— На Замкавай гранату кінулі. Паліцыянта забіла, — здушана, бо ў касцёле нельга гарлаць, гукаюць ад увахода.

Жанкі пачынаюць няголасна спяваць.

«Гэта браты Філіпавы. Яны гранату шпурнулі», — з гэтаю думкаю заплюшчваю вочы і згадваю Міцьку Шверубовіча. Пасля шпіталя пайду не дахаты, а да Чаплі.

— Да Чаплі, — шапчу скрываўленымі вуснамі, спрабую адарваць галаву ад лавы, і бабуля, падумаўшы, што я трызню, жагнаецца і плаксіва выдыхае: «Мудлісен за намі, Матка Боска Міласэрна…»

# ЯК ДОБРА БЫЦЬ ПАЭТАМ!

Ад самай раніцы ў дзверы пазванілі. Ігнат паспрабаваў расплюшчыць павекі, але яны заліплі і давялося раздзерці пальцамі. Званок паўтарыўся, пры гэтым гучаў настойліва і нецярпліва.

— Заяц, — шапянулі сасмяглыя вусны.

Вохкаючы, Ігнат споўз з ложка, заляпаў босымі нагамі.

Зайца, суседа з пятай кватэры, ён напачатку не пазнаў. Асыпаны ластаўчыннем твар набух, як рошчына ў дзежцы, і вачэй амаль не было відаць.

— Пятровіч… ратуй, — сіпла выдаў сусед.

— Мяне самога трэба ратаваць, — адказаў Ігнат, — поўны галяк, не ведаю, як дажыць да авансу.

— Пятровіч… памру… дай хоць на піва.

Пятровіч вылаяўся, зайшоў у пакой, доўга шнарыў па кішэнях штаноў.

— Вось, усё, што маю, — далонь у Зайца дрыжэла, і некалькі манет пакаціліся па падлозе.

Сусед ужо абрыд сваімі прыходамі, але ж такога не выганіш. Патрэбны чалавек! Хоць і апівуда, але рукі мае залатыя. Калі ў кватэры нешта псуецца — кран працякае ці трубу забівае, — Ігнат звяртаецца да Зайца, і той усё даводзіць да ладу. А літаральна пару дзён таму павесіў новую люстру, яшчэ раней прымацаваў карніз на кухні і прыбіў дыван у спальні. Карацей, проста так ад Зайца не адмахнешся, і даводзіцца раз-пораз пазычаць рубель на пахмелку.

Выправіўшы госця, Ігнат зноўку грымнуў на ложак. Але не паспеў зможыць вочы, як на кухні з той жа патрабавальнасцю, як і дзвярны званок, азваўся будзільнік.

На мінулым тыдні Ігнат адзначаў у рэстаране свой дзень народзінаў і збаёдаў семдзесят рублёў. А ўчора добра пасядзелі з паэтам Бурносам. Так што грошы былі прапітыя, а з кніжкі здымаць не хацелася. Сёння ж трашчала галава,

уваччу мітусіліся мятлікі і цягнула на ваніты. Але нічога не паробіш: трэба было цягнуцца ў рэдакцыю.

Працаваў Ігнат загадчыкам аддзела лістоў у гарадской газеце. Праца ўвогуле не пыльная, ды ўсе гэтыя ідыёцкія лісты, якіх на дзень прыходзіла па пяць-шэсць штук і на якія трэба нейкім чынам рэагаваць, Ігнату страшэнна ўстылі. Да таго ж ён мусіў рыхтаваць штомесячныя літаратурныя старонкі. Ігнат наогул лічыў, што такая сціплая пасада не адпавядае яго інтэлекту і адукацыі, хаця сам скончыў не ўніверсітэцкі журфак, а ўсяго толькі педінстытут, і тое завочна.

Убіўшыся ў кухню, загадчык аддзела запарыў цэйлонскай гарбаты і потым доўга піў, стукаючы зубамі аб край кубка і выціраючы кухонным ручніком буйны пот з лабаціны. Гарбата дапамагла. Патыліца ўжо не шчымела, як раней, галава не кружылася, і Гнат, спехам пагаліўшыся, рушыў на працу.

— Да вас, — паведаміла сакратарка Анюта, калі Ігнат увайшоў у рэдакцыю, і з гуллівай усмешкай на твары кіўнула ў бок наведніка ў куртатым, ці не з чужога плечука, пінжаку. Мужчына быў сталага веку і трымаў у руках вучнёўскі сшытак. Павітаўшыся, Ігнат адчыніў кабінет, запрасіў наведніка ўвайсці.

«Ваенны пенсіянер… мемуары прыцягнуў», — позірк слізгануў па ордэнскіх калодках на куртатым пінжаку.

На мінулым тыдні ўжо давялося адбівацца ад мемуарыста, які прынёс у рэдакцыю дробна спісаны агульны сшытак. У ім, на першай старонцы (зрэшты, Ігнат толькі яе і прачытаў), апавядалася, як партызаны знішчылі ў начным баі сорак гітлераўцаў. «Матэрыял цікавы, але газета друкаваць такія аб'ёмы не ў стане», — паведаміў тады мемуарысту, параіўшы звярнуцца ў які часопіс. Яшчэ і адрасы часопісаў на паперчыне напісаў. І вось новая злыбеда.

Ігнат сеў, памасіраваў скроні. Галава была сунялася, цяпер ізноў забалела. Дрогкія пальцы падхапілі сшытак, і боль у скронях адразу ж аціх: у сшытку былі не партызанскія байкі, а вершы. Ігнат лізнуў палец.

«Была вайна, успомніць страшна, калі нас немцы занялі. І мы у схватцы рукапашнай яго, сябры, перамаглі…» — Ігнат скасіў вока на самадзейнага паэта, перагарнуў старонку.

«Шчаслівы я, што жыву ў краіне, краіне міру і дабра. Яе ніколі я не кіну…» — «Хаця і кінуць ўжо пара», — мільганула ў Ігнатавай галаве.

«Мая вялікая Радзіма, яна у сэрцы не змясціцца. Не трэба мне фантанаў Рыма…» — «А дайце лепш апахмяліцца», — амаль уголас прашаптаў Ігнат і дзьмухнуў пад нос, прыбіраючы валасы з лабаціны.

— А вы ваявалі?

Такое пытанне наведніка, як бачна, збянтэжыла.

— Гадоў не хапіла. — Памаўчаўшы, наведнік няўцямна дадаў: — Быў партызанскім сувязным.

Ігнат спрытным рухам закінуў чупрыну на патыліцу. Па ягоных назіраннях, партызанскімі сувязнымі былі той парой нават немаўляты.

— Над вершамі варта папрацаваць. У такім выглядзе даваць у газету не можам, — загадчык аддзела працягнуў сшытак, вершаплёт яго з гатоўнасцю падхапіў, пры гэтым па твары прабегла падступная ўсмешка і вушы злёгку заварухнуліся. Вушы ў наведніка мелі дзіўную брунатную водцень. Складалася ўражанне, што іх выразалі з кардону і прыляпілі да галавы.

Ігнат пацёр потныя далоні. Гэта ж трэба — так лёгка адбіўся ад вершаплёта! Стрымана кракнуўшы, ён з натхненнем пацягнуў шуфляду стала, якая была забітая лістамі працоўных. Напачатку перапісаў начыста допіс юнкара пра піянерскую «Спартландыю»; потым узяўся за калектыўны ліст жыхароў дома № 3 па вуліцы Патрыса Лумумбы — у доме працякаў дах; нарэшце стаў даводзіць да ладу скаргу нейкай пенсіянеркі, якая паведамляла, што будаўнікі, пракладаючы камунікацыі, зламалі ў двары дома пясочніцу. Знянацку дзверы кабінета рыпнулі, і ў дзвярной пройме ўзнікла адвечна незадаволеная пыса рэдактара.

— Зайдзі, — выдыхнуў Кандрат Панцеляймонавіч, і падначалены з неахвотаю падняўся на ногі.

— З твайго катуха прэ як з піўной бочкі, — скрозь зубы працадзіў Кандрат Панцеляймонавіч, — нават сюды далятае. — Ігнатаў кабінет месціўся насупраць рэдактарскага.

— У сябра дзень народзінаў адзначалі, — шморгнуў носам падначалены.

Шэф выпусціў паветра праз ноздры:

— Мяне не хвалюе тваё асабістае жыццё. Мяне хвалюе, што ў рэдакцыі не прадыхнуць з-за перагару. Між тым у любы момант могуць зайсці работнікі райкама.

Кандрат Панцеляймонавіч больш за ўсё ў жыцці баяўся тых самых работнікаў, а пачуўшы прозвішча першага сакратара райкама, мог, як жартавалі ў рэдакцыі, страціць прытомнасць.

— Да цябе Кароткіх заходзіў? — шэф пастукаў па стале асадкай.

— Які Кароткіх? Паэт? — перапытаў Ігнат, збіраючыся працытаваць па памяці верш пра вайну, але, убачыўшы насуплены шэфаў твар, прыкусіў язык.

— Толькі што званілі адтуль, — шэф паказаў на жоўты пісяг, які раскашаваў на століі — у залеву столь працякала і на рэдактарскі стол ставілі вядро. — Кароткіх — ветэран вайны і працы, і такія абыходзіны з паважанымі людзьмі…

— Кандрат Панцеляймонавіч, — пралепятаў Ігнат, мерачыся патлумачыць сітуацыю, і шэф падвысіў голас.

— І такія абыходзіны з паважанымі людзьмі недапушчальныя.

Ігнат зірнуў на жоўты пісяг, паныла прамармытаў:

— Не даваць жа такое ў газету. Суцэльная графаманшчына…

— А ты, Ігнат Пятровіч, дзеля чаго тут пасаджаны? Табе што, людзі лісты пішуць бездакорнай мовай?

— Кандрат Панцеляймонавіч, я не паэт…

— І не брунет, — зноў перабіў шэф. — На наступным тыдні вершы Кароткіх павінны быць у газеце. Гэта ўказанне гарадскога камітэта партыі.

— Ну як? — шэптам запыталася Анюта, калі Ігнат выкуліўся ад рэдактара.

Ігнат у адказ страсянуў чупрынай і таксама шэптам адказаў:

— Была вайна… успомніць страшна!

Плюхнуўшыся на крэсла, Ігнат прыбраў з ілба вільготную чупрыну, убіў нос у ліст, над якім працаваў. «Яма замест пясочніцы», «звароты не далі плёну», «бачу заплаканых дзяцей з вядзерцамі ў руках», — заскакалі ўваччу няроўна напісаныя словы. Са штохвіліннымі ўздыхамі, бедалака пачаў правіць тэкст, але тут у кабінет праслізнула Анюта і паклала на стол знаёмы сіні сшытак.

— Просіць не цягнуць з друканінай, — усё так жа стоена шапятнула Анюта, даючы зразумець, што гаспадар сшытка сядзіць у прыймальні.

«Нават не зайшоў, сволач… праз сакратарку перадаў… ветэран… немаведама чаго… вось мой бацька — сапраўдны ветэран… ордэн меў… двойчы паранены… і памёр з нямецкім асколкам пад сэрцам», — замітусіліся ў галаве гарачлівыя думкі.

Ад сшытка патыхала цвіллю.

«Была вайна, успомніць страшна…», — бязгучна прашапталі вусны. І як гэта паправіць? З усяго верша прыдатная толькі фраза: «Была вайна». Усё астатняе давядзецца перапісваць. Ігнат падхапіўся, прайшоўся па кабінеце.

— «Была вайна, яе сустрэлі мы бясстрашна», — уголас прадэкламаваў загадчык аддзела лістоў, сціснуўшы кулакі і дэманструючы такім чынам народную адвагу. «Не, не тое… трэба нешта іншае…» Наступных пяць хвілін ён падбіраў рыфму слову «страшна». Паташны, бесшабашны, Вальтэр Запашны… Згадаўшы імя ўтаймавальніка тыграў, Ігнат сеў за стол, плаксіва застагнаў, але тут, надумаўшы штосьці, пажвавеў тварам і прыбраў з вачэй непаслухмяную чупрыну.

Пасля працы, пазычыўшы ў сакратаркі тры рублі, Ігнат накіраваўся да свайго сябра — паэта Бурноса. Дакладней, экс-паэта, бо сябрук апошнім часам нічога не пісаў.

Яшчэ пару гадоў таму імя Алеся Бурноса было на слыху. Ён выдаў паэтычны зборнік, рэгулярна друкаваўся ў часопісах і выступаў з вершамі ў школах. Але паехаў аднойчы на літаратурную сустрэчу, дзе творцаў добра пачаставалі. Там ён, ладна падпіўшы, завёўся з нейкім чыноўнікам ад літара-

туры і ўрэшце заехаў таму кулаком у лабешнік. Чыноўнік тыдзень ляжаў у бальніцы, а на Бурноса завялі крымінальную справу. Праўда, тут жа і прычынілі, бо ў пісьменніцкім асяроддзі кулуарныя размовы пачаліся, і многія Ігнатавага сябрука падтрымлівалі. Маўляў, правільна зрабіў, што старому карчу ў лоб заехаў. Бо той корч, як казалі, са сталінскіх часін душыў у літаратуры ўсё маладое ды таленавітае. Пасля таго выпадку Бурноса кінулі друкаваць і нікуды не запрашалі. А неўзабаве ён развёўся з жонкай і цяпер жыў адзінцом у цеснай маласямейцы.

Бурнос сустрэў сябра з кіслай гіморай на твары, а зірнуўшы на пукатую Ігнатаву грудзіну, на якой вымалёўваліся дзве пляшкі, акрыяў духам і пабег рыхтаваць закусон.

— Выручай, — Ігнат з грукатам выставіў «чарніла».

— Калі гаворка пра грошы — нічым не дапамагу, — Бурнос падпаліў фаерку пад патэльняй.

— Размова, брат, не пра грошы, а пра паэзію, — Ігнат выцягнуў з кішэні пінжака пакамечаны сшытак. Туды ж была запхнутая пляшка, таму сшытак меў пажаваны выгляд.

Бурнос адгарнуў вокладку.

— «Была вайна — успомніць страшна…»

— Э-ээ, — перакрывіўся Ігнат, як ад болю.

— Зуб разбалеўся? — спытаў сябар і кашлянуў у жменю. — «Была вайна — успомніць страшна…» — удругарадзь прадэкламаваў Бурнос, і Гнат яго рашуча перарваў:

— Ты можаш не паўтараць?!

Сябар, падобна, пакрыўдзіўся. Моўчкі пляснуў на патэльню два яйкі.

— Дык навошта ты гэтую лухту прынёс, калі яе чытаць нельга? — гракнуў, перакрыкваючы злавеснае сквірчэнне патэльні.

Ігнат зразумеў, што перагнуў палку, таму прымірэнчым голасам зазначыў:

— Ну ты чытай, але пра сябе. А то я ад тых вершаў блізкі да вар’яцтва.

Першую бутэльку выпілі ў суворым маўчанні.

— Цяжкі выпадак, — прамовіў нарэшце былы паэт, нюхнуўшы замест закускі край пакамечанага сшытка. — Не ведаю, як да ладу давесці. «Была вайна» — толькі і можна пакінуць.

— І я пра тое, — са скрухай азваўся Ігнат. — А трэба ж хоць каліва пакінуць ад арыгіналу.

Бурнос нечакана ўскочыў, пайшоў у пакой і тут жа з'явіўся з пыльнай тэчкай у руках.

— Слухай, забірай маю творчую спадчыну. Скажаш, што Кароткіх напісаў. А то ляжыць мёртвым грузам.

— Гэты Кароткіх не такі просты, як ты думаеш. Чужых вершаў не прыме.

Сябры дапілі другую бутэльку, і Гнат грукнуў кулаком па стале. Ды так, што былы паэт папярхнуўся.

— А давай мы твае творы пачнём друкаваць, але не пад сапраўдным імем, а пад імем…

— Кароткіх?

— Ды не згадвай ты пры мне гэтага мухамора, — вылаяўся Ігнат. — Выдадзім пад псеўданімам. Нейкую капейку абаб'еш. Вось у нас грошай на трэцюю пляшку няма, а атрымаеш ганарар — і пляшка пад носам.

Пачуўшы пра трэцюю пляшку, сябрук засоўгаў азадкам па ўслоне.

— Ну надрукуем. А каму будуць ганарары высылаць? Да таго ж Кандрат захоча жывога паэта пабачыць. Ты ж ведаеш, які ён перастрахоўшчык.

— Ды ведаю, — перакрывіўся Ігнат і зноў грукнуў кулаком, але не па стале, а па тэчцы, узняўшы пры гэтым аблачыну пылу. — Ёсць надзейны чалавек. Пад ягоным імем і выдадзім. А ганарар падзелім.

— Хто такі?

— Сусед мой, з пятай кватэры.

— Заяц? З якім надоечы выпівалі?

— Ён самы.

— А калі адмовіцца?

— Хай толькі паспрабуе. Ледзь не штодня рубель пазычае.

— Не надта ў яго выгляд прэзентабельны, — уздыхнуў Бурнос, — дый… — сябар абарваў фразу, пастукаў пазногцем па пустой бутэльцы.

— А дзе ты бачыў непітушчых паэтаў? — парыраваў Ігнат.

Бурнос пачухаў за вухам, маракуючы, якое яшчэ пытанне задаць.

— А Кандрат ведае, дзе ты жывеш?

— А пры чым тут маё жытло?

— А пры тым: будуць высылаць паштовы перавод, пабачаць, што аўтар жыве поруч з табою, і адразу ж падазрэнні ўзнікнуць.

— Не хвалюйся, Кандрат да мяне ніколі не завітваў. А наша Савецкая вуліца самая вялікая ў горадзе. А ўрэшце, табе няма чаго губляць. Ну даведаецца Кандрат, што гэта ты накрамзоліў. Мне ж пытлю дадуць.

Абмеркаваўшы дэталі, сябры ўдарылі па руках.

Праз паўгадзіны Ігнат з тоўстай тэчкай пад пахаю выйшаў на вулку, зайшоў за рог Бурносавага дома і ляснуў тэчкай па сцяне, выбіваючы пылюку.

На календары субота. Можна і паспаць лішнюю гадзінку, але сон зляцеў з павекаў. Магчыма, таму, што раніца выдарылася сонечная, а можа, таму, што Ігнат чакаў званка ў дзверы. Між тым званок — гэтым разам каротка і нерашуча — дзынкнуў толькі а дзясятай гадзіне. Гаспадар кватэры да таго часу памыўся, пагаліўся, паглядзеў тэлевізійныя навіны і сядзеў за сталом ды піў гарбату.

— Ты мне якраз патрэбны, — мовіў Ігнат, запускаючы Зайца ў кватэру.

— Бачок сапсаваўся? — нясмела запытаў госць.

— Ды не, брат, гэтым разам давядзецца заняцца справай куды больш інтэлектуальнай, — гаспадар завёў госця ў кухню. — Гэтыя тры вершы трэба перапісаць ад рукі, — на кухонным стале грувасцілася тоўстая тэчка, а побач ляжалі чыстыя аркушы і наліўная асадка.

— А навошта? — шчыра здзівіўся сусед, і Гнат, ляпнуўшы таго па спіне, працадзіў:

— Потым скажу.

Заяц нясмела прысеў на край услона, падхапіў асадку, і яна дробна задрыжала ў руцэ.

— Пятровіч, мне б горла змачыць… а то рукі зранку ходзяць… пісаць не магу…

— Халера, — вылаяўся Пятровіч, зазірнуўшы пад стол. — Грошай няма, але магу даць пустыя бутэлькі. Забірай тыя, што пад сталом, а яшчэ на гаўбцы ляжаць.

— Глядзі ж: толькі горла змачы і адразу прыходзь! — крыкнуў Ігнат услед Зайцу, калі той, бразгаючы пустымі бутэлькамі, шуганўў за парог. І ўжо ледзь чутна, сам для сябе, мармытнуў: — Будзем рабіць з цябе знакамітага паэта.

Пахмурным ранкам Анюта паклала перад Ігнатам пухнаты канверт.

— Па вашай частцы. Нейкі дзівак надаслаў.

Пісьмо было неахайна ўскрытае, але нумар дома праглядаўся, і Гнат асцярожна выдзер гэтае месца з каперты.

— Кандрат Панцеляймонавіч, тут вершы прыслалі… — з клёкатам у горле пралепятаў Ігнат, махнуўшы складзенымі ў столку аркушамі.

— Не Кароткіх? — у рэдактарскім голасе гучала трывога.

— Ды не… — Ігнат зірнуў на каперту, — Зайцаў… Сцяпан Кузьміч.

Кандрат Панцеляймонавіч насунуў на нос акуляры, разгарнуў паперкі. Колькі часу сядзеў нерухома, нарэшце пачаў чытаць:

— «Дзень згасаў ужо ад ранку, стыла белая пасцель і…» — шэф наблізіў нос да паперыны.

— «Пажоўклая фіранка калыхнулася як цень», — падаў голас Ігнат.

— Ну і почырк, — уздыхнуў рэдактар. — «Я дранцвеў у непакоі, як на золку змерзлы жук, мне сціскалі сэрца мроі, быццам поціск цёплых рук», — далей Кандрат Панцеляймонавіч чытаў моўчкі. Прачытаўшы ўсе тры вершы, зняў акуляры, задуменна прыкусіў дужку.

— Добра піша гэты Зайцаў…

— Дык што, даём у літстаронку? — пажвавеў Ігнат.

Шэф такіх слоў як і не чуў.

— Здаецца, я гэта недзе чытаў, — шэф зноў уздзеў акуляры. — Ну-ка, дай каперту.

Кандрат Панцеляймонавіч агледзеў каперту з усіх бакоў.

— Зайцаў на тваёй вуліцы жыве. Звяжыся з ім. Хай зойдзе ў рэдакцыю. Хачу на яго паглядзець — што за паэт такі.

Блізу абеду да Ігната зазірнула Анюта і, прыставіўшы далонь да вуснаў, прашаптала:

— З гаркама прыйшлі.

Якраз учора, прычым на першай паласе, далі верш «Была вайна» за подпісам Кароткіх. Ці не з тае нагоды гаркамавец завітаў у рэдакцыю? Асцярожна, на дыбачках, Ігнат выслізнуў з кабінета, наблізіўся да абабітых дэрмацінам дзвярэй.

— Што, Кандрат Панцялеевіч, будзем рабіць з Кароткіх? — пачулася за дзвярыма, і Гнат пазнаў па голасе загадчыка ідэалагічнага аддзела гаркама Сабярыхіна. — Кагадзе ад мяне vываліўся. Абураўся. Маўляў, верш змянілі да непазнавальнасці. Збіраецца пісаць у абкам. Я ад гэтага паэта хутка буду пад стол хавацца.

— Сволач, — уголас падумаў Ігнат, маючы наўвеце Кароткіх. Бурнос над ягоным вершам два дні біўся, пакуль давёў да ладу. А гэты смярдзюк яшчэ незадаволены.

Уголас мацюкнуўшыся, Ігнат вярнуўся да стала, пакінуўшы дзверы кабінета на два пальцы прачыненымі. Неўзабаве Сабярыхін з Кандратам выйшлі ў прыймальню, і па абрыўках іх размовы Ігнат зразумеў, што рэдактар з гаркамаўцам вырашылі сумеснымі намаганнямі адбівацца ад Кароткіх.

Знянацку наступіла цішыня — нават Анюта не кляцала друкаркай. Ігната пацягнула на сон, ён адчайна пазяхнуў, але тут з прыймальні даляцеў знаёмы голас і ў дзвярной пройме намаляваўся сусед з пятай кватэры. Ён па-сяброўску пасміхаўся, але калі загадчык аддзела лістоў паказаў кулак, вомігам пасуравеў.

— Я вам вершы надсылаў, — язык новаспечанага паэта заплятаўся ад хвалявання.

— Сцяпан Кузьміч? Зайцаў?! — голасна, каб чула сакратарка, выдаў Ігнат. — Вельмі, вельмі прыемна пазнаёміцца, — рука Зайцава была халоднай і потнай.

Пару хвілін, ізноў-такі гучна, Ігнат распытваў Сцяпана Кузьміча пра ягоны творчы шлях, пытаўся — над чым ён у дадзены момант працуе, — а пачуўшы, што Сцяпан Кузьміч дзесяць гадоў нічога не пісаў, і толькі зараз вярнуўся да творчасці, абурана грымнуў:

— І не сорамна вам, таварыш Зайцаў, так злачынна абыходзіцца са сваім талентам?

У гэты момант у кабінет зазірнуў Кандрат Панцеляймонавіч. Цікава, відаць, стала — каго Ігнат так гучна прабірае.

— Вось, Кандрат Панцеляймонавіч, пазнаёмцеся. Таварыш Зайцаў. Прынёс нам новыя творы.

Кандрат з Зайцам пайшлі ў рэдактарскі кабінет, а следам за імі — нячутна, на цырлах — да абабітых дэрмацінам дзвярэй падскочыў Ігнат.

— Паэзіяй захапіўся даўно, як працаваў на цаліне, — даляцеў прыглушаны дэрмацінавым матрацам голас. Добрую палову Бурносавай тэчкі складаў паэтычны цыкл «Кустанайскі стэп», таму Заяц цаліну і згадаў.

Ігнат пацёр далоні, кацінай хадой прайшоўся па прыймальні. Маналог пра творчы лёс, прычым на дзвюх старонках, ён напісаў учора ўвечары, і яны яго доўга рэпеціравалі.

— Чаго гэта вы, Ігнат Пятровіч, так расхваляваліся? — з усмешкай запыталася Анюта, фарбуючы вусны. Дзяўчына трымала ў руцэ круглае люстэрка і з яго дапамогай глядзела то на вусны, то на загадчыка аддзела лістоў.

— Эх, Анюта… Сапраўдны талент. Хачу ім заняць усю літстаронку.

— А як жа Кароткіх? — дзяўчына кінула памаду ў стальніцу.

Ігнат пацямнеў тварам, моўчкі кіўнуў у бок рэдактарскага кабінета.

Сакратарка падбегла да дзвярэй, прыцiснула вуха да дэрмаціну, дробна залыпала вейкамі.

— «І неба — ты! І сонца — ты! І ты — нявеста пекнаты!» — гамзаў за дзвярыма Заяц, і Анюта з зачараваннем у голасе выдыхнула:

— Сапраўдная паэзія!

Увесь сакавік ціснулі маразы, снег амаль не раставаў, але апошнімі днямі падзьмуў цёплы вецер, які разагнаў панылы туман, вылузаўшы з яго звонкае, як спеў жаўрука, сонца. Не толькі рэкі, але й ручаі вышлі з берагоў, залілі лугавіны, і цяпер там, дзе нядаўна можна было праехаць на лыжах, стаяла вада, па якой — так, прынамсі, здавалася, — паволі плылі кудлатыя кучмы кустоў.

Вось такой вясновай парой Сцяпан Зайцаў ехаў цягніком на абласны семінар маладых літаратараў. Ехаў з неахвотай і трывожным сэрцам. Як толькі пачаліся ўсе гэтыя вершы, Ігнат трос чупрынай, сцвярджаючы, што давядзецца адно іх перапісваць ды пхаць у каперты. Ну яшчэ хадзіць на пошту атрымліваць ганарары. А тут прыйшлося ўсё кінуць ды перціся на праклятушчы семінар.

— Ну які я малады літаратар? Сёлета саракавік стукнуў! — казаў ён суседу, а той у адказ паведаміў, што тут маецца на ўвазе не чалавечы ўзрост, а творчы стаж і што там, на семінары, усе будуць такія — з плехам на ўсю галаву.

— Ды я сам бы з радасцю паехаў, — даводзіў Ігнат, паціраючы рукі. — Уяві: жывеш у гасцініцы, два разы на дзень кормяць, перад ад’ездам будзе сяброўская вячэра з дармавой гарэлкай.

Перспектывы спакушалі. Ды страшнавата ехаць у далёкі свет. А раптам пачнуць што-небудзь спытваць — пра паэзію ці яшчэ пра якую халеру. А ён за ўсё жыццё не прачытаў аніводнай кнігі.

— Ты, галоўнае, маўчы. Слухай ды галавой ківай, — настаўляў Ігнат. — А выкруціцца ўсё адно не ўдасца, бо цябе Сабярыхін выпраўляе. Так што перапісвай тузін вершаў і паслязаўтра ад ранку ляці на цягнік.

Высокая годнасць паэта, вядома, лагодзіла душу. Аднак быў тут і непрыемны момант: з яго ўсе наўкол пакеплівалі.

Ніхто не даваў веры, што Сцёпка Зайцаў, якога сябры іначай як Зайцам не называлі, здольны штосьці напісаць, ды яшчэ ў рыфму. Але калі, на патрабаванне Ігната, ён прачытаў на працы ўрывак з паэмы «Цалінны колас», усе разам аціхлі, а згледзеўшы, што паэма напісаная Зайцавымі крамзолямі, сталі паглядаць на яго з павагай і з прыхаванай насцярогай. І калі ён прасіў пазычыць рубель «да заўтра», ніколі не адмаўлялі, хаця зусім нядаўна са смехам пыталіся: «Свае, Заяц, усе прапіў?»

Асабліва падабалася новаспечанаму паэту атрымліваць грашовыя пераводы. Мясцовая газета ганарары плаціла невялікія, а вось абласная і рэспубліканская — ён нават не запомніў іх назвы, — абдорвалі паўнаважкім рублём. А пад Новы год прыйшоў ганарар з часопіса. Шалёныя грошы! І хаця палову іх даводзілася аддаваць Бурносу, у кішэні завялася сякая-такая капейчына, і літаральна перад паездкай на семінар ён набыў сабе капялюш з высокім верхам і плецены з лёскі гальштук. Ну а жакардавы гэдээраўскі плашч, які віснуў на плячах, пазычыў сусед Ігнат. Так што, пазіраючы на адбітак у вагоннай шыбе, «семінарыст» сам сябе не пазнаваў і, папраўляючы гальштук, які дагэтуль ніколі не насіў, стрымана пераводзіў дых. І як там усё будзе?

А за шыбай усё дыхала вясною і дробныя ручаі,ператварыўшыся ў бурлівыя рэкі, вырываліся з-пад грукатлівых мастоў, цягнучы на сабе абломкі крыгаў і ашмоцце жоўтай пены і падступна падмываючы крутыя берагі.

Вясновы настрой не пакідаў Сцёпку і ў горадзе, калі ён шыбаваў па бульвары, раз за разам пераскокваючы праз лужыны і хапаючыся пры гэтым за капялюш, бо той пры кожным скачку з’язджаў на патыліцу. Адзінае, чаго не хапала душы для поўнага шчасця, гэта кухля халоднага піва. Але ж увушшу й дагэтуль гучаў пагрозлівы Ігнатаў наказ: у першы дзень — ні кроплі спіртнога!

Месца яму забраніравалі ў гарадской гасцініцы, якая стаяла непадалёку ад ракі, поруч з мостам. Узышоўшы на гасцінічны ганак, Сцёпка міжволі заглядзеўся на раку, якая выйшла з берагоў і шамацела ледзяным шарашом.

— Вы заходзіце? — мужчына ягонага веку таксама ўскочыў на ганак.

Мужчына спяшаўся, бо адразу ж падбег да акенца адміністрацыі, ляпнуў пашпартам па далоні.

— Я на семінар маладых літаратараў.

Тут жа, ля акенца адміністрацыі, яны пазнаёміліся. Прозвішча калегі было Сталяронак, і ён таксама прыехаў з правінцыі. Сталяронак дапамог запоўніць анкету, дзе было аж пятнаццаць пытанняў, і знянацку, з інтанацыяй панікі, выдаў:

— Сцяпан Зайцаў?! Дык я цябе не так даўно чытаў! — Сталяронак згадаў назву і нумар часопіса. — Выдатная падборка!

Аўтар часопіснай падборкі вінавата ўсміхнуўся.

— Прозу спрабаваў пісаць? — запытаў калега, калі падымаліся на свой паверх.

Не ведаючы, што адказаць, Сцёпка таргануў плячом.

— А я вырашыў паспрабаваць. Думаў, рыфму не трэба шукаць — буду гнаць па пяць старонак у дзень. А прозу, аказалася, пісаць цяжэй, чым паэмы.

Сцёпка прыехаў з пустымі рукамі, толькі вершы пхнуў у кішэнь, а ў калегі быў важкі сакваяж, адкуль той спачатку выцягнуў электрабрытву, а потым пакунак з накроеным хлебам ды салам.

— Частуйся, — прапанаваў новы знаёмца, і Сцёпка не без задавальнення падхапіў акраец хлеба з кавалкам сала. Сала было густа пасыпана кменам і проста раставала ў роце.

— Не спознімся? — няўцямна, з набітым ротам, спытаў Сцёпка.

— Не хвалюйся. Я ўжо другім разам на семінар прыязджаю. Сёння галоўнае — адзначыцца, а там ідзі гуляй. Ніхто і слова не скажа. Гэта заўтра, як пачнуцца заняткі па секцыях, і калі будзем свае вершы чытаць, трэба сядзець ад званка да званка.

Паэты выйшлі з гасцініцы, узышлі на мост, налеглі жыватамі на парапет. На доле, разам з дробнымі крыгамі, плылі пустыя бутэлькі, абламанае вецце ды розны хломазд.

— Вады сёлета як завязаць, — бліснуў белымі зубамі Сталяронак. — І ў нашым пасёлку рака разлілася. Дзве вуліцы заліло. Па адной хоць на лодках плыві.

Яны даволі доўга ішлі па горадзе, прычым жвавай хадой, і Сцёпка ледзь паспяваў за спадарожнікам. Нарэшце той спыніўся, тыцнуў пальцам у бок шэрага трохпавярховіка:

— Тут!

Скінуўшы ў шатні верхнюю вопратку, Сцёпка прычасаўся пазычаным у Сталяронка грабянцом, і яны ўзбеглі па сходах. На другім паверсе, перад дзвярыма, якія вялі, праўдападобна, у залу, стаяў стол, за якім сядзела мажная кабета.

— Чаму так позна? Семінар гадзіну як пачаўся, — паўшчувала іх кабета.

— Пятнаццаць хвілін як з цягніка… бегма беглі… усю ноч не спалі, — навыперадкі загаманілі літаратары.

— Гэта хто ў нас? Сталяронак і Зайцаў? — кабета запісала іх прозвішчы ў журнал, і паэты цішком увайшлі ў залу.

У зале панаваў прыемны помрак, а вось сцэна зырка свяцілася. За сталом прэзідыума сядзела пяць чалавек. Яшчэ адзін, падсветлены фіялетавым святлом, ад чаго быў падобны на тапельца, стаяў ля моўніцы і штосьці чытаў з паперкі. Хлопцы прымасціліся на апошнім радзе.

— Нашы пісьменнікі па-ранейшаму нясмела, з аглядкай падступаюцца да такой важнай для літаратуры тэмы, як тэма рабочага класа. Літаратары не паказваюць напоўніцу стваральнай працы савецкіх людзей, ім па-ранейшаму не хапае смеласці, не хапае жыццёвага досведу каб паказаць чалавека новай псіхалогіі, народжанай у працэсе пабудовы камуністычнага грамадства. А таму партыя заклікае творцаў ісці ў працоўныя калектывы і вытворчыя цэхі, каб вывучаць жыццё ва ўсіх яго праявах, — «тапелец» на імгненне змоўк, прыклаўся да шклянкі з вадой, і зноўку ўзяўся чытаць — голасам нудотным і невыразным. Голас паволі аддаліўся, і Сцёпку стала адольваць дрымота. Дзіва што. Прачнуўся а шостай раніцы, каб паспець на цягнік. Ды і спаў кепска — хваляваўся перад паездкай. Яго абудзіў штуршок пад скабы.

— Храпеш, — прашаптаў Сталяронак.

Хвілін пятнаццаць небарака змагаўся з дрымотай, нарэшце прамоўца сышоў са сцэны, і Сцёпка на радасцях ударыў у ладкі, ды так гучна, што некалькі «семінарыстаў» глянулі ў ягоны бок.

Наступным да моўніцы падышоў чалавек, падобны на цырульніка — у паласатым пінжаку і з рэдкімі вусамі пад глюгастым носам. У адрозненне ад «тапельца», «цырульнік» загаварыў гучна і ненатуральна натхнёна. Яго, відаць, адмыслова выпусцілі, каб узбадзёрыць залу.

— Месяц таму я выдаў сваю першую празаічную кніжку. Яна для мне вельмі дарагая. У ёй згадваюцца выдатныя людзі, чые шляхі-дарогі пралеглі праз наш горад. У прыватнасці, цэлы раздзел прысвечаны Аляксандру Сяргеевічу Пушкіну.

— Хто гэта? — пацікавіўся Сцёпка.

— Мясцовы паэт. Піша і чытае бойка, але паэзія неглыбокая.

Мясцовы паэт прачытаў тузін сваіх вершаў. Пасля кожнага з іх Сцёпка ўжо зусім шалёна біў у ладкі. Хоць вершы, калі даваць веры Сталяронку, былі і неглыбокія, але ж разагналі дрымоту.

Праз гадзіну абвясцілі перапынак, і Сцёпка выйшаў з залы, ціснучы цёплую далонь да халоднага чэрава. Ён упершыню сядзеў на семінары, таму з нязвычкі ў чэраве забурчала. Калега таксама быў пахмурны і ўтрапёна, нібыта шукаючы некага, глядзеў па баках.

— Зараз кухаль піва б не перашкодзіў, — летуценна, без усялякай спадзеўкі, прагугніў Сцёпка.

— Можна і чаго мацнейшага, — з гатоўнасцю да дзеі азваўся Сталяронак.

«Наш чалавек», — падумаў Сцёпка. Калега яму ўсё больш і больш падабаўся. Не згаворваючыся, яны падаліся ў шатню. Сцёпка спехам насунуў жакардавы плашч, Сталяронак балонневую куртку і, не зашпіліўшыся, удзельнікі семінара вылецелі на вуліцу.

У бліжэйшым гастраноме давалі «Яблычнае» за рубель-сямнаццаць. Прыйшлося патаўчыся ў чарзе, злёгку палаяцца і нават адпіхнуць рабацягу, які стаяў за іхнымі спінамі і

ватоўка якога была перапэцканая ў нешта белае — ці то ў гашаную вапну, ці то ў курынае гаўно.

— Куртку першы раз надзеў, і адразу завэдзгаў, — прабубніў Сталяронак, калі, распіхаўшы па кішэнях бутэлькі, выйшлі з гастранома. Калега плюнуў на далонь, пацёр рукаво і па-камандзірску рашуча выгукнуў: — Курс на гасцініцу!

Нечакана з-за аблачын зірнула сонца — яны якраз ішлі па мосце, — і прыяцелі зноў спыніліся ля парапета, пазіраючы на раку, якая бліскала зыбкімі, падобнымі на рыбіну луску, хвалямі і ружавела на даляглядзе.

— Слухай, а на якую халеру папрэмся ў гасцініцу? Сядзем лепш дзе-небудзь на беразе, на раку паглядзім. Пагатоў, прырода шэпча, — прапанаваў Сталяронак.

Спусціўшыся з моста, літаратары пашыбавалі набярэжнай вуліцай. Гарадская забудова неўзабаве скончылася, пачаўся прыватны сектар, і яны прыгледзелі ўтульную мясціну. Тут ужо і да іх ладзілі бяседы: пасярэдзіне невялічкай паляны чарнела выжарына ад цяпельца, ляжала таўсценнае бервяно, а наўкол бліскалі алюмініевыя накрыўкі ад бутэлек.

Сцёпка падабраў крыссе плашча, сеў на бервяно, агледзеўся. Рака ў гэтым месцы рабіла паварот, віравала бурунамі, а сонца глядзела з чыстага неба, залiваючы наваколле пяшчотным мядовым святлом і ласкава грэла спіну. Сцёпка даўно не пачуваў сябе так утульна і лагодна, як тут, на беразе хуткаплыннай ракі.

Сталяронак расклаў на сухой траве бутэлькі, выцягнуў з курткі пластмасавы кубак-складанчык.

— Спадарожнік літаратара, — пажартаваў калега.

Піць з пластмасавай пасудзіны было ўдвая прыемней.

— Ты да паэмы падступаўся? — спытаў Сталяронак, калі агаралі трэцюю бутэльку. Язык у бяседніка крыху заплятаўся.

Сцёпка хвіліну глядзеў на варону, якая плыла па рацэ, седзячы на крызе, нарэшце ачуўся, нецвяроза прамармытаў:

— Добра, што мы збеглі.

— А што там рабіць? Розную лухту слухаць? — абурыўся Сталяронак. — Ён пра Пушкіна напісаў… той, нібыта, міма нас на паштовай карэце праехаў. Ну праехаў… і што з

таго? Можа, нават пасцаць выходзіў? Дарэчы, і мне не перашкодзіць, — калега падхапіўся з бервяна і, расшпільваючы на хаду прарэх, падаўся да берага.

Сцёпка тым часам пазяхнуў на ўсю губу ды так і застыў з разяўленым ротам. Сталяронак, які кагадзе стаяў на краі абрыву, раптам знік. Ачмурэлы, на паўсагнутых нагах, Сцёпка падбег да ракі і ўбачыў, што бераг абрынуўся, падмыты рачной плынню, і што калега боўтаецца ў вадзе, спрабуючы ўхапіцца за камлыжыну, разам з якой абрынуўся. Камлыжына рассыпалася, Сталяронак з галавой пайшоў над ваду і вынырнуў метрах у дзесяці правей ад абвалу. Ігнат стаў спускацца да вады. Бераг быў гліністы, слізкі; небарака з'ехаў па ім, як на іртах і, па прыкладзе калегі, з галавой нырцануў у ваду. Цела апаліла халадэча. У першае імгненне Сцёпку падалося, што патрапіў у апраметную, а калі вырваўся з палону ледзяніста-пякучай вады і глынуў паветра, дык убачыў свой капялюш, які круцілі віры. Плынь адносіла на сярэдзіну ракі. Ён загроб абедзвюма рукамі і з жахам адчуў, што кранўўся нечага жывога. Гэта была нага Сталяронка. На ёй ужо не было туфля. Сталяронак гракнуў, і крык гэты пакрыла адчайнае булькаценне. З апошніх сіл Сцёпка схапіўся рукой за кусцік. Ногі не даставалі да дна. Ён азірнуўся. Калега плыў па рацэ, прычым даволі дзіўным чынам. Спачатку з галавой хаваўся да ваду, а потым, раскрыліўшы рукі, вырываўся з яе па самую грудзіну. Так плавалі на Алімпійскіх гульнях, якія летась паказвалі па тэлебачанні. Рукі дарэшты скарчанелі. Сцёпка ўшчаперыўся ў куст зубамі. Куст адарваўся з коранем, і малады літаратар, з кустом у зубах, паплыў, па-сабачы перабіраючы рукамі. Пакуль плыў, калега ўжо выбраўся на край глеістай касы і адхарквауся тванню. Сцёпка выплюнуў куст, задышліва гойкнуў:

— Руку дай!

Замест рукі калега працягнуў нагу без туфлі, Сцёпка схапіўся за калашыну і Сталяронак зноў бухнуўся ў ваду.

…Яны доўга ляжалі на леташняй траве, не даючы рады падняцца. Абодвух калаціла.

— Трэба ісці… рухацца трэба… інача й акалеем, — Сталяронак дробна ляскаў зубамі.

Сцёпка хацеў штосьці сказаць, але адчуў, што не можа гаварыць, бо сківіцу скурчыла і ён не даваў рады сцяць зубы. Яны падняліся на ногі. На калегу было страшна глядзець. Мала таго, што быў да ніткі мокрым, дык яшчэ і спрэс заэдзганы глінай. І галаву перапэцкаў. На левай назе адсутнічаў туфель — з дзіркі мокрых шкарпэтак вытыркаўся вялікі палец з сінім пазногцем, — а з расшпіленага прарэха выглядала скурчаная і такая ж сіняя пісюліна.

Хоць хмель і выпетрыўся з галавы, але Сцёпка ішоў улукаткі, пакідаючы на падсохлым ходніку мокры след. Сталяронка, які ішоў першым, таксама кідала ў бакі. На правую нагу ягоную наліпла столькі гліны, што ён яе ледзь перасоўваў.

— Прыйдзем у гасцініцу… станем пад гарачы душ… абмыемся… — раз-пораз, з інтанацыяй усхліпу, паўтараў калега, і Сцёпка падумаў — ці не трызніць бедачына?

Сцёпка парываўся сказаць, што іх у такім выглядзе ў гасцініцу не пусцяць. Там жа дывановыя дарожкі пасцеленыя, а ў іх на трох нагах па два кілаграмы гліны: начапілі, як выпаўзалі з гразкага берага на сухое. Але нічога сказаць не мог, адно няўцямна мыкаў ды ўздрыгваў усім целам. На Сталяронка, да ўсяго, напала ікаўка — наглытаўся рачной вады. І пасля кожнай раскацістай ікаўкі яго адкідвала на пару крокаў назад.

Тым часам маладыя літаратары праходзілі міма дзевяціпавярховіка, каля якога малеча гуляла ў вайну. Убачыўшы мокрых дзядзькоў, малыя пасунуліся следам. Спачатку проста ішлі, з цікаўнасцю пазіраючы на пахілыя спіны, а затым наставілі свае ружжы-палкі, нібыта яны канваіруюць палонных немцаў, ці, яшчэ горш, адубелых французаў увосень 1812-га. Неўзабаве да дзятвы далучылася цётка з пустой сумкай у руках. Пачала распытваць падшыванцаў, каго яны вядуць, — і нейкі барадаты інтэлігент, які ішоў насустрач, на поўным сур’ёзе спытаў:

— Кіно здымаюць?

Дарэшты скарчанелыя, літаратары датупалі да гасцініцы. Сцёпка ўжо не адчуваў ні рук, ні ног і з цяжкасцю адчыніў дзверы. Сталяронак зачапіўся за парог, упаў на калені і, не даючы рады падняцца, вокраччу папоўз па цёмным калідоры. Насустрач выйшла прыбіральшчыца з пустым вядром і швабрай.

— Ай, хто гэта?! — улякнута загарлала цётухна, выпусціўшы з рук швабру, якая, падаючы, агрэла Сталяронка па макаўцы.

— Мы паэты… з семінара ідзём! — прамовіў Сталяронак, і Сцёпка хуценька прычыніў дзверы, пакінуўшы сябра па няшчасці сам-насам з гасцінічнай адміністрацыяй.

Спехам, на нягнуткім нагах, падбег да цэментавых прыступкаў, якія, усутыч да моста, збягалі ў ваду. Вырашыў хоць неяк абмыцца, перш чым ісці ў гасцініцу. Спусціўшыся да вады, паэт адмыў ад гліны туфлі, калашыны штаноў, крысы жакардавага плашча. Над галавою пачуліся галасы. Сцёпка задзёр голаў. На мосце, звесіўшыся праз парапет, на яго глядзелі некалькі чалавек, і нехта жартам крыкнуў: «Што, купальны сезон адкрылі?»

— Халера на вас, — вылаяўся госць абласнога цэнтра, па-заліхвацку чхнуў, і рэха злавеснага чыху замітусілася пад мостам.

Крыху абмыўшыся, Сцёпка з вохканнем расправіў хрыбеціну, стаў уздымацца па прыступках і заўважыў, што да гасцініцы пад'язджае міліцэйскі «козлік», а з самой гасцініцы, з разнасцежаных дзвярэй — іх трымала прыбіральшчыца — далятáлі шалёная ікаўка, грукат пустога вядра і жаночы лямант. Прыйшлося спусціцца да вады і яшчэ раз пашараваць далонямі калашыны. Па рацэ плыў ягоны капялюш. Дзесьці зачапіўся за прыбярэжныя кусты, а цяпер вырваўся на водны прастор і падплываў да моста. На самім мосце тым часам узрушана загаманілі. Сцёпка падняўся па прыступках, наструнена, выцягнуўшы шыю, зірнуў на гасцінічныя дзверы і абамлеў. Ягонага прыяцеля — ён быў у адных трусах — вывелі з гасцініцы і сілком пхалі ў «козлік». Сталяронак, відаць, распрануўся, каб не пакідаць слядоў на дывановых

дарожках, а цёткі ў гасцініцы не так зразумелі ды выклікалі міліцыю. Як толькі міліцэйская машына ад'ехала, паэт падскокам, як грак на снезе, кінуўся ў бок вакзала. Людзі, якія ішлі насустрач, пужліва глядзелі ўслед; давялося завярнуць у прахон між будынкамі і шыбаваць дварамі.

«Прыязджаю дахаты, мыю плашч, сушу, заношу Ігнату і кажу: усё! Хопіць з мяне тых семінараў», — поўнілі галаву ліхаманкавыя думкі. У твар дыхнуў халодны вецер, і Сцёпка, здрыгануўшыся, зразумеў, што калі зараз жа не сагрэецца і не абсохне, дык грымне на мокры асфальт і развітаецца з жыццём. «А куды я, уласна, бягу? На вакзал? Але "дызель" пойдзе ўвечары. Да таго ж не паспею з'явіцца ў пачакальні, як падхопіць міліцыя. Зацягне ў апорны пункт, пачне высвятляць — чаму я мокры ды п'яны. Там, у апорным пункце, і загавею душой». Спатыкнуўшыся на выбоіне, Сцяпан спыніўся. «Лазня!» — нарадзілася ў свядомасці выратавальнае слова, і нутраны голас сарваўся на пранізлівы вокліч:

— Эй, дзе ў вас б-бліжэйшая л-лазня?!

— А вуньдзека, — спалохана азвалася бабуля, да якой звярнуўся. Бабуля з перапуду прыціснулася спінай да сцяны дома. — З яе дым ідзе.

Пакарабачаная лазенная труба, аднак, пускала не дым, а правідную пару.

Каля касы стаяла чарга, але, пабачыўшы мокрага і акалелага небараку, людзі рассунуліся.

У прымыльніку ён схапіў за рукаво лазеншчыка:

— Сл-лухай… т-рэба апранахі памыць ды п-прасушыць.

Лазеншчык адступіў на крок:

— У нас лазня, а не пральня.

Дрогкай рукой Сцёпка прыляпіў на кафельную сцяну мокры рубель. Лазеншчык спрытна падхапіў грошы, расчыніў абабітыя бляхай дзверы. Яны зайшлі ў цёмную, прасмярдзелую бярозавымі венікамі бакоўку. Тут стаяла пашарпаная шафа і стосы шэрых лазенных мядніц.

— Вунь кран…памыеш апранахі… зараз сушылку ўключу.

Скаланаючыся ўсім целам, Сцёпка зняў плашч, выцягнуў з нутраной кішэні размоклы пашпарт. «Ці атрымаю па

ім паштовыя пераводы?» — падумаў з трывогай. «Скажу, у пральную машыну патрапіў… можа, і дадуць», — Сцёпка паклаў пашпарціну на шафу, туды ж, скамячыўшы ў кулаку, паклаў грошы. Потым дастаў жмутак папер, якія ляжалі ў другой кішэні і якія разлезліся ад вады, шпурнуў у цёмны кут і, перабіраючы рукамі сцены, рынуў у парыльню.

Яму адразу ж далі месца на верхняй паліцы.

— Ты адкуль такі? — спытаў дзядзька ў вязанай шапцы, шугануўшы вады на распаленыя камяні.

— З р-ракі… бераг п-падмыла… — заікаста патлумачыў Сцёпка.

— Знаёмая справа, — рагатнуў дзядзька. — Швагер пазалетась паехаў шчупакоў біць і таксама з абрыву ў раку сігануў… Давай, гарачым венікам адхвашчу. Вомігам ачуняеш.

…Упараны, з тварам чырвоным як печаны рак, Сцёпка выйшаў з прымыльніка і накіраваўся ў буфет. Там гаманіў натоўп, а гэта азначала, што нядаўна завезлі піва. Пачуваў сябе Сцяпан Зайцаў так, нібыта хвіліну таму нарадзіўся. Стваралася ўражанне, што нейкая сіла падхапіла пад пахі і панесла ў лазенны буфет. На ім усё было сухое, калі не лічыць туфель: яны не прасохлі і злёгку халадзілі пяткі. З нецярплівасцю пераступаючы з нагі на нагу, наноў народжаны наведнік лазні дачакаўся чаргі і ўзяў два кухлі. Першы кухаль выпіў нагбом, не адрываючыся, і з такім адчаем аддзьмухнуўся, што ўсе азірнуліся. Другі кухаль піў паволі, расцягваючы задавальненне і разважаючы, ці варта перціся ў гасцініцу. Напачатку хацеў пайсці, але невядома, што там учыніў Сталяронак. А раптам заявіцца міліцыя ды пачне распытваць… Да таго ж вершы, якія мусіў заўтра чытаць, закінуў у кут. Дзесьці праз гадзіну адправіцца апошні «дызель». Паспее ўзяць яшчэ адзін кухаль. А заўтра выспіцца дасхочу. Потым будзе яшчэ адзін вольны дзень… Сцёпка выцер далонню пену з вуснаў і падумаў: «Як добра быць паэтам!»

# НАЧНАЯ ДАРОГА

Студэнцкае жыццё «на бульбе» вядомае. Удзень, пад панылым восеньскім дажджом, збіраеш караняплоды, потым вячэраеш у імправізаванай, збітай з аполкаў і зацягнутай поліэтыленам сталоўцы, нарэшце, куляеш бутэльку «чарніла» і выпраўляешся з сябрамі ў суседнюю вёску на скокі. І выпраўляешся не пехатою, а на калгасным транспарце — пачэпленым да «беларуса» вазку, на бляшаным дне якога рэшткі гною, а на борце пагрозлівы надпіс «Перавозка людзей забаронена!». Трактарыст таксама падпіты і, падбадзёраны бязладнымі песнямі, свістам, дзявочым віскатам і звернутымі да яго воклічамі: «Лёха, гані не менш за сто!», цісне на ўсю жалезку. Назад, праўда, трактар едзе не так хутка, бо ў Лёхі-трактарыста хмель выпетрываецца з галавы, а студэнты ўжо не гарлаюць і не спяваюць, бо галоўных пеюноў у вазку няма: пашыліся ў стагі ды капешкі з мясцовымі дзеўкамі.

Вось і студэнт 3-га курса Мішка Ананчанка (сябры звалі яго проста Анана) у першы ж вечар падхапіў на скоках вясковую бібліятэкарку, штоночы завіхаўся з ёю і дахаты вяртаўся пад раніцу. Жылі яны ў Мазалях, а на танцы ездзілі за чатыры кіламетры, у вёску Бажкі. Любошчы даліся Мішку ў знакі: небарака змарнеў з твару, схуднеў і стукаўся плечуком у вушак, пераступаючы раніцай парог хаты.

Тае ночы Мішка, як заўсёды, пашыўся з каханкай у салому, але быў не ў гуморы. Пабольвала галава, салома калола бакі — сядзець давялося на высокай тарпе, — паволі церусіў дождж, а бібліятэкарка, упершыню за ўвесь час іх спатканняў, пачала з дакорам у голасе казаць, што ён хутка з’едзе і адразу ж на яе забудзецца. Урэшце Анану абрыдлі дзявочыя дакоры, і ён, пачуўшы гітарнае брынканне і лямант каля клуба, саслізнуў на азадку з тарпы. Хацеў паехаць дахаты разам з усімі, і тут жа з апалым сэрцам пачуў перарывістае ляскатанне трактара, якое паволі аддалялася. І ўсё ж такі гэтым разам ён падаўся ў Мазалі раней звычайнага. Нават не

пацалаваў дзяўчыну на развітанне. Проста пацiснуў гарачую руку і потым, тупаючы вясковай вуліцай, сцепануўся ад роспачных усхліпаў за спінай.

Ісці трэба было кіламетр па асфальце і яшчэ два кіламетры па гразкай, здратаванай глыбокімі калюгамі праселіцы. Ратуючыся ад тых усхліпаў, Анана пусціўся па шашы як ветрам гнаны і, толькі дайшоўшы да павароткі, азірнуўся, дастаў з кішэні пачак «беламору» — цыгарэт у тутэйшай краме не было, — і ад нечаканасці выпусціў папяросіну з зубоў… Аднекуль з гары на зямлю абрынулася штосьці цёмнае і важкае. Анана прысеў ад нечаканасці і незадаволена плюнуў пад ногі. Гэта ягоны аднагрупнік Васька Кончыц скочыў з разгалістага дрэва, якое расло пры дарозе.

— Тху, бляха… напужаў, — выдыхнуў Мішка, падбіраючы з-пад ног беламорыну. Папяроса патрапіла ў лужу, размокла і Анана, расціснуўшы яе ў кулаку, абабіў далоні.

— Ты чаго на дрэва ўзлез? — Мішка зірнуў на цёмную крону.

Васька нічога не адказаў, адно зацкавана, з убітай у плечы галавой, агледзеўся.

«Зубамі звоніць, — з усмешкай на вуснах падумаў Анана, прыпальваючы новую папяросу, — баіцца адзін ісці, вось і чакае спадарожніка. Відаць, таксама спазніўся на трактар. Але чаму на дрэва ўзбіўся?»

— Дай і мне, — папрасіў Васька.

Уздыхнуўшы, Анана тыцнуў у Васьчын рот беламорыну.

— І запалкі, — працадзіў Васька скрозь сцятыя зубы.

— З курыльных прыладаў адна пыса, — пажартаваў Анана, чыркнуўшы запалкай. — Дык хто цябе так напужаў?

Замест адказу аднагрупнік з шумам выпусціў дым.

Яны пайшлі краем праселіцы. Васька асцярожна, на паўсагнутых нагах, дыбаў першым, а Мішка, усё з той жа іранічнай усмешкай на вуснах, следам за ім.

Абапал дарогі шчытнай сцяной рос алешнік, цёмныя нетры якога былі разлінаваныя шэрымі палосамі бярэзін. Ад алешніку патыхала сырасцю, грыбамі-апенькамі і прэлым лісцем. Колькі часу яны ішлі моўчкі, і на Мішку стала на-

вальвацца цяжкая дрымота. Ён нават прысніў бібліятэкарку, ды тут наперадзе пачуўся неспакойны Васьчын голас.

— Анана!

Мішка ў адказ адчайдушна пазяхнуў.

— А ты на ваўка калі-небудзь узбіваўся?

— Не даводзілася, — буркнуў Анана і, зганяючы з вачэй дрымоту, пацёр пальцамі павекі. — А ты?

Васька хвіліну маўчаў, разважаючы, відаць, ці казаць тое суразмоўніку.

— Ды воўк за мной гнаўся.

— Калі?!

— Ды во, каля паваротк і. Пёр па кустах, як той лось па кукурузе.

— І ты з перапуду на дрэва сігануў? — хмыкнуў Анана.

Такія словы Ваську не спадабаліся, і ён прыспешыў крок. Мішка хацеў паведаміць аднагрупніку, што ваўкі такой парой на людзей не нападаюць. Гэта ўжо калі зімой, як у зграю саб’юцца. Але потым махнуў рукой. Не было ахвоты мянціць языком.

Яны зноў пайшлі моўчкі, і Мішку зноў пачало забіраць на сон, і яму зноў прыснілася бібліятэкарка, і Васька чарговым разам вярнуў да жыцця.

— Анана!

— Ну, — прамовіў Мішка, змагаючыся з позехам. Васькава балбатня пачынала назаляць.

— Старая бабця, у якой жыву, распавяла адну гісторыю, — Васька знянацку замаўчаў, і Мішка зноўку выдыхнуў:

— Якую гісторыю?

— Карацей, дзесьці перад самай вайной ішоў ноччу чалавек гэтай самай дарогай — з Бажкоў у Мазалі. І вось ідзе, значыцца, і раптам бачыць — на дарозе жанчына стаіць… уся ў белым. Ну, падышоў той чалавек бліжэй і бачыць: кабета нетутэйшая. Валасы чорныя з-пад белай касынкі выбіваюцца, і ў іх белы гарлачык уплецены. Прыгожая была, але ў адначас і штосьці страшнае таілася ў позірку. «Ці можаш мяне да Мазалёў давесці?» — спытала.

Дрымота збегла з вачэй, і душу кранула халодная пройма спалоху.

— А далей? — з насцярогай спытаў Мішка, скасіўшы вока на тоўстую бярэзіну, якая белай зданню тырчала наўзбоч дарогі.

— Тс-с-с, — сыкнуў Васька, узняўшы ўгору палец.

Наструнена лыпаючы векамі, Мішка прыслухаўся. Порсткі ветрык шамацеў у алешніку, ціха рыпала старая бярэзіна, і дзесьці далёка, ці не ў саміх Бажках, бязладна брахалі сабакі.

Ні слова не сказаўшы, Мішка пашыбаваў шырокім крокам, дэманструючы тым самым, што яму абрыдлі Васькавы байкі, і сябрук — задыхана, з панікай у голасе — прагугніў:

— Хтосьці бяжыць за намі.

— Ды хто тут можа бегаць… сярод ночы? — ужо без ранейшай упэўненасці прамармытаў Мішка, зрабіў рашучы крок і на палову галёнкі праваліўся ў залітую вадой калюжыну. — Тфу, йоп… — вылаяўся Анана, нагнуўся, збіраючыся зняць чаравік, ды так і застыў з сагнутай хрыбецінай.

Там, за спінай, сапраўды нехта бег, нячутна перабіраючы нагамі, нехта дыхаў і вякаў, пазіраючы ім услед хіжымі вачыма.

«А можа, гэта тая ведзьма, пра якую казаў Васька?» — мільганула ў галаве, і ў той жа міг да вушэй даляцела пляскане вады ў лужынах. Гэта Кончыц сігануў па калюгах, гучна ляпаючы кірзачамі і махаючы дзеля балансіроўкі рукамі.

Мішка кінуўся следам. Спачатку чыкіляў з чаравікам у руцэ, затым, скачучы на адной назе, паспрабаваў насунуць абутак, паваліўся, сяк-так абуўся і даў такога дзерака, што вомігам дагнаў Ваську, хоць той і быў чэмпіёнам інстытута па спрынце. Здавалася, ведзьма вось-вось учэпіцца ў каршэнь сваімі кашчавымі пальцамі. Прымроілася нават, што гэта бібліятэкарка, перакінуўшыся ў ведзьму, бяжыць за ім, каб перагрызці глотку.

Змораныя, яны спыніліся перавесці дых. Навокал ужо былі не кусты, а голае поле, і ў разрэджанай цемрані, на дарозе, і сапраўды штосьці краталася. Але цяпер гэтае самае «штосьці» ўжо не здавалася такім жахлівым і неўзабаве азвалася жаласлівым бляяннем.

— Авечка, — выдыхнуў Анана, адчуўшы, што схаладнелае сэрца, якое імгненне таму гатовае было выскачыць вонкі і гучна бомкала ў вушах, сунялося і стала цёплым.

Па дарозе бег вялізны, з белай мецінай на пакатым лобе, баран. Ён быў увесь у дзядоўніку, а ў завіткі рагоў убілася лісце. Рагаты свавольнік блізка не падышоў. Спыніўся непадалёку і, з недаверам крутнуўшы галавой, прывітаў падарожных:

— Бе-э-эээ.

— Дык гэта ж Яшка, у маёй гаспадыні жыве, — жвавым голасам прамовіў Анана. — Тры дні як знік. Дзе толькі не шукалі.

Пачуўшы сваё імя, баран подбегам кінуўся да Мішкі. Пазнаў сваіх, бо Анана пару разоў частаваў яго скібкай хлеба.

— Ну і напужаў ты нас, браток, — Мішка зняў з барановых рагоў пажухлае лісце. — Гаспадыня з ног збілася, цябе шукаючы, а ты немаведама дзе цягаешся.

Баран вінавата апусціў галаву.

— Ну добра, пайшлі ўжо. Дома будзеш вінавацiцца, — Анана падхапіў з Яшкавага вуха шышку дзядоўніку і задаволена пацёр далоні. Раней гаспадыня заўсёды наракала, калі ён прыходзіў пад раніцу, а цяпер, пабачыўшы свайго гадунца, магчыма, і пляшку паставіць.

На даляглядзе пазначылася палоска няўтульнага святла. Дарога ішла ўгору, і з кожным крокам відарысы мазалёўскіх хат, якія стаялі на гары, усё яскравей адбіваліся на тле той палоскі.

Мішка зноў згадаў бібліятэкарку, ды думкі ўвесь час перабівала Яшкава бляянне. Баран убачыў родную вёску і брыкліва шыбаваў дахаты, праз кожныя дзесяць метраў спыняючыся і, павярнуўшы галаву, зычным бляяннем падганяючы спадарожнікаў. Але начныя прыгоды спадарожнікаў дарэшты змарылі, і яны з цяжкасцю перастаўлялі ногі. Каля крайняй хаты сябры парукаліся, і Васька Кончыц, панурыўшы вочы, прамармытаў:

— Ты… гэта… не кажы нікому як мы тут бегалі. А то засмяюць, паскуды.

— Ладна, — буркнуў Мішка і, расшпіліўшы ватоўку, пакамацаў мокрыя падпахі.

# ПЕСНІ РАННЯЙ ВЯСНЫ

Под окном у нас растёт красная смородина,
Жизнью радостной цветёт молодая Родина!

*«Лірычныя прыпеўкі».*
*Выканаўца К. Шульжэнка. Запіс 1951 года*

Вось жа так бывае: у сярэдзіне сакавіка, калі зямля крыху прагрэецца, калі на вярбе пачынаюць прабівацца катахі, а па праталінах шпацыруюць гракі, выглядаючы якой спажывы, раптам — звычайна сярод ночы — налятае страшная непагадзь з завірухай, сіпатым ветравеем і снежнымі заносамі. І там, дзе надоечы хадзілі гракі, такім часам паўзуць шэрыя дуйкі-вужакі, і гнуцца пад ветрам зледзянелыя галіны вярбы…

Вілен Налівайка ляжаў на тапчане, з галавой накрыўшыся ліхенькай коўдрай, і спрабаваў заснуць. Дзеля гэтага раз за разам лічыў да ста, заціскаў, каб пазбыцца дакучных думак, далонямі вушы, урэшце скідваў коўдру, хапаў свежага паветра і ўражана слухаў, як лютуе за акном сакавіцкая замятуха. Выў, то злаcліва, то жаласна, вятрыска; дзынкалі кепска закітаваныя шыбы; пад вокнамі зацята біліся-лапаталі сцягі і штосьці зморана рыпела на гарышчы, усё адно як нейкі дзядок сядзеў там ды здушана крахтаў. І кожнага разу ён уяўляў таго дзядка: кудлатага, зеленатварага, з уедліва-пукатымі зекрамі, і зноўку спалохана хаваўся пад коўдру. Але там, пад коўдрай, яго апаноўвалі яшчэ больш страхаморлівыя відзежы і думкі.

«А як не прыйдуць? Чорт іх ведае, тых палякаў… А то прыйдуць, ды не ўсе… А тут яшчэ дарогі замяло — паспрабуй дабярыся з дальніх хутароў», — і ад такіх думак, а можа ад недахопу паветра, Вілену ў нейкі момант стала не па сабе і ён падхапіўся на ногі. Ціхенька, на дыбачках, падышоў да стала. Трафейны «Mauthe» з фасфарычнымі стрэлкамі паказваў палову на трэцюю. Вілен пацёр павекі, чарговым разам

прыслухаўся. Дзядок на гарышчы ўжо не крахтаў, снежныя хлапякі не білі ў шыбу — вецер змяніў напрамак, — але затое штосьці бухнула знадворку, ды так хвацка, што са столі сыпанула парахня. Неўзабаве буханне паўтарылася, і Вілен, нядобрым словам згадаўшы Жвірблю, насунуў на ногі порткі.

Наглядную агітацыю прыбіваў Юзік Жвірбля — тутэйшы актывіст. Ды, відаць, скраў пару цвікоў, бо транспарант з надпісам «Усе на выбары!» з аднаго боку адарвала ветрам, і зараз ён матляўся ды біўся ў сцяну.

«Добра яшчэ, што ноччу адарвала, ніхто не бачыў», — падумаў Вілен, памацаў рукой другі транспарант, з надпісам «Заданні партыі — выканаем!», але той, на шчасце, быў прыбіты як мае быць.

Вярнуўшыся ў бакоўку, Вілен скінуў долу суконны палітон, выцягнуў абцугамі каваны цвік, на якім той вісеў. Ён узяўся раўняць цвік абцугамі — малатка пад рукой не было, — пабіў палец, вылаяўся і згадаў, што надоечы паклаў малаток ля выбарчай скрыні. Давялося адчыняць школьныя дзверы, прабірацца навобмацак у клас. У класе ён чыркнуў запалкай, запаліў газніцу. Зыбкае святло прабегла па сценах, засяродзілася на вялікім плакаце. На ім мажная цётка ў кажусе, наваліўшыся грудзямі на тын, паказвала рукою на ўквечаную сцягамі школу. Надпіс пад плакатам заклікаў аддаць галасы за кандыдатаў непарушнага блоку камуністаў і беспартыйных.

Вілен уздыхнуў, агеньчык газніцы страпянуўся, па сценах папаўзлі выгінастыя цені, і сэрца ягонае ёкнула: чырвоная скрыня, якая стаяла ў дальнім куце класа, падалася яму труною.

Летась Вілен Пятровіч Налівайка скончыў Рагачоўскі настаўніцкі інстытут і быў, як выдатнік вучобы, накіраваны на працу ў Гарадзенскую вобласць. Тут яго адразу ж прынялі ў партыю ды прызначылі дырэктарам Раздзярышкаўскай школы-сямігодкі. Вёска Раздзярышкі — глухая, атачоная пракаветным лесам ды балотамі — месцілася ў трох кіламетрах ад літоўскай мяжы. Школу арганізавалі адразу па

вайне, і Вілен стаў яе чацвёртым па ліку дырэктарам. Першы знік на першым жа месяцы дырэктарства, калі сюды завіталі «лясныя браты» — удзельнікі польскага падзем'я. «Браты» яго так напужалі, што бедачына збег, нават не прыхапіўшы майна. Другі быў больш увішным: пабраўся з кабетай-фін-інспектарам і пераехаў жыць у райцэнтр. Ну а трэці дапіўся да белай гарачкі і кінуўся з рагачом на загадчыка РАНА, калі той прыехаў з праверкай: прыняў за нячысціка.

Вілен і дагэтуль ведаў, што тут, на Гарадзеншчыне, жыццё для настаўніка ніякае, і мог застацца ў родным Рагачове. Аднак паклікала далёкая дарога ды магчымасць займець уласную хату. Бо шмат хто з выпускнікоў інстытута, якія падаліся на захад і працавалі вясковымі настаўнікамі, атрымалі ўласнае жытло. Засяляліся ў хаты вяскоўцаў, якія з'язджалі ў Польшчу. Але апошнім часам за Буг нікога не выпускалі; у Сібір, пасля смерці бацькі-Сталіна, не дэпартавалі, і Вілену давялося пасяліцца пры школе — у цёмным катуху, дзе дагэтуль захоўваліся паламаныя, яшчэ польскага ўзору, парты, наглядныя дапаможнікі, мётлы, дзіравыя вёдры ды іншы хлам. Праўда, у раённым аддзеле адукацыі паведамілі, што рыхтуюцца новыя спісы на выезд людзей за мяжу, і не сёння, дык заўтра ён, Вілен Налівайка, атрымае прыстойнае жытло.

Апрача дырэктарства, Вілену даводзілася выкладаць у школе алгебру з геаметрыяй, а таксама батаніку з фізкультурай. Да таго ж вёў атэістычную прапаганду сярод насельніцтва — за паўгода прачытаў восем лекцый — і кіраваў школьным драмгуртком. І вось на ягоныя плечы абрынуўся новы цяжар: Вілена Пятровіча Налівайку прызначылі старшынёй выбарчай дзяльніцы па выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета, і небарака пазбыўся сну. Некалькі разоў, на спадарожных машынах, ездзіў у раён на нарады, якія ладзіў старшыня акруговай камісіі Макаловіч, наведаў, як агітатар, ледзь не кожную хату ў Раздзярышках і суседніх Каўбасішках, уласнаручна намаляваў тры плакаты і — з вялікай цяжкасцю! — сфармаваў выбарчую камісію.

Тут, на Гарадзеншчыне, Вілен пачуваў сябе ніякавата. Першы тыдзень, як толькі прыехаў, нават не ўсё разумеў, што

кажуць тутэйшыя людзі, а таму завёў слоўнік, куды ўпісваў дзеля памяці гарадзенскую лексіку: ровар — веласіпед; лонскі — леташні; катанка — палітон; загарак — гадзіннік… Ну а настаўніцу расейскай мовы і літаратуры Вілен Пятровіч напачатку зусім не разумеў. Спытае: «Ванда Данатаўна, каму вы аддалі сшыткі?» Адказвае: «Галіне Вацлаваўнай». «Каму-каму, Вацлаваўне? — Ну я ж і кажу: Вацлаваўнай». Дарэчы, Ванда Данатаўна — сакратар выбарчай камісіі. Адзіная, каго не трэба было туды цягнуць жывасілам. Сама напрасілася.

Сеўшы за стол, Вілен чарговым разам, падслепавата мружачы вочы, перагледзеў спісы выбарцаў, з пакутлівым уздыхам закінуў рукі за патыліцу.

«Усё ж у плане культурных мерапрыемстваў у нас недапрацоўка», — падумаў начны бяссоннік і сцепануўся, згадваючы: дзе ён чуў такія словы? Галава была тлумнай, таму і не адразу згадаў, што пачуў іх на нарадзе ў раёне, з вуснаў Макаловіча. Не, сёе-тое ён усё ж такі зрабіў. Развесіў наглядную агітацыю; у калідоры, на партах, паклаў леташнія падшыўкі «Гродзенскай праўды» і «Звязды», знайшоў патэфон (цётка Эліза, школьная прыбіральшчыца, абяцала прынесці кружэлкі), а Юзік Жвірбля, вядомы ў наваколлі гарманіст, атрымаў ад Вілена партыйнае заданне: развучыць колькі савецкіх патрыятычных песень. А то ж полькі Юзік грае так, што віхура ўздымаецца, а папрасі сыграць «Широка страна моя родная» — ссоўвае васільковыя мяхі і панурвае вочы. Днямі Вілен ішоў міма Юзікавай хаты і пачуў, як у адрыне пілікаў гармонік, але што там была за песня, так і не разабраў.

Першай, як заўсёды, прыйшла цётка Эліза. Цётка хоць і сталага веку, але яе таксама ўключылі ў выбарчую камісію, ад працоўнага калектыву школы. Сама яна не мясцовая, прыехала перад самай вайной аднекуль з цэнтральнай Польшчы. Як і дамаўляліся, прыбіральшчыца прынесла цэлы стос кружэлак. Вілен узяў адну з іх, паднёс да газніцы. На пацёханай налепцы польскімі літарамі было напісана: «To ostatnia niedziela. Tango». Дрогкімі рукамі перабраў астатнія «плыты» — усе скрозь даваенныя, фірмы «Карона-Рэкорд».

«Добра, што дагледзеў, — старшыня камісіі перавёў дых, — гэта ж трэба… выбарцаў на дзяльніцы прывітае даваеннае польскае танга… За такія рэчы могуць і з партыі паперці».

— А савецкія песні ёсць? — цётка Эліза падхапіла ўжо анучку і збіралася штосьці выціраць.

— Ест една, — адгукнулася прыбіральшчыца, — цурка з Шчуціну прывезла. — Мястэчка Шчучын мясцовыя людзі ўпарта менавалі Шчуцінам.

— І што за песня, патрыятычнага характару?

Эліза лыпнула вачыма.

— Якась кабета сьпева.

— Нясіце. А гэтую пілсудчыну — Вілен узважыў на руках стос кружэлак, — забярыце. І, па магчымасці, нікому не паказвайце.

У класе гарэла толькі адна газніца. Вілен дастаў запалкі, каб запаліць яшчэ дзве, і застыў у здранцвенні.

«Усё ж такі меў рацыю ўпаўнаважаны. Трэба пільнавацца, прыглядацца да кожнай драбязы», — бязгучна прашаптаў Вілен, згадаўшы, як пад час раённай педканферэнцыі да яго падышоў нізенькі дзядзька ў кіцелі, пацiснуў руку і з робленай весялосцю паведаміў, што дырэктар школы ў вёсцы — гэта вочы і вушы савецкай улады. «Раён у нас складаны, а апошнім часам, пасля смерці таварыша Сталіна, прыкметна актывізаваліся антысавецкія элементы. Так што будзьце пільнымі і інфармуйце, хто ў Раздзярышках і наваколлі выступае супраць ліквідацыі хутароў, хто агітуе за выезд у Польшчу, нарэшце, хто з вяскоўцаў адмоўна ставіцца да дзяржаўных пазыкаў. Пажадана, каб вы інфармавалі нас штомесяц, і ў пісьмовым выглядзе», — дзядзька ў кіцелі, які назваўся ўпаўнаважаным, яшчэ раз пацiснуў руку і паведаміў, што неўзабаве завітае ў Раздзярышкі і тады яны пагамоняць больш змястоўна.

Пальцы апаліў агонь, і ён папляваў на прыпечаны пазногаць.

— Божухна, як адчапіцца ад гэтага ўпаўнаважанага? — цяпер ужо ўголас, з плаксівай ноткай прамовіў Вілен і страпянуўся: гэта бразнулі, гулкім рэхам адбіўшыся ў калідоры, уваходныя дзверы.

Пані Эліза выплыла з цемры, трымаючы ў руках кружэлку ў падзертай капэрце.

— «“Лирические припевки”, исп. Клавдия Шульженко», — прачытаў, нахіліўшыся да лямпы, Вілен, рушыў да патэфона, крутнуў корбу.

…Хорошо идут дела
У колхозного села.
Я молоденька девчонка,
От того-о и весела-а!

Песня была ніштаватай, аднак голас пяюхі перакрывала аднастайнае шыпенне і мернае храбусценне — усё адно, як карова жавала трасянку. Вілен выцягнуў з патэфона іголку і навастрыў аб пячную цагліну.

Апошнім з сяброў камісіі з’явіўся Юзік Жвірбля, з гармонікам пад пахай. Пазалетась Юзік скончыў сельскагаспадарчы тэхнікум і працаваў у калгасе заатэхнікам. Нядаўна заатэхніка прынялі ў партыю, і, вядома, ён быў не шараговым сябрам камісіі, а намеснікам старшыні.

— О, усе сабраліся… А я думаў — першым прыйду.

Вілен заклапочана пакруціў галавой, хацеў згадаць пра адарваны ветрам транспарант, але перадумаў, адно кіўнуў на гармонік.

Юзік ускінуў на плечы рамяні, прайшоўся пальцамі па гузіках, гучна крахтануў.

Над Москвою знамё-она славы,
Торжествует победу народ.
Здравствуй, город Вели-икой Державы,
Где любимый наш Сталин живё-от…

У класе, здаецца, задрыжэлі шыбы, і натхнёны Вілен далучыў свой голас да мужнай песні.

Будем вечно тобою гордиться,
Будет жить твоя слава в веках,

Дорогая моя столица,
Золотая моя Москва…

Вілен махнуў рукой сябрам камісіі, каб і тыя падхапілі, але кабеты сядзелі моўчкі, утрапёна пазіраючы на Юзіка, а цётка Эліза наогул перажагналася і выслізнула ў калідор.

«Ну і людзі, — падумаў Вілен, цiснучы на знак падзякі халаднаватую Юзікаву далонь, — у нас на Рагачоўшчыне паляндвіцы ў вочы не бачылі, людзі ў зямлянках жывуць, а на выбары ідуць як на свята, а гэтыя…» — старшыня камісіі зірнуў на гадзіннік, пацёр звільгатнелыя ад хвалявання далоні: стрэлкі выпросталіся ў вертыкаль. Да шостай гадзіны заставалася пяць хвілінаў.

— Таварышы сябры камісіі! Віншую вас з пачаткам нашай працы, — голас Віленаў зрываўся і клекатаў у перасохлым горле. Адна з трох запаленых газніцаў пачала куродымець і змазала ўрачыстасць моманту. Давялося прыкруціць кнот.

— Пачынаем апячатванне выбарчай скрыні.

Старшыня камісіі падхапіў скрыню, кульнуў у паветры, дэманструючы, што яна пустая, хацеў быў з пампезнай павольнасцю забіць цвікі ў рассохлую фанеру, але малаток, які мусіў ляжаць пад рукой, ён пакінуў на школьным ганку.

Праз пяць хвілін, дарэшты ўпрэлы, старшыня камісіі выкуліўся з класа. Няўклюдна, нягнуткімі пальцамі скруціў цыгарку. У калідор выйшаў і ягоны намеснік.

— Малайчына, з заданнем справіўся, — Вілен дастаў запалкі, — гэта я пра песню кажу. Думаў, ты апроч кадрыляў ні на што сур’ёзнае не здатны. А чаму ў адрыне рэпеціраваў?

— Жонка з хаты выгнала. Даняў яе сваёй музыкай, — Юзік таксама зрабіў самакрутку, прыпаліў ад дырэктаравай цыгаркі. Рукі Віленавы дробна калаціліся.

— Ды не хвалюйся ты, Пятровіч… Усё будзе добра, — Юзік з шумам выпусціў дым.

— Як тут не хвалявацца… Чуў, якую задачу паставіў Макаловіч? Забяспечыць стаадсоткавую яўку! А дарогі ўсе перамяло. А як коні ў снезе захраснуць?

— Нашы коні не захраснуць, — каб надта не дыміць у калідоры, старшыня з намеснікам выйшлі на ганак. — Вунь, дарэчы, Мазур едзе, — Юзік кіўнуў у прыцемак вясковай вуліцы. — Гэты конь самога нячысціка на выбары прывязе. Так што Мазура і выправім да Шукелойціхі. Старых, інвалідаў і Часнойця таксама на санях падвязем, а астатнія на сваіх нагах пабягуць, прычым подскакам. Бо ведаюць: не прагаласуй — можаш не ў Польшчу паехаць, а зусім у іншы бок.

Жвірбля вёрз антысаветчыну, але словы такія Вілена не толькі не насцярожылі, але нават узрадавалі.

— Галоўнае, Шукелойціху прывезці з яе глухім сынам. Жывуць на краі свету, — цыгарка Юзікава патухла, і Юзік, шукаючы запалак, ляпнуў па кішэнях. — Але, думаю, праблемы тут не будзе. А вось з кім будзе праблема, дык гэта з Часнойцем. Таго, баюся, з месца не ссунеш. На мінулых выбарах наогул не галасаваў.

— Гэта той франтавік? Які на хутары Рычкяны жыве?

— Ён самы… Як з фронту вярнуўся, так адразу паперу ў раён падаў. На выезд у Польшчу. А яго й дагэтуль не выпускаюць. Шверніку лісты пісаў, а цяпер, кажуць, Варашылаву піша.

— Смелы дзядзька, — Вілен з прагным задавальненнем глынуў махорачнага дыму.

— А што яму баяцца? На вайне двойчы паранены, ордэн Славы мае. А як бацька-Сталін памёр, дык зусім асмялеў.

Мазур, мажны дзядзька з сівой барадой, спыніў каня ля ганка, і Жвірбля пабег у школу па гармонік, каб песняй сустрэць першага выбарца.

За дзве гадзіны прагаласавала ўсяго некалькі чалавек. На дварэ ўжо днела, і газніцы патушылі. Вілен сядзеў, абхапіўшы рукамі галаў, паныла глядзеў на прастакутнік акна і прыгадваў родную Рагачоўшчыну. Там ужо, відаць, добрая палова прагаласавала. І людзі ехалі на выбары як на свята: з песнямі, са сцягамі; на конях, упрыгожаных жычкамі…

Але вось канчаткова развіднела, размытыя плямы твараў усё часцей выплывалі з калідорнага прыцемку, а неўзабаве, як

і казаў Юзік, народ пабег на выбары подскакам. Раз-пораз да Ванды Данатаўны, што запісвала нумары калгасных кніжак і выдавала бюлетэні, нават выстройвалася калейка.

Але свята не было. Вяскоўцы заходзілі на дзяльніцу хапатліва, з трывожнымі вачамі, моўчкі бралі бюлетэні, укідвалі, нават не прачытаўшы прозвішча кандыдата, у скрыню і гэтак жа паспешліва ішлі да выхаду. І хаця Вілен спрабаваў жартаваць з выбарнікамі, а сакратарка камісіі Ванда Данатаўна абдорвала іх слінявымі ўсмешкамі, людзі заставаліся непрыступна-суворымі. Мужчыны, праўда, дахаты адразу не разыходзіліся — збіваліся ў кучкі, як гэта бывае на хаўтурах, і палілі, з падазронасцю ў вачах пазіраючы на школьны ганак. З культурнай праграмай таксама ўзніклі праблемы. Юзік, пабачыўшы аднавяскоўцаў — спрэс незадаволеных, а мужчын да таго ж і няголеных, — не рашыўся браць у рукі гармонік, і толькі на калідоры дзве гарэзы-дзяўчынёхі раз за разам заводзілі Шульжэнку.

На адзінаццаць гадзін не прагаласавалі ўсяго чатыры чалавекі: аднаногая Шукелойціха са сваім глухім сынам, інвалід з дзяцінства Ядвіга Канапацкая з суседняй вёскі Каўбасішкі і ветэран вайны Часнойць з хутара Рычкяны. Па ўсіх іх ад раніцы паслалі падводы, але тыя яшчэ не вярнуліся. І толькі апоўдні за акном заржаў конь і Юзік, прыпаўшы шчакою да шыбы, з урачыстасцю ў голасе абвясціў:

— Мазур Шукелойціху вязе! Пайду дапамагу…

На калідоры чарговым разам заспявала Шульжэнка.

— Мінай нагу адарвала, — патлумачыла Ванда Данатаўна, вышукваючы ў спісе патрэбнае прозвішча. — Знайшла недзе ды дахаты пацягнула.

На двары тым часам заенчылі, уваходныя дзверы расчыніліся, і да шульжэнкавай песні далучыўся немы жаночы лямант. Прычым надта шырокага дыяпазону — ад нуднага выцця на нізах да істэрычнага віскату.

— *Что умею я плясать…*

— А сьвеньці паньсцы!

— *Это дело личное…*

— А лю-удцы мае добрыя!..

*— Не скажу, что я красива…*

— А куды ж вы мяне цягнеце-э?!

*— Просто си-импатичная-а!*

Мяркуючы па голасе, ён мусіў належаць кабеце далікатна-танклявай, але ў клас занеслі васьміпудовую цётухну. Неслі Шукелойціху, змучана аддзімаючыся, утрох. Юзік трымаў кабету пад пахі, яшчэ двое — сівабароды Мазур ды даўгалыгі хлопец у аблавусе — трымалі за нагу і куксу. Небараку паклалі на падлогу, і тая, падобна, зусім абамлела: ляжала, раскінуўшы рукі, і ледзь чутна стагнала.

— Нашатырнага спірту дайце! — падхапілася Ванда Данатаўна і стала паказваць на мігах даўгалыгаму хлопцу, каб той зарэгістраваўся ды браў бюлетэні.

Шукелойціха, на шчасце, хутка ачуняла, залыпала вачыма, і яе ізноў панеслі да воза. Цяпер ужо неслі ўчатырох — Вілен таксама далучыўся да справы.

— Под окном у нас растёт красная-я смородина-а, — зацягнула Шульжэнка калі яны выцягвалі выбарніцу ў калідор, і Юзік, стукнуўшыся плечуком аб вушак, крыкнуў дзяўчынёхам, якія круціліся ля патэфона:

— Ды выключыце вы гэтую бравэру!

Шукелойціху ўскінулі на развалкі, але не да Мазура, а на іншы воз, — і Жвірбля выцер далонню ўзмакрэлы лоб.

— Яшчэ адна такая выбарніца — і мяне адсюль таксама панясуць.

— Трэба было растлумачыць чалавеку, што яе не ў Сібір вязуць, а на выбары, — з дакорам прамармытаў Вілен, глянуў на гадзіннік і прысвіснуў. Якраз гэтым часам ён мусіў тэлефанаваць Макаловічу.

Адзіны на ўсю вёску тэлефон месціўся ў сельсавеце. Вілен шыбаваў аснежанай вуліцай, і галава ягоная гула ад бязладных думак.

«Дарма Шукелойціху тармасілі… усё ж такі інвалід… прыехаў бы сын, прагаласаваў за дваіх… Макаловіч будзе задаволены: усяго двое не прагаласавалі… Цікава, а як на

іншых дзяльніцах?» — і з перакананнем, што ў суседзяў сітуацыя значна горшая, Вілен узбег на высокі ганак.

Маладая сельсаветаўская сакратарка, якая ў сувязі з выбарамі мусіла выйсці на працу, сустрэла яго з кіслай гіморай на разамлелым твары: спала, седзячы за сталом.

— Хутка не злучаць, лінія перагружаная, — прыспана папярэдзіла дзяўчына, выклікаючы раённы камутатар, але адразу ж перадала слухаўку Вілену.

— Налівайка?.. Як там у цябе? — голас Макаловіча быў дарэшты асіплы, і Вілен яго адразу не пазнаў.

— Усё нармальна… двое толькі не прагаласавалі…

— Якое там нармальна! Суседзі твае, Сабакінцы з Грумойцямі, ужо гадзіну таму канцы падбілі. Дарэчы, Часнойць прагаласаваў?

Вілен у адказ кашлянуў у жменю.

— Ты там не керхай, а выяўляй ініцыятыву.… на кані яго вязі, цягні на ўласным карку, а стаадсоткавую яўку мусіш забяспечыць. Машына да вас наўрад ці праб'еццa, так што будзь на астрынскай паваротцы — з бюлетэнямі і пратаколамі. Усё!

Дагэтуль дзяўчына глядзела на Вілена з іранічнай усмешкай, але, калі той паклаў слухаўку, зірнула са спачуваннем. Зразумела, што ў раёне чымсьці незадаволеныя.

— Наступны званок а шостай вечара, — прамармытаў старшыня выбарчай камісіі, выйшаў на двор і на поўныя грудзі ўдыхнуў салодкага, працятага пахам вільготнага снегу паветра. Мяцеліца, адвіраваўшы ўсю ноч, аціхла, і цяпер з неба дробным шротам сыпаліся ледзяныя крупы.

Юзік сустрэў яго каля школы. Стаяў ды скручваў, немаведама ўжо якую па ліку, цыгарку.

— Яшчэ адну хваравеку прывезлі, Ядвігу Канапацкую. Дарма што інвалід, а на гарышча ўзлезла. Ледзь адтуль сцягнулі. А з Часнойцем, — Юзік сплюнуў махорачныя крыхоткі, — нявыкрутка. Адмовіўся ехаць, нават з хаты не выйшаў.

— Ну, і што будзем рабіць? — пазіраючы на Юзіка, Вілен таксама выцягнуў капшук. — У Сабакінцаў з Грумойцямі ўжо даўно сто адсоткаў…

Юзік азірнуўся, прыцішыў голас.

— Быў бы хто іншы, укінулі б тыя паперкі — і дуды ў торбу. А гэты запрыдух можа і ў Маскву напісаць. Маўляў, не галасаваў, а бюлетэнь падлічылі. Карацей, хапаем скрыню, сядаем да Мазура, я якраз яго затрымаў, і гілазуем у Рычкяны.

Ладная жменя тытуню сыпанула пад ногі.

— Ты што?! Выносіць скрыні забаронена! Артыкул 77-ы: «Кожны выбарнік галасуе асабіста, у памяшканні для галасавання».

— Ой, Пятровіч, — Юзік балесна перакрывіўся, — схавай ты свае выбарчыя кантычкі куды далей… Ёсць армейскі статут, а ёсць рэальнае жыццё. Мая жонка з Сабакінцаў. Там у наваколлі адных хутароў штук трыццаць. Так што хлопцы з тамтэйшай камісіі кінуліся ў сані ды паехалі па коле.

Вілен пацёр удумлівы лоб.

— А як Макаловіч з праверкай завітае ці яшчэ хто з раёна? Прыйдуць — а на дзяльніцы ні старшыні, ні ягонага намесніка, ні выбарчай скрыні. І што тады?

— Пятровіч… ну хто да нас праб'ецца? Нават «студэр» застрагне… Ты лепш падумай, што скажуць у райкаме. На ўсіх дзяльніцах яўка 100 адсоткаў, а ў Раздзярышках 99 з капейкамі.

Нечакана з прамывіны шэрых хмар на кароткі міг зірнула мутнае вока сонца, і Вілен з рашучасцю і адчаем адкінуў канчар самакруткі.

— Добра… толькі Мазура дахаты выпраўляй. Удвух паедзем.

Зладзеявата азіраючыся, Вілен вынес скрыню з дзяльніцы, забег у бакоўку, падхапіў з падлогі суконны палітон. Потым, стайма, сербануў з чыгунка халоднай заціркі, зірнуў у акно і суцішна вылаяўся. Думалі выехаць цішком, без сведак, а тут, як на грэх, да школы пад'ехалі на іртах два ягоныя вучні — Чэсь і Франак. Укруціўшы скрыню ў палітон, Вілен выкуліўся з бакоўкі.

— Заўтра, хлопцы, раней у школу прыходзьце. Дапаможаце парты ў клас занесці, — Вілен паклаў каштоўны груз на сані, прыцерушыў саломай.

— Прыйдзем! — адказаў Франак, нізенькі смаркаты хлапчук. — Франак адламаў ад капяжа даўжэзны лядзяк, запіхнуў у рот.

— Кінь брызгуль смактаць, глотка забаліць! — крыкнуў яму Жвірбля, які стаяў ля каня і падцягваў дугу. — І так смаркаты, а яшчэ брызгулі смокчаш! Во скажу бацькаві — ён цябе адпалянтуе!

Франак кінуў лядзяш, але яго падхапіў з-пад ног Чэсь — даўгалыгі, апранены ў падзёртую ватоўку падшыванец — і дэманстратыўна лізнуў.

Юзік дакорліва паківаў галавой.

— Няма, Чэсю, каму з цябе гілос выбіць. Чыстай расколінай расцеш. Хаця б ватоўку зашпіліў — прастудзішся!

Чэсь стаяў расхлістаны, паказваючы свету навюткую цяльняшку. Яна была завялікай і агаляла пасінелую ад холаду грудзіну.

— Н-но, жэбы на цебе ліха! — гракнуў Юзік, ляснуў пугай каня.

Конь тузануў развалкі, зморана пырхнуў, пайшоў лёгкім трухам. Падшыванцы паспрабавалі ехаць следам, але як ты ўгонішся за канём, ды на самаробных іртах, якія да таго ж кепска слізгалі.

— Апошні раз на іртах выехалі. Заўтра, маці казала, адліга будзе, — буркнуў Юзік, не паварочваючы галавы.

— А Чэсевага бацьку на вайне забілі, ці як? — запытаўся Вілен, пазіраючы на няўклюдныя хлапечыя постаці.

— Ды дзе там… у Карэла-Фінскую завербаваўся, на лесапавал. Абяцаў вярнуцца, ды, няйначай, да нейкай бабы прыбіўся.

— А цяльняшку дзе ўзяў?

— Брат прыязджаў на пабыўку. На Паўночным флоце служыць.

Праязджаючы міма сваёй хаты, вознік спыніў каня, скочыў з воза.

Можна было падумаць, што Юзік пабег у хату з'есці якое каліва, але той адразу ж і выбег, пхаючы штосьці за пазуху кажуха. Раскруціўшы ў паветры лейцы, намеснік старшыні камісіі ляснуў імі па конскай спіне, з вар'яцкай весялосцю загарлаў:

— Н-но, халера ясна!

За Раздзярышкамі ляжала роўнае, без адзінага кусціка поле. Яно было аднолькавага колеру з нізкім небам, і калі б не цёмны пас лесу на даляглядзе, які іх падзяляў, немагчыма было б адрозніць зямлі ад неба.

Вілен сядзеў на возе, спінай да каня, і неадрыўна глядзеў на санны след. Яшчэ колькі хвілін таму паездка ў Рычкяны здавалася вясёлай вандроўкай, і вось цяпер, пабачыўшы бязмежна-самотны прасцяг і змрочнае неба над галавой, ён захваляваўся. Напярэдадні выбараў абышоў усе вёскі і некаторыя хутары, а вось Рычкяны не наведаў. Не хапіла часу. Чорт іх ведае, хто там жыве. А як выйдуць са стрэльбамі ды адбяруць бюлетэні? А можа, там, на хутары, наогул засада? Сядзяць якія акоўцы ды паглядаюць з гарышча на дарогу.

Засоплена дыхаў конь, ціхенька рыпалі пастронкі, і гэтыя мерныя зыкі крыху ўлагодзілі душу.

Ехалі па снежным цаліку. «Чаму няма слядоў? Нехта ж ездзіў да Часнойця?» — падумаў Вілен, хацеў пра тое спытаць, але, закалыханы дарогай, прамаўчаў і салодка, да болю ў вушах, пазяхнуў.

— Усю дарогу перамяло, Войт ледзь цягне, — азваўся вознік. — Самы моцны конь у калгасе… Пару гадоў таму цягаў вазы, не раўнуючы, як трактар СТЗ. Вядома, гаспадар яго аўсом карміў. А ў калгасе што… кінуць якой трасянкі, а то й нічога не дадуць… І дагэтуль гаспадара чакае, а той з Сібіры аніводнага ліста так і не прыслаў.

Лёгкі спалох у душы змяніў непраглядна-смуродны куродым. Два месяцы прамінула, а так і не сабраўся напісаць інфармацыю для ўпаўнаважанага. А што ён мог напісаць?

Што камуніст Жвірбля наракаў на цяжкую конскую долю ў калгасе?

Лес, у які заехалі, выглядаў маўклівым і насцярожаным. Асабліва ўражвалі тоўстыя хваёвыя камлі.

— Вячысты бор, — паведаміў Юзік, перахапіўшы ўражаны Віленаў позірк. — Мы яго Скачылясаўскай пушчай называем. Ляснік тут жыў да вайны, Скачыляс. Хадзіў як вялькі пан — у ахвіцэрскіх ботах, са стрэльбай за плячыма… У саракавым годзе, узімку, выслалі некуды, разам з жонкай. А сына іхнага, Тамаша, тады не знайшлі — хаваўся недзе. У вайну Тамаш гэты да акоўцаў прыбіўся, а па вайне, у 46-м, яго пад Салечнікамі забілі. Казалі, тры гадзіны ў пуні сядзеў, адстрэльваўся.

Пасля такога аповеду лес падаўся вусцішным і таямнічым. У памкненні хутчэй прамінуць гэтую мясціну Вілен стаў неадрыўна пазіраць наперад, і лясная прасека, па якой ехалі, здавалася выратавальным тунэлем, які павінен вывесці на светлы працяг.

— Далей дарога трыбай ідзе, а ўжо ля самых Рычкянаў на гал выедзем, — Юзік прыўзняўся, пляснуў лейцамі Войта. Конь увесь час наравіўся і задзіраў голаў.

— У вас прасеку трыбай называюць?

Юзік моўчкі кіўнуў.

— За першымі немцамі прасеклі. Збіраліся нібыта вузкакалейку будаваць, ды штосьці не атрымалася.

Дзесьці непадалёку са жвавай упартасцю застукаў дзяцел, і Вілен, па прыкладу Войта, задзёр галаву.

— У нашай гаворцы шмат розных словаў накручана… — азваўся ў працяг перарванай размовы Юзік, — і польскіх, і расейскіх, і літоўскіх. Ведаеш, што азначае па-літоўску маё прозвішча? Жвірбля значыць верабей! Мой дзед яшчэ ведаў жамойцкую мову. Прыйдзе, памятаю, з карчмы на Каляды ды спявае: «Аш мажас вайкяліс, кайп пупу пядзяліс…» Калядка літоўская… — Юзік ізноў падагнаў каня, з сарамлівай усмешкай зірнуў на суразмоўніка. — Даўно хачу спытаць: а што гэта за імя такое… Вілен?

Суразмоўнік злёгку паморшчыўся.

— У гонар Уладзіміра Ільіча Леніна назвалі.

— Эх-х! — з ноткамі расчаравання выдыхнуў Юзік. — А мяне назвалі ў гонар Пілсудскага. Яму якраз шэсцьдзясят гадоў спраўлялі, як я нарадзіўся.

Пачуўшы прозвішча Пілсудскага, Вілен на момант знерухомеў, міжволі адсунуўся ад Юзіка. І потым, аж да самых Рычкянаў, яны не прамовілі ні слова.

Хата Часнойцева стаяла пасярод голага поля і патанала ў снезе.

— Сто гадоў таму пабудаваная, — загаварыў урэшце Юзік, калі пад'ехалі да весніц. — Мы яе кітайскай фанзой называем — бачыш, як страха прасела.

Госці гучна патупалі па ганку. Пастаялі крыху, прыслухаліся, нясмела прачынілі дзверы. У сенях было цёмна, Юзік наскочыў на пустое вядро, вылаяўся, адшукаў вобмацкам дзвярную клямку, і яны ўвайшлі ў хату.

Гаспадар стаяў ля стала і трушчыў секачом даўгія, іржавага колеру бадылі.

— Самасад?

Часнойць не азірнуўся, не падаў голасу.

— Вось яна, савецкая ўлада… Садзі хоць табаку, хоць махорку — ніхто слова не скажа. А пры паляках, браце ты мой, за гэтую справу вой як ганялі. Манаполія паньствова! Бацька мой пасадзіў употай махоркі, дык солтыс воміг угледзеў. Прыйшоў, выдзер і паліцыянтам настрашыў, — Юзік дастаў з кішэні абрывак газеціны, прыхапіў са стала каліва тытуню, — дай хоць зёлак тваіх пакаштаваць.

Казелячы вокам на жалезнае крэсіва, якое ляжала на стале, Юзік прыпаліў самакрутку, кінуў поруч пушку запалак.

— Няйначай, хочаш мяне кубаркай сярнічак купіць? — падаў нарэшце голас Часнойць.

— Ну-у, дзядзька… мы да цябе з усёй душой. Ехалі во міма з Віленам Пятровічам… дарэчы, пазнаёмцеся — наш новы дырэктар школы, — думаем, давай зазірнём…

— Е-ехалі… мі-іма… А гэта што? — гаспадар кіўнуў на чырвоную скрыню, якую госці паставілі каля дзвярэй.

— А ты не бачыш? Урна для галасавання! А мы павінны былі яе на двары пакінуць? Там жа важныя дзяржаўныя дакументы! Эх, дзядзька, няма часу языкамі лемзаць, — з гэтымі словамі Юзік выцягнуў з-за пазухі бутэльку самагонкі.

Гаспадар, як падалося, з лёгкім спалохам зірнуў на бутэльку, ні слова не сказаўшы, выйшаў у сені. Госці насцярожліва пераглянуліся, і Вілен перасмыкнуў плячамі, маўляў, халера ведае, куды пайшоў чалавек. Ды гаспадар неўзабаве вярнуўся, цягнучы перад сабой невялічкі цабэрак.

— Во… насаліў грыбоў цэлую пасачку, а есці няма каму.

— А што за грыбы? — Юзік, агледзеўшыся, зняў з паліцы тры мутныя шклянкі.

— Грышке… іх такрок было — хоць касу закладай.

— Рыжыкі, — патлумачыў Юзік, шпокнуў кіяховым коркам, нюхнуў бутэлечнае рыльца

— Бімбер? — у голасе гаспадара чулася прытоенае захапленне.

— Ён… ён, родны… Нагрэўся, праўда. Дарэчы, за палякамі можна было за такую справу і ў Лукішкі патрапіць. А цяпер, пры Саветах… ну, вядома, з аглядкай, утуліўшы галаву ў плечы, але ж гонім… гонім!

На стале з'явіўся ладны, густа пасыпаны соллю скрыль сала, а таксама пара цыбулін ды міса кіслай капусты.

Бяседнікі ўзялі па-першай. Бімбер быў моцны. У Вілена з галадухі злёгку закружылася галава, і калі Юзік стаў наліваць удругарадзь, прыкрыў шклянку далонню.

— Першы раз бачу савецкага настаўніка, які не п'е, — са з'едлівай усмешкай заўважыў гаспадар.

Госцю такія словы відавочна не спадабаліся. Ён перастаў жаваць, панурыў голаў, і гаспадар, каб улагодзіць сітуацыю, з панылаю ноткай у голасе прамармытаў:

— Ну, чаго вы сваё прычындалле ў памяльнік паставілі? Стаўце ўжо на стол, прагаласую.

Намеснік старшыні выбарчай камісіі кінуўся да дзвярэй, падхапіў скрыню.

Калі праз хвілю Жвірбля ўзяўся за пляшку, старшыня камісіі ўжо не прыкрываў шклянку.

Пасля трэцяй чаркі Юзік прыпаліў загаслую цыгарку, пусціў пад столь дымны струмень, і Вілену таксама закарцела пакаштаваць Часнойцевага самасаду… Ядучы дым перахапіў дыханне, выбіў гарачую слязіну, госць закерхаў, закашляўся, выцер кулакамі вочы і, нібыта са здзіўленнем, зірнуў на гаспадара.

— Самасад мой як тая 152-міліметровая гаўбіца, б’е ўпокат, — з задавальненнем мовіў гаспадар.

— У артылерыі служылі?

Адказам быў глыбокі, з парывістым сіпам, уздых.

— І дзе ваявалі?

— На Трэцім Беларускім.

— А за што атрымалі ордэн?

— Голдап штурмавалі. Там жа мяне і параніла. Цэлы дзень праляжаў на снезе. На сутанку сабакі на санках выцягнулі. Санкі такія былі… нізенькія. Калі ёсцека сілы, узвалішся на іх, сабакі і цягнуць.

Юзік разліў рэшткі бімбера па шклянках.

— Добра ў цябе, дзядзька Часнойць, ды час прыціскае. Так што давайце, як у нас кажуць, возьмем аглаблёву…

— Як жа гэта вы… пралівалі кроў за Радзіму, а цяпер у Польшчу сабраліся, — Вілен зірнуў на гаспадара нецвярозадакорлівым вокам.

— А што мне тут, на радзіме рабіцьме? Жонка памерла, хата збуцвела… Прыходзілі неяк з сельсавета, хацелі яе ў Раздзярышкі перацягваць, ды ўбачылі, што рассыплецца па дарозе, і адчапіліся. Сабаку й таго ваўкі з’елі. Адзін во Базыль застаўся, — Часнойць кіўнуў на печ, на якой сядзеў, неадрыўна пазіраючы на сала, вялізны шэры кот. А ў Польшчы старэйшы брат жыве ў Катавіцах… ці як іх цяпер называюць… у Сталінагрудзе. Ліста прыслаў. Пытаецца, калі прыеду.

Часнойць падняў шклянку:

— Дый я ж не ў Амерыку сабраўся, а ў народную Польшчу. Тамака ж не Рыдз-Сміглы з Масціцкім кіруюць, а Берут з маршалкам Ракасоўскім.

Ад «аглаблёвай» Вілен канчаткова захмялеў і нават хіснуўся, як падымаўся на ногі.

— Ох, і начвэндзілі мы тут, дзядзька, — Юзік махнуў рукой, разганяючы шызы дым.

Узяўшы пад паху выбарчую скрыню, Вілен няцвёрдай хадой падаўся на двор.

— Руіна па наваколлі бегае, — прамовіў ім у спіну гаспадар, але Юзік у адказ адно кракнуў і п’янаватым голасам заспяваў песню, якая ад самага ранку гучала ў школе:

*День работы позади, месяц на землю глядит.*
*Вот в такую ночку дома-а попытайся усиди-и!*

Калі плюхнуліся ў развалкі, Юзік грукнуў па скрыні кулаком.

— Ну вось, справа зроблена. А ты хваляваўся.

Вусны Віленавыя кранула ўсмешка.

«Усё ж такі Юзік добры хлопец, дарма, што названы ў гонар Пілсудскага. Вясёлы, увішны, з людзьмі добра кантактуе, усіх ведае. А без яго — паспрабуй знайдзі таго ж Часнойця!» — Вілен паволі скруціў нязграбную суслу.

— А што за руіна тут бегае? — пацікавіўся цёзка правадыра, зацягнуўшыся ядучым самасадам.

— Зграяваўчыная. Ваўкі гэтай парой лютыя. Канец гону, — Юзік хвастануў каня. — Цяпер пацішэлі… А што па вайне рабілася! Аднойчы шэры злодзей нават у наш свіненчык плішчыўся. Дык мой бацька, тады яшчэ жывы быў, схапіў аглоблю ды пайшоў напярэймы, — Юзік на хвіліну сціх, прыпаліў цыгарку. — Ды што там распавядаць… ты вунь на Войта глянь. Бачыш, на крыжы мецiна? Ад ваўчыных зубоў. Мазур тады з раёна ехаў. З двух бакоў накінуліся. Конь малады быў, цягавіты, здолеў адарвацца. А Мазур потым збялеў як лунь — і барада стала белай, і галава…

Вілен ляжаў на развалках, чэравам долу, невідушчымі вачыма глядзеў на снег, які шэрым палатном бег пад самым носам.

«Вось і ўсё… і навошта, сапраўды, было так хвалявацца?» — Юзікава гамонка нагнала салодкую дрымоту і Вілен адчайдушна пазяхнуў. Паспрабаваў ачуцца, страсянуў га-

лавой, штосьці нават спытаў у Юзіка, але тут жа абрынуў у хмельна-мімалётны сон. Дзіўны быў той сон: суцішны, крыху сумны і светлы, як вада ў Друці, на беразе якой ён стаяў і слухаў як з другога берага ракі надрыўна спявала Шульжэнка: «У развёрнутой гармони василько-овые меха-а».

— Н-но, каб на цябе!.. — абудзіў яго немы Юзікавы воклік.

Конь гучна пырхаў, уздымаўся на дыбкі, казеліў на лес шалёным вокам.

— Чаго ён? — крыкнуў Вілен.

— Ваўкі побач! Зараз наляцяць!

Падняўшыся на ногі, Юзік шлёгнуў каня пугай, засвістаў у два пальцы.

— Ну, Войцік, наперад! Ратуй і нас, і сябе!

Конь ірвануў аглоблі, ды так, што Юзік пляснуўся на азадак, балюча адціснуўшы Вілену руку. То панурваючы пысу да зямлі, то задзіраючы яе ўгору, Войт пайшоў наўскач.

Дарогу з левага боку перамяло, развалкі ехалі перакошаныя, іх матляла ў бакі, і Юзік, немаведама як трымаючыся на нагах, лупцаваў знямоžанага каня і не сваім голасам гарлаў:

— Вунь яны, бягуць поруч! Давай, Войцік, а то задзяруць, падлюкі шэрыя!

Вілен перапудзіўся не на жарты. Стоячы вокрач і трымаючыся за развалы, ён зацкавана круціў галавой, але ваўкоў так і не ўбачыў. Неўзабаве ўваччу забрынілі прасветліны між дрэваў, Войт пайшоў павольным крокам, і яны выехалі ў поле. У вёсцы шалёным брэхам заходзіліся сабакі.

— Ну ўсё… сюды ўжо не сунуцца, — Юзік скочыў з воза, хістаючыся, пайшоў да каня. — Ці не загналі мы цябе, бедачыну? — набраўшы прыгаршчы снегу, пацёр ім конскую мысу.

Вілен сцягнуў з галавы шапку, выцер угрэтую лабаціну, памацаў рукой пад саломай і абамлеў.

— Паварочвай! Скрыню згубілі!

— Куды паварочваць? На ваўкоў узбіцца? — Жвірбля расцёр снегам конскую шыю. — Войт з ног валіцца. Ужо і пена праступіла.

— Ну і стой тут са сваім Войтам, — Вілен кульнуўся з воза, — адзін пайду.

Спачатку пайшоў рашуча, гучна шоргаючы ботамі па снезе, аднак, зачапіўшыся за пень і зірнуўшы на цёмны лес, спыніўся і прыслухаўся. Лес шумеў, і сярод неспакойнага пошуму выразна чулася працяглае ваўчынае скавытанне. Душу абвеяла трывожная пройма, якая да таго ж выпетрыла з галавы рэшткі хмелю.

— Ну куды ты, далібог… з'ядуць там твае бюлетэні? Конь астыне — і паедзем, — крыкнуў здалёк Юзік.

Хвіліну Вілен стаяў у нерашучасці. Ісці ў лес страшна, але і вяртацца да воза таксама не з рукі. Таму, махнуўшы Юзіку рукой, маўляў, пачакаю тут, плюхнуўся на пень і, змагаючыся з дрыготкаю ў пальцах, выцягнуў з-за пазухі капшук.

Чэсь і Франак, дарэшты змерзлыя і змораныя, павярнулі ўжо дахаты, як наткнуліся на нечыя сляды. Барозны ўзаранага снегу вялікай дугой перацінալі лясную паляну.

Чэсь прысеў на кукішкі.

— Ваўкі прабеглі, цэлая зграя.

— І што рабіцьме? — шморгнуў смаркатым носам Франак.

— Што-што… гонім адсюль у кірунку норд-осту, — словы такія Чэсь запазычыў у брата-матроса.

Падшпаркі, азіраючыся на бакі, выехалі на лясную дарогу, па якой, як бачна, кагадзе праехалі сані. Паставіўшы адну ірціну ў санны след, хлопцы паехалі шпарчэй. Чэсь разагнаўся не на жарты — сябар пачаў адставаць, — ды нечакана спыніўся, і Франак стукнуў іртамі яму ў пяткі.

Наперадзе, наўзбоч дарогі, ляжала штосьці чырвонае. Падшпаркі пад'ехалі бліжэй і ўбачылі фарбаваную ў чырвань, з вузкай адтулінай на баку, скрынку.

— Можа, там цукеркі? — Чэсь дастаў з кішэні падораны братам сцізорык. — Такой файнай рэчы не было ні ў каго: сцізорык меў тры лязы, штопар з шылам, і Чэсь штораз дэманстраваў цацку не толькі сябрам, але і дарослым.

Падчапіўшы лязом верхняе вечка, хлопец напалову яго аддзёр, тыцнуў пальцы ў скрыню, выцягнуў адтуль жмутак паперак, пакінуўшы крывавы пісяг на мезенцы. На лістках

было штосьці напісана. Чэсь хацеў прачытаць, але дзьмухнуў порсткі вецер — і лісткі паляцелі ўздоўж дарогі.

— Ох, будзе нам цяпер! — спалохана пралепятаў за Чэсевай спінай сябар. — Гэта ж лісткі з выбараў. Бачыў, Жвірбля з дзерыкам ехалі. Яны згубілі.

— А каго выбіраюць? — апалым голасам запытаўся Чэсь.

— Як каго… ну тых, якія будуць у Крамлі сядзець.

Тут ужо і Чэсь зразумеў, што дарма чапаў скрыню. Азірнуўшыся, пашыбаваў, ляскаючы заднікамі іртаў па дарозе, ды Франак гукнуў яму ў след:

— Куды паехаў?! Зараз Жвірбля вернецца… Трэба ў лес зварочваць.

У гэты момант дзесьці непадалёку раскацiста заскавытаў воўк, і хлопцы, утуліўшы галовы ў плечы, шмыганулі пад яловыя лапы, якія абрынулі на іх снежную лавіну.

Конь быў увесь мокры, з цяжкасцю варушыў нагамі. Цяпер ужо сам Вілен кіраваў Войтам, стоячы на возе. Яны праехалі метраў трыста, дарога паволі пачала караскацца на пагорак.

— Вунь яна, на ўзбочыне ляжыць! — акрыялым голасам прамовіў Вілен, выцягнуўшы шыю, і ў гэты момант да конскай хрыбецiны прыбіўся лісток паперы. Вілен не паспеў працяцца жахам, як адчуў цеплыню, што разлілася раптам ніжэй чэрава. Ён паволі ступіў на снег, пайшоў, зачапіўшыся нагой за лейцы, і калі тыя напяліся, паваліўся на калені і да скрыні поўз вокраччу.

Юзік жа па-ранейшаму сядзеў на санях, спінай наперад, і дасмоктваў суслу. Нарэшце падняўся, набраў паветра, каб крыкнуць: «Чаго ты там стаіш ракача?» — ды, адчуўшы нядобрае, таксама рушыў да скрыні.

— На іртах пад’язджалі! — заенчыў з інтанацыяй старой Шукелойціхі Юзік. — Ці не смаркатыя гэта расколіны тут круціліся?

Юзік запусціў руку ў скрыню.

— Паўнюткая. Відаць, толькі некалькі штук выцягнулі. Так што не бяда, іх усё адно ніхто лічыць не будзе. Усё ўжо падлічана.

Вілен, які ўвесь час стаяў вокрач, падняўся на ногі.

— Ты што, абасцаўся? — уражана запытаў Юзік, пагладаючы на картовыя порткі старшыні выбарчай камісіі.

Старшыня гэтага пытання як і не чуў. Павёўшы ашклянелымі бельмамі, ён ледзяным голасам выдыхнуў:

— Трэба сабраць усе бюлетэні.

— Як жа… збярэш? Іх ужо, мусіць, у Літву занесла.

— Трэба іх усе сабраць, — паўтарыў Вілен — ён па-ранейшаму не чуў кампаньёна.

— Ды падсыпле Макалавіч тых бюлетэняў. Іх жа да халеры надрукавалі… Завядзеш яго ў рэстарацыю, паседзіце пад фікусамі, як людзі…

Вілен павёў рукой, як гэта робяць, калі хочуць пазбыцца наслання, і празмерна ўважліва, нібыта ўпершыню бачыў, глянуў на Юзіка.

— Гэта ты, падлюка, усё падстроіў. Падгаварыў скрыню вынесці, а потым, як я заснуў, ускрыў ды выкінуў з возу. Хацеў выбары сарваць, пілсудчык ты недарэзаны, — Вілен схапіў кампаньёна за шыю, пачаў душыць, і кампаньён, вызваляючыся, пхнуў Вілена тварам у сумёт.

— І навошта мне былі ўсе гэтыя мітрэнгі? — сіпла, з панікай у голасе, прастагнаў Юзік. — У вёсцы падсабачнікам клічуць, матка й дагэтуль плача, што я з камісарамі звязаўся. Ксёндз у яе нават ахвяру не прыняў…

— Нічо-ога… хутка нашы органы разбяруцца — і з табой, і з тваім ксяндзом, і з тваёй маткай… — Вілен падняўся, выцер твар ад снегу. — Хацеў яшчэ нешта сказаць, ды Юзік, пачуўшы пра матку, заехаў яму кулаком у лоб.

Крыючы расейскімі мацюгамі, Юзік з усяе сілы хвастануў каня і тут жа, зразумеўшы, што едзе не ў той бок, нацягнуў лейцы і на хаду, ужо з польскімі мацюгамі на вуснах, падхапіў са снегу выбарчую скрыню.

Налівайку знайшлі раніцай наступнага дня. Ён сядзеў на дрэве, абхапіўшы рукамі стаўбур, і не адгукаўся на воклікі.

— Ад ваўкоў ратаваўся, — разважліва прамовіў упаўнаважаны, які адмыслова прыехаў з раёна. — Усё навокал было здратавана ваўчынымі слядамі.

— Я ж кажу: яны на нас з двух бакоў накінуліся! — запальчыва выдаў Жвірбля.

Упаўнаважаны загадаў выпрагчы каня з санак, санкі ўзнялі, прыставілі да дрэва, і па іх спусцілі скалелага Налівайку на зямлю. Напачатку падумалі, што ён мёртвы, Жвірбля нават сцягнуў з галавы аблавуху, ды бедачына здрыгануў вейкамі, зварухнуў пальцамі, упаўнаважаны падхапіў жменю жарсцвянага снегу і стаў расціраць Налівайку — спачатку рукі і твар, а потым грудзіну. Затым дастаў з кішэні шыняля пляскатую біклажку, хуценька адкаркаваў, паднёс да Віленавых вуснаў. У біклажцы, відавочна, быў нейкі моцны трунак, бо Вілен закашляўся, на вачах выступілі слёзы, і ён, застагнаўшы, паказаў дрыжачай рукой на дрэва. Усе задзерлі галовы. Там, пачапіўшыся за тонкую галінку, асінавым лістом дрыжэў на ветры бюлетэнь тайнага галасавання. Жвірбля з запабежлівай хуткасцю шпурнуў снежку, бюлетэнь адарваўся ад галінкі, крутнуўся ў паветры і паляцеў насустрач зыркаму сакавіцкаму сонцу.

**СА СЛОЎНІКА ВІЛЕНА НАЛІВАЙКІ:**

Адпалянтаваць — адлупцаваць
Бімбер — самагонка
Бравэра — балбатуха
Брызгуль — лядзяк
Гілазаваць — гізаваць
Гілос — дурыкі
Запрыдух — упарты чалавек
Застрагнуць — захраснуць
Ірты — лыжы
Кубарка — пушка запалак
Лемзаць — балбатаць
Начвэндзіць — накуродымець
Памяльнік — месца ля печкі, дзе ставяць качаргу і рагач
Пасачка — невялічкі цэбар
Расколіна — нягоднік
Руіна — воўчая зграя

Сутанак — шарая гадзіна
Такрок — летась
Хваравека — інвалід з дзяцінства

# ПЕРФОРМАНС

На беразе невялічкай ракі сядзяць два старыя сябры — Васька Лабейка і Лёшка Апейка. Паміж імі, на разасланай газеце, ляжыць пару памідорын, лусты няроўна накроенага хлеба, а крыху зводдаль стаяць, накрытыя чырвонымі капялюшыкамі асавікоў, два вядры з грыбамі. Хлопцы, як гэта яны любяць рабіць пад чарку, абмяркоўваюць актуальныя праблемы. Тэма сённяшняй дыскусіі — маральныя каштоўнасці беларусаў.

— Тут я з табой не згодны. Мы, беларусы, народ цягавіты, — Лёшка Апейка наліў у пластыкавы кубак гарэлку. Гарэлкі ў бутэльцы ўжо было на самым днечку. — Пусці нашага брата ў Еўропу ці Амерыку і дай тамтэйшы заробак, працавалі б дзень да ночы. Але ёсць у нас і адна паганая рыса.

— Якая? — Васька перахапіў кубак.

— Будуць кагосьці біць, забіваць, гвалтаваць — аніводная б… не прыйдзе на дапамогу.

— Прыйдзе! — няўцямна, давячыся памідорам, выдыхнуў сябрук.

— А я кажу: не прыйдзе! — не зусім цвяроза азваўся Апейка.

— А я кажу: прыйдзе! — падвысіў голас Лабейка, нервова скубануўшы бараду. Барада ў хлопца была нягеглая — чэзлая і выцвілая. Сябры і знаёмцы ўголас раілі пагаліцца, але Лабейка жартам адказваў, што барада надае яму элементы багемнасці.

Прыйшла пара Лёшку сказаць важкае слова, але ён насупіўся і, павярнуўшы галаў, раскацiста гракнуў:

— Ленка-а!

Сябры наструніліся, а калі з лясных нетраў даляцеў працяглы жаночы воклік «Іду-у!» — Лёшка суцішна, але рашуча выдыхнуў:

— Не прыйдзе.

Неўзабаве за спінамі затрашчала ламачча, і з лесу выйшла Апейкава жонка — ружавашчокая маладзіца ў чырвоным камбінезоне.

— Яшчэ два белыя знайшла. Зусім не чарвівыя, — прамармытала маладзіца і ўжо з дакорам у голасе спытала: — Ну, скончылі пачостку?

Хлопцы нічога не адказалі, адно пераглянуліся.

— Ну скажыце, хто ходзіць па грыбы з пляшкай гарэлкі ў кішэні? — маладзіца зморана плюхнулася на паваленае дрэва.

— Мы ходзім, — буркнуў Лёшка і ні з пушчы ні з поля дадаў: — Не прыйдзе.

— Прыйдзе, — прашаптаў у адказ сябрук, пачухаўшы барадзень.

— Не прыйдзе.

Добрую хвіліну маладзіца слухала моўную перапалку.

— Вы што, пашалелі ад гарэлкі?

— Прыйдзе… Не прыйдзе… — працягвалі мармытаць хлопцы, і маладзіца ўсхвалявана падхапілася на ногі:

— А далібог, пашалелі.

— Ніхто не пашалеў, — незадаволена выдыхнуў муж, — праблему вырашаем.

— Божухна, яны вырашаюць праблемы, пляшку гарэлкі навярнуўшы, — жонка жартам закаціла вочы. — Добра яшчэ, што адразу не навярнулі, хоць грыбоў сабралі. — Хлопцы, магчыма, і адразу б селі выпіваць, але гарэлка за пазухай нагрэлася, таму яны прыхавалі пляшку ў рачной завоіне.

— Вось, Лен, скажы, — перахапіў ініцыятыву Лабейка, — напалі на цябе двое мужыкоў…

— А чаго ім на мяне нападаць? — хмыкнула Ленка.

— Ну… абрабаваць… ці згвалтаваць… — Васька скасіў вока на Лёшку, — і вось ты крычыш нема: «Людзі, ратуйце!»… Як думаеш: хтосьці прыйдзе на дапамогу?

— Вядома ж, не прыйдзе, — не раздумваючы паведаміла Ленка, пры гэтым яе муж узняў угору палец і паглядзеў на сябра. — Памятаеце, на другім курсе Таньку Даўгалёву каля вакзала згвалтаваць хацелі? І куртку падзерлі, і спадніцу. Як

ні гарлала, як ні клікала на дапамогу — ніхто не дапамог. А хто быў на вуліцы — адразу ж пахаваліся.

— А дзе яна зараз, дарэчы? — спытаў муж.

— У Італіі атабарылася, — Ленка з вохканнем перавяла дых. — Бачылі ў «аднакласніках». Прыкід ад Версачы, за спінай спартовая «тачка». Раскашуе па поўнай праграме, — сказаўшы так, Ленка з дакорам уваччу зыркнула на мужа.

Муж спахмурнеў, але тут жа, каб змяніць тэму гаворкі, ляпнуў далонню па калене. Ды так гучна, што сябар з жонкаю страпянуліся.

— Зараз следчы эксперымент арганізуем, — Апейка падхапіўся на ногі. — Памятаеш, ты дзяўчыну-сіротку грала, якую паніч на полі паваліў?

— Ну, — выдыхнула Ленка, спрабуючы ўцяміць сэнс эксперыменту.

— Гарлала так, што пад час прэм'еры — Лёшка звярнуўся да сябра, — нейкі ёлупень на сцэну палез. Думаў, акцёрку і сапраўды гвалтуюць.

— Ну гарлала. Прафесія такая, — у голасе Ленчыным нарадзілася незадаволенасць.

Лёшка прылашчыў даўгія, з павуцінай ля правага вуха, валасы.

— Карацей, ладзім псіхадэлічны перформанс. Тут вёска поруч са станцыяй. Давай-ка, залямантуй у кустах. Ну, нібыта цябе гвалцяць ці рабуюць. А мы з Васькам прасочым — прыбяжыць хто на дапамогу ці не.

— Ты што, сапраўды страціў розум? Я палезу ў кусты і буду гарлаць як дурная? А калі сапраўды хто прыбяжыць?

— Скажам — рэпе-пеціруем, — падключыўся да размовы Лабейка.

— А калі міліцыя з'явіцца?

— Якая міліцыя ў вёсцы? А калі хто і выкліча, мы ўжо дома будзем, — Лёшка вытрымаў паўзу і, падхапіўшы сваё і жончына вядро, прамармытаў: — Заўтра туфлі купім, якія ты хацела.

Тройца калісьці вучылася разам у тэатральна-мастацкім інстытуце. Там жа, на чацвёртым курсе, Ленка з Лёшкам па-

браліся шлюбам. У тэатры, праўда, зараз працавала толькі Ленка. Муж з сябрам адразу ж пасля інстытута кінулі акторства і знайшлі больш грашовы занятак — Лёшка ўбіўся экспедытарам на мясакамбінат, а Васька скончыў курсы і ўладкаваўся сістэмным адміністратарам у трэст сталовых і рэстаранаў. З гэтай нагоды сябрук даў яму мянушку Сісадмін, а Васька, у адплату, называў сябра Драматургам, бо той вольным часам пісаў п’есы-аднаактоўкі, і адну з іх, з жончынай дапамогай, паставілі ў тэатры юнага гледача. Сябрукі жылі непадалёку, пачасту сустракаліся, кулялі чарку, і кожнага разу аб нечым спрачаліся. Бывалі выпадкі, што і лаяліся. Вось і цяпер, цёплым верасвнёўскім днём, выправіліся на прыгарадным «дызелі» па грыбы і завяліся з-за нейкай лухты.

Вёска, у якую зайшлі, месцілася ў кіламетры ад чыгуначнай станцыі, і адсюль быў добра чутны гуд цягнікоў, які, дарэчы, не даваў заблукаць у лесе. Пабачыўшы каля вясковай крамы серабрысты джып і людскі збой, Лёшка распавёў сябру сцэнар перформансу.

— Падыходзім бліжэй да крамы, хапаем Ленку за рукі. Ленка гарлае, вырываецца, бяжыць да кустоў, мы ляцім следам. Чабохтаемся ў кустах, пасля чаго задаём уцекача.

— А можа, не варта ладзіць тыя перформансы? Навошта людзей пужаць? — нерашуча прамармытаў Лабейка.

— Што ты, Сісадмін, такі затурканым стаў? Далей за манітор свету не бачыш, — Лёшку пачало разбіраць ад гарэлкі. — Мы тут людзей не пужаем, а правяраем на вашывасць.

Тройца прыхавала ў кустах вёдры з грыбамі, рушыла па вясковай вуліцы, і Лёшка, звярнуўшыся да жонкі, скамандаваў: «Бяжы!»

— Людзі добрыя, ратуйце! — нема закрычала Ленка, рынуўшы ў бок крамы.

Лямант быў настолькі натуральны, што Васька Лабейка застыў стаўбнём і пабег толькі тады, як Лёшка азірнуўся.

Дагнаўшы жонку, Апейка схапіў яе за валасы, і Ленка з усяго маху пляснула яму па шчацэ.

— Ратуйце-э!

— Ты чаго б’ешся?! — уражана гойкнуў муж і атрымаў грымака ў нюхаўку.

— Будзеш ты мне тут з жонкі здзекавацца, — прасіпела акцёрка і штосілы, адпрацоўваючы новыя туфлі, залямантавала: — Людзі… Гвалтую-уць!

Апейка схапіў Ленку за шлейку камбінезона, жонка паспрабавала вырвацца, і яны абое паваліліся на дарогу. Тым часам Васька бегаў вакол, не ведаючы, што рабіць і за каго хапацца. Краем вока ўбачыў, як у акне бліжэйшай хаты тарганулася фіранка і шыбу пазначыў шэры твар з прыплюснутым носам. Тым часам купку людзей ля крамы як венікам змяло.

— Адыходзім, — прасіпеў Лёшка, выціраючы густую юшку.

Прыгнуўшы галовы, яны — Ленка першая, а хлопцы за ёй, — кінуліся да лесу.

— Я гэта запомню, — задыхана прамовіў Апейка, выціраючы разбітую нюхаўку.

— Якія да мяне прэтэнзіі? Сам жа казаў, каб усё было натуральна. Я ж не наракаю, што ты мне шлейчыну аддзёр, — шлейка камбінезона матлялася на Ленчынай спіне.

Вясковая вуліца апусцела. Нават цёткі, што завіхаліся ў агародах, пахаваліся.

Пабраўшы вёдры, тройца лясной дарогай, у абыход вёскі, рушыла да станцыі.

— Ну як, Сісадмін, пераканаўся? — Лёшка ішоў, задзёршы ўгору нос: кроў усё яшчэ сачылася.

— Дык гэта вёска. Хто тут ратаваць будзе? Старыя цёткі?

— Якія цёткі?.. Ля крамы мужыкі таўкліся. А поруч джып стаяў. За дзесяць секунд усіх павымятала, — Апейка чарговым разам шморгнуў носам. — А ў горадзе ўжо Танька Даўгалёва эксперымент зладзіла. Таксама ўсе разбегліся.

Сябрук у адказ нічога не сказаў, адно ўздыхнуў ды па старой завядзёнцы патузаў бараду.

Паблукаўшы па кустах, тройца выйшла на асфальтавую дарогу, што лучыла вёску з чыгуначнай станцыяй. Прайшлі па ёй метраў пяцьзясят, і Апейка, схамянуўшыся, кіўком галавы загадаў сысці з асфальту.

— Пойдзем па сцяжыне. А то ці мала што. У вёсцы ўжо, відаць, міліцыю выклікалі. Гэта наш народ любіць.

Перасцярогі такія былі не дарэмныя. Не паспелі яны збочыць з дарогі, як у бок вёскі на вялікай хуткасці праехаў патрульны ВАЗ.

— Па выкліку паехалі, — прамармытаў Лёшка, прыхоўваючыся за стаўбуром таўсценнай яліны. — Трэба варушыцца. А то каб яны нас ля «дызеля» не прыхапілі.

«Дызель» павінен быў з'явіцца праз дзесяць хвілін, і на платформе стала процьма народу. І практычна ў кожнага ў руках было поліэтыленавае вядро з грыбамі.

Ваську, відаць ад гарэлкі, апанавала страшэнныя стома. Ён плюхнуўся на прывакзальную лаву, зморана выцягнуў ногі. Тым часам сябрук з жонкай пашлі набываць квіткі.

Васька заплюшчыў вочы, дзюбнуў носам і ўбачыў пад хвояй вялікі белы грыб. Такі самы, які знайшоў сёння Драматург. Ён сагнуўся, каб адчыкрыжыць грыб сцізорыкам і адчуў як хтосьці з грубай настойлівасцю стукнуў па падэшве чаравікаў.

Перад ім стаяў міліцыянт. Старлей, мяркуючы па пагонах.

— Рэдкая барада… сіняя куртка… зношаныя джынсы… — прамаўляў міліцыянт, ціснучы да вуха «мабілу». Скончыўшы размову, міліцыянт махнуў рукой, загадваючы падняцца на ногі.

Руку вышэй локця сціснуў жалезны спохват. Старлей павёў затрыманага да машыны, і Лабейка ўбачыў Ленку з Лёшкам. Тыя ішлі насустрач, а згледзеўшы сябрука, якога вёў міліцыянт, прыхаваліся за будынкам вакзала.

«Вось каго праверылі на вашывасць, — падумаў Лабейка, залазячы ў міліцэйскую машыну, — сябры называецца. Падышлі б, патлумачылі, што гэта ўсё жарт і ніхто нікога не гвалціў. А яны, сволачы, цягу далі. Маўляў, сам выкручвайся. А як выкруціцца? Што казаць? Што ролі рэпеціравалі? — Лабейка скасіў вока на міліцыянта, які сеў поруч. Твар старлея быў дарэшты суворым. Вадзіла завёў машыну і яны выехалі на тую самую дарогу, якая лучыла станцыю з вёскай.

— Дзьмухні сюды! — загадаў тым часам старлей, падсунуўшы Ваську пад нос штосьці падобнае да мабільнага тэлефона.

— Дзе напарнік і жанчына? — запытаўся міліцыянт, паглядаючы на невялічкае табло, на якім спрытна беглі лічбы.

«Алкатэстар», — мільганула неспакойная думка.

— Будзем у маўчанку гуляць? — са злавеснымі абертонамі выдыхнуў міліцыянт, Васька ўжо збіраўся паведаміць, што напарнік з жонкай едуць у «дызелі», але тут зазваніла «мабіла», і старлей, каротка мацюкнуўшыся, палез у нутраную кішэнь. — Ну што там у вас? — міліцыянт пакасіўся на затрыманага. — Кроў?! І шмат? Можа, Саўдуненку з сабакам выклічам?

Тым часам яны даляцелі да вёскі і, праехаўшы па пыльным пляцы, спыніліся каля крамы. Там стаяла яшчэ адна міліцэйская машына, а поруч таўкліся некалькі цётак. Міліцыянт адчыніў дзверцы, схапіў Ваську за рукаво.

— Гэны! Гэны! — падала голас нізенькая, злая, як стручок кайенскага перцу, і з тварам як печаны яблык бабуля. — Ён, праўда, не біў. Бегаў вакол ды рукамі махаў. А біў кудлаты. А потым паваліў тую гаротніцу і давай душыць…

— А кроў чыя на пяску? — перабіў гаваркую бабулю міліцыянт.

— Дык дзеўка, перад тым як кудла яе паваліў, у нюхалку яму заехала. Бег потым да лесу, нос у неба ўторкнуўшы.

Бабуля яшчэ нешта казала, махаючы рукамі, але міліцыянт не стаў слухаць. Пхнуў Ваську назад у машыну.

— Ну, расказвай, што тут было? Каго вы тут гвалтаваць збіраліся? — спытаў старлей, але ўжо лагодным голасам.

— Лёшка з Ленкай высвятлялі адносіны.

— Муж з жонкай?

Васька кіўнуў.

Міліцыянт раскрыў тэчку.

— Напішы іх прозвішча і адрас. І сваё прозвішча таксама.

Гаваркая бабуля падышла да машыны, пастукала па шыбе, варухнула махнатым, як вусень, брывом, — хацела нешта дадаць, — і міліцыянт ляпнуў вадзілу па плячы. Машына пайшла на разварот, выехала на дарогу і неўзабаве спынілася. Васька няроўнымі літарамі напісаў адрасы і прозвішчы, і міліцыянт, гукнуўшы ў «мабілу»: «Трэба прабіць па базе», —

узяўся, блытаючы ў прозвішчах націскі, уголас чытаць нязграбную пісаніну.

Яны стаялі акурат насупраць тоўстай яліны, за якой надоечы хаваўся сябрук. Васька адчуў раптам, што нешта здарылася ў душы, нібыта яе, як той трансфарматар, уключылі на поўную напругу, і душа стала поўніцца няўтольнай злосцю. Злосцю на Лёшку Апейку, на міліцыянтаў, на гаваркую, з тварам як печаны яблык, бабулю. Пяць гадоў вучыўся на акцёра… ідыёт… каму тут патрэбны тэатр? Міліцыянтам? Вясковым цёткам, што таўкуцца ля крамы? З'язджаць адсюль трэба, і чым раней, тым лепш. З іх інстытуцкай групы ўжо сем чалавек за мяжу падаліся. Староста, Дзімка Суравец, паўгода адпрацаваў загадчыкам літаратурнай часткі і неўзабаве ўсплыў у Галандыі. Прычым ніхто не ведае, як ён там апынуўся. Жыве цяпер з жонкай-галандкай на беразе мора, у мястэчку Дэн-Увер. Там у іх, як пісаў Дзімка, нейкая дамба пачынаецца, што затоку ад мора аддзяляе. Каторы год запрашае прыехаць. Сапраўды, кінуць усё ды сігануць у Галандыю. Можа, там і зачаплюся. Дый Дзімка павінен дапамагчы.

— Вы мяне адпусціце? — спытаў Васька.

Вадзіла-мент пасля такіх слоў азірнуўся:

— Адпусціць? А ты ведаеш, колькі мы з-за вас бензіну спалілі?

«Так бы бензін скралі, а тут на нас давялося змарнаваць», — апанаваны неспакойнымі думкамі, Лабейка панурыў галаў. У ягоным пад'ездзе жыў міліцыянт, у якога ў багажніку машыны заўсёды стаялі дзве паўнюткія каністры.

Старлей уздыхнуў:

— Мы, браток, проста так не адпускаем, — міліцыянт вытрымаў паўзу. — Па-першае, трэба высветліць абставіны здарэння. Так? Так. Па-другое, ты затрыманы для высвятлення асобы. А па-трэцяе, цябе затрымалі ў грамадскім месцы ў стане алкагольнага ап'янення. Паўтара праміле. Усё зафіксавана.

Калі пад'ехалі да станцыі, Васька хацеў спытаць, ці можна прыхапіць вядро з грыбамі, але, зірнуўшы на старлея, зразу-

меў, што грыбы ўжо не спатрэбяцца. Ды іх там, відаць, і не было. Забралі Апейкі.

«А што зрабілі б у такой сітуацыі галандскія паліцыянты?», — падумаў Лабейка. Ну прыехалі… ну разабраліся… ну пагаманілі з якой дурной цёткай, што іх выклікала…. і з'ехалі. «Таксама з'еду», — сказаў Лабейка сам сабе. Збяру грошы і падамся ў Галандыю. Жыццё напачатку будзе цяжкім, але ж там няма напаўзвар'яцелых цётак, няма мянтоў, што крадуць бензін, і там заўсёды прыйдуць на дапамогу. Васька пацёр балесныя скроні і ўбачыў бясконцае, светлае на даляглядзе мора, што злівалася з выцвілым небам; убачыў санлівыя каналы з зялёнымі ад цвілі берагамі; ветракі, што з павольнай упартасцю махалі крыламі, і тут жа згадаў, што мусіў заўтра ад ранку адрамантаваць камп'ютар у бухгалтэрыі. Нечакана з лінялых хмараў зірнула сонца, і густы, яшчэ не крануты халадамі каштан, які стаяў пры дарозе, загарэўся жоўта-зялёным агнём. Акурат такі каштан стаяў непадалёку ад матчынай магілы, і таксама, відаць, па-восеньску зырка свяціўся, з ціхім шолахам скідваючы долу свае даспелыя вожыкі. Ужо каторы год Васька збіраўся паправіць помнік на матчынай магіле і пафарбаваць агароджу. Ратуючыся ад сонечнага святла, ён заплюшчыў вочы і з лёгкім сэрцам зразумеў, што нікуды не з'едзе.

# ЗМЕСТ

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 117

**Мудроў** Вінцэсь

**Восень у Вільні**
*Апавяданні*

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Андрэй Федарэнка
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Фота Эрнста Цецярэўскага
Карэктар Алена Спрытніч

Падпісана да друку 10.04.2019. Фармат 84×108 1/32.
Рызаграфія. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 9,87.
Ул.-выд. арк. 7,89. Наклад 200 ас. Зак. 144.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.